# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ XVIII



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1932

# БАБУЛЯ ІЗЭРГІЛЬ

## Максім Горкі

### I

Я чуў гэтыя апавяданьні пад Аккерманам у Бэсарабіі, на морскім беразе.

Аднойчы ўвечары, скончыўшы дзённы збор вінаграду, партыя малдаванаў, з якою я працаваў, пайшла на бераг мора, а я і бабуля Ізэргіль асталіся пад густым ценем вінаградавых лозаў і, лежачы на зямлі, маўчалі, гледзячы, як растаюць у глыбокай муці ночы сілуэты тых людзей, што пайшлі да мора.

Яны ішлі, сьпявалі і сьмяяліся; мужчыны—бронзавыя, з пышнымі, чорнымі вусамі і з густымі кудрамі да плеч, у кароткіх куртках ды ў шырокіх портках; жанчыны з дзяўчатамі—вясёлыя, гнуткія, з цёмнасінімі вачыма, таксама бронзавыя. Іхныя валасы, шаўковыя ды чорныя, былі распушчаны, вецер цёплы ды лёгкі, гуляючы імі, дзвынкаў манэтамі, уплеценымі ў іх. Вецер цёк шырокаю, роўнаю хваляю, але сяды-тады ён як-бы скакаў цераз нешта нябачнае і, нараджваючы моцную шутню, разьдзімаў валасы жанчын у фантастычныя грывы, што падымаліся вакол іхных галоў. Гэта рабіла жанчын дзіўнымі ды казачнымі. Яны адыходзілі ўсё далей ад нас, а ноч ды фантазія апранала іх усё прыгажэй.

Нехта іграў на скрыпцы... дзяўчына сьпявала мяккім кантральтам, чуўся сьмех...

Паветра было насычана гострым пахам мора ды сытаю параю зямлі, неўзабае перад вечарам шчодра змочанае дажджом. Яшчэ і цяпер па небе блукалі абрыўкі хмар, пышныя, з дзіўнымі абрысамі да фарбамі, тут—мяккія, як клубкі дыму, шызыя ды папялова-галубовыя, там—рэзкія, як абломкі скалаў, матава-чорныя або ценамонавыя. Паміж іх ласкава блішчэлі цёмна-галубовыя шкуматы неба, убраныя залатымі крапінкамі зорак. Усё гэта—гукі і пахі, хмары і людзі—было страшэнна прыгожа і журбліва, здавалася пачаткам дзіўнае казкі. І ўсё як-бы прыпынілася ў сваім росьце, паміpала; шум галасоў патухаў, аддаляючыся, пераражджваўся ў тужлівыя ўздыхі.

— Ты-ж чаму не пайшоў з імі?—кіўнуўшы галавою, запыталася бабуля Ізэргіль.

Час сагнуў яе напал, чорныя некалі вочы былі выцьвілымі і сьлязіліся. Сухі яе голас гучэў дзіўна, ён храбусьцеў, нібы бабуля гаварыла касьцьмі.

— Не хачу!—адказаў я ёй.

— У!... старымі родзіцеся вы, рускія... Панурыя ўсе, як дэманы... Баяцца цябе нашы дзяўчата... А ты-ж малады, ды дужы...

Месяц узышоў. Ягоная дыска была вялікая, крывава-чырвоная, ён, здавалася, вышаў з нетраў гэтага стэпу, які на сваім вяку так багата папаглынаў чалавечага мяса і выпіў крыві, адчаго, мабыць, і стаў такім тлустым ды шчодрым. На нас упалі карункавыя цені ад лістоты, я ды бабуля накрыліся імі як сеткаю. Па стэпу, налева ад нас, паплылі цені воблакаў, напоўненыя галубовым зьяньнем месяца, яны сталі празрысьцей ды сьвятлей.

— Глядзі, вунь ідзе Ларра.

Я глядзеў куды бабуля паказвала сваею дрыготкаю рукою з крывымі пальцамі, і бачыў: там плылі цені, іх было шмат, і адзін з іх, цямнейшы і гусьцейшы за іншых, плыў шпарчэй і ніжэй за другіх—ён падаў ад шкумата вобалака, якое плыло бліжэй за другіх да зямлі, і хутчэй за іх.

— Нікога няма там!—сказаў я.

— Ты сьляпы больш за мяне, старую. Глядзі—вунь, цьмяны, бяжыць па стэпу!

Я паглядзеў яшчэ і зноў ня бачыў нічога, апрача ценю.

— Гэта цень! Чаму ты завеш яго Ларраю?

— Таму, што гэта—ён. Ён ужо стаў цяпер як цень,—пара! Ён жыве тысячы год, сонца высушыла ягонае цела, кроў ды косьці, і вецер рассьцярусіў іх. Вось што можа зрабіць бог з чалавекам за гордасьць!..

— Раскажы мне, як гэта было!—папрасіў я бабулю, чуючы наперадзе адну з слаўных казак, што складзены ў стэпах.

І яна расказала мне гэту казку.

«Багата тысяч год прайшло з таго часу, калі гэта здарылася. Далёка за морам, на ўсход сонца, ёсьць краіна вялікае рэчкі, у той краіне кожны дрэвавы ліст ды сьцябло травы дае гэтулькі ценю, колькі трэба чалавеку, каб схавацца ў ім ад сонца, пякельна гарачага там.

«Вось якая шчодрая зямля ў той краіне!

«Там жыло дужае племя людзей, яны пасьвілі статак і на паляваньне на зьвярыну трацілі сваю сілу і мужнасьць, правалі пасьля паляваньня, сьпявалі песьні і гулялі з дзяўчатамі.

Аднойчы, у часе піру, адну з іх, чарнавалосую і лагодную, як ноч, скраў арол, што спусьціўся з неба. Стрэлы, пушчаныя ў яго мужчынамі, упалі, мізэрныя, назад на зямлю. Тады пайшлі шукаць дзяўчыны, але—не знайшлі яе. І забыліся пра яе, як забываюцца пра ўсё на зямлі».

Бабуля ўздыхнула і замаўчала. Яе скрыплівы голас гучэй так, як-бы гэта бурчэлі ўсе забытыя вякі, што зьбіліся ў яе грудзях ценямі ўспамінаў. Мора ціха ўтарыла пачатку аднае з старадаўніх лягенд, якія, магчыма, стварыліся на яго берагох.

«Але праз дваццаць год яна сама прышла, змучаная, высахлая, а з ёю быў юнак, прыгожы і дужы, як сама яна дваццаць год назад. І калі ў яе запыталіся, дзе была яна, яна расказала, што арол занёс яе ў горы і жыў з ёю там, як з жонкаю. Вось яго сын, а бацькі няма ўжо; калі ён стаў слабнуць, то падняўся апошні раз высока ў неба і, склаўшы крылы, цяжка ўпаў адтуль на гострыя скалы гары, на сьмерць разбіўся аб іх...

«Усе глядзелі са зьдзіўленьнем на арловага сына і бачылі, што ён нічым ня лепшы за іх, толькі вочы ў яго былі халодныя і гордыя, як у цара птушак. І. размаўлялі з ім, а ён адказваў, калі хацеў, або маўчаў, а калі прышлі старэйшыя племя, ён гаварыў з імі, як з роўнымі сабе. Гэта абразіла іх, і яны, абазваўшы яго неапёранаю стралою з неадточаным лёзам, сказалі яму, што іх паважаюць, што ім падпарадкуюцца тысячы такіх, як ён, і тысячы, удвая старэй за яго. А ён, сьмела гледзячы на іх, адказваў, што такіх, як ён, няма больш; і калі ўсе паважаюць іх— ён ня хоча рабіць гэтага. О!.. тады ўжо зусім разгневаліся яны. Разгневаліся і сказалі:

«— Яму няма месца сярод нас! Няхай ідзе куды хоча.

Ён засьмяяўся і пайшоў, куды захацелася яму,—да аднае прыгожае дзяўчыны, якая пільна ўглядалася ў яго; пайшоў да яе і, падышоўшы, абняў яе. А яна была дочка аднаго з старшынёў, што асудзілі яго. І хоць ён быў прыгожы, яна адпіхнула яго, бо баялася бацькі. Яна адпіхнула яго і пайшла, а ён ударыў яе і, калі яна ўпала, стаў нагою на яе грудзі, так, што з яе вуснаў кроў брызнула ў неба; дзяўчына, уздыхнуўшы, выгнулася як зьмяя, і памерла.

«Усіх, хто бачыў гэта, скаваў страх,—упяршыню пры іх гэтак забівалі жанчыну. І доўга ўсе маўчалі гледзячы на яе, што ляжала з расплюшчанымі вачыма і скрываўленым ротам, і на яго, каторы стаяў адзін супроць усіх, поруч з ёю, і быў горды,—не апусьціў свае галавы, як-бы выклікаючы на яе кару. Пасьля калі адумаліся, дык схапілі яго, зьвязалі і так пакінулі, кажучы, «што забіць зараз-жа—занадта проста і не здаволіць іх».

Ноч расла і мацнела, поўнячыся дзіўнымі, ціхімі гукамі. У стэпу жалобна пасьвісталі сусьлікі, у вінаграднай лістоце дрыжэў шкляны цвыркат конікаў, лістота ўздыхала і шапталася, поўная дыска месяцу, раней крывава-чырвоная, блекла аддаляючыся ад зямлі, блекла і ўсё гусьцей ліла на стэп галубаватую муць...

«І вось яны сабраліся, каб прыдумаць кару, вартую злачынства... Хацелі разарваць яго коньмі—і гэта здавалася мала ім; думалі пусьціць у яго ўсім па страле, але адхілілі і гэта; прапанавалі спаліць яго, але дым вогнішча ня даў-бы ім бачыць яго мук; прапанавалі шмат чаго—і не знаходзілі нічога нагэтулькі добрага, каб спадабалася ўсім. А ягоная маці стаяла перад імі на каленях і маўчала, не знаходзячы ні сьлёз, ні слоў, каб упрошваць пра падараваньне. Доўга гаварылі яны, і вось адзін мудрэц сказаў, падумаўшы доўга:

«— Запытаемся ў яго, чаму ён зрабіў гэта?

«Запыталіся ў яго пра гэта. Ён сказаў:

«— Разьвяжэце мяне! Я ня буду гаварыць зьвязаны!

«А калі разьвязалі яго, ён запытаўся:

«— Чаго вам трэба?—запытаўся так, нібы яны былі рабы...

«— Ты чуў...—сказаў мудрэц.

«— Нашто я буду тлумачыць вам свае ўчынкі?

«— Каб мы зразумелі цябе. Ты, горды, слухай! Усё-ж роўна ты памрэш... Дай-жа нам зразумець тое, што ты зрабіў. Мы астаёмся жыць, і нам карысна ведаць больш, як мы ведаем...

«— Добра, я скажу, хоць я можа і сам нядобра разумею тое, што здарылася. Я забіў яе таму, мне здаецца, што яна адштырхнула мяне... А мне было трэба яе.

«— Яна-ж не твая!—сказалі яму.

«— Хіба вы карыстаецеся толькі сваім? Я бачу, што кожны чалавек мае толькі мову, рукі і ногі... а ўладае ён жывёламі, жанчынамі, зямлёю... і шмат чым яшчэ.

«Яму сказалі на гэта, што за ўсё, што чалавек бярэ, ён плаціць сабою: сваім розумам і сілаю, іншы раз—жыцьцём. А ён адказаў, што ён хоча захаваць сябе цэлым.

«Доўга гаварылі з ім і, урэшце, убачылі, што ён лічыць сябе першым на зямлі і, апрача сябе, ня бачыць нічога. Усім нават жудасна стала, калі зразумелі, на якое адзіноцтва ён асуджваў сябе. У яго ня было ні племя, ні маці, ні жывёлы, ні жонкі, і ён не хацеў нічога гэтага.

«Калі людзі ўбачылі гэта, яны зноў пачалі талкаваць пра тое, як пакараць яго. Але цяпер ня доўга яны гаварылі,—той, мудры, што не перашкаджаў ім судзіць, загаварыў сам:

«— Чакайце! Кара ёсьць. Гэта страшэнная кара; вы ня прыдумаеце такое за тысячу год! Кара яму—у ім самім! Пусьцеце яго, няхай ён будзе вольны. Вось яго кара!

«І тут адбылося вялікае. Грымнуў пярун з неба,—хоць на ім і ня было хмар. Гэта сілы нябёсныя падцьверджвалі прамову мудрага. Усе пакланіліся і разышліся. А гэты юнак, каторы цяпер атрымаў імя Ларра, што азначае: адрачоны, выкінены вон—юнак галосна сьмяяўся ў сьлед людзям, якія кінулі яго, сьмяяўся, астаючыся адзін, вольны, як яго́ны бацька. Але бацьба яго́ны—ня быў чалавекам... А гэты—быў чалавек. І вось ён пачаў жыць, вольны, як птушка. Ён прыходзіў у племя і скрадаў жывёлу, дзяўчат,—усё, што хацеў. У яго стралялі, але стрэлы не маглі пранізаць яго́нага цела, закрытага нябачнаю апонаю вышэйшае кары. Ён быў спрытны, драпежны, дужы, круты і ня сустракаўся з людзьмі твар у твар. Толькі здалёк бачылі яго. І доўга ён, адзінокі, гэтак віўся каля людзей, доўга—не адзін дзесятак гадоў. Але вось аднойчы ён падышоў блізка да людзей і, калі яны кінуліся на яго, не крануўся з месца і нічым не паказаў, што будзе абараняцца. Тады адзін з людзей дагадаўся і крыкнуў моцна:

«— Не чапайце яго! Ён хоча памерці!

«І ўсе суняліся ня хочучы даць палёгкі таму, хто рабіў ім шкоду, ня хочучы забіваць яго. Суняліся і сьмяяліся з яго. А ён дрыжэў, чуючы гэты сьмех, і ўсё шукаў нечага на сваіх грудзях, хапаючыся за іх рукамі. І раптам ён кінуўся на людзей, падняўшы камень. Але яны, сьцерагучыся яго́ных удараў, ня ўчынілі яму ніводнага, і калі ён, стомлены, з жаласным крыкам упаў на зямлю, дык адышлі ў бок і наглядалі за ім. Вось ён устаў і, падняўшы згублены некім у барацьбе з ім нож, выцяў ім сябе ў грудзі. Але зламаўся нож,—нібы ў камень ударылі ім. І зноў ён упаў на зямлю і доўга біўся галавою аб яе. Але зямля адхіналася ад яго, удаючыся ад удараў яго галавы.

«— Ён ня можа памерці!—з радасьцю сказалі людзі.

«І пайшлі, пакінуўшы яго. Ён ляжаў дагары тварам і бачыў—высока ў небе чорнымі кропкамі плавалі магутныя арлы. У яго́ных вачох было

гэтулькі суму, што льга было-б атруціць ім усіх людзей на сьвеце. Гэтак, з таго часу астаўся ён адзін, вольны, чакаючы сьмерці. І вось ён ходзіць, ходзіць усюды... Бачыш, ён стаў ужо як цень, і такім будзе вечна! Ён не разумее ні мовы людзей, ні іхных учынкаў,—нічога. І ўсё шукае, ходзіць, ходзіць... Яму няма жыцьця і сьмерць ня ўсьміхаецца яму. І няма яму месца сярод людзей... Вось як быў пакараны чалавек за гордасьць!»

Бабуля ўздыхнула, замаўчала, і яе галава, апаўшы на грудзі некалькі разоў гайданулася.

Я паглядзеў на яе. Бабулю хіліла да сну, здалося мне. І стала, чамусьці, страшэнна шкада яе. Канец апавяданьня яна вяла такім узвышаным, пагрозьлівым тонам, а ўсё такі ў гэтым тоне гучэла баязьлівая, рабская нота.

На беразе засьпявалі,—дзіўна засьпявалі. Спачатку пачуўся кантральта,—ён прасьпяваў дзьве-тры ноты, і пачуўся другі голас, што пачаў песьню спачатку, а першы ўсё ліўся наперадзе яго...—трэйці, чацьверты, пяты далучыліся да песьні ў тым-жа парадку. І раптам тую-ж песьню, зноў такі спачатку, засьпяваў хор мужчынскіх галасоў.

Кожны голас жанчын гучэў зусім асобна, усе яны здаваліся рознакаляровымі ручаямі і, нібы скочваючыся аднекуль зьверху па парогах, скачучы і зьвінючы, уліваючыся ў густую хвалю мужчынскіх галасоў, што плаўна лілася ўгору, танулі ў ёй, вырываліся з яе, заглушалі яе і зноў адзін за адным узьвіваліся, чыстыя і дужыя, высока ўгору.

Шуму хваляў ня чуваць было за галасамі...

## II

— Ці чуў ты, каб дзе-небудзь яшчэ так сьпявалі?—запыталася Ізэргіль, падымаючы галаў і ўсьміхаючыся бяззубым ротам.

— Ня чуў. Ніколі ня чуў...

— І не пачуеш. Мы любім сьпяваць. Толькі красуны могуць хораша сьпяваць,—красуны, каторыя любяць жыць. Глядзі, хіба не стаміліся за дзень тыя, якія сьпяваюць там? З усходу да захаду працавалі, узышоў месяц, і ўжо—сьпяваюць! Тыя, каторыя ня ўмеюць жыць, паклаліся-б спаць. Тыя, каторым жыцьцё міла, вось—сьпяваюць.

— Але здароўе...—пачаў быў я.

— Здароўя заўсёды хопіць на жыцьцё. Здароўе! Хіба ты, маючы грошы, ня траціў-бы іх? Здароўе—тое-ж самае золата. Ці ведаеш ты, што я рабіла, калі была маладая? Я ткала дываны ад усходу да захаду, не ўстаючы бадай. Я, як сонцавы прамень, жывая была і вось павінна была сядзець нярухома, нібы камень. І сядзела да таго, што бывала ўсе косьці ў мяне трашчаць. А як прыдзе ноч, я бегла да таго, каго кахала, цалавацца з ім. І так я бегала тры месяцы, пакуль было каханьне; усе ночы ў гэты час была ў яго. І вось да якога часу дажыла—хапіла крыві! А колькі кахала! Колькі пацалункаў узяла і дала!..

Я паглядзеў ёй у твар. Яе чорныя вочы былі ўсё-такі выцьвілымі, іх не аджывіў успамін. Месяц абсьвечваў яе сухія, патрэсканыя губы, загостраная барада з сівымі валасамі на ёй і зморшчаны нос, загнёны, нібы дзюба савы. На месцы шчок былі чорныя ямы, і ў адной з іх ляжала

пасма папялова-сівых валасоў, што выбіліся з-пад чырвонае анучыны, якою была абкручана яе галава. Скура на твары, на шыі і на руках уся зрэзана зморшчынамі, і пры кожным русе старое Ізэргілі можна было чакаць, што сухая гэтая скура разарвецца ўся, развалицца кавалкамі і перада мною стане голы шкілет з выцьвілымі чорнымі вачыма.

Яна зноў пачала расказваць сваім храбустлівым голасам:

«Я жыла з маці пад Фальмі, на самым беразе Бырлата; і мне было пятнаццаць год, калі ён паказаўся на нашым хутары. Быў ён такі высокі, гнуткі, чарнавусы, вясёлы. Сядзіць у лодцы і так звонка крычыць ён нам у вокны: «Гэй, ці няма ў вас віна... ды пад'есьці мне?» Я паглядзела ў вакно праз гальлё ясянёў і бачу: рэчка ўся галубовая ад месяца, а ён, у белай кашулі ды ў шырокім поясе з параспусканымі на баку канцамі, стаіць аднэю нагою ў лодцы, а другою на беразе. І пагойдваецца і нешта сьпявае. Убачыў мяне, гаворыць: «Вось якая красуня жыве тут!.. А я і ня ведаў пра тэта!» Як-бы ён ужо ведаў усіх красунь да мяне! Я дала яму віна і варанае сьвініны... А праз чатыры дні дала ўжо і ўсю сябе... Мы ўсё езьдзілі з ім на лодцы па начох. Ён прыдзе і пасьвішча ціха, як суслік, а я выскачу, як рыба, у вакно на рэчку. І ідом... Ён быў рыбаком з Пруту і пасьля, калі маці даведалася пра ўсё і набіла мяне, угаворваў ўсё мяне пайсьці з ім у Дабруджу і далей, у дунайскія гарлавіны. Але мне ўжо не падабаўся ён тады—толькі сьпявае ды цалуецца, і нічога болей! Нудна гэта было ўжо. У той час гуцулы шайкаю хадзілі па тых мясцох, і ў іх былі каханыя тут... Дык вось тым—весела было. Іншая чакае, чакае свайго карпацкага малайца, думае, што ён ужо ў турме ці забіты дзе-небудзь у бойцы,—і раптам ён адзін, або з двума-трыма таварышамі, як з неба ўпадзе да яе!—І прые ў яе, і хваліцца ею перад сваімі таварышамі. А ей люба гэта. Я і папрасіла аднае дружкі, у якое быў гуцул, паказаць мне іх... Як яе звалі? Забыла як... Усё пачала забываць цяпер. Багата часу прайшло з тае пары, усё забудзеш! Яна мяне пазнаёміла з малайцом. Харош быў... Рыжы быў, увесь рыжы—і вусы, і кудры! Агняная галава. І быў ён такі тужлівы, іншы раз ласкавы, а іншы раз як зьвер роў і біўся. Раз ударыў мяне ў твар... А я, як кошка, ускочыла яму на грудзі, ды і ўпілася зубамі ў шчаку... З таго часу ў яго на шчацэ асталася ямка, і ён любіў, калі я цалавала яе...»

— А рыбак куды дзеўся?—запытаўся я.

«— Рыбак?—А ён... тут... Ён прыстаў да іх, да гуцулаў. Спачатку ўсё ўгаворваў мяне і гразіўся кінуць у ваду, адале—нічога, прыстыў да іх і другую завёў... Іх абодвых і павесілі разам—і рыбака, і гэтага гуцула. Я хадзіла глядзець, як іх вешалі. У Дабруджы гэта было. Рыбак ішоў на кару бледы і плакаў, а гуцул люльку курыў. Ідзе сабе і курыць, рукі ў кішэнях, адзін вус на плячы ляжыць, а другі на грудзі зьвесіўся. Убачыў мяне, выняў люльку і крычыць: «Бывай!..». Я цэлы год шкадавала яго. Эх!.. Гэта ўжо тады з імі было, калі яны хацелі вярнуцца да сябе ў Карпаты. На розьвіт пайшлі да аднаго румына ў госьці, там іх і злавілі. Дваіх толькі, а некалькіх забілі, а рэшта ўцякла... Усё-такі румыну заплацілі пасьля... Хутар спалілі і млын, і збожжа ўсё. Старцам стаў».

— Гэта ты зрабіла?—наўдачу запытаўся я.

«Шмат было сяброў у гуцулаў, а не адна я... Хто быў іхным лепшым сябром, той і справіў ім памінкі...»

Песьня на беразе мора ўжо змоўкла, і бабулі ўторыў цяпер толькі шум морскіх хваляў,—задумлівы, бунтоўны шум быў слаўным уторам да апавяданьня пра бунтоўнае жыцьцё. Усё мякчэй рабілася ноч, і ўсё большала ў ёй блакітнага месяцавага зьяньня, а няпэўныя гукі клапатлівага жыцьця, яе нябачных жыхароў цішэлі, заглушаючыся ўсё большым плёскатам хваляў... бо мацнець пачынаў вецер.

«А то яшчэ турка любіла я. У гарэме ў яго была, у Скутары. Цэлы тыдзень жыла—нічога... Але нудна стала...—усё жанчыны, жанчыны. Восем было іх у яго... Увесь дзень ядзяць, сьпяць і гавораць усялякае глупства... Або лаюцца, квокчуць, як куры... Ён быў ужо немалады, гэты турак. Сівы амаль і такі паважны, багаты... Гаварыў—як уладар... Вочы былі чорныя... Дзёрскія вочы... Глядзяць проста ў душу. Вельмі ён любіў маліцца. Я яго каля Букурэшты ўбачыла... Ходзіць па рынку, як цар, і глядзіць так важна, важна. Я яму ўсьміхнулася. Таго-ж вечара мяне схапілі на вуліцы і прывезьлі да яго. Ён сандалы ды пальмы прадаваў, а ў Букурэшту прыехаў купіць нешта.—Едзеш да мяне?—гаворыць.— О, пэўна, паеду!—Добра!—і я паехала. Багаты ён быў, гэты турак. І сын у яго ужо быў—чорненькі хлопчык, гнуткі такі... Яму гадоў шаснаццаць было. З ім я і ўцякла ад турка... Уцякла ў Баўгарыю, у Лом-Паланку... Там мяне адна баўгарка нажом парнула ў грудзі за жаніха, ці за мужа свайго—ужо не памятаю.

«Хварэла я доўга ў манастыры адным. Жаночы манастыр. Даглядала за мною адна дзяўчынка, полька... і да яе з манастыра другога,—каля Арцэр-Паланкі, памятаю,—хадзіў брат, таксама манашак... Такі... як чарвяк, усё віўся перада мною... І калі я акрыяла, дык уцякла з ім... у Польшчу ягоную».

— Пачакай!.. А дзе-ж маленькі турак?

«Хлопчык? Ён памёр, хлопчык. Ад нуды па хаце ці ад каханьня... але пачаў сохнуць ён так, як маладое дрэўца, якому занадта багата перапала сонца... і гэтак і сох усё... памятаю, ляжыць, увесь ужо празрысты і галубаваты, як ільдзінка, а ўсё яшчэ ў ім гарыць каханьне... І ўсё просіць нахіліцца і пацалаваць яго... Я кахала яго і, памятаю, шмат цалавала... Пасьля яму ўжо зусім стала дрэнна—ня рухаўся амаль. Ляжыць і так жалобна, як жабрак падарунку, просіць мяне легчы з ім поруч і грэць яго. Я клалася. Ляжаш з ім... ён адразу загарыцца ўвесь. Аднойчы я прачнулася, а ён ужо халодны... няжывы... Я плакала над ім. Хто скажа? Можа, гэта нават я і забіла яго. Удвая старэй за яго я была тады ўжо. І была такая дужая, сакавітая... а ён—што-ж?.. Хлопчык!..»

Яна ўздыхнула і—першы раз я бачыў гэта ў яе—перахрысьцілася тройчы, шэпчучы нешта сухімі губамі.

— Ну, паехала ты ў Польшчу,—падказаў я ёй.

«Але з тым маленькім палячком. Ён быў сьмешны і нягодны. Калі яму патрэбна была жанчына, ён лашчыўся да мяне, як кот, і з ягонага языка гарачы мёд цёк, а калі ён мяне не хацеў, то біў мяне словамі, як пугаю. Раз неяк ішлі мы па беразе рэчкі, і вось ён сказаў мне гордае, крыўднае слова. О! О!.. Я раззлавалася! Я закіпела, як смала! Я ўзяла яго на рукі і, як дзіцяне,—ён быў маленькі,—падняла ўгору, сьціснула яму бакі так што ён пасінеў увесь. І вось я размахнулася і кінула яго з берага ў рэчку. Ён крычаў. Сьмешна так крычаў. Я глядзела на яго зьверху, а ён

боўтаўся там, у вадзе. Я пайшла тады. І больш ня сустракалася з ім. Я была шчасьліва на гэта: ніколі не сустракалася пасьля з тымі, якіх некалі кахала. Гэта нядобрыя сустрэчы, усё-адно як-бы з нябожчыкамі».

Бабуля замаўчала, уздыхаючы. Я ўяўляў сабе людзей, што ўваскрашаліся ёю. Вось, агняна-рыжы, вусаты гуцул, ідзе паміраць, спакойна курачы люльку. У яго мабыць былі халодныя блакітныя вочы, якія на ўсё глядзелі з'асерадкована і цьвёрда. Вось поруч з ім чарнавусы рыбак з Прута; плача, ня хочучы паміраць, і на ягоным твары, бледным ад перадсьмяротнае горнасьці, памутнелі вясёлыя вочы, і вусы, змочаныя сьлязьмі сумна абвісьлі па краёх скрыўленага роту. Вось ён стары, самавіты турак, мабыць фаталіст і дэспат, і поруч з ім ягоны сын, бледая і крохкая краска ўсходу, атручаная пацалункамі. А вось ганарлівы паляк, галянтны і жорсткі, красамоўны і галодны... І ўсе яны—толькі бледыя цені, а тая, каторую яны цалавалі, сядзіць поруч са мною жывая, але высушаная часам, бяз цела, бяз крыві, з сэрцам бяз жаданьняў, з вачыма без агню,—таксама амаль цень.

Яна гаварыла далей:

«У Польшчы стала цяжка мне. Там жывуць галодныя і хлусьлівыя людзі. Я ня ведала іхнае зьмяінае мовы. Усё шыпяць... Што шыпяць? Гэта бог даў ім такую зьмяіную мову за тое, што яны хлусьлівыя. Ішла я тады, ня ведаючы куды, і бачыла, як яны зьбіраліся бунтаваць з вамі, з рускімі. Дайшла да горада Бохніі. Жыд адзін купіў мяне; не сабе купіў, а каб гандляваць мною. Я згадзілася на тэта. Каб жыць—трэба ўмець што-небудзь рабіць. Я нічога ня ўмела і за гэта плаціла сабою. Але я падумала тады, што калі я дастану крыху грошай, каб вярнуцца да сябе на Бырлат, дык я парву ланцугі, якімі-б яны моцнымі ня былі. І жыла я там. Хадзілі да мяне багатыя паны і піравалі ў мяне. Гэта ім дорага каштавала. Біліся праз мяне яны, растрачваліся. Адзін дамагаўся мяне доўга і аднойчы вось што зрабіў: прышоў, а служка ідзе за ім з мяшком. Вось пан узяў у рукі гэты мяшок і перакінуў яго над маёю галавою. Залатыя манэты стукалі мне па галаве, і мне весела было слухаць іхны звон, калі яны падалі на падлогу. Але я ўсё-такі выгнала пана. У яго быў такі тоўсты, сыты твар, і жывот—як вялікая падушка. Ён глядзеў, як сытая сьвіньня. Але, выгнала я яго, хоць ён і гаварыў, што прадаў усю зямлю сваю і дамы, і коняй, каб асыпаць мяне золатам. Я тады любіла аднаго харошага пана з пасечаным тварам. Увесь твар быў у яго пасечаны крыж-на-крыж шаблямі туркаў, з якімі ён неўзабаве перад гэтым ваяваў за грэкаў. Вось чалавек!.. Што яму грэкі, калі ён паляк? А ён пайшоў, біўся з імі супроць іхных ворагаў. Сьсеклі яго, у яго выцекла адно вока ад удараў, і два пальцы на левай руцэ былі таксама адсечаны... Што яму грэкі, калі ён паляк? А вось што: ён любіў вялікія ўчынкі. А калі чалавек любіць вялікія ўчынкі, ён заўсёды можа іх зрабіць і знойдзе, дзе гэта можна. У жыцьці, ці ведаеш ты, заўсёды ёсьць месца на вялікія ўчынкі. І тыя, каторыя не знаходзяць іх для сябе,—тыя проста гультаі ці трусы, або не разумеюць жыцьця, бо, каб людзі разумелі жыцьцё, кожны захацеў-бы пакінуць пасьля сябе цень у ім. І тады жыцьцё ня жэрла-б людзей бяз сьледу... О, гэты, пасечаны быў добры чалавек! Ён гатоў быў ісьці на край сьвету, каб рабіць што-небудзь. Мабыць вашы забілі яго пасьля бунту. А навошта вы хадзілі біць мадзьяраў? Ну-ну, маўчы!..»

І, загадваючы мне маўчаць, старая Ізэргіль раптам замаўчала сама, задумалася.

«Ведала таксама я і мадзьяра аднаго. Ён аднойчы пакінуў мяне,—зімою гэта было,—і толькі ўвесну, калі растаў сьнег, знайшлі яго ў полі з прастрэленаю галавою. От як! Бачыш—ня менш за чуму губіць каханьне людзей; калі палічыць—ня менш... Пра што я гаварыла? Пра Польшчу... Але, там я сыграла сваю апошнюю ігру. Сустрэла аднаго шляхціча... От быў прыгожы! Як чорт. Я-ж старая ўжо была, эх, старая! Ці было мне чатыры дзесяткі год? Бадай што і было... А ён быў яшчэ і горды, і раздураны намі, жанчынамі. Дорага ён мне абышоўся... але. Ён хацеў адразу так сабе ўзяць мяне, але я не далася. Я ня была ніколі рабою, нічыёю. А з жыдам я ўжо кончыла, багата грошай дала яму... І ўжо ў Кракаве жыла. Тады ў мяне ўсё было, і коні, і золата, і служкі... Ён хадзіў да мяне, горды дэман, і ўсё хацеў, каб я сама кінулася яму ў рукі. Мы паспрачаліся з ім... Я нават,—памятаю,—брыдчэла ад гэтага. Доўга гэта цягнулася... Я ўзяла сваё: ён на каленях упрошваў мяне... Але як толькі дамогся, так і кінуў. Тады зразумела я што стала старою... Ох, гэта было мне ня соладка! От ужо ня соладка!.. Я-ж любіла яго, гэтага чорта... а ён, сустракаючыся са мною, сьмяяўся... нягодны ён быў! І з другімі ён сьмяяўся з мяне, а я гэта ведала. Ну, ужо і горка было мне, скажу! Але ён быў тут, блізка, і я ўсё такі любавалася ім. А як от пайшоў ён біцца з вамі, з рускімі, нядобра стала мне. Ламала я сябе, але не магла зламаць... І наважыла паехаць за ім. Ён каля Варшавы быў, у лесе.

«Але калі я прыехала, дык даведалася, што ўжо разьбілі іх вашы... і што ён у палоне, недалёка ў сяле.

«Значыць,—падумала я,—ня ўбачу яго ўжо болей! А бачыць хацелася. Ну, стала старацца, каб убачыць... Жабрачкаю надзелася, і пайшла, завязаўшы твар, у тое сяло, дзе быў ён. Усюды казакі ды салдаты... дорага мне каштавала быць там! Даведалася я, дзе палякі сядзяць і бачу, што цяжка папасьці туды. А трэба мне гэта было. І вось уночы падпаўзла я да таго месца, дзе яны былі. Паўза па гародзе паміж град і бачу: вартавы стаіць на маёй дарозе... А ўжо чуваць мне—сьпяваюць палякі і гавораць моцна. Сьпяваюць песьню адну... да маткі бога... І той там-жа сьпявае... Аркадэк мой. Мне горка стала, як падумала я, што раней за мною поўзалі... а, вось ён, прышоў час—і я за чалавекам папаўзла як зьмяя па зямлі і, можа, на сьмерць сваю паўзу. А гэты вартавы ўжо слухае, выгнуўся наперад. Ну, што-ж мне? Паднялася я з зямлі і пайшла на яго. Ні нажа ў мяне няма, нічога, акрамя рук ды языка. Шкадую, што ня ўзяла нажа. Шапчу... «Пачакай!..» А ён, салдат гэты, ужо прыставіў да горла майго штых. Я гавару яму шэптам: «Не калі, пачакай, паслухай, калі ў цябе душа ёсьць! Не магу табе нічога даць, а прашу цябе»... «Ён апусьціў стрэльбу і таксама шэптам гаворыць мне: «Ідзі прэч, баба! Ідзі! Чаго табе?» Я сказала, што сын у мяне тут заперты... «Ты разумееш, салдат,—сын!—Ты-ж таксама чый-небудзь сын, так? Дык вось паглядзі на мяне—у мяне ёсьць такі-ж самы як ты і вунь ён дзе! Дай мне паглядзець на яго, можа, ён памрэ хутка... і можа, цябе заўтра заб'юць... будзе плакаць твая маці па табе? І цяжка будзе табе памерці, ня зірнуўшы на

яе, на сваю матку? І майму-ж сыну цяжка. Пашкадуй-жа сябе і яго, і мяне—матку!..»

«Ох, як доўга гаварыла я яму! Ішоў дождж і мачыў нас. Вецер выў і роў, і штырхаў мяне то ў сьпіну, то ў грудзі. Я стаяла і хісталася перад гэтым каменным салдатам... А ён усё гаварыў: «Не!» І кожны раз, калі я чула ягонае халоднае слова, яшчэ гарачэй успыхвала жаданьне бачыць таго, Аркадэка... Я гаварыла і мерала вачыма салдата—ён быў маленькі, сухі і ўсё кашляў. І вось я ўпала на зямлю перад ім і, абхапіўшы ягоныя калені, усё ўпрошваючы яго гаручымі сьлязьмі, звяліла салдата на зямлю. Ён упаў у гразь. Тады я прытка павярнула яго тварам да зямлі і прыціснула яго галаву ў лужу, каб ён ня крычаў. Ён ня крычаў, а толькі ўсё тузаўся, сілячыся скінуць мяне з свае сьпіны. Я-ж аберуч уціскала ягоную галаў глыбей у гразь. Ён і захліпнуўся... Тады я кінулася да сьвірну, дзе сьпявалі палякі. «Аркадэк!..» шаптала я ў шчыліны сьцен. Яны дагадлівыя, гэтыя палякі,—і, пачуўшы мяне, пакінулі сьпяваць! Вось ягоныя вочы супроць маіх. «Можаш ты выйсьці адсюль?»—«Але, пад падлогу!»—сказаў ён.—«Ну, ідзі-ж». І от чацьвёра з іх вылезла з-пад гэтага сьвірна: трое і Аркадэк мой. «Дзе вартавыя?» запытаўся Аркадэк.—«Вунь, ляжыць!..»—І яны пайшлі ціха-ціха, прыгнуўшыся да зямлі. Дождж ішоў, вецер выў галосна. Мы пайшлі з сяла і доўга моўчкі ішлі лесам. Шпарка так ішлі. Аркадэк трымаў мяне за руку, і ягоная рука была гарачая і дрыжэла. О!.. Мне так добра было з ім пакуль ён маўчаў. Апошнія гэта былі хвіліны—харошыя хвіліны майго прагнага жыцьця. Але вось мы вышлі на луг і супыніліся. Яны дзякавалі мне ўсе чацьвёра. Ох, як яны доўга і шмат гаварылі мне нешта! Я ўсё слухала, і глядзела на майго пана. Што-ж ён зробіць мне? І вось ён абняў мяне і сказаў так важна... Не памятаю, што ён сказаў, але так выходзіла, што цяпер ён у падзяку за тое, што я вызваліла яго, будзе кахаць мяне... І стаў ён на калені перада мною, усьміхаючыся, і сказаў мне: «Мая каралева!» Вось які хлусьлівы сабака быў гэта!.. Ну, тады я дала яму ногца і ўдарыла-б яму ў твар, але ён адхінуўся і ўскочыў. Грозны ды бледны стаіць ён перада мною... Стаяць і тыя трох, пахмурыя ўсе. І ўсе маўчаць. Я паглядзела на іх... Мне тады стала—памятаю—толькі нудна вельмі, і такая лянота напала на мяне... Я сказала ім: «Ідзеце!» Яны, сабакі, запыталіся ў мяне: «Ты вернешся туды, каб паказаць нашу дарогу?» Вось якія нягодныя! Ну, усё-такі пайшлі яны. Тады і я пайшла... А на другі дзень узялі мяне вашы, але хутка пусьцілі. Тады ўбачыла я, што пара мне завесьці гняздо, даволі жыць, як зязюля! Ужо абцяжэла я, і аслаблі крылы, і пер'я выцьвіла... Пара, пара! Тады я паехала ў Галіцыю, а адтуль у Дабруджу. І от ужо каля трох дзесяткаў год жыву тут. Быў у мяне муж, малдаванін; памёр з год таму назад. І жыву я от! Адна жыву... Не, не адна, а вунь з тымі».

Бабуля махнула рукою пад мора. Там ўсё было ціха. Іншы раз нараджваўся нейкі кароткі, спадманлівы гук і зараз-жа паміраў.

«Любяць яны мяне. Шмат я расказваю ім чаго. Ім гэта трэба. Яшчэ маладыя ўсе... І мне добра з імі. Гляджу і думаю: от і я, быў час, такая-ж самая была... Толькі тады, у мой час, больш было ў чалавека сілы ды агню, а ад таго жылося весялей і лепш... Але!..»

Яна замаўчала. Мне журботна было разам з ёю. Яна-ж драмала, гойдаючы галавою, і ціха шаптала нешта... можа, малілася.

З мора падымалася хмара—чорная, цяжкая, з суровымі абрысамі, падобная да горнага хрыбта. Яна паўзла ў стэп. З яе верхавіны зрываліся шкуматы воблакаў, імчаліся наперадзе яе і тушылі зоркі адну за аднэю. Мора шумела. Недалёка ад нас, у вінаградавых лозах, цалаваліся, шапталі і ўздыхалі. Далёка ў стэпу выў сабака... Паветра раздражняла нэрвы дзіўным, казлыткім пахам. Ад воблакаў падалі на зямлю густыя чэрады ценяў і паўзьлі па ёй, паўзьлі, прападалі, паяўляліся зноў... На месцы месяца асталася толькі мутная выжарая пляма, іншы раз яе зусім засланяў шызы шматок вобалака. І ў стэпавай далечы, цяпер ужо чорнай і страшнай, як-бы прытоенай і нешта ў сабе схаваўшай, успыхвалі невялічкія блакітныя аганькі. Та там, та сям яны на момант паказваліся і патухалі, як-бы некалькі людзей, што рассыпаліся па стэпу далёка адзін ад аднаго, шукалі ў ім нечага запальваючы запалкі, якія вецер зараз-жа тушыў. Гэта былі вельмі дзіўныя блакітныя языкі агню, што сабою нагадвалі нешта казачнае.

— Ці бачыш ты іскры?—запыталася ў мяне Ізэргіль.

— Вунь тыя блакітныя?—паказваючы ёй на стэп, сказаў я.

— Блакітныя? Але, гэта яны... Значыць, лётаюць усё-такі! Ну-ну... Я ўжо от ня бачу іх больш. Не магу я цяпер багата бачыць.

— Адкуль гэтыя іскры?—запытаўся я ў бабулі.

Я чуў сёе-тое раней пра пахаджэньне гэтых іскраў, але мне хацелася паслухаць, як раскажа пра гэта-ж старая Ізэргіль.

— Гэтыя іскры ад гаручага сэрца Данко. Было на сьвеце сэрца, якое аднойчы, успыхнула агнём... І от ад яго гэтыя іскры. Я раскажу табе пра гэта... Таксама старая казка... Старое, усё старое! Ці бачыш ты колькі ў даўнейшчыне ўсяго?.. А цяпер вось няма нічога такога—ні спраў, ні людзей, ні казак такіх, як даўней... Чаму?... Нут-ка скажы! Ня скажаш... Што ты ведаеш? Што ўсё вы ведаеце, маладыя? Эхэ-хэ!.. Глядзелі-б у даўнейшчыну пільна—там усе адгадкі знойдуцца... А от вы не глядзіце і ня ўмееце жыць ад таго... Я ня бачу хіба жыцьця? Ох, усё бачу, хоць і старыя мае вочы! І бачу я, што ня жывуць людзі, а ўсё прымерваюцца, прымерваюцца і кладуць на гэта ўсё жыцьцё. І калі абкрадуць самі сябе, патраціўшы час, дык пачнуць скардзіцца на лёс. Што-ж тут—лёс? Кожны сам сабе лёс! Усялякіх людзей я цяпер бачу, а от дужых не! Дзе-ж яны?.. І красуноў робіцца ўсё менш.

Бабуля задумалася пра тое, куды падзеліся з жыцьця дужыя і прыгожыя людзі і, думаючы, аглядала цёмны стэп, як-бы шукаючы ў ім адказу.

Я чакаў на яе апавяданьне і маўчаў, баючыся, што калі запытаюся яе пра што-небудзь, дык яна зноў забудзецца.

І вось яна пачала апавяданьне.

## III

«Жылі на зямлі даўней адны людзі, непраходныя лясы абкружалі з трох бакоў табары гэтых людзей, а з чацьвертае—быў стэп. Былі гэта вясёлыя, дужыя і сьмелыя людзі. І вось надышоў аднойчы цяжкі час: папрыходзілі аднекуль іншыя плямёны і прагналі першых у глыб лесу. Там былі балоты ды цемрадзь, бо лес быў стары, і так густа пераплет-

валася ягонае гальлё, што праз яго ня відаць было неба, і праменьні сонца ледзь маглі прабіць сабе дарогу да балотаў праз густую лістоту. Але калі ягоныя праменьні падалі на ваду балотаў, дык падымаўся смурод, і ад яго людзі гінулі адзін за адным. Тады пачалі плакаць жонкі ды дзеці гэтага племя, а бацькі задумаліся і ўпалі ў жальбу. Трэба было пайсьці з гэтага лесу і на тэта былі дзьве дарогі: адна—назад,—там былі дужыя і лютыя ворагі, другая—наперад,—там стаялі асілкі-дрэвы, шчыльна абняўшы адзін аднаго магутнымі галінамі, пусьціўшы вузлаватыя карані глыбока ў балотавы тлей. Гэтыя каменныя дрэвы стаялі моўчкі і нярухома ўдзень, у шэрым змроку, і яшчэ шчыльней зьбіваліся вакол людзей вечарамі, калі раскладаліся агні. І заўсёды, і ўдзень і ўночы, вакол тых людзей было кола густое цемры, нібыта яна зьбіралася раздушыць іх, а яны прывыклі да стэпавае прасторы. А яшчэ страшней было, калі вецер біў па вяршалінах дрэў і ўвесь лес гудзеў, як-бы празіўся і сьпяваў пахавальную песьню тым людзям. Гэта былі ўсё-такі дужыя людзі і маглі-б яны пайсьці біцца на сьмерць з тымі, якія аднойчы адолелі, іх, але яны не маглі памерці ў баёх, бо ў іх былі запаветы, і калі-б памерлі яны, дык прапалі-б з імі з жыцьця і запаветы. І таму яны сядзелі і думалі ў доўгія ночы, пад глухі шум лесу, у едкім смуродзе балотаў. Яны сядзелі, а цені ад вогнішчаў скакалі вакол іх у бязмоўным танцы, і ўсё здавалася, што гэта ня цені скачуць, а ўрачыствуюць нячысьцікі лесу ды балота... Людзі ўсё сядзелі і думалі. Але нішто—ні работа, ні жанчыны ня зморваюць цела і душы людзей так, як зморваюць маркотныя думы. І зьнясілелі людзі ад дум... Страх нарадзіўся сярод іх, скаваў ім моцныя рукі, жах нарадзілі жанчыны плачам над трупамі, што паўміралі ад смуроду, і над лёсам скованых страхам жывых,—і трусьлівыя словы пачалі чуцца ў лесе, перш баязьлівыя і ціхія, адале ўсё мацней і мацней.. Ужо хацелі ісьці да ворага і прынесьці яму ў дар волю сваю, і ніхто ўжо, спалоханы сьмерцю, не баяўся рабскага жыцьця... Але тут зьявіўся Данко і выратаваў усіх адзін».

Бабуля, відавочна, часта расказвала пра гаручае сэрца Данко. Яна гаварыла напэўна, і голас яе, скрыплівы і глухі, выразна маляваў перад мною шум лесу, сярод якога паміралі ад едкага дыханьня балота няшчасныя, загнаныя людзі...

«Данко—адзін з тых людзей, малады прыгажун. Прыгожыя—заўсёды сьмелыя. І вось ён гаворыць ім, сваім таварышам:

«— Не зьвярнуць каменя з дарогі думаю. Хто нічога ня робіць, з тым нічога ня здарыцца. Што мы трацім сілу на думу ды на маркоту? Падымайцеся, пойдам у лес і пройдам яго скрозь, ён-жа мае дзе-небудзь канец—усё на сьвеце мае канец! Хадзем! Ну! Гэй!..

«Паглядзелі на яго і ўбачылі, што ён лепшы з усіх, бо ў вачох ягоных сьвяцілася багата сілы і жывога агню.

«— Вядзі ты нас!—сказалі яны.

«Тады ён павёў...»

Бабуля памаўчала і паглядзела ў стэп, дзе ўсё гусьцела цемра. Іскаркі гаручага сэрца Данко ўспыхвалі недзе далёка і здаваліся блакітнымі паветранымі краскамі, што расьцьвітаюць толькі на момант.

«Павёў іх Данко, Дружна ўсе пайшлі за ім—верылі ў яго. Цяжкі шлях гэта быў! Цёмна было, і на кожным кроку балота разяўляла сваю

скватную гнілую зяпу, глынаючы людзей, і дрэвы заступалі дарогу магутнаю сьцяною. Перапляло́ся іхнае гальлё паміж сабою; як зьмяі, павыкручваліся ўсюды карані, і кожны крок шмат каштаваў поту і крыві тым людзям. Доўга ішлі яны... Усё гусьцей рабіўся лес, усё менш было сілы! І от пачалі наракаць на Данко, кажучы, што дарэмна ён, малады і непрактыкоўны, павёў іх некуды. А ён ішоў наперадзе іх і быў бадзёры і ясны.

«Але аднойчы грымнула навальніца над лесам, зашапталіся дрэвы глуха, грозна. І стала тады ў лесе так цёмна, як-бы ў ім сабраліся адразу ўсе ночы, колькі іх было на сьвеце з таго часу, як ён нарадзіўся. Ішлі маленькія людзі, паміж вялікіх дрэў і ў шуме маланак, ішлі яны, і згінаючыся асілкі-дрэвы скрыпелі і гулі сярдзітыя песьні, а маланкі, лётаючы над вяршалінамі лесу, абсьвечвалі яго на хвілінку сінім, халодным агнём і зьнікалі, таксама раптоўна як паяўляліся, пужаючы людзей. І дрэвы, абсьвечаныя халодным агнём маланак, здаваліся жывымі і вакол людзей, што ішлі з палону цемры, выцягвалі каравыя, доўгія рукі, сплетваючы іх у густыя цянёта, сілячыся суняць людзей. А з цемры гальля глядзела на іх нешта страшэннае, цёмнае і халоднае. Гэта быў цяжкі шлях, і людзі, стомленыя ім, апалі духам. Але ім брыдка было сазнавацца ў бясьсільлі, і вось яны ў злосьці ды ў гневе напалі на Данко, на чалавека, каторы ішоў наперадзе іх. І пачалі яны папікаць яго ў няўмельстве кіраваць імі,—от як!

«Суняліся яны і пад урачысты шум лесу, сярод дрыготкае цемры, зьняможаныя і злосныя, пачалі судзіць Данко.

«— Ты,—сказалі яны,—нікчэмны і шкодны чалавек для нас! Ты павёў нас і стаміў, і за гэта ты загінеш!

«— Вы сказалі: «вядзі!»—і я павёў!—крыкнуў Данко, становячыся перад імі грудзьмі.—У мяне ёсьць мужнасьць весьці, вось таму я павёў вас! А вы? Што зрабілі вы ў дапамогу сабе? Вы толькі ішлі і ня ўмелі захаваць сілы на шлях больш доўгі! Вы толькі ішлі, ішлі, як чарада авец!

«Але гэтыя словы разьярылі іх яшчэ больш.

«— Ты памрэш! Ты памрэш!—раўлі яны.

«А лес усё гудзеў і гудзеў, уторачы іхным крыкам, і маланкі разрывалі цемру на шматкі. Данко глядзеў на тых, дзеля каторых ён стараўся, і бачыў, што яны—як зьвяры. Шмат людзей стаяла вакол яго, але ня было на тварах іхных спагады і нельга было яму чакаць падараваньня ад іх. Тады і ў ягоным сэрцы ўскіпела абурэньне, але ад жаласьці да людзей яно патухла. Ён любіў людзей і думаў, што можа без яго яны загінуць. І вось ягонае сэрца ўспыхнула агнём жаданьня выратаваць іх, вывесьці на лёгкі шлях, і тады ў ягоных вачох зазьялі праменьні таго магутнага агню... А яны, убачыўшы гэта, падумалі, што ён разьлюцеў, і ад гэтага так ярка і разгарэліся вочы, і яны настаражыліся, як ваўкі, чакаючы, што ён будзе біцца з імі, і пачалі шчыльней абкружваць яго, каб лягчэй ім было схапіць і забіць Данко. А ён ужо зразумеў іхную думу, ад таго яшчэ ярчэй загарэлася ў ім сэрца, бо гэтая іхная дума нарадзіла ў ім горнасьць.

«А лес усё сьпяваў сваю пахмурую песьню, і гром грымеў, і ліў дождж...

«— Што зраблю я для людзей!?—мацней за пром крыкнуў Данко.

«І раптам ён разарваў рукамі сабе грудзі і вырваў з іх сваё сэрца і высока падняў яго над галавою.

«Яно гарэла так ярка, як сонца, і ярчэй за сонца, і ўвесь лес замаўчаў, абсьвечаны гэтым ліхтаром вялікае любові да людзей, а цемра разьляцелася ад сьвятла яго і там, глыбока ў лесе, дрыготкая ўпала ў гнілое прадоньне балота. Людзі-ж, зьдзіўленыя, пакамянелі:

«— Хадзем!—крыкнуў Данко і кінуўся наперад на сваё месца, высока трымаючы гаручае сэрца і асьвятляючы ім шлях людзям.

«Яны кінуліся за ім, зачарованыя. Тады лес зноў зашумеў, зьдзіўлена гойдаючы верхавінамі, але ягоны шум быў заглушаны тупатам людзей у бязе. Усе беглі таропка і сьмела імкнучыся за дзівосным відовішчам гаручага сэрца. І цяпер гінулі, але гінулі бяз скаргаў і сьлёз. А Данко быў наперадзе, і сэрца яго ўсё палала, палала!

«І вось раптам лес раздаўся перад ім, раздаўся і астаўся ззаду, шчыльны і немы, а Данко і ўсе тыя людзі адразу акунуліся ў мора сонцавага відна і чыстага паветра, прамытага дажджом. Навальніца была—там, ззаду ў іх, над лесам, а тут зьяла сонца, уздыхаў стэп, блішчэла трава ў брыльянтах дажджу, і золатам зіхцела рэчка... Быў вечар, і ад праменьняў захаду рэчка здавалася чырвонаю, як тая кроў, што біла гарачым цурком з разарваных грудзей Данко.

«Кінуў зрок перад сабою на шыр стэпу горды сьмяльчак Данко,—кінуў ён радасны зрок на вольную зямлю і засьмяяўся горда. Адале ўпаў і—памёр.

«Людзі-ж, радасныя і поўныя надзей, не заўважылі сьмерці яго і ня бачылі, што яшчэ палае поруч з трупам Данко ягонае сьмелае сэрца. Толькі адзін асьцярожны чалавек заўважыў гэта і, баючыся чагосьці, наступіў на гордае сэрца нагою... І вось яно, рассыпаўшыся на іскры, патухла...»

«Вось адкуль яны, блакітныя іскры стэпу, што зьяўляюцца перад навальніцаю!»

Цяпер калі бабуля скончыла сваю прыгожую казку, у стэпу стала страшэнна ціха, як-бы і ён быў зьдзіўлены сілаю сьмельчака Данко, каторы спаліў для людзей сваё сэрца і памёр, ня просячы ў іх нічога ў нагароду сабе. Бабуля драмала. Я глядзеў на яе і думаў: колькі яшчэ казак ды ўспамінаў асталося ў яе памяці? І думаў пра вялікае гаручае сэрца Данко і пра чалавечую фантазію, што ўтварыла гэтулькі прыгожых і моцных лягенд.

Дзьмухнуў вецер і агаліў з-пад рызьзя сухія грудзі бабулі Ізэргіль, што засыпала ўсё мацней. Я прыкрыў яе старое цела і сам лёг на зямлю каля яе. У стэпу было ціха і цёмна. Па небе ўсё паўзьлі хмары, паволі, нудна... Мора шумела глуха і жалобна.

Пераклад **Ян. Скрыгана**.

# СЫН*)

## *(Кіно-аповесьць)*

**Р. Мурашка**

## ЧАСТКА ШОСТАЯ

На шырокі гладкі шлях з бярозавымі прысадамі ўзьяжджае атрад стражнікаў. Старэйшы загадвае атраду спыніцца. Адзін з стражнікаў саскаквае з каня і лезе на высокую бярэзіну.

Чакальна глядзіць угару старэйшы атраду.

Стражнік, што на бярэзіне, аглядвае кругом мясцовасьць, адмоўнаківае галавою і злазіць далоў.

Атрад стражнікоў дробным трухам едзе па шляху. Лес. Сьцежкаю адзін за адным праяжджае атрад конных жандараў.

На ўскраі лесу. Начальнік атраду ўстае на страмёны і ўзіраецца перад сабою.

Глухія абшары ..алеткаў, балот, хмызьнякоў наперадзе.

Начальнік адкідаецца на сядло і торкае каня.

Жандары адзін па адным выяжджаюць з лесу і строяцца па два за начальнікам.

Атрад павольна едзе далей.

Сьцежкаю цераз балота да вёскі прабіраецца трэці атрад. У канцы вёскі перад хатаю стаіць стары дзед.

Стражніцкі атрад прыпыняецца. Старэйшы пытаецца нечага ў дзеда.

Стары скідае шапку і, нізка скланіўшыся, кідае адмоўна галавою.

Сярдзіта дае шпоры каню старэйшы атраду.

Пыл узьняты капытамі коняй хавае за сабою стражніцкі атрад.

Узбураны ходзіць па сваім хатнім габінэце жандарскі ротмістр Налімаў.

**Ніводзін з начальнікаў атраду, пасланых лавіць Дуба з яго дружынай і вызваленых ім сялян, не абрадаваў яго яшчэ ні словам данясеньня, што знойдзены нарэшце сьляды «гэтага разбойніка».**

Ротмістр садзіцца за стол. Пальцы нэрвова перабіраюць паперы і адкідаюць прэч—ротмістр чагосьці шукае ў іх і не знаходзіць.

У павольна прачыненыя дзьверы ў габінэт пралазіць галава, а потым і ўся фігура павятоўца Юркевіча.

Пан ротмістр успамінае нешта, адчыняе шуфляду стала.

У руцэ ў ротмістра фотакартка Ларысы Няслаўскай.

Павятовец застывае на месцы.

---

*) Пачатак гл. №№ *1*, *2*. *3*.

На твары ў пана ротмістра разьліты алей сардэчнага ўціхаміраньня і лятуценнасьці.

Юркевіч на месцы робіць нейкія дзіўныя рухі: то ён згінаецца, то напружваецца, то заціскае нос і рот рукой і гэтак устывае зноў.

Вусны ротмістра складваюцца ў пацалунак.

Юркевіч траціць вялікія намаганьні, каб утрымацца ў сваёй застыглай позе і ня ўтрымліваецца.

Як захоплены ў часе злачынства, ротмістр выпушчае з пальцаў фотокартку.

Павятовец чхае—раз... другі... Трэці!

Цень няёмкасьці пакінуў лятуценнага ротмістра, са злосьці стукае ён кулаком па стале.

Юркевіч увесь выцягваецца перад начальствам у струнку, ён гатовы, здаецца, галавою ўрасьці ў столь габінэту.

Але ўзбурэньне ў ротмістра гэтак сама хутка праходзіць, як і прышло.

**— Ня злодзей-жа вы, чорт вас вазьмі, прыходзіць кожнага разу пазладзейску!**

Гэстам рукі ён паказвае Юркевічу садзіцца.

Павятовец сядае, аглядваецца кругом, нізка нагінаецца над сталом і яшчэ раз, украдкі азіраючыся на дзьверы, шэпча амаль у самае вуха ротмістру.

Цень велічнасьці сыходзіць на ротмістра і строга таямніча ён фіксуе вачыма павятоўца.

Юркевіч падсоўвае да стала бліжэй крэсла, яшчэ ніжэй схіляецца да ротмістра—быццам словы яго адрасуюцца ў самыя рукі ротмістру, які паклаў іх на стол.

На твары ротмістра ўжо зьдзіўленьне, але зьдзіўленьне адсоўваецца неўпрашонай строгасьцю: на месцы звычайнага жандарскага ротмістра Налімава сядзіць вялікае грознае начальства.

Юркевіч падае яму сьпісаны ліст паперы.

Ротмістр адкладвае яго ўбок, вымае з шуфляды стала некалькі крэдытак і працягвае Юркевічу.

У струнку выцягваецца перад ротмістрам павятовец.

**— Бярэце і—няма чаго вам тут мазоліць усім вочы. Скіньце гэтую сваю дурацкую форму, апранайцеся ў якое-небудзь сялянскае рызьзё ды ідзеце на вёску. Абавязкова каб знайшлі мне гэтага разбойніка Дуба, у інакшым-жа выпадку можаце не варочацца.**

Юркевіч зьбянтэжана глядзіць на ротмістра, ротмістр сур'ёзна—на яго, і павятовец яшчэ больш выцягваецца ў струнку.

За вакном спыніўся панскі экіпаж.

Ротмістр ухапіў фотокартку і сунуў яго ў шуфляду. Цяпер ён заўважыў павятоўца, які не крануўся з месца. Ротмістр захваляваўся і паказаў яму на дзьверы гэтак выразна, нібы гэст гэты азначаў ні што іншае, як просты загад: «Зьнікні з аблічча зямлі».

Як злодзей зьнікае з пакою павятовец.

Ротмістр папраўляе на сабе мундзір, падкручвае вусы і з радасьцю ідзе насустрач гасьцём.

З такой самай радасьцю ідзе насустрач ротмістру і вітаецца пан Вайніловіч. Падае сваю белую пешчаную руку Ларыса. З тугою ў вачох глядзіць яна на склоненага перад ёю ротмістра.

**— А мы зайшлі разьвітацца, дарагі ротмістр, на ад'езьдзе ў Слаўнае. Пры цяперашніх парадках на вёсцы нельга пакідаць маёнтак без гаспадарчае рукі. Да чаго дайшло—лес пачалі нішчыць шальмяцы!**

Пан Вайніловіч падхопвае пад руку ротмістра і адводзіць да вакна. Ён гамоніць яму нешта ціха, пазіраючы на Ларысу і падміргваючы ротмістру.

Ларыса сядзіць пры стале на крэсьле, на якім нядаўна сядзеў Юркевіч. Погляд яе бязуважна абягае раскіданыя паперы і раптам загараецца агнём трывогі, страху і болю.

Юркевічава папера.

«Памочніку Начальніка Губэрскага Жандарскага Ўпраўленьня па №№ паветах.

**ДАНЯСЕНЬНЕ**

**Даношу, што кіраўніком усіх непарадкаў у павеце зьяўляецца гэтак званая соцыял-дэмократычная організацыя з рабочымі-сьлесарамі майстэрні Зуся Аронам і Ігнасём на чале. Каб унікнуць у далейшым сур'ёзных падзей неабходна безадкладна арыштаваць гэтых людзей.**

*Поведомитель Юрка.*

Пан Вайніловіч гульліва б'ючы па руцэ пана ротмістра, гаворыць.

**— Абавязкова прыяжджайце, пане ротмістр, ды прывозьце хутчэй вестку, што злоўлены нарэшце гэтыя паганцы, гэтыя падпальшчыкі і разбойнікі. Праўда, Ларыса?**

Ларыса падыходзіць разьвітацца з ротмістрам, а твар у яе гэткі вясёлы і вочы гэтак адкрытна гульліва глядзяць проста ў вочы ротмістру. Яна ківае какэтліва галавою: праўда, праўда.

У майстэрні Зуся. Побач, пры варштатах Ігнась з Аронам.

Гаспадара няма. Адзін з рабочых узяў кавалак бляхі як скрыпку пад бараду піліць па ёй, як смычком, напільнікам. У майстэрні весела. Рабочыя сьпяваюць і ў тахт песьні рухаюцца ногі, рукі і паварочваюцца пры варштатах самі рабочыя.

Адчыняюцца дзьверы. У парозе стаіць абадраны брудны хлапчук.

**— Хто тут Ігнась?**

Знакам паказвае хлапчукісьці за ім і сам зьнікае за дзьвярыма.

Па тратуары ходзіць усхвалёваная жанчына, захутаная ў хустку.

Хлапчук падводзіць да яе Ігнася.

Жанчына кладзе ў працягнутую руку срэбную манэту і хлапчук зьнікае на вуліцы.

Ігнась з недаўменьнем стаіць перад незнаёмай.

Жанчына адхінае ражок хусткі і Ігнась пазнае Ларысу.

Імгненным зіркам аглядаецца яна і нахіляецца да Ігнася.

**— Або ўцякайце з Аронам сёньня-ж, або вас арыштуюць жандары як кіраўнікоў сацыял-дэмакратычнае арганізацыі. Сёньня ў жандарскага ротмістра я бачыла на свае вочы данясеньне аднаго шпіка.**

У вачох Ларысы трывожная просьба, калі яна працягвае руку.

Ігнась нязграбна трымае яе руку, часіну гледзячы ў вочы.

Ларыса паціху вырывае руку і кароткім лёгкім крокам пераходзіць цераз вуліцу.

Ігнась праводзіць рукой па галаве і вяртаецца ў майстэрню.

З маўклівым запытаньнем павярнуўся да яго Арон.

Ігнась бярэ шапку, дае няпрыкметны знак ісьці за сабой.

На вуліцы змрок. З канцылярыі жандарскага ротмістра на вуліцу выходзіць вялікі нарад жандараў.

Жандарскі ротмістр перад ярка асьветленым вакном габінэту здаволена пакручвае вусы.

Арон з Ігнасем, крадучыся, выходзяць на ганак свае кватэры. У руках невялічкія клуначкі.

Перад ганкам ахібіўся і забрахаў Кіяш.

Сябры зьбягаюць з ганку, зьнікаюць за домам на агародзе. Адзін момант мільгацяць іх постаці і закрываюцца вязкім вечаровым змрокам.

Нарад жандараў хуткім маршам падыходзіць да дому, з якога нядаўна вышлі Ігнась з Аронам. Пад вокнамі і дзьвярыма становіцца варта.

Жандарскі вахмістр з трыма асобамі нараду з выстаўленымі ўпярод рэвольвэрамі, крадуцца ў дом. Пад вокнамі і дзьвярыма нярухомая варта.

Праз хвіліну на ганак выскаквае вахмістр. Ён працяжна сьвішча ў сьвісьцёлік. Надзімаюцца вахмістровы шчокі ад сьвісту.

На сыгнал зьбягаецца народ і па камандзе вахтмістра разьбягаецца: у пагоню за ўцекачамі.

Нецярпліва ходзіць па ясна асьветленым габінэце жандарскі ротмістр. Час-ад-часу пазірае ён то на гадзіньнік, то ў вакно, то чула прыслухоўваецца. Раптам ён падскаквае і адчыняе дзьверы.

Убягае ўзьбянтэжаны вахмістр.

Рука прыростае да казырка шапкі. Выцягнуты ў струнку ротмістр рапартуе.

Чакальнае ўзбурэньне на твары ротмістра зьмяняецца раптоўным гневам. Ён замахваецца моцна сашчэпленым кулаком, але рука апускаецца вяла не крануўшы вахмістра.

З рукою пад казырком, выцягнуўшыся ў струнку, ня дыша вахмістр. Ротмістр ходзіць па пакоі шпарка і нэрвова.

Зашавяліліся пушыстыя вахмістравы вусы.

— **Быццам сам чорт пасабляе ім, ваша благародзьдзе.**

Спатыкаецца на шпаркім кроку ротмістр і ўвесь гнеў абрушвае на вахмістра.

— **Пайшоў вон, мерзавец. Я на цябе глядзець не магу!**

У страшным гневу зноў нэрвова і шпарка ходзіць па габінэце жандарскі ротмістр Налімаў.

На ўсю шырыню парадны ганак пакояў Слаўнага.

Па сходцах сыходзяць уніз ногі, абутыя ў мяккія паляўнічыя боты. Перад ганкам. З горда ўзьнятаю галавою з дубальтоўкаю на плячы аглядвае двор пан Вайніловіч.

Амаль штодня пан Вайніловіч са стрэльбай на плячы абходзіць свае абтары сумяшчаючы прыемнае з карысным.

На поплаве яшчэ чарнеюць вогнішчы ад спаленых стагоў сена.

Нібыта ўсьмешка, але ўсьмешка падобная на грымасу ярасьці крывіць вусны пана, твар робіцца падобным на страшную маскарадную маску.

Вузкая сьцежка цераз палетак выводзіць пана пад лес.

Пан Вайніловіч скідае з пляча дубальтоўку і бярэ пад руку. Хада ў яго павольная, пільная.

Сьцежка агінае рог лесу. Роўная сьцяна сосен нібы абрэзана сьцежкаю. Край панскага лесу працягнуўся далёка-далёка.

Пан прыслухоўваецца. Спрабуе абудва куркі дубальтоўкі і зноў прыслухоўваецца.

З лесу выяжджаюць на сьцежку дзьве сялянскія хурманкі з сухім ламаччам.

Пан выпроствaецца на ўвесь рост, махае дубальтоўкай, крычыць на хурманкі.

Людзі на вазох азіраюцца і спалохана б'юць па конях.

Рвануўся з месца і пабег узад высокі стройны лес.

Меціцца пан з дубальтоўкі. Спускае курок. Парахавы дым засьцілае ўсё наперадзе.

Зноў перад панам відзён ускрай лесу. Зноў відна сьцежка і на ёй далёка дзьве сялянскія хурманкі. На адной чалавек падтрымлівае ляжачага, вольнаю рукою паганяючы каня.

Зласьлівая ўсьмешка даткнулася твару пана Вайніловіча. Ускінутая дубальтоўка павісла рамянём на плячы.

З-за грубезнае хвоі вытырхнулася сьмешная касмылеватая бародка. За ёю паказалася галава пад старою добра паношанаю шапкаю, а потым вылезла і ўся фігура чалавека апранутага ў сялянскую сьвітку, у старых лыкавых лапцях.

Пан Вайніловіч павярнуўся.

Чалавек зьняў шапку, нізка скланіўся.

Пан абыякава правёў поглядам зьверху ўніз, але тым ня менш даткнуўся двума пальцамі да свайго саламянага капялюша.

Слабою дрыготнаю хадою чалавек прайшоў паўз пана і падаўся сьледам за сялянскімі хурманкамі з ламаччам.

Пана Вайніловіча закрыў рог лесу.

Чалавек на сьцежцы азірнуўся. Выняў з-запазухі запісную кніжку з агрызкам алоўка. Чалавек прысеў і напісаў:

*У пятніцу пан Вайніловіч падстрэліў селяніна за сухое ламачча назьбіранае ў панскім лесе. Што з гэтага выйдзе, паглядзім».*

Чалавек перачытаў напісанае і схаваў кніжку ў запазуху.

Маладым пруткім крокам ідзе за хурманкамі чалавек.

З-за грубезнае хвоі, за якою стаяў незнаёмы ў сялянскай вопратцы, паказаўся малады селянін. Павольным асьцярожным крокам выступіў ён на сьцежку.

Высокаю масыўнаю сьцяною далёка цягнуўся панскі лес.

Ні пана, ні незнаёмага ў сялянскай вопратцы ўжо няма на сьцежцы.

Малады селянін дастае з-за пояса сякеру.

Высока ўзьлятае над галавою селяніна сякера і ўпіваецца ў грубезную хвою.

Каваркі грубае кары ляцяць пад ногі.

На грубезнай хвоі выгрызены вострай стальлю вялікі белы крыж.

Селянін хава: за пояс сякеру і пружыністым крокам ідзе ў палетак.

Палеткі... Балота—дрыгва... Узгоркі... Лагчыны... Палявыя дарогі... Гасьцінцы... Пяскі.... Хмызьнякі....

Хуткім крокам мерае прасторы палеткаў, балотаў, ідзе дарогаю, перасякае нацяньскі поле, пяскі і балоты малады селянін.

Наперадзе цямніцца вялікі, як воку сьцяць, лес. Хада селяніна бярэцца на гэты лес.

У старым магутным лесе густы вечаровы змрок.

Разьдзіраючы частыя кусты, выходзіць на прагалак малады селянін. Ён нярэўна азіраецца вакол.

Векавыя дрэвы сплятаюцца высока над галавою сваім пышным гальлём у адзін суцэльны шацёр.

Малады селянін закладвае ў рот два пальцы і моцна сьвішча.

Птушкі зрываюцца спалохана з гальля дрэў і пралятаюць над галавою, ў яго.

Старая пакінутая людзьмі смалярня ў глушыні лесу. Перад смалярняй краем прагалку ходзіць селянін з бэрданкай.

Сьвішча малады селянін ў лесе.

Селянін з бэрданкай перакладвае стрэльбу ў другую руку і адказвае такім самым сьвістам.

З смалярні на прагалак выходзяць узброеныя паляўнічымі стрэльбамі і вінтоўкамі людзі.

Малады селянін на прагалку пакідае сьвістаць і рашуча ідзе далей у лес.

На прагалак з смалярні высыпаюць ўзброеныя людзі, абступаюць маладога селяніна.

На прагалку відней чым у лесе. Узброеныя людзі паўсьпіраліся на свае стрэльбы. Уважна слухаюць, што гаворыць малады прышэлец. Суровыя аброслыя твары ўзброеных людзей. Малады прышэлец нешта настойліва даводзіць ім.

Заварушылася кучка людзей. З кругу вышаў і шпаркім крокам накіраваўся ў лес нізкі чарнявы мужык, што быў упаўнаважаным ад сельскага вобчаства ў каморніка па справах межаў вобчаства. У правай руцэ ён сьціснуў бэрданку, левая абвязана белаю анучаю.

Будка з зялёнага гальля ў лесе. Перад будкай гарыць раскладзены агонь. Каля агню сядзяць Арон, Ігнась і Дуб.

У паласу агню ўступае постаць нізкага чарнявага мужыка з перавязанай рукой.

**— Пан Вайніловіч сёньня... застрэліў чалавека за ламачча ў лесе.**

Постаць узбуранага чарнявага мужыка. Злавесна паблісквающь у сьвятле агню жвавыя вочы.

Устае ад агню Дуб. Пітмеем здаецца перад ім постаць чарнявага з перавязкай на руцэ.

*Зацямненьне*

Дымны змрок у цеснай сялянскай хаце. Дыміць устаўленая у «дзеда» лучына. Сінія язычкі то выскакваюць разам з напорным струменем дыму, то хаваюцца і лучына зноў гарыць роўна. Чорны вугаль пакруціўся на канцы лучыны, патрэскаўся.

Грубая каравая рука працягваецца і двума пальцамі абломвае нагар. Земляны дол пад лучынаю ўсланы патрэсканым пахрабушчаным вугальлем.

Дымны змкрок у цеснай сялянскай хаце. Праз дым паступова можна бачыць...

На палу, на засланай пасьцілкаю саломе з пакрыўленым ад болю тварам немалады мужчына. Вочы ў яго то заплюшчваюцца, то ненатуральна шырока адкрываюцца. Чалавек у гарачцы: ён цяжка дыша, ловіць рукамі паветра, дзярэ на грудзях кашулю.

Белая жаночая рука прыўздымае галаву.

Пры хворым Люба з Ларысай. Люба падтрымлівае хворага пад галаву, Ларыса дае вады.

У перапынках паміж каўткамі хворы прагна ўцягвае ў сябе паветра і адкідаецца на саламяную пасьцелю.

Ярчэй разгарваецца лучына. Цьмяным бляскам асьвятляецца увесь палок, на якім ляжыць хворы.

У цёмным кутку цісну цца да печы трое малых дзяцей.

Бруднымі кулачкамі дзеці труць заплаканыя вочы.

Перад палком куча мужчын застывае, калі хворы пачынае мітусіцца і з гарачкі рваць на сабе кашулю і пасьцілку. У глухі выраз пакорнасьці лёсу закуты твары. Калі хворы ўгамоньваецца, у кучцы пачынаецца нясьмелы гоман.

Люба папраўляе ў хворага пад галавамі. Ларыса раскрывае на грудзях у хворага кашулю. Скрозь белую марлю, якою абвязаны грудзі, выступае і ўвачавідкі большае цёмная пляма крыві. Хворы пачынае трызьніць, мітусіцца на пасьцелі.

Ларыса папраўляе перавязку.

Галовы мужчын у хаце паварочваюцца пад мыцельнік, на дзьверы.

Прыгнуўшыся пад вушаком, уваходзіць Дуб. За Дубам—Ігнась і чалавек пяць дружыньнікаў.

Каменнаю глыбаю, нягледзячы ні на кога, находзіць Дуб. Мужчыны расступаюцца перад ім.

Перад хворым цяжкім рухам Дуб зрывае з сябе шапку, і жматае моцна ў руцэ.

На дварэ. Да вакна хаткі падкрадваецца чалавечая постаць. Бляск ад лучыны прарываецца да вакна і асвятляе касмылявапую сьмешную барадку чалавека ў сялянскай вопратцы.

Чалавеку добра відаць праз вакно кучу людзей у хаце і сярод іх на цэлую галаву вышэй за ўсіх Дуба. Чалавек азіраецца быстра, вымае з-запазухі запісную кніжку з абгрызкай алоўка.

Быццам сякерою адсякаючы словы, Дуб гаворыць да мужчын.

Чалавек пад вакном момант піша ў запісную кніжку ды імгненна хавае зноў у запазуху.

Пазаду вырастае фігура дружыньніка са стрэльбай.

Чалавек памыкаецца ўцячы, але дужая рука дружыньніка ловіць яго за каўнер і цягне ў хату.

Людзі ў хаце адступаюцца ад лучыны.

Дружыньнік са стрэльбай цягне за каўнер чалавека ў сялянскай вопратцы.

Раптам у дружыньніка застаецца ў руцэ кавалак каўнера.

Чалавек у сялянскай вопратцы стрымгалоў кідаецца ў дзьверы.

Уся куча людзей у хаце кідаецца за ім і—пашкумачанага абадранага валачэ к лучыне.

Увабраў галаву ў плечы перад натоўпам незнаёмы. На твары сьмешна не хапае аднаго вуса.

Дружыньнік выцягвае з-запазухі ў чалавека запісную кніжку і падае Дубу.

Дуб з Ігнасём перагортваюць лісткі запіснае кніжкі. Сьпісаны лісток астаецца перад вачыма.

*«У дзень здарэньня ў Вайніловічым лесе гэты Дуб у хаце падстрэленага панам мужыка заклікаў народ да бунту супроць цара і расправы з панам Вайніловічам».*

У грознай павольнасьці падыходзіць да незнаёмага Ігнась. Момант пранікліва ўзіраецца ў твар.

Чалавек апускае на грудзі галаву.

З размаху Ігнасёва рука ўпіваецца ў касмыляватую бародку незнаёмага.

Барада застаецца ў Ігнася ў руцэ.

Перад зьдзіўленым натоўпам перапрануты павятовец Юркевіч.

— **Гара з гарою ня сходзіцца... А нам з вамі вязе на сустрэчы, пане павятовец.**

Хмурна гаворыць Ігнась і робіць знак дружыньнікам.

— **Правядзеце пана шпёна туды, куды ён напрасіўся.**

Гаворыць Дуб і адварочваецца.

Два дружыньнікі бяруць павятоўца і пад рукі выводзяць з хаты.

На твары ў Любы як у люстэрку адлюстроўваецца ўнутраная барацьба. Люба парываецца ўсьлед за дружыньнікамі. Дужая рука Ігнася затрымлівае яе на месцы, паказвае ёй на хворага.

Узбуджаны гоманам у хаце хворы на пасьцелі мітусіцца, парываецца ўстаць, цяжка падае і хапаецца за грудзі. На раскрытанай грудзіне відна чорная крывавая пляма. Цёмны струменьчык крыві бяжыць па грудзях.

Скурчанымі пальцамі ловіць паветра няшчасны. Цяжка дышуць грудзі. Ненатуральна шырока раскрытыя вочы быццам сузіраюць нейкі знакшы, незнаёмы яму сьвет.

З крыкам прыпадаюць да ног параненага дзеці.

Апошняя агонія. Струменьчык крыві выцякае праз рот на бараду. Усё цела раптам сатрасецца моцна і спакойна выцягваецца на саломе.

У хату ўбягае праставалосая заплаканая жанчына. З рыданьнем падае яна на калені перад трупам.

Усе ў хаце здымаюць шапкі.

Дуб адварочваецца. Па шчацэ коціцца адзінокая сьляза.

Ігнась уздымае галаву. З запалам узмахвае рукою і гаворыць, зьвяртаючыся да мужыкоў. Вочы пабліскваюць жорстка і востра.

Заварушыўся ў хаце натоўп.

— **Даволі зьдзекаў! Прэч паліцэйскія бізуны! Лепш страшныя канцы, чым страх бясконца. За мною, бяспраўны народ!**

Сыпле з хаты на двор народ.

Пры нябожчыку галосяць жонка і дзеці.

Суцяшае кабету Люба.

Нярухома ўстыла Ларыса пры галовах у нябожчыка. Скамянеў быццам твар яе, нагадвае прыгожы гіпсавы зьлепак.

*Зацямненьне*

Дзікім казачным карагодам прамігаюцца ў начной цемры постаці людзей. Цераз палетак... лясной дарогай... поплавам... імчацца яны ў напрамку маёнтка пана Вайніловіча.

Рэдкімі кропкамі сьвятла сьвецяцца на ўзгорку Слаўнае...

Мігцяць у руху казачныя жудасныя постаці. На момант вырываюцца з цемры ў руках людзей: то сякера... то сахор... то вілы... то паляўнічая стрэльба.

У багата ўбраным пакоі. Пан Вайніловіч, калупаючы зубачысткаю ў роце, пагойдваецца ў лёгкім плеценым крэсла-зыбцы. На каленях разгорнута ілюстраваная часопісь. Павольна мякка пагойдваецца крэсла-зыбка. Пан Вайніловіч калупае ў роце зубачысткай.

Рэзка адчыняюцца насьцеж дзьверы. Убягае бяз шапкі, напалоханы аконам.

**— Кепскія весткі, пане. Стараста з вёскі Шамкоў прыехаў конна, каб папярэдзіць вас, што натоўп бунтаўшчыкоў з нядобрымі намерамі ідзе ў Слаўнае.**

Нэрвова загойдалася крэсла пад панам. Зубачыстка выпала з роту.

Ускочыў пан Вайніловіч на ногі—крэсла-зыбка адляцела да сьцяны, загойдалася роўна і лёгка.

Пан ухапіў за рукі спалоханага аконама.

**— Падаць зараз-жа экіпаж! Я еду ў горад.**

Нязграбна паварочваецца грубым тлустым тулавам аканом, часта семяніць нагамі за дзьверы.

Пан Вайніловіч пасьпешна апранаецца, нэрвова зашпільвае гузікі. Апрануўшыся дастае з століка мініатурны рэвольвэрчык, правярае спраўнасьць і кладзе ў кішэню. Як на нябачных крыльлях на пана Вайніловіча зьлятае спакой упэўненага ў сабе чалавека. Нават нейкая падабенства былое ўсьмешкі заблудзіла на вусны.

Шырокім крокам, старанна выпучваючы грудзі...

Замест грудзей пану відаць зьверху свой ладны жывот.

Пан Вайніловіч упэўнена сыходзіць уніз, на першы паверх.

Пасівелы на панскай службе стары лёкай сустракае пана.

Пан дае яму наказ.

**— Глядзі з эконамам парадку ў двары, Габрыэль, я еду ў горад.**

Стары Габрыэль схіляе галаву.

Пану здаецца, што яго стары лёкай гіранічна ўсьміхнуўся на яго словы. Строгім поглядам ўзіраецца ў твар старога лёкая.

Пара зларадна бліскучых воч на маладым дзявочым твары паказваюцца на момант у прарэзе прачыненых дзьвярэй збоку і зьнікаюць.

З пакорным выглядам шматгадовага слугі стары Габрыэль адчыняе пану.

Масыўныя дубовыя дзьверы акованыя жалезам паварочваюцца на сваіх петлях.

У поўзмрок асьветленага ліхтарамі ганку выходзіць пан.

Павольна зачыняе дзьверы лёкай і старэчай, шлёпаючай хадой ідзе на кухню.

Пры вакне ў цемру ночы ўзіраецца дзяўчына. На гук крокаў Габрыэля азіраецца. Але бачачы старога лёкая, падбягае да яго і цягне да вакна.

Паміж дворнае будоўлі ў цемры мільганула чалавечая постаць.

З экіпажнае аборы хурман выводзіць ў руках парку запрэжаных у экіпаж коняй. Аконам ідзе побач з хурманам.

Стары лёкай ўзіраецца ў поўцёмру двара і здаецца яму....

Зрушыліся з месца канцавыя сьцены экіпажнае аборы... —

Заварушылася цемра...

Узварушыўся ўвесь двор...

Стары працірае вочы.

Парыўчата адрывае ад твару руку сівога лёкая дзяўчына.

Габрыэль зьдзіўлена паварочваецца да яе.

Дзяўчына з сілаю сьціскае руку лёкая.

Стары пераводзіць погляд з дзяўчыны на вакно.

Мітусіцца вакол двара, варушыцца цемра...

Урываюцца адна за аднэй і кучамі запаўняюць двор дзікія постаці людзей з віламі... сякерамі... сахарамі... стрэльбамі. З усіх бакоў абляпляюць яны экіпаж з хурманам і аконамам.

Стары лёкай адрываецца ад вакна і недарэчнаю старэчаю бягою цялёпкаецца з кухні.

Поглядам начыненым злоснаю радасьцю праводзіць яго дзяўчына.

Пан Вайніловіч захлопвае масыўныя дубовыя дзьверы і замыкае на ключ.

Спалоханыя вочы пана спыняюцца зьбянтэжана на старым лёкаю.

**— Цягні сюды ўсё, што знойдзеш з мэблі, мой стары Габрыэль... Яны будуць ламаць дзьверы.**

Старасьвецкая масыўная вешалка аддзяляецца ад сьцяны, сунецца пад дзьверы і шчыльна загароджвае іх.

Бегма ўзьбягае пан на другі паверх.

Стары лёкай пад дзьвярыма выцірае на лбе пот.

Яркі бляск сьвятла знадворку б'е ў вокны панскага габінэту.

Пан кідаецца да вакна.

Куча саломы гарыць сярод двара ясным полымем, асьвятляе поўны двор лютых узброеных людзей.

**— Сьмерць душагубу, Сьмерць яму!**

Лютуе натоўп. Шалёна трасуцца над галовамі вілы... сякеры... сахары... стрэльбы. Натоўп кідаецца да дзьвярэй, быццам сілаю руху аднаго зьбіраючыся скрышыць на пыл панскія пакоі.

Але масыўныя дубовыя дзьверы моцна вытрымліваюць нападзеньне.

Людзкая хваля адкочваецца назад.

Людзі з сякерамі падбягаюць да дзьвярэй і ўзмахваюць сваёй вострай зброяй.

Прагна жаруць моцны дуб сталёвыя сякеры.

Трэскі ляцяць над галовамі, усьцілаюць ганак.

Крык ярасьці вылятае з горла ў пана.

Зрывае з сьцяны сваю новую стрэльбу—дубальтоўку. Адным рыўком расчыняе насьцеж вакно. Мецицца. Спускае абудва куркі.

Некалькі чалавек, крычучы нема коцяцца покатам з-пад дзьвярэй.

Дзяўчына закрывае рукамі вочы і выбягае з кухні.

Увесь абліты потам выцірае мокрую лысіну спалоханы стары лёкай.

Цэлая барыкада ўзвышаецца пад дзьвярыма.

Хвіліну глядзіць дзяўчына на Габрыэля, а потым тармасуе і цягне пад дзьверы.

Пад рукамі дзяўчыны распадаецца з такім трудом збудаваная, Габрыэлем барыкада.

Стары лёкай зьняможаны прысланіўся да сьцяны. Шкляным поглядам узорыўся на дзяўчыну.

З нечалавечаю сілаю раскідае дзяўчына рэшткі барыкады.

Шкляным поглядам глядзіць на дзьверы Габрыэль.

Паварочваецца ў замку ключ.

Агонь нянавісьці гарыць у дзяўчыніных вачох.

У роспачы апускае пан Вайніловіч стрэльбу.

Моцныя дубовыя дзьверы паддаліся разьюшанаму натоўпу.

Пан выглянуў у вакно. Прамень выратунку прамільгнуў уваччу.

На двары пры экіпажы ўстылі з аконамам хурман. Два мужыкі трымаюць за аброці коні. Апошнія з натоўпу ўзьбягаюць па сходках на ганку да пакояў.

Ускочыў пан на падаконьнік, азірнуўся.

Пад рукамі разьюшанага натоўпу ліхаманкава трасуцца дзьверы.

Пан увагнуў галаву ў плечы і скочыў уніз.

Момант нярухомым целам ляжаў доле. Прабудзілі яго гукі барацьбы пры экіпажы.

Аконам з хурманам кінуліся на сваіх вартавых.

Пан заварушыўся, устаў і хутка пакульгаў да экіпажу.

Трашчаць, ломяцца дзьверы ў панскім габінэце.

Аконам душыць за горла свайго вартавога, пакуль той не адпускае рук і з хрыпам ня падае далоў.

Качаецца доле хурман з другім вартавым.

Пан Вайніловіч з скрыўленым ад болю тварам упаўзае ў экіпаж.

Падаюць у габінэт разьбітыя дзьверы.

У пошуках пана залівае пакой узбунтаваны народ.

Але вось адзін падбягае да вакна і крык азлабленьня вырываецца ў яго з грудзей.

Адзін перад адным усе грэйма сыплюць да вакна.

Вачом людзей прадстаўляецца карціна на двары. Адзін вартавы качаецца па зямлі з хурманам. Другі нярухома ўстыў паблізу. Аконам ускаквае на хурманскае сядзеньне, хапае лейцы. Коні бяруць з месца буйным чвалам.

Пярэднія ад вакна сыпанулі з габінэту назад.

Момант і... цэлая куча людзей накінулася на хурмана.

Замітусілася ўсё, закруцілася ўваччу ў хурмана і паплыло ў нейкую цьмяную бездань.

Кучы людзей ірванукіся некуды ў цемру двара.

Бегма бяжыць адзін з бярэмам саломы, кідае яе пад сьцяну пакояў: За ім другі... трэці... чацьверты...

Кругом пакояў побач з драўлянымі сьценамі вырасла сьцяна з саломы.

Бліснуў і пабег па саламянай сьцяне агенчык адразу ў некалькіх мясцох. Разгарваецца салома. Полымя ўздымаецца ўгору, ліжа крываожэрна сухія драўляныя сьцены.

У фантастычным асьвятленьні па дварэ бушуюць людзкія хвалі.
Агонь большае, уздымаецца вышай ды вышай.
Ляцяць і тухнуць угары снапы ясных іскраў.

*Зацямненьне*

## ЧАСТКА СЁМАЯ

Тэлеграма:

*„Его Превосходительству Командующему Виленскимъ Военнымъ Округомъ.*

*Жизнь чиновъ полиціи, особенно высшихъ, въ великой опасности. Беспорядки усиливаются по всему уезду. Крестьянами деревни Шамки подъ руководствомъ боевой дружины соціалъ-демократовъ едва не убитъ помещикъ Вайниловичъ; имение сожжено; имущество разграблено; рубится лесъ. Усиливаются противоправительственные выступления разныхъ революціонныхъ партий. Поголовного обыска произвести не могу по недостатку силъ. По договоренности съ Воинскимъ Начальникомъ конвойную команду переводимъ на патрульную службу. При первой возможности произведу частичные обыски и аресты. Во избежание имеющихъ быть большихъ беспорядковъ, особенно въ праздникъ Воздвиженія, а также для ликвидаціи боевой соціалъ-демократической дружины требуется безотлагательная присылка вооруженной воинской силы.*

*Исправникъ №-скаго уезда*
*Бураковъ".*

Узьнікае габінэт ісправніка з пісьмовым сталом пры вакне, з рознымі прыгожымі драбніцамі раскіданымі на ім, з портрэтам Нікалая II на сьцяне.

Ісправнік перачытвае тэлеграму і націскае гузічак настольнага званка.

На званок ісправуніка ўбягае і станавіцца ў пачцівай позе начальнік канцылярыі.

Ісправунік падае да адпраўкі тэлеграму.

Фігура начканца губіцца ў дальшым куту габінэту.

Блішчучы новай, з-пад іголачкі, формай лёгкай танцоўнай хадой зьяўляецца памочнік ісправуніка. Ён садзіцца нядбайна бокам пры стале. Таксама надбайна яго пальцы забаўляюцца з пышным кутасом, зьвісаючым з эфэсу шаблі.

Іспраўнік адмыкае малюсенькім ключыкам мініатурную шкатулку, што стаіць на стале. У дзьвёх аддзяленьнях туга набіты крэдыткі і залатыя манэты. Іспраўнік ставіць шкатулку перад памочнікам.

**— Я вас чакаў... Забясьпечце парадак да надыходзячага сьвята. Узьвіжаньня жыватворчага крыжу Господня. Перагаварэце з архімандрытам Вячоркам. Арганізуйце сумленна мысьлівых веруючых, якіх можна супроцьпаставіць рознаму рэволюцыйнаму зброду. Гэта вам на выдаткі. Вялікі бяссрэбранік айцец архімандрыт з свае манастырскае казны таксама не пашкадуе на богаўгодную справу... Узмацнеце атрады пасланыя на пошукі гэтай архіразбойніцкай дружыны.**

Памочнік іспраўніка хавае мініатурную шкатулку.

У пакоі з кумпалападобнаю стольлю, са сьценамі орнамэнтаванымі ў візантыйскім стылі, расьпісанай пульхным харувімчыкамі ў паце і сказаньнямі з сьвяшчэннага пісаньня рэлігійны поўзмрок. Перад цяжкім пазлачаным кіётам мігціць лямпадка.

У маленным эстазе перад кіётам на каленях айцец архімандрыт. Грандыёзная постаць высокага айца з густою доўгаю грываю валасоў на патыліцы застыла, як каменны слуп, у сузіраньні ўсявышняга.

Часьценька перабіраючы нагамі ўваходзіць служка-хлапчук.

Убачыўшы айца архімандрыта на маленьні.

Становіцца на калені, завучана хрысьціцца і б'е паклоны.

Грузна ўстае высокі айцец.

Праз вакно прабіраецца сноп сьвятла, асьвятляе густа зарослы архімандрытаў твар.

Служка падбягае і скарагаворкай дакладнае аб наведвальніку. Архімандрыт дазваляе прасіць.

Мяккім ценем зьнікае служка.

Лёгкай танцоўнай хадой, блішчучы новай формай пад благаславеньня архімандрыта падыходзіць памочнік іспраўніка.

Рука з складзенымі перстамі ўзмахнулася над галавою нявысокага памочніка і працягнулася для прывітаньня.

Увесь схаваўшыся ў вялікім мяккім крэсьле памочнік іспраўніка перадае даручэньне начальства.

Вочы архімандрыта маленна ўзьняты горэ, дзе на столі, адмысловым мастаком налепаны кволыя пухленькія хэрувімчыкі.

Памочнік іспраўніка скончыў гаварыць і чакальна глядзіць у густа зарослы пухнаты твар архімандрыта.

Высокі айцец апускае погляд. Рука павольна працягваецца ў цёмны кут да ручкі старасьвецкае сыстэмы званка.

У паўзмрочнай манаскай кельлі трыпеча над дзьвярыма язычок званка.

Дужы дзяціна ў манаскім падрасьніку кладзе на грубы драўляны стол кавалачкі паперы і вялікую лупу. Адкасвае рукавы падрасьніка на мускулістыя валасатыя рукі. Не сьпяшаючыся зьбірае кавалачкі паперы, лупу і хавае ў добра дароблены патайнічок у сьцяне.

Памочнік ісправніка вымае з кішэні і ставіць перад архімандрытам мініатурную шкатулку.

Архімандрыт прыўстае над сталом. На тлустасьцю залітым твары яго прасьвечвае прыемная лагоднасьць.

**— Бог благаславіць вас, сын мой, за вашы турботы аб доме яго.**

Складзенымі для благаслаўленьня перстамі архімандрыт памахаў над схіленаю галавою памочніка.

Пад дзьвярыма на калідоры прыгнуўся дужы дзяціна—манах. Вялікая дзірка для ключа ў дзьвярным замку мацае кельлю архімандрыта і спыняецца на сцэне благаслаўленьня.

Хітра прыжмуранае вока дужага дзяціны.

Архімандрытава рука лягла на мініатурную шкатулку.

Манах лёгка адскочыў на бок.

Ня гледзячы на манаха, танцоўнай хадой сваёй прайшоў да выйсьця памочнік ісправніка.

Зноў скурчыўся пад дзьвярыма манах.

Дзірка ў замку адразу адкрывае стол і за сталом архімандрыта.

Мініатурная шкатулка на стале адчынена. Айцец архімандрыт перасыпае на руцэ бліскучыя кружочкі залатых манэт. Агнём яўнага срэбралюбія блішчаць вочы вялікага бяссрэбраніка.

Дужы дзяціна ў манаскім падрасьніку выпрастаўся і пастукаў у дзьверы.

**Далікатных і сакрэтных спраў манастырскіх майстра, усяму гораду вядомы пад клічкай «Вясёлага манаха».**

Быццам вылеплены з фізычнае сілы і грахоўнае хітрасьці Вясёлы манах сьмірэнна скрыжаваў свае валасатыя рукі на магутных грудзях перад архімандрытам.

Шыльда: Рэнскавы потраб Пэйсаха Міленькага.

Да вушака мякка прытуліўся п'яны Юзік. У стане нявыказнае дабрыні ён некаму выабражаемаму нешта гаворыць і ўсьміхаецца п'янай лагоднай усьмешкай на свае жарты.

На фоне дзьвярэй зьяўляецца нізкаватая, падобная на варвальную бочку, грузная фігура.

П'яны Юзік лыпае вачыма і ўсьміхаецца прышоўшаму.

У адказ на ўсьмешку мядзьведжая лапа прышэльца ўбірае ў пальцы каўнер п'янага.

Далёка на вуліцу ляціць і падае ніц п'яны Юзік. Грузны дзяціна выцірае аб зашмальцаваныя бліскучыя штаны руку і ўвальваецца ў шынок.

**Галава гарадзкіх хуліганаў і разбойцаў Ёўга-сальнік.**

Усе столікі ў шынку заняты сёньня.

Сальнік Ёўга ў позе барца аглядвае спадылба шынок.

За стойкаю сагнуўся гнуткаю лазінаю шынкар.

Трасуцца пэйсы ў старога Пэйсаха: дай бог нікому гэтак ня ведаць Ёўгу-сальніка як яму.

Цяжэразны кулак з сілай апускаецца на стойку.

Ходарам захадзіла стойка. Пасыпаліся чаркі, пляшкі.

**— Кварту гарэлкі!**

Нізка кланяецца Ёўгу стары шынкар.

Пры вакне сядзяць за сталом двое сялян.

З прыжмураным вокам падыходзіць да іх Ёўга.

Чаркі і бутэлькі раптам ляцяць з стала. Адзін за адным падаюць далоў абое сялян.

З сьціснутымі кулакамі з-за суседняга стала ўскаквае Яўхім—рабочы з сьлясарні Зуся. Але на плячо яму кладзецца сяброўская рука другога. Яўхім неахвотна садзіцца на сваё месца.

Выкінутыя з-за стала сяляне рэтыруюцца да дзьвярэй. Па-воўчаму злосна глядзяць у іх вочы, калі яны аглядваюцца перш чым выйсьці на двор.

Па меры таго як...

Стары Пэйсах на пальчыках падносіць сальніку гарэлку і закуску...

Ёўга закурвае папяросу і чакальна ўзіраецца ў вакно...

Шынок супакойваецца.

У адчыненых дзьвярах зьяўляецца пераапрануты ў вольную вопратку Вясёлы манах.

Сальнік кідае недакурак і сакавіта сплёўвае на суседні столік.

Вясёлы манах падыходзіць да Ёўгі, садзіцца за яго столік насупроць.

Сальнік Ёўга налівае чаркі.

Вясёла перакульвае чарку Вясёлы манах і схіляецца над сталом.

Яўхімаў сябра шумна пачынае выліваць свае пачуцьці таварышу.

Яўхім падае знак маўчаць.

Вясёлы манах кідае на стол перад Ёўгам некалькі залатых манэт.

Хадою п'янага чалавека, у косікі, паўз стол сальніка праходзіць Яўхім.

Вясёлы манах гаворыць сальніку.

**— На Узьвіжаньне рэвалюцыянэры і жыды зьбіраюцца разагнаць крэсны ход. Прывядзі сваіх хлопцаў.**

Чапляючыся п'яна за сталы, Яўхім выходзіць на двор.

Усё ап'яненьне раптам прападае на дварэ ў Яўхіма—простаю роўнаю хадою ён ідзе па вуліцы.

На ўскраіне гораду старэнькая напалову разбураная хатка.

Умоўна стукае тры разы ў дзьверы Яўхім.

Нябачнаю рукою адчыняюцца, упушчаюць Яўхіма і зачыняюцца за ім дзьверы.

Скупое сьвятло газьніцы цьмяныя хварбы змроку разьлівае па кутох сутарэньня. За сталом пры рэале з наборнымі касамі: Майзель, Арон, Ясь. Пад мерную гутарку Яся шпарка піша Арон. Сходзяцца і разыходзяцца перад дзьвярыма цені. У цьмяных кутох сутарэньня калышацца змрок.

Майзель адхінаецца ад газьніцы. Дрыготкае сьвятло насілу разганяе лятучы змрок. У парозе Яўхім.

Арон пакідае пісаць.

Зноў цені сыходзяцца па кутох сутарэньня, зноў цемра лятучая пагойдваецца як жывая.

З трывожным выглядам Яўхім расказвае Арону аб здарэньні ў Пэйсаха.

— **Вясёлы манах падкуніў сёньня хуліганаў і разбойцаў Еўгі-сальніка для пагрому.**

Нэрвова паторгваецца адна шчака ў Майзеля.

Арон бярэ ліст паперы, размашліва піша.

*«Дарагія таварышы Ігнась і Дуб.*

Паліцыя з духоўніцтвам падрыхтоўваюць на Узьвіжаньне пагром. Вы разумееце, што гэта значыць! Мы тут разгортваем работу па абвяшчэньні палітычнае забастоўкі. Неабходна шырокая дэманстрацыя, прысутнасьць дружыны—даць бой пагромшчыкам і паліцыі.

Больш асьцярожнасьці: сёньня яшчэ пасланы паліцэйскія сілы ў Слаўнае—Шамкі.

З таварыскім прывітаньнем Арон, Майзель».

Арон дае запіску Майзелю. Той перачытвае і аддае Ясю.

Доўгія вераўчаныя аборы мільгацяць пры сьвятле газьніцы. Ясь разуваецца, раскручвае абверчаныя да калень белыя анучы.

На стале стос лістовак. Майзель убірае ў руку добрую ладку і падае Ясю.

Абкручвае кругом нагі лістоўкі і закрывае іх анучай Ясь.

Скачуць па столі і сьценах сутарэньня мяккія цені. Пагойдваецца лятучы змрок.

*Зацямненьне*

Першае праменьне сонца. Прачынаюцца гарадзкія вуліцы. Па адным, па два, па тры сьпяшаюцца на прадпрыемствы рабочыя. Адкідаюцца ў дамох вакеніцы, у вокны выглядваюць заспаныя людзі.

Паўз рынчаны пляц павольна ідзе Ігнась.

У адкрытай паласястай будцы дрэмле гарадавы.

На пажарнай вежы звон пачынае адбіваць гадзіны.

Гарадавы прахапляецца. Зрывае спрасонку шапку і размашыста хрысьціцца.

На пажарнай вежы дзяжурны пажарнік б'е ў звон. Сем гадзін.

Гарадавы злосна плюецца.

Ігнась рагоча.

Гарадавы пераносіць сваю злосьць за памылку на Ігнася.

Тупаціць нагою. Пырскаціць сьлінаю. Хапаецца за сьвісьцёлік.

Спалоханыя вераб'і кучаю ўзьлятаюць і рассыпаюцца над будкай.

На рынчаны пляц зьяжджаюцца хурманкі.

Ігнась адмахваецца ад гарадавога як ад надакучлівай мухі, яго цікавяць сялянскія хурманкі. Праходзячы паўз іх, Ігнась абменьваецца з барадатым дзядзькам ледзь прыкметным знакам і праходзіць далей.

Грамаздны раскошны ложак увесь пакрыты беласьнежнай пенай пасьцельнае бялізны. На белым фоне відна толькі адна голава ісправуніка Буракова. Цяплынёю праменьняў пырскацінь у вакно сонца.

Ісправунік пацягваецца, бярэ з начнога століка беленькі званочак—звоніць.

Гарадавы, што выконвае пры ісправуніку абавязкі і веставога і лёкая, прыносіць вычышчаныя мундзір, штаны і боты і пасабляе яго высокаблагародзьдзю адзецца.

На званіцы сабору разгойдваюцца званы. Вялізныя языкі цяжка б'юцца ў берагі званоў—божы дом заклікае веруючых на малітву.

Адзеты ісправунік хрысьціцца далікатна і адначасова левай рукой бярэ з пачка на начным століку тонкую папяросу. Прыкурвае ад запаленае гарадавым запалкі і з асалодай зацягваецца.

З поліцэйскага ўпраўленьня выходзіць танцоўны памочнік ісправуніка. У руцэ ў яго нераскрытая тэлеграма.

Ісправунік выходзіць у сталовую і сустракаецца з сваім памочнікам: Элегантным гэстам памочнік падае яму тэлеграму.

Радасныя стрэлачкі бягуць ад воч ісправуніка на шчаку. Ён хапае за талію памочніка і кружыць яго ў бравурным танцы.

Тэлеграма.

„Высланъ батальонъ пехоты. Встрѣчайце. Командующій Виленскимъ Военнымъ Округомъ".

Сьлясарня Зуся. На сьцяне майстэрні праклямацыя.

**„ТОВАРИЩИ РАБОЧИЕ.**

Черное духовенство вмѣстѣ съ царской полиціей готовятъ намъ сегодня погромъ.

Товарищи рабочіе всѣ какъ одинъ на улицу. Въ тесномъ единеніи и сплоченности рабочихъ рядовъ наша сила.

Долой царскихъ мракобѣсовъ! Долой монархическій деспотизмъ, порождающій паразитовъ и угнетателей!

Да здравствуетъ революція! Да здравствуетъ власть народа!

**Комитетъ организаціи Россійской Соціалъ-демократической Рабочей партіи".**

Праходзяць рабочыя. Праклямацыя на сьцяне прыцягвае іхную ўвагу. Азіраючыся па баках, прачытваюць рабочыя праклямацыю, і праходзяць далей.

На дзьвярох майстэрні замок.

За горадам—пад старасьвецкім валам, які абкружае горад,—Арон, Ігнась, Майзель, Дуб, машыніст з паравога млыну.

**— Час ужо выступаць... Дружына ў горадзе.**

Гаворыць устаючы Дуб.

Камітэт разыходзіцца ў розныя бакі.

Рэнсковы пограб Пэйсаха Міленькага поўны як завязаць.

П'юць гарэлку чаркамі, шклянкамі, келіхамі і проста з бутэлек на-лба. П'юць седзячы за сталамі, п'юць каля стойкі, п'юць прысланіўшыся да сьцяны. Дым ад папярос, цыгарак, люлек плавае восенскім туманам. У п'яным вэрхале распараджаецца Ёўга-сальнік. На яго кліч ідзе Пэйсах.

Ёўга вымае з кішэні чырвонец і кідае насустрач шынкару. Пэйсах не пасьпявае раставіць рукі—чырвонец падае далоў—і шынкар поўзае паміж ног, шукаючы грошы.

Адзін з прыхільнікаў Ёўгі размахваецца нагой.

Бычцам плывец, кідаючыся ў раку, расьцягваецца на падлозе стары шынкар.

Агульны рогат.

Але Пэйсах устае з манэтай у руцэ.

Агульны рогат. Рагоча і сам Пэйсах, рагоча аднымі вуснамі, аднымі пэйсамі—унутры яго вялікая крыўда.

Ён божыцца і прысягае, што Ёўга з сваімі людзьмі напіў напэўна больш. Прывычным гэстам рукі старога шынкара ён паказвае на кучы парожных бутэлек на сталах, пад сталамі, на вокнах, на стойцы. Вы ўсё гэта напілі—гаворыць гэст.

Зьлятае з твараў вясёлы рогат, зьнікае ў тытунёвым дыме.

Ломяцца хмурна бровы ў Ёўгі, п'яныя вочы і твар робяцца падобнымі на вострую сталь нажа. Момантам у мядзьведжай лапе яго ўзьлятае над галавою парожная бутэлька і—рассыпаецца на дробныя аскалепкі пад нагамі ў шынкара.

Павароткай мышшу кідаецца да стойкі Пэйсах.

Пазаду ўздымаецца ў паветра і ляціць на падлогу стол; бутэлькі, чаркі ляцяць у вокны; сыплецца шкло пабітых шыб.

Вар'яцее п'яны натоўп у шынку.

На адзіны цэлы стол ускаквае Ёўга, немым голасам пакрывае ў шынку вэрхал.

Пад часты пераразвон званоў вакол манастыра ідзе крэсны ход.

Па вуліцах гораду кучкі рабочых. Момантам абрастаюць яны густымі масамі, зьліваюцца ў стройныя шэрагі і колёны. У пярэдніх шэрагах уздымаецца на высокім дзяржаньні трыпяткі чырвоны сьцяг. Трыпеча і палошчацца пад павевамі ветру над галавамі дэмонстрантаў чырвоны сьцяг.

Мора хурманак, коняй, людзей на рынычным пляцу.

Пад часты пераразвон званоў ідзе вакол манастыра крэсны ход.

**— Рэвалюцынеры і жыды ідуць разганяць крэсны ход!..**
**Бі жыдоў, ратуй Расію!**

Узмахвае стоячы на стале ў шынку рукою сальнік Ёўга. У руцэ паўпудовая ад вагі гіра.

П'яны натоўп акружвае Ёўгу. Момантам у руках зьяўляюцца нажы, драцяныя з воладам на канцы гарапнікі, жалезныя пранты, ножкі ад паломаных сталоў і зэдлікаў, гіры, пляшкі.

Ёўга саскаквае з стала.

П'яны азьвярэлы натоўп з крыкам сыпле ў дзьверы.

Над шырокім шляхам плыве агромністая хмара пылу. Хмара набліжаецца, большае.

Батальён пяхоты абецаны камандуючым ваеннай акругай падыходзіць к гораду. Шапкі бесказыркі зухавата ссунуты ў салдатаў на адно вуха. Блішчаць на сонцы штыкі. Мерна ў нагу з палкоўнікам і ад'ютантам наперадзе крочыць батальённая калёна.

Салдаты сьпяваюць разухабістую паходную песьню з падсьвістваньнем і гіканьнем.

Вуліцамі гораду, з чырвонымі сьцягамі, з лёзунгамі на сьцягах, праходзіць дэманстрацыя. У задніх шэрагах дружыньнікі Дуба.

Дэманстрацыя ідзе павольна, урачыста ў стройных шэрагах. Праходзяць знаёмыя нам пільнікі, сьлесары, пекары, мукамолы.

З бакавое вуліцы выбягае разьюшаны ўзброены натоўп Ёўгі-сальніка.

**— Бі жыдоў, ратуй Расію!**

З многагалосным крыкам пагромшчык і кідаюцца на дэманстрацыю. Мільгацяць у паветры жалезныя пранты, нажы, гарапнікі, ножкі ад сталоў, пляшкі, гіры.

Блытаюцца пярэднія шэрагі. Упаў зьбіты з ног дэмонстрант. Пагайднуўся чырвоны сьцяг. Галава калёны падалася ўлева, на бакавую вуліцу.

Атрад гарадавых і стражнікаў сьцяной шэрагаў загарадзіў вуліцу.

Пярэднія шэрагі дэманстрантаў урастаюць у брук.

Рукапашная схватка з пагромшчыкамі.

З хвоста калёны з маўзэрам у руцэ бяжыць Дуб.

Узброеныя рэвальвэрамі дружыньнікі бягуць за Дубам.

Ня мецячыся на бягу страляе Дуб.

Высока ўзмахнуўшы гірай, з падскокам, грузна асеў далоў высокі барадаты пагромшчык.

Ад сьцяны гарадавых адрываецца дробным трухам памочнік іспраўніка.

Нярухома стаяць пярэднія шэрагі дэманстрантаў. За дзесяць крокаў б'е капытом у брук памочніцкі конь.

**— Прапаную зараз-жа разыйсьціся па хатах.**

Крычыць іспраўніцкі памочнік.

Нярухома стаяць пярэднія шэрагі дэманстрантаў.

Прэч ад дэманстрацыі бяжыць, рассыпаўшыся па адным, натоўп пагромшчыкаў.

Топчуцца на месцы пад стражнікамі коні, грызуць цуглі, стрыгуць вушамі.

Памочнік іспраўніка ўзмахвае рукой у белай пальчатцы.

Ірвануліся з месца стражніцкія коні. Чвалам, з аголенымі шашкамі, ляцяць на дэманстрацыю стражнікі.

Рух у галаве дэманстрацыйнае калёны.

Расступіліся пярэднія шэрагі.

Чорная лінія рэвальвэраў ў руках дружыньнікаў загароджвае колёну. Лінія ломіцца ўгару.

Параховым дымам засьцілаецца месца здарэньня.

Імчаць назад нашароханыя стражніцкія коні. Наперадзе ўсіх памочнік іспраўніка.

Бурлівай лавінай зрываецца з месца і льецца ўпярод дэманстрацыя.

Ломяцца шэрагі гарадавых, разьбягаюцца на бакі.

Хуткім маршам з-за паваротні выходзіць запыленая колёна пяхоты.

Палкоўнік вырывае з ножан шаблю.

Пярэдні рад салдатаў з разьбегу падае на брук.

Наступны становіцца на калена. Трэці агароджваецца вострай лініяй штыкоў.

Камечацца трывожна шэрагі дэманстрантаў, разьбягаюцца. Гомам, крык павіс над калёнай.

— **Пагром!**

Разьлятаюцца на дробныя аскалепкі вакошныя шыбы ў суседніх дамох. Праз вокны вылятаюць на двор параспорваныя пярыны. Хмары пуху і пер'я сьцелюцца перад дамамі.

Як мясьнік нажом, коратка разразае паветра шабляй палкоўнік.

Рады салдатаў пацягваюцца дымам.

Пазаду ў бягучых дэманстрантаў астаюцца на бруку нярухомыя фігуры.

Дымком ад стрэлаў то сюд-то тут працягваюцца сьцены дамоў. Перабягаючы з месца на месца, з боем адступаюць ад рынačнага пляцу дружыньнікі.

Ігнась, Арон, Майзель дарэмна спрабуюць спыніць нашароханы народ.

Падае чырвоны сьцяг.

Ігнась падхопвае яго, зрывае палотнішча і засоўвае ў запазуху.

Збоку паказваецца з шашкамі нагала стражніцкі атрад. Памочнік іспраўніка на чале атраду.

Ігнась штурхае Арона з Майзелем усьлед за натоўпам, выхопвае з-за пояса маўзэр, меціцца.

Памочнік іспраўнік выпускае з рукі шаблю і падае на шыю каню.

Глухімі завулкамі перабягаюць Арон з Майзелем.

На водкідзе ад рынačнага пляцу згрудзілася некалькі сялянскіх хурманак. Запрэжаныя коні не стаяць на месцы. Падводчыкі—барадатыя дзядзькі—туга напятымі лейцамі сутрымліваюць коняй.

Адстрэльваючыся ад сьпешаных ужо стражнікаў, адступае на вуліцу з прысадамі Ігнась.

Да запрэжаных сялянскіх хурманак падбягаюць на чале з Дубам дружыньнікі. Хурманы пускаюць коні чвалам. Дружыньнікі з вазоў пасылаюць апошнія стрэлы ў групу сьпешаных стражнікаў. Воблака пылу ўздымаецца на вуліцы за хурманкамі.

Захоплены перастрэлкай, Ігнась не заўважае аднаго з стражнікаў, які цераз суседні сад перабягае ўзад і выскаквае на вуліцу ў тылу ў яго.

Устрывожаныя стрэлам, Ларыса Няслаўская шырока адчыніла вакно на вуліцу.

Вецер уварваўся з надворку, адкінуў з ілба пасму валасоў.

Жахліва шарахнулася ад вакна да туалетнага століка Ларыса.

У высунутай шуфлядзе століка невялічкі прыгожы рэвальвэр, падобны больш на цацку чым на сьмертаносную зброю.

Хаваючыся за таполі, Ігнась адступае вуліцай.

З крыважэрнай усьмешкай стражнік у тылу ўзьняў рэвальвер.

З рэвальвэрам у руцэ кінулася да вакна Ларыса. Невялічкі, хутчэй падобны на цацку, чым на сьмертаносную зброю, скленуўся ў Ларысінай руцэ рэвальвер.

Стражнік у тылу выпусьціў рэвальвэр і пакаціўся на брук.

Раптоўны стрэл пазаду прымусіў Ігнася азірнуцца.

**— Хутчэй, Ігнась!.. Уцякайце цераз гэты сад!**

Тонкая Ларысіна рука з рэвольверам паказвае яму з вакна на сад, што за вуліцай.

У некалькі крокаў Ігнась пакінуў за сабой вуліцу з плотам, якім абгарадзіўся вялікі густы сад.

Ларыса радасна ўздыхнула.

Тонкая дрыготная рука гладзіць прыгожую сьмертаносную цацку. Ларыса захляпнула вакно.

З-за рогу асьцярожна паказаліся два стражнікі. Усё яшчэ ня верачы ў цішыню на вуліцы, яны падышлі да свайго забітага таварыша.

Хворы пан Вайніловіч прачнуўся ад гукаў стрэлаў і пазваніў ў званок.

Ларыса нібы прачнулася ад сну, схавала за карсаж рэвальвэр.

З дальняга канца па пакоі да хворага пана Вайніловіча млявай хадою ідзе Ларыса.

Пан Вайніловіч усьпіраецца локцем на падушку.

**— Што там на вуліцы?**

Цень набег на твар Ларысе. Яна жорстка зірнула ў адказ на запытаньне хроснага.

**— Выказваньне паліцэйскае прыязьні к народу.**

Жорсткі пагляд Ларысіных воч.

Пан Вайніловіч адварачваецца да сьцяны.

Па абязьлюдненай ужо вуліцы едзе і спыняецца перад домам Вайніловіча экіпаж жандарскага ротмістра.

Ларыса павярнулася iсьці, калі адчыніліся дзьверы.

З радаснай усьмешкай і старанна закручанымі вусамі побач з палкоўнікам ідзе ротмістр Налімаў.

Вайніловіч з трудом прыўстае на ложку.

Паводле права добрых знаёмых ротмістр прадстаўляе гаспадаром палкоўніка.

— **Цудоўная кветка ў глушы чалавечае нянавісьці...**

Схіляецца з комплімэнтам над рукой Ларысы палкоўнік.

Адчуваючы сваё права на гэтую кветку, гульліва павярнуўся да пана Вайніловіча ротмістр.

— **Папраўляйцеся пане Вайніловіч... Будзем сьвяткаваць нашу перамогу над гэтымі разбойнікамі. Канцы трывогам! Дзякуючы любезнасьці палкоўніка, сёньня ў вашым лесе мы абкружым гэтую легендарную дружыну і...**

Аблічча ротмістра робіцца страшным, прагнучым крыві.

Міжвольны рух Ларысінай рукі, прыціснутай да сэрца.

Ротмістр з палкоўнікам гутараць жвава пры пасьцелі пана Вайніловіча.

Азіраючыся, Ларыса неўзаметку выходзіць з пакою.

Стары самавіты хурман—жандар нізка пакланіўся тайнай каханай свайго ротмістра (такі выраз мільгае ў хурманавых вачох).

Ларыса павяла праніклым позіркам па яго зарослым твары і села у экіпаж.

— **Як мага хутчэй... У Слаўнае. Пан ротмістр загадаў вам вярнуцца да хаты.**

Самавіты хурман страсянуў лейцамі—коні чыста пайшлі шпаркім трухам.

Панарама гарадзкіх вуліц. Вялікія воінскія патрулі маршыруюць па бязьлюдных вуліцах. Нарады гарадавых і стражнікаў ломяцца ў дзьверы мізэрных хібарак, выводзяць на вуліцу нашароханых пакамечаных людзей, падганяючы нажнамі шашак, гарапнікамі.

Вялікі воінскі нарад пад началам афіцэра глухімі завулкамі прабіраецца да ўскраіны, дзе прытуліўся домік з падпольнай друкарняй соцыялдэмократаў.

У сенцах доміка. Арон з Майзелем зьнішчаюць сьляды ўваходу ў сутарэньне. Люк забіваецца вялізнымі гваздамі. Паверху насыпаецца зямля, накідаецца хатняя рухлядзь.

У хаце Майзель з аблягчэньнем выцірае рукавом сухарлявы упацелы твар.

Арон паказвае ў акно Майзелю.

На двары мігануўся цень чалавека.

Афіцэр нараду стукае ў сенячныя дзьверы.

Дробным непаслухмяным крокам, ня гледзячы на Арона, ідзе ў сенцы Майзель.

Насьцеж адчыніліся дзьверы.

Два штыкі падпёрлі грудзі Майзеля.

Па шырокім бязьлюдным шляху роўна едзе экіпаж пана ротмістра.

Ціхі самотны ляжыць перад Ларысай шлях. Воддаль цямніцца вялікі слаўнаўскі лес.

Ларыса спыняе хурмана і выходзіць з экіпажу.

З недаўменьнем глядзіць часіну на яе хурман, але бачачы ў позе Ларысы загад сабе, паварачвае коні.

Адлегласьць нарастае хутка паміж Ларысай і экіпажам.

Абкружаныя з усіх бакоў народам з узятымі на руку вінтоўкамі побач адзін з адным павольна ідуць Арон з Майзелем.

Паўз іх праходзіць за горад рота салдатаў.

У коле жандараў едзе конна сярдзіты жандарскі ротмістр.

Косыя прамені Заходняга сонца прабіваюцца ў гушчар лесу. Сухое зьлежалае гальлё... кусты... высокія стройныя сосны...

Надзея змагаецца з роспаччу на твары Ларысы.

Далікатныя чаравікі яе паабдзіраны аб сухое гальлё. За падол пляцьця пабраліся хваёвыя калючкі. Паабдзіраныя на кроў рукі разгортваюць густыя кусты.

**— Стой! Хто ідзе?**

Дарогу перагароджвае чалавек з паляўнічай стрэльбай.

Ларыса палохаецца нечаканасьці, але ў той-жа час уся ахутваецца трывожнаю радасьцю.

**— Вядзеце мяне да Ігнася. Хутчэй! Вам пагражае вялікая небясьпека!**

Чалавек са стрэльбай коратка сьвішча.

З-за дрэў паказваецца Ясь.

На палянцы ў жывапісным непарадку ляжаць і сядзяць дружыньнікі. Падпёршы плячыма грубезную хвою, глыбока задумаўся Дуб. Празрысты змрок напаўзае на палянку.

Заварушыліся дружыньнікі.

Да Дуба падыходзіць з Ларысай Ясь.

Абводзіць паглядам усю палянку Ларыса і спыняецца на Дубе.

**— Ігнась ужо можа арыштаваны тэж.**

На яе бясслоўнае пытаньне пахмурны гаворыць Дуб.

«Не, не!..—упартаківае галавою гэтая дзіўная дзяўчына.

Са зьдзіўленьнем уважна слухае яе Дуб.

І нібы для доказу яе ўпартасьці і надзеі на палянку ўбягае Ігнась. Тады гэтая дзіўная дзяўчына робіць ужо зусім дзіўны ўчынак, яна кідаецца насустрач Ігнасю і абымае яго. Ігнась зьдзіўлены і зьбянтэжаны: ён ня ведае, што яму рабіць з сваімі рукамі перад наяўнасьцю гэтага нападзеньня.

На суровым аблічы і Дуба і дружыньнікаў цёплая зьнікаючая ўсьмешка.

Ларыса адрываецца ад Ігнася.

**— Пакідайце зараз-жа лес. Я чула нядаўна, як сказаў жандарскі ротмістр, што яны сёньня абкружаць вас тут. Як мага хутчэй ратуйцеся!**

З маленьнем у вачох, глядзіць на Ігнася Ларыса.

На ўскраі лесу схаваны кустом вартавы дружыньнік.
Усьпёршыся на вінтоўку, ён аглядвае перад сабою мясцовасьць.
Далёка—далёка нібы маленькія мошкі варушацца на голым палетку.
Дружыньнік працірае вочы і ўзіраецца зноў.
Доўгім рэдкім ланцугом ахапляючы з двух бакоў лес, мільгаюць у перабежках фігуры салдатаў.
Вартавы сьвішча ўмоўным сьвістам.
Дружыньнік у гушчары падхоплівае сьвіст, перадае далей.

На палянцы трывога. Дружына станавіцца ў баявую гатоўнасьць.
Дуб уважна праходзіць паўз рады і разьбівае атрад на дзьве часткі.
Прадзіраючыся праз кусты, на чале аднаго атраду ідзе Ігнась. З ім побач Ларыса.
На чале другога—Дуб.
Змрокі гусьцеюць у лесе. Высокія сосны таямніча цягнуцца ўгору высокімі верхавінамі, таямніча шэпчуцца з лёгкім вечаровым ветрам.
Спалохана ўзьлятаюць на ўскраі лесу сонныя птушкі—агонь стрэлу бліскае на адно вокамгненьне і зьнікае.
Шэпчуцца з лёгкім вечаровым ветрам верхавіны высокіх сосен.
Замільгацелі цёмныя фігуры людзей на ўскраі лесу. Заблісkалі то сюд-то туд агністыя кропкі стрэлаў.
Кідаецца ўперад Ігнась. Ларыса з ім побач.
Закружыўся наперадзе дзікі карагод цёмных зданяў. Усё бліжэй і бліжэй гэты дзікі карагод цёмных фігур.
Насустрач гэтаму карагоду прыцягваецца Ігнасёва рука з маўзэрам.
Стрэл...
Рассыпаецца карагод.
Бліскае лінія агеньчыкаў—стрэлаў.
Ігнась пахіснуўся, ухапіўся рукою за хвою...
І млява павольна асунуўся пад ногі Ларысе.
Часьцей і чацьцей паблісваюць агеньчыкі стрэлаў.

Раніцай...
Пад наглядам салдатаў на ўскраі лесу сяляне капаюць вялікую глыбокую яму.
На самадзельных насілках двое прыносяць і кладуць пры яме труп забітага дружыньніка.
Воддаль дзьве сялянскія хурманкі.
Да хурманак нясуць труп забітага салдата.
Адзін за адным да ямы зносяцца трупы забітых дружыньнікаў.
Трупы салдатаў кладуцца на хурманкі.
... З ямы вылазяць двое з рыдлёўкамі сялян.
Глыбокая шырокая яма...
Пад цяжкімі ношамі трупаў падыходзяць чатыры чалавекі.
Асьцярожна, быццам баючыся зрабіць ім балюча, кладуць у баку адрэшты і здымаюць шапкі.

... Ігнась і Ларыса побач пры магіле.

Сьлёзы стаяць у мужыкоў.

Старэйшы воінскага нагляду сярдзіта загадвае закопваць.

Пахмурыя і гэткія па-дзіцячаму наіўныя павольна—павольна падымаюць цела Ігнася.

Хурманкі з трупамі салдатаў пад пачэснай вартай ад'язджаюць на дарогу.

Далёка на шляху на ўзгорак падымаецца група салдатаў. У цэнтры група зьвязаных акрываўленых людзей. Магутная Дубава постаць вылучаецца сярод іх. Акрываўленая галава без шапкі глядзіць горда перад сабою.

З узгорку адкрываецца панарама гораду.

Блiснула сьляза на шчацэ ў Дуба.

Прыпыніўся крок...

Закрычалі канвойныя. Затыкалі прыкладамі вінтовак.

Скалануў рашуча галавою Дуб. Шырокім крокам пайшоў уперад.

На ўскраі лесу. Астатнія рыдлёўкі зямлі кідаюцца на высокі магільны курган.

Старэйшы каманды выстрайвае салдатаў, падае каманду.

Шпаркім крокам салдаты пакідаюць месца жалобы.

На рыдлёўкі паўсыпраліся перад магільным курганам мужыкі.

Вецер шаволіць густыя копы валасоў, густыя бароды.

Ціха шэпчуцца з ранічным ветрам верхавіны высокіх хвой.

Нізка над лесам плывуць цьмяныя густыя хмары.

## ЭПІЛЁГ

### ПРАЗ ДВА ГАДЫ

Імчыць пасажырскі цягнік. Часта мільгацяць колы вагонаў.

Купэ вагона першае клясы. Прысланіўшыся да сьцяны, у вакно глядзіць чарнявы з бародкай чалавек у капялюшы. Ад правае брывы цераз увесь лоб праходзіць вялікі шрам. Шрам ня псуе даверлівага ўражаньня, якое пакідае ад першага погляду твар незнаёмага, ён дадае яму яшчэ больш суровасьці, як чалавеку, які шмат пережыў у жыцьці.

Да незнаёмага зьвяртаецца з гутаркай чыноўнік у новенькай форме земскага начальніка, здаволены сабой і жыцьцём. Чыноўнік адзначаны поўным падабенствам з студэнтам, кіраўніком гуртка паўятоўцаў у другой частцы. Ён повен самых сьветлых парываньняў і жаданьня выліць перад старэйшым чалавекам свой настрой.

Незнаёмы чарнявы ня чуе, што гаворыць яму чыноўнік. Ён глядзіць у вакно.

За вакном вагону праміґаюцца тэлеграфныя слупы. Вузкія палоскі шэрай ральлі ўцякаюць ад зроку сваімі блізкімі канцамі. Валавяныя хмары не па-летняму аблажылі неба. Цярусіць часты дробны дождж.

Чыноўнік зьвяртаецца зноў да незнаёмага і на твары ў яго ўжо зьбянтэжанасьць, як у чалавека, якога ня хочуць слухаць.

Чарнявы раптам ажыўляецца і прыкметна хвалюецца. Усё таксама не зьвяртаючы ўвагі на чыноўніка, ён прыліпае да вакна.

Чыноўнік глядзіць на сьпіну незнаёмага і расчаразана адсоўваецца ў другі бок, пачынае гутарку з другімі пасажырамі.

За вакном вагона разгортваецца малюнак бярозавае дуброўкі. Усё бліжэй бяжыць яна насустрач зроку.

Чарнявы незнаёмы адварочваецца ад вакна і прытульваецца ў кутку. Сударгава паторгвае ў яго левая шчака.

Выразным снурам выступае на ілбе шрам.

Погляд чыноўніка спыняецца на ім.

Незнаёмы апускае на грудзі галаву. Рубец на ілбе хаваецца пад ценем шырокаполага капялюша.

Цяжка адсопваючыся цягнік прыходзіць на вакзал. Павольна пакідаюць круціцца колы. Адчыняюцца дзьверы вагонаў.

На пэроне адразу зьбіраецца натоўп пасажыраў, прыехаўшых з цягніком, якія вырастаюць памалу ў шырокую істужку, якая цягнецца ў дзьверы вакзалу.

Ад натоўпу аддзяляецца чарнявы незнаёмы. Капялюш ў яго насунуты на самы лоб. Высока пастаўлены каўнер паліта. У руцэ дарожны сакваяж.

Незнаёмы абыходзіць вакзальны будынак і спыняецца на рамізьніцкай стойцы.

Не таргуючыся бярэ бліжэйшага рамізьніка, абменьваецца параю слоў і едзе ў горад.

Перад домам у адзін паверх з шыльдаю «Мэбліраваныя комнаты» рамызьнік спыняецца.

Незнаёмы плаціць яму шчодра, бо рамізьнік дзякуе і нізка кланяецца.

У пакоі з вакном на двор незнаёмы распранаецца і мыецца. Сваімі манэрамі тут ён зусім не падобны на таго шчодрага пана, якім здаўся рамізьніку.

Незнаёмы канчаў свой просты туалет, калі яму здалося, што стукаюць у дзьверы. Незнаёмы здрыгануўся. На ілбе ярчэй вызначыўся рубец шрама. Рука ірванулася з кішэні. На адзін момант напалову выцягнуты паказаўся браўнінг. Той-жа час сорам за свой учынак зьяўляецца на твары. Незнаёмы гукае да дзьвярэй тонам запрашэньня.

Гаспадар мэбляваных пакояў сам прыносіць чай.

Самагіронія на твары ў незнаёмага. Ён ня хоча чаю... Ён тлумачыць гаспадару, што хацеў-бы паглядзець раней горад.

Гаспадарская гасьцінасьць зьмяняецца чытэльнай ліслівасьцю. Ён хваліць горад, свае пакоі, рассыпаецца гарохам перад заежджым. У перапынку паміж сваімі сэнтэнцыямі ён пераходзіць на поўафіцыйны тон, жэстамі дае зразумець аб строгасьці паліцэйскіх парадкаў.

Незнаёмы напята ўсьміхаецца, але ўсьмешка выходзіць грэблівай, зьняважлівай. Кіўком галавы ён згаджаецца з гаспадаром: вядома, парадкі трэба шанаваць. Ён дастае з кішэні туга набіты партманэт...

У партманэце больш розных папер, чым грошай...

І падае гаспадару разгорнуты пашпарт.

У пашпарце, у які глядзіць адным вокам гаспадар, усьлед за словамі—«Имя, отечество, фамилия»—Алексей Иванович Петров.

З паклонам гаспадар выходзіць.

Мякка зачыняюцца дзьверы пакою.

Незнаёмага ахапляе ярасьць. Ён разражаецца градам ня зусім пры-

емных слоў па адрасе ўласьніка мэбляваных пакояў, падмацоўваючы свае словы зусім выразнымі і ня зусім спагаднымі для таго гэстамі.

Першы парыў гневу праходзіць. Незнаёмы пасьпешна апранаецца і выходзіць з мэбляваных пакояў на вуліцу. Па ўпэўненай хадзе і па тым, як орыентуецца ў распалажэньні вуліц незнаёмы, відаць, што ў горадзе ён ня першы раз.

Цагельная вуліца. Сьлясарная майстэрня Зуся. Шырокая шыльда кідаецца ў вочы сваёй стракатасьцю.

Незнаёмы прыпыняецца перад майстэрняй. Але той-жа час паварочвае і шпарка ідзе назад.

З майстэрні выходзіць Юзік.

На рыначным пляцу бедна апрануты селянін чакае пакупца на куль саломы, што ляжыць у возе.

Незнаёмы падыходзіць да селяніна, распачынае гутарку. Гаворкі селянін адразу патрапляе ў тон негаворкаму незнаёмаму.

Ён папраўляе на кані разьбіты старэнькі хамуцец, падсоўвае ў парадок куль і бярэцца за лейцы.

— Калі да Харашава, дык зусім добра... У дарогу мне. Ці не з Амэрыкі, адно едзем браце?

Незнаёмы станоўча ківае галавою і прывыкла ўскаквае на воз.

Здохлае каняне спрабуе бегчы трухам.

Перад мэбляванымі пакоямі незнаёмы суцімае свайго хурмана і забягае па сакваяж.

Гаспадар выказвае вымушанае зьдзіўленьне.

Аднак незнаёмы шчодра расплачваецца.

Месца зьдзіўленьня заступаецца ў гаспадара шчодрай лісьлівасьцю, ён нават ловіць сакваяж пастаяльца, каб данесьці да хурманкі.

Незнаёмы ўжо не заўважае гаспадара і выбягае на вуліцу.

Здохлае каняне парываецца нібыта ўпудзіцца і павыварочваць ездакоў, але замест гэтага прабягае толькі сажняў некалькі дробным леным трухам.

Незнаёмы з вялікаю цікавасьцю быццам узіраецца ў сустрэчныя палоскі—матузкі, у сустрэчных людзей і вёскі на кругавідзе.

Хурман пагойдваецца ў парадку ў тахту драбінам. Потым заўважвае цікавасьць незнаёмага да радзімы пасьля Амэрыкі і гаворка яго прарываецца.

— **Цікава потым на сваёй радзіме... Эх, браце ты мой!.. Што рабілася тут гады два назад... Але-ж от потым усё асталося як і было. Дарэмна людзі галовы свае паклалі...**

З пакутай ува ўсім абліччы незнаёмы прагна слухае селяніна.

А той у позе казачніка цягуткім павольным голасам цягне доўгую нітку ўспамінаў.

Вочы, блішчаць у незнаёмага з-пад ценю капялюша. Усімі сіламі мацуецца ён, каб не зрабіць якога дзікага ўчынку. Ці не агнём драпежніцкай прагі заблішчэлі ў яго вочы?

З суровым відам незнаёмы хавае руку ў кішэню і...

Дастае насавую хустачку.

Шпарка і каб ня ўбачыў селянін ён выцірае дзіўна бліскучыя вочы. Цяпер твар падобны на твар дзіцяці.

А селянін у бясконцасьць цягне аднатонна свае ўспаміны.

**— Дык пасьля тае бойкі вунь на ўскраі лесу і пахавалі іх. І магілу іхную завуць усе Дамакрацкім Курганам.**

Незнаёмы хапае селяніна за плячо.

Хурман з нечаканасьці напінае лейцы і—конь, удзячны гаспадару за ласку, сунімаецца.

Незнаёмы, пад зьдзіўленым поглядам селяніна, саскаквае з воза з сакваяжам у руцэ.

**— Бачыш тваё апавяданьне так зацікавіла мяне, што я захацеў паглядзець на гэты Дамакрацкі курган. А да Хорашава я тут ужо і пеша...**

Ён вымае з кішэні ў жылетцы паўрубля і зварочвае на сьцежку ў жыце.

Усьлед яму доўга дзякуе селянін за шчодрую плату. Потым шлёгае па каняняці і запявае сумную цягуткую песьню.

*Зацямненьне*

Туга і сум змагаюцца ўпарта з жыцьцём у шырока раскрытых Любіных вачох.

Сядзіць яна бязгучная пры вакне і няма ёй быццам ніякага дачыненьня да дзьвёх таварышак настаўніц і двух настаўнікаў, што сядзяць у яе за госьці.

Не па-летняму нізка плывуць за вакном хмары, не па-летняму часты крапіць імглісты дождж.

Позірк яе шырока раскрытых воч блукае ў невядомай далячыні.

У позе маркоты з спачуваньнем у поглядзе, сядзяць нярухома таварышкі і настаўнікі.

З тугі і суму вытканым здаецца ўвесь пакой, усе ўбранства, змрочнае паветра пад нізкай стольлю і самі постаці жывых людзей.

**— Пайграць хіба?**

Устрыпянуўся маладзейшы настаўнік—ён гэтак нагадвае сэмінарыста.

Павольна вымае ён з футаралу скрыпку, настройвае струны.

Грае настаўнік. І постаць яго ледзь прыкметна пагойдваецца ў тахту рухам смычка і на твар кладзецца адпячатак унутранага болю, сардэчнай пакуты.

Вялікія вочы ў Любы робяцца яшчэ большымі і ўжо ні кроплі сэнсу ў іх, а на твары і ўва ўсёй постаці адна суцэльная пакута.

Мацней ходзіць смычок па струнах. Мацней закалацілася, затрымцела ў рыданьні скрыпка—сэрцам сваім грае настаўнік.

Адна з настаўніц закрыла рукамі вочы.

Трымціць узрыдвае пад смыкам скрыпка.

Сьлёзы набягаюць на вочы Любе, зьліваюцца ў буйныя празрыстыя кроплі. Ня вытрымлівае Люба—заплаканая выбягае з пакою.

Павольней ды павольней ходзіць смычок у руцэ ў настаўніка, пакуль зусім не застывае на струнах скрыпкі. Твар настаўніка бяз кроплі жыцьця падобны на твар лунацікa.

Зачараваныя скрыпкаю сядзяць абедзьве настаўніцы і старэйшы настаўнік.

Вяртаецца Люба. Ад сьлёз не засталося і сьледу.

Стук дзьвярэй пачулі зачараваныя ў пакоі і прачнуліся ад свайго страшнага сну.

Загаманіла Люба і нешта новае, ад жывога чалавека, было ў ёй.

**— Глядзеце, распагоджваецца зусім... Хадзем пад слаўнаўскі лес на праходку. Там гэтак добра.**

Як за выратунак ухапіліся за яе прапанову таварышкі.

Павольна ўсталі настаўнікі.

Вузкаю палявою дарогаю ў жыце ідзе Люба. За ёю па двое дзяўчаты і мужчыны.

Разыходзяцца хмары. Як праз туман прасьвечваюць прамені сонца. Шумяць і пагойдваюцца пад ветрам верхавіны высокіх сосен у Слаўнаўскім лесе.

Перад дзяўчатамі і настаўнікамі вырастае і набліжаецца высокі курган на ўскраі лесу. Высокая зялёная трава густа пакалмацілася на кургане. У галавах разросься густы куст шыпшыньніку.

Люба становіцца на калені перад курганам, у ціхай жалобе прыпадае галавою.

Выблісьнула і павалацілa жыты сонца.

Сьцежкаю пад курган з жыта выходзіць незнаёмы. Ён бачыць чужых людзей пры кургане і на момант спыняецца: ісьці ці не. Але бачачы, што два мужчыны ды дзьве дзяўчыны стаяць за блізкія сьведчы жанчыніному гору пры магіле, сьмела падыходзіць.

Даўгі цень ад яго фігуры ўзыходзіць на курган там, дзе прыпала галавою Люба.

Спалохана азіраецца яна. Узіраецца жахліва ў твар незнаёмаму.

**— Люба! Вось дзе мы сустрэліся.**

Праказаў незнаёмы—і кволасьць была ў яго цёмных вачох.

Жахліва—радасна ахнула Люба і пахіснулася на магілу.

Незнаёмы выпусьціў саквояж, падхапіў яе.

Люба стаіць побач з незнаёмым. На шчаках пад сонечным праменьнем іскрацца апошнія сьлёзы. Яна бярэ незнаёмага за руку, і падводзіць да таварышак і настаўнікаў.

**— Аляксей Іванавіч Пятроў!.. Я вельмі замарыўся і хацеў-бы адпачыць.**

Адрэкамэндоўваецца сам незнаёмы.

Усе гурмою ідуць назад па пройдзенай дарозе.

Няпрыкметна ўбаўляючы кроку, Люба з незнаёмым астаюцца пазадзе.

Дарога выводзіць на шлях.

Насустрач Любе з незнаёмым бяжыць чалавек.

**— Ясь!**

Радасна крычыць незнаёмы і абдымае, прыціскаючы моцна да грудзей, аброслага пастарэлага Яся.

Радасна вырываецца і глядзіць момант у вочы яму Ясь.

**— Арон!.. Вось дык радасьць!.. Арон... Дуб уцёк з вастрогу.**

Пажвавеўшы, стаўшы больш падобным на ранейшага Арон яшчэ раз моцна абдымае Яся і цалуе яго ў барадатыя шчокі.

*Зацямненьне*

Ясны поўнік—месяц час-ад-часу хаваецца за рэдкія хмаркі. Тады цені бягуць па жытох і зьнікаюць у цьмянай далячыні.

Каля кургану сядзіць кучка людзей.

Месяц выплывае з-за хмаркі. Ясным зьзяньнем заліваецца зялёны з

калючым шыпшыньнікам у галавах курган, асьвятляе ясна людзей, што сядзяць пры кургане. Паступова адзін за адным вырысоўваюцца...

Ясь... Арон... Люба... Чарнявы нізкі селянін што падпаліў стагі панскага сена... Машыніст з паравога млыну... Яшчэ некалькі незнаёмых... Дуб.

Дуб сядзіць побач з Аронам. Твар яго падстаўлены сьвятлу месяца. У гэты час Дуб гаворыць і твар яго пад зданьнёвым сьвятлом месяца робіцца сумным—сумным.

**— Ад сухотаў у вастрогу памёр Майзель.**

Арон устае.

На яго гледзячы ўстаюць і ўсе.

Арон здымае капялюш, і ўсе па яго прыкладу здымаюць шапкі.

**— Ушануем памяць загінуўшых гэрояў рэвалюцыі. Новае патомства не забудзе вас, як не забудзем вас мы, вашыя сябры і таварышы. Нас ужо нелапога. І прыдзе часіна—новая хваля, магутная хваля пракоціцца па ўсёй Расіі і як гнілую трэску зьмяце з аблічча зямлі трухлявы трон самадзяржаўя. Сьпеце спакойна, дарагія таварышы...**

Ясны месяц стаіць на небе.

Белым зьзяньнем асьвятляецца ясна курган з калючым шыпшыньнікам і нярухомыя, нібы з цьвёрдага мэталю вылітыя фігуры людзей перад курганам.

Шуміць, гойдае верхавінамі высокіх сосен магутны цёмны лес.

## АМАНАЛ

(*Аповесьць*)

**Аркадзь Куляшоў**

## ПРАБЛЕМА ДУШЫ І РАЦЫІ

(*Канец*)

### РАЗЬДЗЕЛ III

(Дзея пачынаецца ў Жыгнэравай хаце ўвечары).

Жыгнэр. Вось мы і дачакаліся сьледчага...
Аўгінка (*да мужа*). Чуеш?
(Бярэ яго за руку)
Гэта ўсё падобна на тое,
як у „Каханьні і Здрадзе“.
Скажы мне ласкавае слова...
Я прадпачуваю канец.

Якубовіч. Адным чалавекам было сэрца маё скрадзена
І той чалавек думаў, што яно не кранецца,
Але яно яшчэ ня зусім выбыла,
Яно перажывае момант запалкі...
І гэта будзе хоць невялікі,
але ўсё-ж ткі выбух...

Аўгінка. Я прадчуваю, як загіне той юнак палкі.
Якубовіч (*да Жыгнэра*). Вам будзе неяк пяліцца
пячорным ракам,
Я ім ўсё раскажу,
яны яшчэ дадуць мне веры,
Я раскажу, як вы разумееце,
што такое трактар!

Жыгнэр. Тады я назаву цябе не чалавекам, а зьверам!
Якубовіч. Я зразумеў усё. Я стаяў над вашым
разьбітым карытам,
Над вашым хутарскім кулацкім шчасьцем.
Яно мне ня трэба,
вы мне яго не пазычайце!
Я пайду разам з хлопцамі капаць фосфарыты!

Жыгнэр (*на вуха Аўгінцы*). Я іду... туды...
сягоньня ня буду вячэраць,

А табе ў апошні раз наказваю строга,
Ня пускай туды мужа...
Бо я яму куляй раструшчу чэрап,
І тады сам пайду ў вастрог...
Чуеш?

*(Ідзе).*

(Аўгінка стаіць бледая.
Ей трояцца зоры ліпенскага вечару,
Яна шэпча:
І ніхто тады болі маёй не залечыць!
Ідзе Якубовіч).

Аўгінка. Куды ты, куды?
Якубовіч. Я іду туды, да сьледчага.
Аўгінка (*хапае яго за руку*). Пачакай,
У цябе перасохла глотка,
Табе трэба выпіць вады!
Якубовіч Ня трэба!
Аўгінка. Трэба, я цябе ня пушчу!
Якубовіч. Ну, добра, ідзі прынясі вады...
Аўгінка. І ты можаш ісьці тады...

*(Ідзе ў сенцы).*

Якубовіч Няма чаго сказаць, радня, свая хата!
(Ідзе Аўгінка. Па цені на сьценцы можна пабачыць, яна нясе шклянку вады і згорбілася нізка.
Яна шэпча:
Я атручу яго, як некалі Фэрдзінанда Луіза!..
Яшчэ адно забойства на кулацкім хутары.
...Але яна забылася,
што ў шклянку
не насыпала атруты).

Якубовіч (*бярэ з яе рук шклянку*).
Няма чаго казаць, радня, свая хата!

*(П'е).*

Аўгінка. Ты адчуваеш, як тваё каханьне сьціхла,
Ты ведаеш, Фэрдзінанд, што я вар'ятка,
Фэрдзінанд, я цябе атруціла!

*(Кідаецца ў дзьверы).*

Людзі! Я яго атруціла!
Якубовіч (*кідаецца ўсьлед*). Аўгінка! Аўгінка!
Куды ты?
(*Варочаецца назад*). Вар'ятка!
Усё мне тут спрацівела!

(Дзея адбываецца ў комсамольскім клюбе. На сцэне сядзяць з аднаго боку: Жыгнэр, Бондар, Баргута; з другога—Юнак, Зоталь, Агут. За сталом сядзіць сьледчая—Маладосьць. У залі сядзяць калгасьнікі).

Маладосьць: Грамадзянін Жыгнэр, вы ведалі
пра ліквідацыю кулацтва?
Жыгнэр. Таварыш сьледчая (*паказвае на залю*),
Спытайце у іх, я бухгальтар сумленны,
Акрамя таго я чалавек мастацтва,

Я вырашаю розныя проблемы—
Мяне апанавалі лірычныя кругі!

Маладосьць. Мы ведаем вашу проблему
пра элекрычныя плугі,
Вы ўвесь час кажаце так упэўнена!

Чырка. Я забыўся яшчэ сказаць,
што ён навучыў мяне сьпяваць прыпеўкі!

Жыгнэр. Таварыш сьледчая,
я першы ў колгасе колгасьнік,
Я першы з тых, якія яго ўзгадавалі, узрасьцілі,
У мяне яшчэ ўспаміны тыя ня згасьлі,
Таварыш сьледчая, я чалавек сумленны...

Маладосьць. Таварыш Юнак, вы сьцьвярджаеце,
што Жыгнэрава проблема,
Вялася яшчэ да таго,
каб вашыя трактары
пайшлі ў продаж?

Агут. А мы, трактарысты, пайшлі пасьціць кароў

Юнак. Так...

(*Устае*).

Некалі Гандляр
прапаноўваў мне
напісаць хроніку яго продкаў,
Ён хацеў, каб яны пралівалі
за рэволюцыю кроў
І елі з катаржацкае місы полудзень нішчымны,
І ў горах Акатуя ад сьцюж калелі,
Гандляр хацеў у чырвоны колер
апрануць свае пакаленьні,
Ён хацеў схавацца за продкаў,
У яго для гэтага былі свае прычыны...
А Жыгнэр...

Жыгнэр. Таварыш сьледчая,
зразумейце, я першы колгасьнік,
Мы гэты колгас узгадавалі, узрасьцілі,
У нас яшчэ ўспаміны тыя ня згасьлі.

Аўгінка (*убягае на сцэну*).
Тата, тата, я яго атруціла!

Маладосьць. Грамадзянка Жыгнэр, каго вы атруцілі?

Жыгнэр. Таварыш сьледчая, ня верце ёй надта!

Аўгінка. Але вы яго раней атруцілі!

*(Паказвае на Жыгнэрн, Бондара і Баргуту).*

Жыгнэр. Яна вар'ятка!
Яна начыталася пра Луізу і Фэрдынанда!

Аўгінка. Сэрца яго спустошыла вашая атрута.
Ён казаў, што стаяў над кулацкім грэшным карытам...
Я яго атруціла. Ён хацеўісьці капаць фосфарыты!

Жыгнэр. Ня верце!.. Вы бачыце, яна вар'ятка!

Аўгінка. Я ім усё раскажу, чуеш, тата?
(*Да сьледчае*).
У яго заўсёды такая грубасьць,
Ён кожны раз наказвае мне строга
Яго слухацца...
Жыгнэр. Ня верце ёй!
Аўгінка. Бо іначай ён загубіць,
Майго мужа, а сам пойдзе ў астрог.
Жыгнэр. Ня верце ёй!
Аўгінка. Ён мне казаў сягоньня ўвечары,
Каб я ня пускала мужа да сьледчага,
Бо іначай ён меўся раструшчыць яго чэрап!
Жыгнэр. Яна вар'ятка! Ня верце ёй.
Аўгінка. І я яго ня пусьцiла.
Чуеш, тата. Я сама яго атруціла!
Маладосьць (*да Аўгінкі*).
Вы кажаце, што бацька пагражаў
забіць вашага мужа?
Аўгінка. І я таксама атруціла мужа!
І цяпер Фэрдынанд мой такі нядужы...
Маладосьць. Хто вам сказаў, што вы атруцілі мужа?
Аўгінка (*ня слухае яе*).
А Фэрдынанд цяпер такі нядужы...
Людзі! Што такое сьлёзы экзотыкі?
Дзе пачынаецца поэзія чэрвенскай лужыны?
1-шы голас з залі. Даволі!
2-гі голас. Сьледчая, дайце слова Зоталю!
Галасы. Даволі! Слова Зоталю!
Маладосьць. Што вы маеце сказаць, таварыш Зоталь?
Зоталь (*паказвае на залю*).
Мы ўсе падпісаліся,
(*паказвае на Баргуту, Жыгнэра, Бондара*).
Каб іх выслаць у Салаўкі!
(*Падае паперу*)
Жыгнэр. Хлусьня! (*Да залі*).
Таварышы колгасьнікі!
Хто за тое,
каб вашага бухгальтара Жыгнэра
выслаць у Салаўкі!
(Усе, акрамя Аўгінкі, падымаюць рукі).
Юнак. Грамадзянін Жыгнэр,
за вас ніводнае рукі!
(*У залі шум*).
Аўгінка. І цяпер ніхто не залечыць маёй адвечнай болі...
(*Глядзіць у залю*).
А вось і ён!
(На сцэну ўбягае Якубовіч).
1-шы голас. Гэта ім затое, што мы ў іх батрачылі!

Якубовіч. Таварыш сьледчая, вы вырашылі без мяне?
Чырка. Таварышы, вы-б і пра мой грэх адзначылі!
Юнак (*да Зоталя*). У выходны дзень пойдзем капаць
фосфарыты...
Зоталь. Так...
Агут. Таварышы!
Новае праўленьне зрабіла заказ на трактары!

---

Калі ў клюбе агні загасілі,—
Была ноч. Недалёка за плотам лазовым,
Нядзелі і Зыранкі,
вачыма лыпалі на сіні
Ў зморaных жывёльчыных вачох
спалі сузор'і.
Чуліся чалавечыя галасы і хуткія крокі...
— Ты праверыш, як мы капаем фосфарыты!

З-за плоту высунуліся Зыранкавы рогі,
І даляцеў заклапочаны жывёльчын рык.
Гэта былі крокі Маладосьці і Юнака,
Маладосьці, што ад густых парэчкавых рашчын...

Першая маладосьці адзнака,
Калі на вуснах смага,
і вочы расчынены...

Другая адзнака—
у вачох шчырасьць будучыні,
У іх агонь вогнішчавы гарыць—
З агнём чырвоным ісьці яны заручаны...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Маладосьць перамагае старое і капае
фосфарыты!
Трэцяя адзнака—
гэты агонь свой,
ня скрадзены,
І гэта самая важная адзнака...
Памятаеш, мы разам лавілі бандыта...
— і вогнішчавы агонь
быў нашым
умоўным знакам!

— Мне казалі, ты валацужыў з нечага...
— Калі ў нас бываюць болькі мы іх лечым.
— Ты бачыў людзей пакалечаных?
— І я сустрэў, цябе Маладосьць,
нашым сьледчым

---

## РАЗЬДЗЕЛ IV.

Дзень пачынаецца тым,
як зямлю капаюць,
А канчаецца, захадавым сонцам, статкамі,
і трубамі бяроставай тугі.
І сягоньня капальнікамі
быў знойдзены толькі
Чортаў Палец,
Каторым раны лечаць пастухі *).

Раніцою сюды прыходзіла Маладосьць,
Яна казала пра фосфарыты
і з капальнікамі
капала разам.

Вечар. Капальнікі смажаць сала.
У дубе маўчаць неспакойныя шаршні
І толькі гудзіць адзін,
катораму абпаліла жала.

Ноч.
І кожны капальнік па-свойму сьніць.
Сьняцца Юнаку яго валацужныя дарогі,
Усплылі аблічча
Гандляра, Худа і Настаўніка:
Быццам-бы нейкі бык
падцапіў іх на рогі,
І сам стаіць
як даўні статуй.
А Зоталю сьняцца караблі,
Іхны голас акіянскі...
Грубы...
Там сьпявалі матросы
і справы свае рабілі,
І адплывалі трубы.
Якубовічу з нечага сьняцца вар'яты,
І гэтыя вар'яты—бухгальтар і яго дачка:
У бухгальтара проблема душы і рацыі,
Каторую ніяк ня ўцяміць Чырка.

І толькі аднаму Агуту
сьняцца дубавы галіны,
Сьніцца яму—
пад дубам
ляжаць пароды;
І паўстае перад ім Захад
пластамі гліны,

*) Чортаў Палец, гэта нейчага продка закамянелая косьць,
Назва яго ідзе ад народных казак.

А стары Дзядок згадвае продкаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У іх сягоньня сон ад стомы,
Ад стомы, што прышла з зямлі...
Ноч.
Ішлі з пячораў сомы,
І праз шкло вады,
на вогнішча
вочы ўзьнялі...
А заўтра, толькі сонца блісьне,
Зьнікне стома і іхны сон стары.
Будзе шум стаяць у новым лесе.
І яны на поле павядуць трактары.
А сюды яны яшчэ прыдуць некалі,
Будзе на высокі бераг
рыба вочы пяліць,
І будзе пяліць,
вочы суму шклянога,
на чалавека,
Каторы фосфарыты адкапае.

---

На станцыі, таварнага цягніка
чакалі трактарысты...
Прайшла навальніца.
Яна з карэньнем вырывала дрэвы.
І цяпер на Захадзе
ўсплыў
кавалак неба чыстага,
А сонца нізкія сосны грэла.
Перад захадам станцыю Комунары
Скалатнулі два цягнікі
пасажырскі і таварны,
Яны стаялі, ахутаныя парай,
І пасажыры
першага цягніка
выбягалі на станцыю па вар.
З другога цягніка грузілі тавар,
Каторы сумуе па караблёх,
і па каторым сумуюць караблі.
І Зоталь пытаў у машыністага: — Таварыш,
Трактары ня былі пад дажджом?
— Ня былі!

Насупраць,
ля вагону пасажырскага цягніка,
стаяла варта,
Да вагону
прывялі трох чалавек
і апошнім узышоў Баргута.

У вокнах вагону былі надзейныя краты,
Праз каторыя Жыгнэр глядзеў
на Юнака, Зоталя і Агута.
У тым вагоне было пасажыраў поўна.
У іх ня было білетаў,
але іх везьлі ня дарам...
Адбілі званкі.
Гэты вагон адыходзіў на поўнач,
І Юнак у вакне ўгледзіў
Худа і Гандляра...

З пасажырскага цягніка нядаўна зьлез,
І цяпер стаяў на ганку станцыі
Настаўнік,
Ен глядзеў,
як цягнік
адыходзіў за лес,
І там за лесам крыкнуў раз астатні.
У тым вагоне паехалі,
вы-ж самі ўгледзілі,
Нашыя
самыя
злосныя ворагі,
Якія ішлі з генэраламі
Старакапытавымі і Каледзінымі,
І сягоньня ідуць з генэраламі
каторыя.
Вы памятаеце,
як у семнаццатым
яны нас стрэлі...

Забітых імі
самі
на руках
нясем мы:
Вы-ж чулі, як ворагавы глухія стрэлы
Прайшлі
па радкох
маёй
поэмы.
А з другога цягніка грузілі тавар,
Каторы сумуе па караблёх,
і па каторым сумуюць караблі.
І Зоталь пытаў у машыністага:—Таварыш,
Трактары ня былі недагледжаны?
— Ня былі!

Настаўнік прыехаў на радзіму Міколы,
Ёе ішоў па дарозе,
па якой некалі,
даўно
Міколу да станцыі мчалі коні,
Да маёнтку Галынскага
у рабінавую ноч.
Каля дарогі Настаўнік аблюбаваў асіну,
Пад каторай расьлі грыбы...
Але ехалі трактарысты,
яны сьпявалі пра краіну:

— Кім, бі па руінах,
Мы будуем краіну!

Яны везьлі новыя трактары
і Настаўнік пайшоў у лесавыя глыбы.

А на асіне вісела яго запіска:

„Я не забываў той час ніколі,
Калі Мікола загінуў на маёй радзіме
ад ворагавай раны,
І я прыехаў, каб загінуць
на радзіме Міколы.
Прабачайце мне.
Але я на сьвет радзіўся рана“

Пазьней Настаўнік стаяў каля новае асіны,
Якая адлюстроўвалася
ў вазёрнай плошчы,
Але блізка ад яе
колгасьнікі сена касілі,
І пачынаўся вечаровы сьпеў перапёльчын

На другі дзень,
у пушчы,
Настаўнік слухаў зямлю:
Чалавечыя галасы даляталі ледзь.
Ён узьлез на высокую асіну
і на шыі завязаў пятлю,
Адштурхнуўся ад дрэва
і такое ўчуў і ўгледзіў:

„Ды на той асіначцы
ўдавіўсі-а-а“...

Дзяўчаты песьню сьпявалі на Сажы,
Пачыналася жніво на Бесядзі,
І тады Настаўнік дужа захацелася жыць,

## РАЗЬДЗЕЛ V.

І Інжынэр Калужнага не затапіў у шахце.
Калі пад вадзяныя пласты
быў падкапаны аманал,
У шахту прыбег Калужны...
І крыкнуў:
— Шукайце!..
Пад вадзянымі... пластамі... аманал!..
А над зямлёй
ня вышклілася,
зорка не адна.
І ў стэпох пастухі
дарэмна
зор шукалі,
Ніхто з іх не сказаў, калі восень прыдзе.
Бо пад зямлёю
людзі з кайламі
Ўгледзілі тыя зоры ў антрацыце...
А яшчэ ўгледзілі ў вачох Калужнага
Шкляныя зоры з попелам болі...
Ён выратаваў шахту.
Яны яго ўсклалі
на плечы дужыя,
Панесьлі і моўчкі паклалі ў больніцы.

У больніцы яго супакайваў лекар,

(Тады праступала на вокнах
раса і раніца).

— Не палохайцеся, таварыш,
вы ня станеце калекай
У вас зусім нязначная рана...
Ён адчыніў вакно:—Якое паветра!
Узыходзіла сонца.
— Вы кажаце, я ня стану калекай?
— Не клапацецеся,
мы вашу рану залечым...
Бачыце, у нас сягоньня сонца
з сьвежым ветрам!

Калужны. Знаеце, лекар,
быў я тады на чыгунцы,
Таварны цягнік
пыхкаў на закат...
Іду і бачу:
у адным вагоне
ляжаць клункі,
І ў кутку нашыя шахцёры
гуляюць у карты.

Прыслухаўся:

Першы. Кароль чэрвівы...
Другі. Ты кажаш, шахце гібель?
Трэці. Мы-ж заклалі ў меру...
беспраменна затопіць...
Першы. Кароль чэрв івы...
А шчо в нас сіло Сосьнівцы...
Другі. І грошы нам Інжынэр заплаціў чыстаганам.
Трэці. Мы-ж споўнілі яго паручэньне...
Шахту затопіць!
Першы. Шчо казаць, хлопец гарны...
Эх, да поіду я в Конотоп,
Там у мянэ сіло... грыбы...
Другі. Затопіць шахту... гібель...
Першы. Шчо в мінэ сіло Сосьнівцы...
Другі. А ў нас на Магілеўшчыне
вёска Папарацы...
суніцы.
Трэці. Мне абы грошы.
А там няхай хоць і ўсе калеюць.

Тут і пякнула сэрца маё ў калені,
Тут і кінуўся я да шахты,
а сэрца, як порах
Рвецца на кавалкі: тах—тах—тах!
І па самыя пяты апанаваў мяне сполах...
І сэрца падае, падае...

ведаеце, часамі сьніцца,
Ляціць на зямлю агністая плянэта.
Вось яна апанавала неба...
Урываецца ў шыбы, вакяніцы...
Тады ў цябе сэрца падае, падае...
ты адчуваеш,
блізіцца канец нашага сьвету...
Ты стаіш, як статуй,
і вочы твае шкляныя рашчынены:
У цябе яшчэ нічога ня зроблена.
Ты яшчэ ня ведаеш,
што такое дзяўчына,
Ты яшчэ адзін раз
хочаш пабачыць
дожджык земны дробны...
Загараецца зямля.
А ў цябе смага
да густых парэчкавых рашчын.

У цябе аднальковы лёс
з тымі
у каторых пад галовамі крыжы,

У цябе няма сілы...
　　　　але ты хочаш крычаць:
　　　　　　　　　　— Хопіць!
Рассыпайся, плянэта, у дробны попел,
Нашая зямля яшчэ хочыць жыць!
Ты прасыпаешся.
　　　　Ты бачыш дробны дожджык...
　　　　　　Ты ня будзеш спаць,
А сэрца ўсё яшчэ
　　　　　будзе
　　　　　　　падаць...
　　　　　　　　　падаць...

---

Калі Калужнага выпісвалі з больніцы,
Лістаносец прынёс тэлеграму
　　(Быў час вечаровай зары):
„Адкапалі фосфарыты
　　Юнак. Зоталь. Агут. Якубовіч“.
Калужны. Чуеце, лекар, яны адкапалі фосфарыты!
Лекар, яго падвёў да вакна,
　　　　Пачыналіся змрокі,
А ў стэпох
　　　　трактары запалілі
　　　　　　новыя сонцы зямлі...
Пераклікаліся цягнікі.
　　　　Чуліся шахцёраў
　　　　　　земныя крокі.
Лекар. (*Паказвае рукою на стэпы Украіны*).
Чуеце? Тут пачынаецца Соцыялізм!

---

А на радзіме Калужнага
　　　　пачыналася жніво.
Пахла зямля
　　　　коласам,
　　　　　　кмінам і кропам,
А па небе ня плыло
　　　　　　балачыны ніводнай,..
І стары Дзядок складаў снапы ў копы.
Праз поле бег ласіны табун,
Ён бег адтуль,
　　　　дзе лес стары
　　　　　　стаяў самотны.
Пастух, які ўгледзеў іх,
　　　　выраніў
　　　　　　берастовую трубу,
А яны беглі,
　　　　на сонца выставіўшы
　　　　　　халодныя морды.

А стары Дзядок
зьбялеў
і крыкнуў—Лосі!
Ён даўно ня бачыў іх
і сьледам кінуўся бегчы,
Яму гэта дужа ўрачыстым здалося...
Яны беглі ў новы лес
і маладзейшы
быў з іх першым.
А стары Дзядок
ня ўгнаўся за імі,
Спатыкнуўся
і паваліўся торчма,
а зямля пахла кропам...
І тады заплакаў ён дзяцінымі сьлязьмі,
Згадваючы дзяцінства
нейкую дробязь.

31-X—18-XI
1931 г.
Менск.

# МЯДЗЬВЕДЗІЧЫ

(*раман*)

**Крапіва**

## КНІГА ПЕРШАЯ

*працяг*

### ЯЙЦО КУРЫЦУ ВУЧЫЦЬ

На перавернутым дном угору гаршку пасярод стала цьмее газоўка. Ад кожнага руху сьвятло яе палахліва кідаецца ў бакі, па столі і па сьценах мітусяцца нявыразныя цені. У процілеглым кутку ў запечку і на печы пануе змрок і слабасільнае сьвятло газоўкі ня здужае яго перамагчы. Недзе ў запечку з аднамернай пасьпешнасьцю, з кароткімі перадышкамі скрабе мыш.

Пры газоўцы над кнігаю нахіліліся дзьве галавы. Адна—бялявая і раскудлачаная. Даўжэйшыя валасы па патыліцы сабраны ў тоненькую коску з чырвоным касьнічком на канцы. Як пакруціць галавою, шавеліцца і віляе па плячах коска, як пацучы хвост. А лоб наморшчаны і міна на твары сьведчыць пра сур'ёзнасьць моманту.

Твар другой—сухарлявы, абсівераны і кранутый маршчынамі. У гэты момант на ім відаць вялізарная напружанасьць і жаданьне зразумець, змагчы. Водзячы шурпатым пальцам па радкох, Аўдоля з натугаю вымаўляе склады:

— Па-пы і ку... ку-ла-кі на-шы во... вор... во-ра... Вось заўсёды, як дайду да гэтай качаргі, дык і тпру,—скардзіцца Аўдоля.

— От мама! Якая-ж гэта качарга? Гэта-ж «г»,—крыўдзіцца Алеська за такую знаёмую ёй літару.—Чаго-ж ты ўжо стала? Чытай далей,—падганяе яна матку.—Ну чытай: во-ра-гі.

— Чакай, дай перадыхнуць. Добра табе, як ты ўмееш,— апраўдваецца маці.—І я некаторыя літары ўжо добра ведаю. Вось гэта, як Каржакевічава брама, гэта «п», гэта, на жука падобная—«ж», абаранак гэты—«о». А вось тая—палачка, кружок ды папярочка паміж імі—я ўжо й ня ведаю.

— Гэта «ю»,—аўторытэтна тлумачыць Алеська.

— Ага, «ю». Гэта круглая—юшка, ды мусіць з ручкаю,—дагадваецца Аўдоля.—Цяпер ужо буду ведаць.

— Вот навыдумляла! Нейкую браму, ды жука, ды юшку. Ня вучыцца, а толькі балуецца,—і пацучы хвосьцік задаволена вільнуў па плячох.

— Балуецца. Вось дурніца. Мне-ж лягчэй гэтак, ня так забываюся,—зноў апраўдваецца маці.

— Ну дык давай далей чытаць, а то заўтра настаўнік як папытаецца, ды як ня будзеш умець—ото будзе сорам!

— Толькі-ж ты мяне не падганяй, бо я хутчэй саб'юся.—І шурпаты палец паўзе зноў пад радком:

— Наш пра-ва-дыр Ле-нін.

— Нехта, мусіць, ідзе да нас,—падняла галаву Алеська.

— Можа вецар?

— Ды не...

. . . . . . . . . . . .

— Каторая-ж гэта з вас настаўніца, а каторая вучаніца—прывітаўшыся, пытаецца Зося.

— Ды яна, каторая-ж. Яйцо курыцу вучыць. Яшчэ й настаўніца якая! Дыхнуць ня дасьць. Пакуль тры разы не прачытаю ёй свайго ўрока, дык не адчэпіцца ад мяне,—скардзіцца Аўдоля, а праз гэту скаргу выразна відаць мацярынскі гонар за дачку.

Во-о-от гэта цётка! Прышла ўжо дык і будуць з мамаю гаварыць, а чытаць мама і ня скончыць,—нездаволена сказала Алеська.

— Дык гэта ты ня рада, што я прышла? Вось якая-ж ты нягодная! Пачакай жа, не пайду больш да вас,—пакрыўдзілася нарокам Зося.

— Прыходзьце, але тады, калі мама ня чытае.

— Дарма. Ты ідзі ўжо лажыся, заўтра ўставаць ня будзеш хацець. Мне далей гэта цётка пакажа, калі я ня буду ўмець,—супакойвала яе маці.

— Падманеш,—недаверліва глянула Алеська.

— Вось сьмешная! Якая-ж мне карысьць цябе падманьваць?

Алеська нехаця пачала разьдзявацца.

— А ведаеш, я ўжо трохі налажылася,—хвалілася Аўдуля Зосі.— Спачатку гэтак-жа цяжка было! Літары трохі ведаю, а ніяк у месца згарнуць не магу, хоць ты плач. Хацела пакідаць ужо. Ды пакінула-б, мусіць, каб ня тая жанаддзелка, што прыяжджала. Вось жа хораша гаворыць, а каб на яе немач! Так бы й слухаў, здаецца, усю ноч.

— Вучаная на тое,—сказала Зося.

— Дарма—вучаная. Другая і вучаная, ды ў яе язык суконны. А гэту здало дык здало... І, скажы ты, ведае ўсё. Гэта-ж як пачала расказваць пра некіх там людзей, што маюць па шмат жонак, а жонкі ў іх купленыя, як наймічкі ўсёроўна, ды яно яшчэ дзіця, вось як мая гэта жабоцька, а яго ўжо замуж аддаюць, дык неяк аж шкода стала тых жанчын, хоць і ня ведаеш іх.

— Гэта то яна з кніг вычытала. Мне й Юзік пра гэта нешта казаў,— сказала Зося.—Але яна й нашу жытку добра ведае. Мы й самі, здэцца, так ня ведаем. Бо ці гэта-ж ня праўда? Зьдзекваліся з усіх нас, мужыкоў, і паны, і буржуі, а жанчына дык тая і ў сям'і ніякіх правоў ня мела. Хто захоча, той яе аблае і надае—мужык ня мужык, сьвёкар ня сьвёкар—нідзе ты на яго ўправы ня знойдзеш. А кінуць захочаш, дык ідзі з гаспадаркі з голымі рукамі, хоць у вір галавою... Гэта-ж як падумаю, колькі я нядаўна яшчэ нацярпелася ад свае сьвякрухі, дык каб яна тое выхварала,—перайшла Зося на сваё балючае.—Але цяпер трасцу, ня вельмі я яе баюся.

— Дык вось жа й я пра тое. Маем мы цяпер правы, як тая жанаддзелка казала, ды ня ўмеем скарыстаць іх. Абыраліся, здэцца так яно й трэба. Мужчыны і сюды, мужчыны і туды, яны й на сходах, яны й за сходамі, а мы толькі ведаем, што печ ды калыску. Гэта мне вось прыперла,

дык я больш дзе бываю, а шмат жа такіх, што і з хаты нідзе ня вылазяць. Ды вазьмі ты—у нас жа мужчын няпісьменных траха што й няма, толькі старыя каторыя. Там ён пачуе, там сам газэтку пачытае, дык і ведае больш за нас, і разумнейшым сябе нясе. А з жонак толькі вось ты ды яшчэ мо' з пяць ёсьць, такіх, што пісьменныя. Дзяўчаты падрастаюць, дык гэтыя ўжо ня будуць цёмныя. Вось як наслухалася я тагды, дык аж да кніжкі большая ахвота ўдарыла. «Ну, думаю, жыва ня буду, калі чытаць не навучуся». Ды ня ведаю, як яно мне ўдасца.

— Чаму ня ўдасца? Ты-ж ужо самае цяжкае перабыла, там лягчэй пойдзе. Падручылася, дык назад няма чаго аглядацца.

— Ды я не аглядаюся, я так... Вось на сход у мястэчка прыдзецца йсьці ў чацьвер. Выставіла ты мяне тагды дэлегаткай.

— Дык і пойдзеш, што там такое.

— І буду, як баран, вачыма лыпаць.

— Ня будзеш лыпаць. Там жа мо' ня дума якая, пра свае справы будзеце гаварыць,—супакойвала Зося.

— Вось угадай, чаго я да цябе прышла,—раптам хітра ўсьміхнулася яна.

— А хто-ж цябе ведае... Прышла ды ўсё, ці гэта-ж першыня. Пагаворым трохі і нам з Алеськай весялей будзе.

— Не, ніколі не адгадаеш.

— Ты й сама скажаш зараз,—засьмяялася Аўдоля.

— Каптур, здэцца, ў цябе ёсьць. Можа ты мне дасі на дзён колькі? У сьвякрухі я не хачу прасіць.

— Каптур?!—зьдзівілася тая.—Нашто-ж табе каптур?

— На галаву. На што яшчэ?

— А я ведаю нашто, а я ведаю нашто, а я ве-да-ю!—высунуўшы з-пад коўдры галаву, загукала Алеська.

— А-ай, каза! І яна ўжо нешта ведае,—недаверліва засьмяялася Зося.

— Бо й ведаю. Спэктакль будзеце ставіць.

— Адкуль жа ты ведаеш?—зьдзівілася Зося.

— Пілiпка ваш у школе казаў.

— Вот, парасяты! Па ўсім сяле ўжо разьнесьлі,—засаромелася трохі Зося.

— А каб цябе цяміла! Дык гэта й ты дзяціініцца будзеш?

— Вось табе й на! Чаму-ж гэта дзяцінніцца?—трохі як бы пакрыўдзілася Зося.—А калі па гарадох артысткі больш нічым і не займаюцца, як толькі ў тэатры гуляюць.

— Дык то па гарадох... І ў нас дзяўчатам ды хлопцам яно яшчэ да твару, я й сама люблю паглядзець, але ты-ж сталая кабета ўжо.

— Сталая? Дык мне ўжо толькі печ ды калыска? Вось табе й правы жаночыя! А пра што мы толькі што гаварылі?

— Дык гэта ты, як той казаў, маім пальцам ды мне ў вока. Ну, добра, на табе каптур, на, толькі не сварыся,—адступала Аўдоля, прыкрываючыся жартам.—Я не шкадую, толькі чорт яго ведае, дзе ён у мяне. Як пашыла к вясельлю, дык ад таго не адзявала ні разу. Мусіць ці ня ў клубе.

— Гэта-ж дзяўчаты нашы такія, каб іх выламала,—пачала апраўдвацца Зося,—як з хлопцамі па кутюх, дык нічагусенька, а як на сцэну, дык сорам ёй каторай. Прышла да мяне надоечы Шура Варанцова. Просіць.

каб я матку старую на сцэне разыграла. З дзяўчат ніхто не падахвочваецца: тая саромеецца, тая чытаць ня ўмее, а той ня гонар, што старую бабу. Усе-б хацелі за дачку быць, а дачкою сама Шура будзе. Нельга было яе не паслухаць. Дык я думаю: «Чорт яго бяры, пайду—няхай нашым дзяўчатам сорам будзе».

— А Юзік жа твой нічога не кажа на цябе?

— А што Юзік. Сьмяецца, кажа: «Як зробішся артысткаю, тады й гаварыць са мною не захочаш, кінуць гатова».

А на сяле плятуць, што ён цябе думае кідаць. Гэта што з Шураю добра ладзіць.

Лёгкі цень прабег па Зосіным твары і ўсярэдзіне шавяльнулася, тое малое яшчэ, але балючае, што прабавала ўжо шавяліцца некалькі разоў, але пра што Зося яшчэ нічога не гаварыла нават самому Юзіку. І цяпер яна пастаралася перамагчы ў сабе абуджаную падазронасьць:

— Няхай ладзіць, а што там такое. Яна ня кепская дзяўчына, ня дурная.

— На што ён Шуры,—пачала яна памаўчаўшы.—Яна-ж такая яшчэ маладая, харошая, граматы вялікай, ды камсамолка яшчэ,—яна сабе такога знойдзе, як і сама. Кнігі ён часамі ў яе бярэ, па якіх яна вучылася. А прыдзе яна да нас, дык гаворкі ўжо ў іх! Усё-б яны нешта рабілі ды перараблялі. Як захопяцца, дык, здэцца, яны ўжо ўсім сьветам арудуюць, забудуцца, што яны і ў Мядзьведзічах. А мне таксама добра паслухаць. Часамі й я свае тры грошы ўстаўлю, ці пасьмяюся з іх... А што плятуць—няхай плятуць. На тое ў іх языкі доўгія.

— Ды яно-ж так. Як сама ведаеш, што нічога,—дык—бяда вялікая? Пасядзі-ж ты трошкі без агню, я вазьму газоўку, пайду каптура пашукаю.

— На табе й каптур,—увайшла Аўдоля праз хвілін колькі,—прыбірайся.

— А чырванюткі-ж які! Аж мяняецца. Дай хоць памераю, як ён на мне будзе.

— Ну як, нішто сабе бабулька?—спыталася, гледзячы ў люстэрка.

— Гэта бабулька! Чорт цябе ведае і не старэеш ты ніяк,—залюбавалася ёю Аўдоля.—Каторы год замужам, а як дзяўчына ўсёроўна. Якая-ж з цябе й старая будзе на тым шпіктаклі?

— Нічога. Трохі сажаю намажуць, маршчын наробяць, валасы пасівяць—добра будзе.

— Калі-ж гэта? Хоць бы паглядзець пайсьці.

— У краснуто суботу, перад самым сьвятым вялікаднем.

— Маніш!

— Праўда.

— Людзі на ўсяночную, а вы на шпіктаклі. Ну й вымеркавалі!

— Знарок і вымеркавалі богу напоперак.

— А грэху гэта ты не баішся?

— Грэх у мех, грашаняты ў торбу, хто пужае—у морду. Годзе ўжо ўсіх баяцца! Сьвёкра бойся, папа—бойся, бога бойся. А трасцу ім! Няхай яны мяне баяцца,—энэргічна сказала Зося, скідаючы каптур.

— Як пагляджу, дык ты зусім бязбожніцаю зрабілася. Я-ж і ня ведала, што ты такая.

— Трэці год вот ужо да споведзі ня йду. Пакуль Юзік не вярнуўся з войска, дык яшчэ трохі трымалася закону. А ён як стаў расказваць мне,

як зямля ды месяц ходзіць, колькі ўжо гадоў можа быць зямлі, ды пра неба, ды пра зоры, ды як сьмешна пра гэта ўсё ў папоўскіх кнігах пішацца, ды пра папоў ды манахаў усялякіх, што яны выраблялі бывала, дык і мне вочы адчыніліся. Бо ці гэта-ж ня праўда? Вазьмі ты нашага пана Смаліцкага, што перад гэтым быў. Гэта-ж першы бабнік быў на ўсю губэрню. Ніводная служанка з яго рук ня вышла. Да споведзі прыдзеш, дык тут спавядае, а там рукамі каля пазухі шнырыць. А драў жа! Бедны ня бедны—давай, а-то хрысьціць альбо хаваць ня будзе... Цяпер дык і пацеры я пазабывалася ўжо. Надоечы Юзік жартуе: «А ну, скажы дзесяць запавядзяй». Дык я спачатку яшчэ трохі пляла, а як дайшла да вала ды да асла, дык зусім зблыталася, ня ведаю, што з імі далей рабіць. А хрысьціцца яшчэ толькі нядаўна пакінула: усё сьвёкра саромелася. Юзік дык той—пад'еў, вылез з-за стала і пашоў, а я нек не магу так ад стала адысьціся, калі сьвёкар глядзіць.

— А я, ведаеш, усё ніяк асьмеліцца не магу. Наслухаюся вось, як ты кажаш, дык здаецца й праўда—які там бог! А пасьля, калі раздумаюся сама сабе, калі набяру ў галаву: «А што, думаю, калі напраўду ёсьць бог? Ён жа тагды мне ніколі не даруе». Вазьму ды згавару пацеры. «Няхай, думаю, будуць у запасе». Дык ты думаеш, мая гэта жабоцька дасьць мне згаварыць палюдзку?—глянула Аўдоля на Алеську.—Я гавару, а яна ўсьлед перадражнівае. Ня столькі намолішся, колькі нагрэшыш з ёю. Аднаго дня як завінулася—абразы зьнімаць. «Мне, кажа, сорам прызнавацца настаўніку, што ў нас абразы ў хаце». А тут жа й абразоў гэтых толькі два, ды й тыя маленькія.

— Карысьць, думаеш, вялікая, што ў нас поўна сьцяна? Толькі павуціньне за імі заводзіцца,—сказала Зося, згортаючы каптур.

— Замкнуўшы за Зосяю дзьверы, Аўдуля патушыла газоўку і раздумліва сядзела на пасьцелі каля Алесі.

— Ты, мусіць, зноў пацеры гаварыць?—запыталася падазрона Алеська.

— А калі й пацеры, табе што?

— А я зноў буду цябе блытаць.

— Ах ты бязбожніца мая ўпартая —згрэбла пяшчотна Аўдоля яе за валасы і абняўшы, першы раз лягла, не памаліўшыся на-нач.

## УЛАДЗІКАЎ ЦЕНЬ

На-нач браўся марозік. Разагрэтая за дзень вясновым сонцам зямля пачала тужэць. Месцам каля хлявоў яшчэ прыталіся кучкі абледзянелага, асмужанага сьнегу. Каля яго скапычаныя лужынкі зацягваліся цяпер рубчастай, але тонкаю і храбусткою плеўкаю лёду. Сярэдзіна вуліцы падсохла і пад ёй рэзка намячаліся каляіны, па якіх час ад часу грукалі колы. Прасакатаў ужо на жалезным хаду Грамабой з Грамабоіхай і з поўнай паўасьмінкай у перадку: вянгліна, пірагі, кілбасы, масла ў місачцы, два дзесяткі фарбаваных яец. Пратрухаў на сваім мышастым Сымон Курыльчык з жонкаю. Яна асьцярожна трымала ў руках белую фанцінку, у якой таксама везла дзесятак яец і яшчэ нешта на пасьвянцэньне.

Першы раз такое ў Мязьведзічах, што кожны сваю каробку вязе сьвянціць да царквы. Тыя гады заўсёды ў вёску папа прывозілі. Ён тут і сьвянціў, бяручы з кожнай каробкі «гасьцінца» пару сьвежых яец ды яшчэ «за труды», што ўмаўляліся.

А сёлета нібы чорная кошка прабегла паміж мядзьведзіцкімі парафіянамі—ніяк да ладу ня прышлі. Пра пару яец, праўда, не спрачаліся, тут справа ясная: хто прынясе каробку, той і пару яец прынясе, але калі прышлося гаварыць, як заплаціць «за труды» два чырвонцы, як прывезьці ды адвезьці папа, дык тут і стой.

— Што там доўга гаварыць, сабраць з кожнай хаты па дваццаць капеек, дык і хопіць з яго,—запрапанаваў Тодар Пошта.

Але тут Рыгор Варанец так энэргічна параіў яму перагнуцца і пацалаваць самога сябе, што ўвесь Поштаў праэкт разьляцеўся ўпыл.

— Ты будзеш каробку сьвяньціць, а я плаціць за цябе буду?—дадаў Рыгор.

— А ты хіба несьвянцонае будзеш жраць?—зьдзівіўся Пошта.

— А ты баішся, каб мяне ня вырвала ад несьвянцонага?—у сваю чаргу запытаўся Баранец.—Нічагусенька, вось прыдзі паглядзі заўтра на тую спробу.

Наконт хурманкі важную думку меў Грамабой. Ён сказаў, што гэта «дзела абчэсьцьвенная», дык трэба так зрабіць, як яно заўсёды робіцца: няхай член назначыць хурманку, каму там чарга.

Ганскі пачаў ужо няўпэўнена аглядацца наўкола,—што на гэта скажуць мужчыны? Некаторыя выказалі сваю думку словамі, у іншых яна была напісана на тварах, чакалі ў сваю чаргу, што скажа сам Ганскі. Але тут парафіянам зноў не пашанцавала.

У бога ён ня верыў, каробкі не сьвяньціў і, здаецца,—чаго яму было ўмешвацца, як думалі некаторыя. Камсамольскі сакратар Сьцёпка, шыракаплечы і шыракатвары, як і Грамабой, толькі шмат маладзейшы за яго, вышаў на сярэдзіну. Сваё падабенства з Грамабоем ён яшчэ павялічыў знарок, ссунуўшы шапку на патыліцу, як рабіў гэта Грамабой, калі пачынаў гаварыць. Некаторыя зарагаталі, але Сьцёпка нават ня ўсьміхнуўся. Не сьпяшаючыся, вельмі стала і аўтарытэтна ён растлумачыў, што член сельсавету Язэп Ганскі—гэта савецкая ўлада, а поп Ядрыцкі—гэта рэлігія. Што рэлігія да савецкай улады ніякага дачыненьня ня мае, а якраз наадварот. Што савецкая ўлада клапоціцца, каб лепш жылося рабочым і сялянам, а рэлігія—гэта папоўскія забабоны, каб лепш было гэтых рабочых і сялян абдзіраць.

— А таму,—скончыў Сьцёпка,—калі Ганскі назначыць папу чарговую хурманку, дык мы запытаемся, хто яму гэта права даваў і ці на тое мы яго выбіралі, каб ён вазіў на нашым гарбе папоў.

— Дык халера вашу матару бяры!—зазлаваў Грамабой.—Мне нічые ласкі ня трэба, я вось буду ехаць на ўсяночную, сваё—на возе ды пасьвянчу, а вы—чорт вас бяры.

На тым разышліся.

Упярэмяшку з рэдкімі хурманкамі мігаліся праз вокны пешыя. Па двое, па чацьвёра, найбольш кабеты ды паджылыя мужчыны. У новых кажухох, у суконных фрэнчах, у тарнатовых і ўлачковых хустках, якія завязваюцца раз ці два на год. Моладзі мала відаць было ідучы. Некаторыя, саромеючыся пападацца на вочы камсамольцам, ішлі гародамі.

Цэлы авячорак камсамольцы былі на нагах. Сьцёпка абладжваў сцэну і адначасна спакойна і без мітусьні кіраваў усяею работаю. Шура з усяго сяла, па ком бачачы, збірала посьцілкі на заслону і патрэбнае адзеньне. Якуб крадкам зьняў дома са сьцяны два абразы, што патрэбны

былі на сцэне па ходу п'есы, і пад крысом прынёс іх у магазын. Камсамольцам памагалі і некамсамольцы, хлопцы і нават дзяўчата некаторыя. Галаскок Алесь, трасучы чубам, да цямна майстраваў з сякераю на сцэне і наганяў жах на набожных і цікаўных цётак, што заглядалі ў дзьверы магазына.

Людзей назьбіралася траха ня поўны магазын. Некаторым не хапіла месца на лаўках і яны стаялі ля сьцен бліжэй да сцэны. Дзяўчаты сядзелі адна ў другой на каленях. Сярод моладзі сям-там відаць былі сталейшыя мужчынскія твары і нават некалькі сталых кабет. Аўдуля сядзела з Алеськай на пярэдняй лаўцы і нешта перагаворвалася з Зосяй, якая, «загрымаваная» ўжо, высунула нос з-за пасьцілкі.

Даклад рабіць прыпала Шуры, як найбольш адукаванай. Няпрывычная яшчэ да выступленьняў перад такім вялікім натоўпам людзей, яна спачатку хвалявалася, думкі блыталіся; ад гэтага хвалявалася яшчэ больш, нават аж у твары мянялася. Нарэшце патроху супакоілася, павяла вачыма па натоўпе, ня спыняючыся асобна ні на адным твары, і як бы запанавала над ім. Думкі пацяклі паслушна і роўна і яна думала толькі пра адно, каб як магі прасьцей і ясьней выказаць тое, што вычытала ў кнігах, што засталося ў памяці, калі слухала даклады іншых. Гаварыла, што яшчэ за тысячы гадоў для таго, як зьявілася байка пра хрыста, пра яго сьмерць і ўваскрошаньне. У іншых старажытных народаў таксама былі багі, у кожнага свае, і гэтыя багі таксама паміралі і на трэйці дзень аджывалі. Тлумачыла, нашто патрэбны папом вось гэтакія недарэчныя байкі. Расказзала, як праз усе вя ікрэлігія памагла тым, хто жывіўся потым і крывёю працоўных; як сваімі байкамі пра страшны суд, пра той сьвет, пра пекла рэлігія стрымлівала народнае абурэньне, навучала цярпець зьдзекі, пераносіць пакуты і жыць у галечы дзеля раю на тым сьвеце. Расказала, як сама царква мела вялізарныя багацьці і землі, мела нават свае войска і удала вяла войны. Расказала пра жахі інквізіцыі, якая адмысловым катаваньнем замучвала да сьмерці тысячы людзей, калі быў хоць цень падазронасьці, што гэтыя людзі думаюць ня так, як навучае царква. Нарэшце перайшла да таго, чым займаюцца папы ў савецкім саюзе, як спрытна яны прыстасоўваюцца да савецкага ладу. Падабранымі ўдала прыкладамі яна паказала, як, прыкрываючыся часта боскімі справамі і карыстаючыся тым, што яшчэ шмат людзей верыць ім, папы ўладжваюць свае далёка ня боскія справы; як яны карыстаюцца падтрыманьнем клясавага ворага, самі яго усялякімі спосабамі падтрымліваюць і дакочваюцца часта да сапраўднай контррэвалюцыі.

Шчокі яе палалі ад нэрвовага ўзбуджэньня, калені зьлёгку дрыжалі, але, калі яна, скончыўшы, глянула на залю, то зразумела, што вышла добра. Яшчэ з некаторых твараў ня сышла зацікаўленасьць і яны глядзелі на сцэну, быццам чакалі працягу дакладу.

Калі заслона закрылася, з кутка пашоў да Шуры насустрач Сьцёпка. Белая, прывязаная ніткай, пянькова барада і самаробак-парык з чорнага конскага хваста ня вельмі пасавалі сваім колерам, але адмысловая рыза з рабой посьцілкі і зроблены з лучыны, абкручаны валавянаю паперою, крыж выразна сьведчылі, што гэта ня хто іншы, як поп, а прывязаная пад рызай падушка была яскравым довадам яго прагнасьці і дармаедзтва.

— Ну й дала-ж ты дыхту нашаму брату! Аж я ўжо хацеў выходзіць ды перад народам свайго духоўнага званьня адракацца,—жартаваў

Сьцёпка. Ідзі прыбірайся, будзем пачынаць, а то і «хрыстос васкрэсе» хутка заявяюць, а мы ўсё будзем кешкацца.

Ужо, напоперак мацеры, пабралася дачка бязбожніца з камсамольцам. Перацягнула ўжо старая папу (Сьцёпку) усё сваё палатно і скаромнае, каб ён сваімі малітвамі вярнуў ёй дачку грэшніцу. Ужо нарыхтаваўся камсамолец выкрыць папа шкодніка, які схаваў у склепе царкоўнае золата, але...

Па зале прабег трывожны шэпт. Людзі пачалі баязьліва азіраліся на дзьверы. Далятаді на сцэну асобныя трывожныя, але не зразумелыя яшчэ цалкам, словы:

— ... Уладзік...

— ... бомбу...

На сцэну з залі ўскочыў Якуб і ўстрывожана зашаптаў у конскі хвост—Сьцёпку на вуха:

— Кажуць, Уладзік Каржакевіч каля магазына. Хоча бомбу ў магазын кінуць, толькі баіцца, каб Натальці тут ня было.

— Хто яго бачыў?

— Чорт іх ведае.

Раптам у дзьверы знадворку моцна грукнула нешта цьвёрдае. Страшэнны крык і прарэзьлівы жахлівы віск жанчын у залі быў на гэта адказам. Алеська ашчарэпіла Аўдолю за шыю і калацілася, як у ліхаманцы. Юзік, стаўшы на лаўцы пасярод залі, стараўся супакоіць перапужаных людзей.

— Гадаўё, урэзалі такі штуку!—скрыгануў зубамі Сьцёпка, і сарваўшы з сябе «рызу», якая блыталася каля ног, схапіў уцінак дошкі.

З разгону ўскочыў на сцэну Галаскок, схапіў у кутку сякеру, якую пакінуў тут на зьмяркальні, і пачаў цярабіць елкі, што стаялі ля паповай хаты і павінны былі азначаць прысады.

— Хлопцы, у руж'ё!—крыкнуў ён, адсякаючы дручкі.

Праз хвіліну чалавек шэсьць узброеных, хто чым папала, стуліліся паабапал дзьвярэй. Трымаючы ў адной руцэ сякеру, Галаскок расчыніў дзьверы насьцеж і адскочыўся ў бок. У той жа момант нешта круглае гухнула аб падлогу і пакацілася пад лаўку. Віск і крык, яшчэ страшнейшы, як першы раз, разьлёгся па залі. Людзі лезьлі на лаўкі, пробавалі бегчы па версе, уцякаючы ад страшнага месца, і валіліся другім на плечы, на галовы. Юзік, ухапіўшы з-пад лаўкі кінуты камень, узьняў яго ўгору і стараўся перакрычаць натоўп, каб супакоіць яго.

—Гура!—І ўсьлед за Сьцёпкам хлопцы з дручкамі рынуліся на двор.

Зразу ў цемры нельга было нічога разглядзець, а калі праз хвіліну вочы прывыклі, відаць было, як ад бульбяных ям цярэз-паля да гумён беглі, прытнуўшыся, дзьве постаці.

— Дзяржы іх!—крыкнуў Галаскок і кінуўся за імі, але праз пяць крокаў зачапіўся за мяжу і моцна вылаяўшыся, выцягнуўся поперак загона. Яго абагнаў Сьцёпка з дошкаю ў руках. Пяньковая барада яго недзе ўжо адарвалася, але парык трымаўся на галаве. Валасьня навісла на вочы і засланяла сьцежку, а ён усё не дагадваўся яго сарваць.

— Стой, халера, не ўцячэш!—крыкнуў ён, паддаючы ходу і адлегласьць паміж ім і постацямі відавочна зьмяншалася. Не адстаючы ад яго, моцна сапучы яму ў праваe вуха, бег Юзік.

Ужо відаць было, як задняя постаць, прыпадаючы на адну нату, бярэ на ўсе жылы. Ужо чуваць было, што сапе чалавек цяжка, як кавальскі мех, і паветра з шумам і сьвістам вырываецца з лёгкіх.

— Стой!—крыкнуў Сьцёпка, траха не наступаючы таму на пяты і ва ўсю шырыню дошкі пацягнуў яго па плячах.

Той паляцеў потырч і Сьцёпка, ня стрымаўшы імпэту, грымнуўся на яго і моцна ўхапіў за рукі, заламаўшы іх назад.

Юзік шыбануў дручком на таго, што бег уперадзе. Зламіў, мусіць, па нагах, бо той скапыціўся, але ўтрымаўся на нагах і праз момант кульнуўся праз плот на прыгуменьне.

— Дайце мне яго!—падбег з сякераю Галаскок.

— Пачакай,—узяў яго Юзік за руку.

— Братачкі, даруйце! Гэта мы пажартавалі,—прасіўся той, што ляжаў пад Сьцёпкам.

— А, папаўся, Міколка сукін сын!—пазнаў Галаскок па голасе Грамабоевага Міколу.

Пад моцным канвоем дручкоў павялі Міколу назад у магазын.

З магазыну, напужаная здарэньнем, большасьць людзей ужо разышлася. Толькі чалавек з дваццаць чакалі выпікаў пагоні. Мікола ўвайшоў і спусьціў у падлогу абадраны аб зямлю нос. Папрабаваў усьміхнуцца, але ўсьмешка вышла фальшывая і крывая. Варожая маўклівасьць натоўпу была на яе адказам.

— Вось, таварышы,—пачаў спакойна-ўрачыстым голасам Сьцёпка,— гэта той самы клясавы вораг, пра якога сёньня казала Шура, што ён абараняе папоў, а папы яго. Папытайцеся ў яго, на што яму трэба было якраз сёньня сарваць наш спэктакль. Але тут і пытацца шмат ня трэба. Вы яго добра ведаеце, ведаеце, чый ён сынок і чым ён дыша.

— Гад печаны! Дзяўчына счарнела з крыку, каб ты дзень і ноч крычаў—ня сьціхаў. Цьфу!—вось табе мая суседзкая пашана—плюнула Аўдоля хуліганy ў твар.—Няхай толькі што з дзяўчынаю станецца, табе яшчэ ня гэта будзе,—пагразіла яна кулаком.

Грамабойчык моўчкі абцёрся рукавом.

— Кажы, хто другі з табою быў?—зьвярнуўся да яго Сьцёпка.

— Сяргей Сураўцоў.

— А, сябры даўнейшыя, разам у лесе туляліся. А хто чутку пусьціў пра Ўладзіка?

— Ня ведаю.

— Ня ведаеш ты... У міліцыю-б вас, хуліганаў.

— Даруйце, браткі! Мы проста жартуючы, дзяўчат папужаць хацелі,— прасіўся зноў Мікола, ня выклікаючы ні ў кім спачуваньня.

Перад адыходам Сьцёпка падышоў да Сураўцовага Міхася:

— А з табою нам прыдзецца на ячэйцы пагаварыць,—сказаў ён у паўголаса, але важка.—Ня верыцца нешта мне, каб ты пра гэту штуку нічога ня ведаў.

Той насупіўся, зачырванеўся і мармытнуў нешта нявыразнае.

### БРАТНЯЯ ДАПАМОГА

Пачынаючы ужо з паловы сакавіка, кожную раніцу аж разьлягаўся жаваранак, упарта напамінаючы, што вясна такі—вось яна. А там і кнігаўкі, і гусі, і жоравы—усе б'юць у адно. І пачалі мядзьведзіцкія гаспа-

дары жмурыць вочы і задзіраць бароды на сонца: як яно, сур'ёзна ўзялося, ці прабуе толькі? Белая зімовая вопратка зямлі прадралася перш за ўсё на ўзгорках, як тая старая сьвітка на локцях, а потым стала разлазіцца ўсё больш і больш, і пачала зямля адаграваць пад сонцам свае голыя, скарчанелыя за зіму, бакі. Руплівыя гаспадары пачалі аглядацца ужо каля сνасьці, каля вупражы; зьбіраюцца па тры, па чатыры ля кузьні: таму колы перацягнуць трэба, таму нарог падгастрыць. Ад цямка да цямка ў кузьні вясёлы звон на ўсё сяло. Лукаш Суравец (Сяргеяў бацька) ня крыўдзіцца на тое, што ў яго ў кузьні работы шмат. Цяпер яго пара. То скардзіцца бывае, што нядуж стаў, рукі млеюць, а цяпер калі ён і сьпіць, здаецца?—звоніць і звоніць. Сухі, чорны, а цегавіты.

Стары Верамейчык каторы дзень паглядае ўжо на свой плуг. Пастаіць, за ручкі возьме, пастаіць, зноў палажыць на бок, бараду пачухае, пойдзе. Нарог тупы і паліца прашаравалася—латаць трэба, ды дарага бярэ Лукаш. Адзін каваль на ўсё сяло, што хоча, тое й лупіць. Прыдзецца некага рубля ці збожжа пуд выкінуць. Шкода, ды нічога ня зробіш. Але чакае стары, пакуль Юзік пра гэта скажа. Тагды й накрычаць можна на Юзіка, што дабра не шануе, раскідае дарэмна, дзе папала, быццам лёгка яно прыходзіцца. А пакрычаўшы, стары ўсёроўна аддасьць пуд, але тагды на сэрцы нек лягчэй: ня ён, галоўнае, тут вінават.

А Юзік нешта вялы ходзіць ды задуманны. І чаго, здаецца, яму тут вельмі думаць? Ён жа ніякі ні камісар, каб яго галава пра гэта балела. Няхай бы тут Наркамзем і разьбіраўся. Дык не, думаецца. Ды каб жа толькі пра сябе, а то пра іншых, пра Аўдолю, пра Рыгора, пра Грамабоя. А падумае пра іх, дык і Марціна Шнаркевіча ўспамяне. Урэзаліся Марцінавы словы Юзіку у памяць. З тае пары дык і ўся гэта справа з пасёлкамі неяк ня то што абрыдла, але як бы пацямнела, стала няцікавай, нават прыкрай. Калі быў сход, на якім зноў (каторы раз ужо!) гаварылі пра гэтыя пасёлкі, дык і не пашоў нават, каб ня выбралі зноў у якую небудзь камісію ці дэлегацыю. Дачуўся назаўтра, што на сходзе пастанавілі пісаць заяву ў земаддзел пра Бугайнік і Забродзьдзе а пакуль не дадуць ім гэтай зямлі на пасёлкі ня выходзіць. Заяву складаў Алесь Галаскок і прынасіў паказваць Юзіку. Яна была мала абдуманая і трохі разухабістая, як Алесеў характар, але там разьбяруць, чаго трэба Мядзьведзічам, і нешта-ж такі вырашаць. А яму ўсё думаецца невядома чаго.

Юзіку пра чужыя гаспадаркі клопат, а Яначку пра сваю—большы. Калі зімою часта турбавала яго гэта думка, дык ён стараўся адагнаць: «Ат, нек жа яно будзе. Вясна яшчэ далёка». А цяпер прыперла Яначку вясна—ніяк ня выкруцішся. Трэба нешта рабіць, альбо сёе, альбо тое. Выйдзе Яначка на вуліцу (на вольным паветры лягчэй дышацца і думаецца), задзярэ бародку ўгору, аж зубы свае дробныя авечыя шчэрыць на сонца. Цёпла, самы раз бы ў кажушку на прызьбе пасядзець. Згледзіць Яначка на вуліцы гурму дзяцей (са школы ідуць ці што?) і не сядзе на прызьбе (няхай на іх звод, дражніцца яшчэ будуць)—возьме ды пойдзе ў хлеў нібы за патрэбаю, пакуль пяройдуць. Адчыніць вароты—сівы адным вокам аглядаецца, вушы траха столі кранаюць, гною вазоў з пятнаццаць настояў. Радавацца-б тут Яначку, але як падумае, што ўвесь гэты гной прыдзецца яму сахаром узьдзерці ды на воз перакідаць, страх бярэ. Ня сіла яго на гэтакую работу: ногі дрыжаць, рукі млеюць і кашаль

забівае, жыць не дае. А яшчэ-ж як уздумае: увесь яравы палетак прыдзецца пераараць, цэлу весну тузацца з плугам, крычаць на ўсё поле, праклінаючы страшнымі кленічамі ня вінаватага ні ў чым сівага, садзіцца ў баразьне і па паўгадзіне заходзіцца ў сутаргах, пакуль адляжа кашаль. Няма каму ні падмяніць, ні памагчы, а жыць трэба. Хоць бы не сьлепата гэта Марысьчына! А то прыдзецца бульбу садзіць і таго ня можа: там густа ў баразну накідае, а там лапіны голыя.

Выйдзе Яначка з хлява—і сонца, здаецца, пахмурнела, і певень знарок дражніць Янаčку, дзяручы горла і выхваляючыся: вось які я фарсісты ды забіяцкі, як мне весела жыць на сьвеце і як мяне кахае вось гэта чарада курэй! Возьме Яначка пакалак: «Кыш, каб вы павыдыхалі! Пазьбіраліся, навалач!»—і ляцяць ад Янаčкавага пошвырку ўрассыпную куры і парасяты. Сам ідзе ў хату, лезе на печ і лажыцца плячыма на чарэнь—там ня так дапякае яму вясна з сваім клопатам.

Глядзіць Грамабой, як нудзіцца Янаčка. Глядзіць, але як быццам нічога ня бачыць і ня ведае. Сустрэнецца, дзень добры дасьць, пра надвор'е пагаворыць—морда лагодная такая. Няхай натоміцца Янаčка, лягчэй тагды Грамабою будзе ўзяць яго сваімі заграбастымі рукамі. Ня так трапятацца будзе.

Надышла нарэшце такая пара, што самы раз з Янаčкам гаварыць: дзень сьвяты, вялікдзень і сяўба на носе. Паслалі дзяўчо:

— Тата й мама прасілі, каб вы з цёткаю да нас прышлі.

— Хто-ж у вас ёсьць?

— Нікога няма, адно нашы.

Нешта-ж некае. Нікола раней Грамабой не запрашаў Янаčку ў госьці, хіба ўжо банкет які. Ці не гаварыць пра што думае?

— Добра, зараз прыдзем.

— Ты-ж глядзі, Янаčка,—просіць Марыська, калі зачыніліся за дзяўчынаю дзьверы.—Можа што пра зямлю гаварыць будзе, ці пра што, дык не ашукайся глядзі, каб чаго кепскага ня вышла.

— Хаця ты мяне навучы!—агрызаецца Янаčка, а самому боязна. Ведае, што прыдзецца пра гэта гаварыць. Сам пачне, калі што якое. Калі не паможа, дык хоць параіць можа што, брат-жа ўсё такі.

У Грамабоя было, як той казаў, і паранага, і варанага, і так кускамі, а над усім красавалася бутэлька, першаку-самагону.

Лыкнуў Янаčка чарку і аж вочы вырачыў з няпрывычкі, дух заняло, насілу адхліпнуў. Марыська аж напужалася, не дабачыўшы: ёй здалося, што ён зусім заходзіцца.

— Але-ж ты, Янаčка, як малы. Няхай жа-ж бы ты памаленьку, дык ён куляе налапам,—упікнула яна.

Хацеў Янка са злосьці адказаць ёй, ды яшчэ слова ня мог выгаварыць. А тут Грамабоіха ноздры растапырыла, рот шырокі ў ветлівую ўсьмешку крывіць:

— Нічога. Закусі вазьмі, дык яно і пройдзе. Бяры цяляціну, ці кумпяка прабуй.

— Ну, як, дзядзька? Нішто мацак удаўся?—іржэ Мікола.—Гэта вось, малады майстар рабіў,—наставіў ён палец сабе ў грудзі.

А Янаčку нібы жыгалам прапякло наскрозь. Ад сярэдзіны пачало цяпло па жылах расьцякацца, пачало абмякаць цела. Слабы ён на выпіўку.

У галаве ад першай чаркі лёгкі туман. І лёгка стала гаварыць пра тое, пра што раней ніяк ня мог загаварыць, ня ведаў, з чаго пачаць.

— ...Каму-ж я паскарджуся больш, як не табе? Няма-ж у мяне на сьвеце больш нікога ні роднага, ні блізкага. Скрыўдзіў нас бог: здароўе ў мяне адабраў, ёй вочы засланіў. І людзі нас пакінулі, хоць ты пакацiся. Нікому ніякага дзела да цябе. Вось хоць бы падатак гэты... Прасіў жа колькі разоў: «Язэпка, такі-ж ты там у сельсавеце, закінь слова, можа што скінуць на наша калецтва». Абяцаў... Абяцанка-цацанка, як той казаў, а тым часам падатак аддай... Два-ж едакі ўсяго лічацца. А таго ня ведаюць, што толькі едакі, а не работнікі. Проста, скажу табе, як брату роднаму: ну ня сіла мая. Крапіўся, крапіўся, ды годзе сказаў. Парай, што рабіць, памажы...

— Сам я колькі разоў гаварыў,—гудзе Грамабой.—Вось няхай яна скажа. «Шкода, кажу, Янкі. Біўся-біўся ды з сілы выбіўся. Трэба, кажу, памагчы, бо ніхто-ж чужы не паможа». Ды каб жа ведаў, што ў чалавека на ўме. Хочаш яму як найлепей зрабіць, а ён падумае, што на яго дабро квапішся. А цяпер, калі да ўзгавору прышлося, я табе хачу параіць, як роднаму. Праўду кажаш, што ня сіла твая, сам бачу. Дык нашто табе канечне ўжо так мучыцца? Альбо мне, гледзячы на цябе? Ты думаеш, маё сэрца не баліць па табе? Альбо думаеш, што ў мяне хлеба на вас дваіх ня хопіць? Колькі там чалавеку трэба—абы не галодны ды нягольі. А з работнікам у нас не бяда. Сям'я, дзякаваць богу, яшчэ ў сіле. Дзеці падростаюць. Вось і Паўліку гэта-ж ужо семнаццаты год, работнік—чаго ты хочаш?. Міколу сёлета ажэнім, яшчэ работнік прыбавіцца. Ня выскаляйся, Годзе табе па грышчах ды па вясельлях лётаць, пара за розум брацца. А свае сілы ня хопіць—людзі памогуць. Людзі мяне яшчэ, дзякаваць богу, ня цураюцца, хоць таварышам гэта й ня ў нос. Конь твой ня кепскі, дарма што невялікі. З нашым у пару дык ім жа гэту зямлю ўрабіць—пусьцяковіна. А баранаваць і жаробку будзем запрагаць, няхай прывыкае. Карова будзе з нашымі пасьвіцца, гэта ня тое патом, што ў гурце. Падатак—гэта мой ужо клопат. А рабіць—я-ж цябе прымушаць ня буду. Зроб'ш што, твая ласка, ня зробіш—без цябе ўправімся. Тое самае й Марыся. А жыць: хочаш—да мяне пераходзь, ня хочаш—жыві ў сваёй хаце, можа ў мяне цесна будзе. Я-ж кажу, поўную андынару даю табе. А можа я раней памру за цябе, дык вось жа Мікола застанецца. Калі ён ня згодзен з бацькам, няхай цяпер у вочы кажа.

— Ня бойся, дзядзька, так зажывём, адно дзяржыся! Будзеш сабе за старога каля дому тупаць, а мы, маладзейшыя, будзем рабіць,—падбадзёрыў Мікола.

Уцяміла нарэшце Марыська, куды яно хіліцца. І рукі закалаціліся, і яда тая ў рот ня лезе.

Дык як жа гэта яно, Ціхонка, будзе? Гэта-ж, мусіць, і конік будзе ўжо ня мой, і кароўка будзе не мая?

— Як на мой розум, дык што там лічыцца—маё ці тваё. Свае людзі, памірымся. Вось таварышы ў камуну хочуць сагнаць. А мы возьмем ды сваю камуну зробім, хварсба іх бяры... А ўрэшце, як сабе хочаце. Я-ж вас сілаю не цягну. Я хацеў, каб яно для вас лепш было. Кажэце, калі што якое, тут жа саромецца няма чаго.

— А слухай ты, што дурная баба пляце!—насілу варочае языком Янaчка.—Я табе брат ці не?

— Брат.

— Ну і ты мне брат. Свая справа, свая й рада. Што мы з табою скажам, тое й будзе, ніхто тут не папpавіць.

— Вось я пра гэта й кажу. Ня трэба сюды чужых людзей мешаць. Ня трэба нават, каб хто вельмі ведаў. У людзей языкі доўгія: скажуць— Янaчка зямлі адрокся. У фонд зямлю забяруць. А хлеба-ж табе фонд ня дасьць. Гаспадарка, як лічылася твая, дык няхай і лічыцца, а мы сабе будзем жыць як адна сям'я.

Ня слухаюць Янaчкі ногі, адна за адну чапляюцца, за зямлю грабуць, выкрутасы выpабляюць. Галава на вялай шыі матуляецца. У Міколы на руцэ абвіс Янaчка.

— Кажы... дзядзька я табе ці не?

— Уга! Дз'ва што дзядзька! Яшчэ й які!—кпіць Мікола.

— Не... брэшаш... Бацька я табе, во хто... Няма ў мяне сына... І дачкі няма... Бог ня даў мне... Кошка сьляпая не прывяла... Ты мой сын... Памру я... Памру я ці не?..

— Пажывеш яшчэ, дзядзька. Памерці заўсёды пасьпееш.

— Брэшаш... памру... Табе застанецца... Конь табе... кароўка табе... Хатка табе... Гуменца табе... Зямелька табе... Сын жа ты мой! А ты мяне пахаваеш... Хораша пахавай... Я абы як не хачу...

Аберуч ашчарэпіла Марыська канёву шыю. З конскаю грываю пераплялісся яе распушчаныя пасівелыя валасы. Поўную волю дала сьлязам і свайму нязвычайнаму маладому голасу. Людзі, ідучы па вуліцы, прыпыняюцца. Аж сьцішна робіцца, як па нябожчыку галосіць Марыська, прыказваючы:—

— А мой коні-і-ік, а мой сі-вы-ы. А чаму-ж на-а-ас разлучы-лі? А ці мы-ж цябе-ээ пра-да-лі-ы? А ці мы-ж цябе-ээ пра-пі-лі-ы-ы? А мы-ж цябе-э-э ні за вошта ад-далі-ы-ы. А ўцеха-ж ма-я-а-а-а апошня-я-а-а. А і тую-ж ад мяне-э-э ада-бра-лі-ы-ы.

Балуецца сівы, ласкава глэмае маккімі губамі Марыську за плячо. І ад гэтай яго ласкі яшчэ горшы жаль апаноўвае Марыську.

## У СЬМЕРЦІ З ЛАП

Зося апалола адзін бок грады і ўстала, каб трохі выпрастаць стан і ногі, стомленыя ад доўгай седні ў разоры. Асьцярожна, адваротным бокам ладоні, каб не папэцкаць пальцамі твару, яна запраўляла пад хустку бялявую пасму валасоў і ўжо хацела заходзіць на другі бок грады, як з-за садка паказалася Шура і накіравалася проста да яе. Шура была заклапочаная і ўстрывожаная.

— Я да цябе на параду,—сказала яна, не прывітаўшыся нават. Давай сядзем.

Шурына трывога адразу перадалася Зосі. Моўчкі ўсьлед за Шурай яна села на ўзьмежку каля штыкет, чакаючы, што тая ёй скажа.

— Шкода дзяўчыны, гатова прапасьці... Каб хоць параіцца з кім спрактыкаваным, дык і гаварыць абы каму пра гэта няма як. Можа ты мне што параіш.

— Якая дзяўчына? Дык я-ж нічога ня ведаю.

— Волька Баранкова загрубела, ды ўжо чацьверты месяц...

— Што ты кажаш!?—зьдзівілася Зося.—Вот дзятва! А мне-ж і няўцям. Гуляюць-гуляюць, мала што...

— Дык ніхто-ж ня ведаў, нават і маці яшчэ нічога ня ведае. Гэта мне таварышка яе Наста пад вялікім сакрэтам са страху сёньня сказала. Баіцца, каб што з Волькаю ня сталася. Тая прасіла адыходзячы, калі што якое, каб мне сказалі.

— А што з ёю можа стацца? Куды яна пашла?

— Дзіця хоча скінуць. Дык—ці гэта-ж ня дурная!—да Піперманіхі пашла. Хацела, каб як сваім спосабам. Зёлкі некія, піла, падымала цяжка, але нічога ня вышла. А гэты дурэнь пусьціў яе да Піперманіхі. Яшчэ й камсамолец!

— Ведаеш, у мяне дык аж сэрца калоціцца, гэтак мне яе шкода. Я па сабе ведаю, як гэта кепска без дапамогі. Але-ж я хоць не баялася ніколі і не саромелася. Што-ж гэта цяпер рабіць?

— Запозна я даведалася,—пашкадавала Шура.—Ужо з гадзіну, як пашла. Каб гэта я раней уведала, усёроўна-ж бы ня пусьціла, пастрашыла-б, што ўсім скажу, угаварыла-б, каб да доктара йшла. А цяпер хоць бы даведацца, як яна там маецца..

— Можа мне схадзіць?—спыталася Зося.

— Не, табе не выпадае: падумае, што ўжо ўсё сяло ведае перапалохаецца, ды яшчэ горш гатова быць... Я думаю, няхай сам гэты смаркаты бацька йдзе. Нарабіў бяды дзяўчыне, дык цяпер няма чаго туляцца. Трэ' было-б яго сюды паклікаць. Мне самой да яго йсьці ня хочацца.

— Пачакай, я хлопца папрашу,—устала Зося.

— Піліп!—гукнула яна праз штыкеты ў садок.—Падыдзі сюды.

Хлопец уваткнуў рыдлёўку у зямлю і падышоў да штыкет—белагаловы і бяз шапкі.

— Зьбегай ты, братка, да Курыльчыка. Скажы, каб Якуб сюды прышоў,—папрасіла Зося.

— Часу-ж мне няма. Юзік сказаў, каб яблыню абкапаў. А я тады ня скончу да полудню,—запрацівіўся хлопец.

— Дармо, я табе памагу, калі ня скончыш. Зьбегай, братка, гэта-ж блізенька.

— Скажы, што яго Сьцёпка клікаў. Але няхай ён раней сюды зойдзе, я яму нешта скажу,—дадала Шура.

— Якуб падышоў невясёлы і зьбянтэжаны. Адразу па твары было відаць, што сам ён тут, а думкі недзе ў другім месцы.

— Сядай, Якубе, з намі,—запрасіла Зося.

— Чаму няма. Кажы што ты хацела, ды я пайду, Сьцёпка чакае,—зьвярнуўся ён да Шуры.

— Сьцёпка не чакае. Гэта я падманула, каб ты хаця прышоў.

— Нашто я табе?

— Каб сказаць, што ты сволач,—глянула яна яму проста ў вочы.

— Лаецца, чорт ведае чаго,—адвярнуўся Якуб.

— Ня віляй, ведаеш чаго. Дзяўчына праз цябе гіне, а ты ў халадку аціраешся! Ты думаеш, ніхто й ня ведае?

Якуб зразу пачырванеў аж да вушэй і дробна заморгаў вачыма.

— А яшчэ й камсамолец! Як табе ня сорам! Да душагубкі да гэтай дзяўчыну паслаў, доктара знашоў!—сарамаціла яго Шура.

— А што-ж мне было рабіць? Да доктара пасаромілася йсьці, языкоў пабаялася.

— Мусіць ня так яна, як ты. Чаго-ж ёй саромяцца? Яна-ж твая жонка.

— Скажы гэта пайдзі майму бацьку.

— А ты бацькі спужаўся, дык няхай дзяўчына гіне праз цябе. Можа паміраe там дзе.

— Якуб памаўчаў, прыпёршыся да штыкет.

— А мне, думаеш ня шкода?—насілу выгаварыў ён праз-плач.

— Пашоў бы вось даведаўся лепш, што меў плакаць тут стоячы,—мякчэй ужо сказала Шура.

— Але, варта-б схадзіць,—падтрымала яе Зося.

Якуб адышоўся ад штыкет і панура пашоў па сьцежцы на поплаў. Што далей, ён усё прыбаўляў кроку, а вышаўшы на поплаў, подбегам пусьціўся паўз гароды на другі канец вёскі, дзе жыла Піперманіха. Падбегшы да дзьвярэй, ён націснуў на клямку. Дзьверы былі замкнёны. Пастукаў кулаком у дзьверы—з сярэдзіны ня чуваць было ні гуку. Гэта ў дзесяць разоў павялічвала яго трывогу і нецярплівасьць. Ён схапіў калодку, што стаяла ля вушака, і грымнуў ёю ў дзьверы. Замок адскочыў, дзьверы расчыніліся насьцеж, а за імі, растапырыўшы рукі, стаяла Піперманіха—буйная, сівая, у шэрай паркалёвай, старамоднага крою, сукенцы.

Ня мошна! Ня мошна!—старалася яна затрымаць Якуба. Ад вялікага хваляваньня мяшала словы—беларускія, расійскія, нямецкія.

Ня слухаючы, Якуб адштурхнуў яе локцем і ўбег у хату.

— Сволач, падавай сюды Вольку!—крыкнуў ён, не заўважыўшы ў першую хвіліну нікога ў хаце.

На палу пад лахманамі нешта заварушылася. Якуб адным махам змахнуў лахманы і зморшчыўся, нібы ад вялікага болю ці ад яркага сьвятла. Выцягнуўшыся на ўвесь рост, ляжала дагары скрываўленая Волька. Шчокі яе ліхаманкава гарэлі і губы пасмаглі.

— Якубка, ратуй як можаш. Крывёю сплыла,—прагаварыла яна.

— Ты пачакай, пакрапіся, я зараз,—сказаў ён, сам яшчэ ня ведаючы, што ён зараз зробіць. Пастаяўшы яшчэ хвіліну спужаны і зьбянтэжаны, ён рвануўся з хаты. Бег, не зважаючы на тое, што людзі спыняюцца і зьдзіўлена глядзяць яму ўсьлед.

Зося з Шураю, яшчэ здалёк згледзеўшы, як бяжыць Якуб, пазналі, што з Волькаю нядобра. Чакалі моўчкі, ня спускаючы вачэй з Якуба, які з поплава зьвярнуў ужо на сьцежку.

— У бальніцу!.. У бальніцу хутчэй!—крыкнуў ён, засопшыся на бягу.

Што? Што там такое?—усхапіліся абедзьве разам.

— Паміраe,—выгаварыў Якуб, цяжка сапучы.

— Дык чаму-ж ты каня не запрагаеш? Мы-ж яе на руках не панясём. Кіжлай ты няшчасны!—крыкнула Шура на Якуба, сама ўжо ледзь не плачучы.

— Ня дасьць бацька каня,—нібы сам сабе сказаў Якуб, спахмурнеўшы.—Вазьму. Усёроўна вазьму! Сілаю адбяру, калі будзе не даваць,—усё больш узбуджаючыся, цьвёрда сказаў ён.

— А ну вас к чорту!—са злосьцю крыкнула Шура.—Пакуль вы там будзеце тузацца, дзяўчына памерці гатова. Зося, можа ваш конь дома? Папрасі Юзіка, няхай запражэ.

— Няма, Юзік скародзіць паехаў.

— Што-ж нам рабіць?

— Вось што я думаю... Аўдоля, з паўгадзіны таму ехала з поля. Зьбегаю я да яе, яна павінна паслухаць.

І Зося подбегам падалася да Аўдолінай хаты, абціраючы на хаду рукі аб спадніцу.

— Ты яе бачыў? Што з ёю робіцца?—спыталася Шура, застаўшыся з Якубам.

— Бачыў. Крывёй сплыла, ратунку просіць,—адказаў Якуб вінавата і жаласна.

Стрымліваючы абурэньне, Шура адвярнулася.

Праз хвілін колькі на вуліцы загрукалі колы і сьціхлі каля Варамейчыкавай брамы.

— Гэй, дзе ты там, дзіця горкае?!—гукнула Аўдоля, ідучы па надворку з пугай у руках.

На яе голас з-за садка вышлі Шура з Якубам.

— Гэта-ж каб цябе, сукінага сына, адхвастаў вось гэтай пугай, дык бы ты ведаў другі раз,—хвасянула Аўдоля яго па лытках.—Садзіся, паедзем. Адна-ж я ня вынесу яе,—сказала яна, падыходзячы да вымашчанага саломаю воза.

Везла Аўдоля Вольку па загуменьню, накрыўшы коўдраю, а твар прыкрыла хусткаю, зьняўшы яе з свае галавы. Сама яна спрытна ліпела на біле драбінак і па раўнейшай дарозе старанна падганяла свайго мышастага. Калі хто пытаўся, куды яна едзе, адказвала, што дзяўчына нешта моцна захварэла, да доктара вязе.

Памеркаваўшы, Зося з Шураю ўгаварыліся, што Вольчынай мацеры пра ўсё раскажа Зося: яна сталейшая і можа ёй лягчэй будзе да тае падступіцца.

Застала Зося старую за кроснамі:

— Дзе-ж гэта ваша Волька, што вы самі кросны тчаце?

— Паляцела недзе.—У голасе старой ня чуваць было ніякай трывогі.— Думаеш, ёй кросны на ўме? Ці цеперсе пашла, дык і няма. Можа ты на сяле дзе бачыла?

— Гэта-ж я, цётачка, знарок папыталася, думала, можа вы што ведаеце. Да Піперманіхі-ж ваша Волька пашла.

— Ці не ашалела ты, Зоська?!—Што гэта ты хлябешчаш! Чаго-ж яна ня бачыла ў Піперманіхі?—вырачылася на Зосю старая, гатовая кіпцюрамі абараняць гонар свае дачкі.

— Грубая-ж была ваша Волька.

— Што ты пляцеш!.. Вочы-ж мае яшчэ не павылазілі. Няўжо-ж бы я ня бачыла?!

— Ня злуйце, цётачка. Гэтага ўсёроўна ўжо ня вернеш. Трэба падумаць...

— Калі-ж гэта, барані божачка, ды праўда,—перабіла яе старая,— дык няхай яна лепш і ня вернецца. Я-ж яе, гадаўкі, і ў хату ня пушчу. Выганю, як суку, няхай ідзе, куды хоча,—вар'явалася старая.

— Не клянеце, цётка яе. Яна й так, небарака, пакутуе.

— Дык чаго-ж ты цягнеш душу з мяне? Кажы мне ўсё, каб я ведала,— напала старая на Зосю.

— Я-ж, цётачка, затым і прышла, ды не адважуся, бо ведаю, як гэта матцы цяжка. Вашу-ж Вольку ў бальніцу павезьлі,—выгаварыла нарэшце Зося самае галоўнае.

Твар старой перакрывіла сутарга. Яна заламала рукі за галаву і прыпала тварам на прысесьць. Яе худыя плечы з вытарклымі лапаткамі затрэсьліся ад нячутнага плачу, а пасьля жудасная песьня-галашэньне напоўніла хату.

Зося сядзела, злажыўшы рукі на каленях, і моўчкі спачувала, чакаючы, пакуль у старой спадзе першая хваля гора. Праз некалькі хвілін старая падняла галаву:

— Хто-ж яе павёз, Зоська?—спыталася яна, выціраючы хвартухом вочы.

— Аўдоля павезла на сваім кані.

— А маё дзіцятка, пакутніца мая, хаця-ж бы яе адратавалі. А я-ж са злосьці гэтак дурна скляла яе,—ціха бедавала яна.

— Пайду я, Зоська,—устала старая, памаўчаўшы.—Не магу я, ня ўцерплю. На свае вочы хачу ўсё бачыць. А ты, родненькая, пабудзь трошкі ў нас. Зараз павінен мой вярнуцца, дык скажы, што мы з Волькаю у Дымаўку пашлі, калі вернемся—ня ведаеш. Калі ёй лепш будзе, дык я можа яшчэ нанач і дадому прыду, сама яму ўсё разскажу.

Яна зноў старанна выцерла слёзы, каб ня кідаліся ў вочы цікаўным людзям, апранулася і вышла, яшчэ раз папрасіўшы Зосі, каб тая нічога не казала «яму».

## ФЭСТ

Чаму Мядзьведзічам канечне прысьпела сьвяткаваць Барыса і Глеба, ніхто-б гэтага на ўсім сяле не сказаў, Якое, скажам, дачыненьне меў князёк старажытнай Русі Барыс да царкоўнага саветніка Васіля Крываношкі, які так услугоўвае папу, носячы збан з «сьвятою» вадою, у якую поп мачае крапіла? Альбо якім прыцелепкам прыходзіцца князь Глеб сьляпой Марысьцы, што нарыхтавала ўжо булку хлеба і кусок кужалю, якога хапіла-б «вялікамучаніку» на добрыя штаны? Ня цікавіліся ніколі гэтым у Мядзьведзічах. Усе цяперашнія мядзьведзіцкія людзі памятаюць толькі, што іх бацькі таксама сьвяткавалі гэта сьвята і ніколі не казалі ім, адкуль яно ўзялося. І сьвяткуюць гэта сьвята Мядзьведзічы не абы як—гэта ў іх гадавое сьвята. Царквы ў Мядзьведзічах няма, толькі на могілках ёсьць невялікая, струхлелая ўжо, каплічка, дзе поп і адпраўляе кожны год малебен па «убіенным». Аднак пакуль дойдзе да каплічкі, ён абыдзе ўсе хаты з малітваю і абразом «вялікамучанікаў», бяручы ў кожнай хаце пэўную мзду».

Але ўчора, калі зайшла гутарка пра тое, ці патрэбна сёлета запрашаць у сяло Барыса з Глебам ды іх упаўнаважанага па справах папа Ядрыцкага, дык некаторыя, нават і не бязбожнікі, здаецца, запыталіся, а ці ня можна абыйсьціся без гэтага. Выказалі нават жаданьне, каб хто хоць расказаў, што гэта за Барыс такі і якое ён мае поўнае права ацірацца ў Мядзьведзічах кожны год. Царкоўны саветнік Крываношка нічога пра гэта ня ведаў і нічым ня мог давесьці правы вялікамучаніка Барыса. Ён азіраўся зьбянтэжана па баках, ці не паможа яму хто. Вышла так, што найбольш дасьведчаным ў гэтай справе быў усё той самы Сьцёпка, камса-

мольскі сакратар. Перад сьвятам ён знарок прачытаў «гісторыю» пра Барыса з Глебам і цяпер ахвотна падручыўся выратаваць Крываношку з бяды.

— Гадоў каля тысячы таму назад,—пачаў ён з жарцікамі,—калі мусіць і дзеда Крываношкі яшчэ на сьвеце ня было, панавалі на Русі князі. А было іх тут, як сабак нярэзаных. Займаліся яны толькі тым, што ваявалі адзін з другім і адбіралі адзін у другога зямлю. Зямля ім патрэба была не на тое, каб яе ўрабляць, а на тое, каб аграбляць, бо на зямлі жылі людзі, з якіх гэтыя князі бралі даніну для сябе і свайго войска. Чым больш зямлі каторы князь награбе, тым больш людзей на ёй, а чым больш людзей, тым больш даніны ён з іх зьдзярэ. А плодныя-ж яны былі, як трусы! Вось у аднаго князя было аж цэлых дванаццаць сыноў. Дачок дык ён ужо і ня лічыў. Як памёр той князь, дык і ўзяліся тыя сыны за чубкі, усёроўна, як у нас Тамаш Кірык з Тодарам Поштай. Такая каша вышла, што сам чорт нагу зломіць. Умяшаліся ў гэту кашу і гэтыя самыя Барыс з Глебам, якіх вы заўтра думаеце да сябе запрашаць. А старэйшы брат Сьвятаполк быў дзёрзкі, не раўнуючы, як наш Грамабой. Ён і недзе нагібаў іх ды прыстукнуў абудвых. Вось папы і залічылі іх у штаты сьвятых. Папом, вядома,— чым больш сьвятых, тым больш прыбытку. А прасьцей кажучы; вышла гэта так: разбойнікі награбілі дабра дый пабіліся дзелячы. А мы вось і сьвяткуем забітых грабежнікаў ды плацім за гэта даніну жывому грабежніку—папу, бо вядома—ці хто родзіцца, ці ўмірае, поп нікога ня мінае—падай госпадзі..

Сьцёпкава апавяданьне спадабалася і падмацавала тых, што не хацелі фэсту, але былі такія, якіх Сьцёпка не перакана́ў, а толькі раздражніў. Уперліся яны, і намагліся такі запрасіць папа з абразам. А каб поп ня блытаўся, ня ведаючы, у якую хату заходзіць, а якую мінаць, угаварыліся, каб кожны, хто хоча ў сябе бачыць Барыса з Глебам, паставіў каля свае хаты саламяную вяху—пучок саломы на высокай палцы.

Абраз, прымацаваны на знарочыстых насілках з чатырма канцамі і чатырма кароценькімі падстаўкамі—ножкамі пад імі. Пачынаючы з аднаго канца вёскі, яго праносілі па ўсёй вёсцы, заносячы на кожны двор, дзе прыпыняліся, а поп з дзяком і саветнікам заходзілі ў хату. За абразом усьлед ішоў стракаты натоўп мужчын, кабет, моладзі, а найбольш дзятвы. Пасярод вуліцы ехалі хурманкі, на якія ссыпалі збожжа і складалі печаны хлеб. Палатно вешалі проста на абраз, на стрэшку, пад якой сядзелі сьвятыя ўгоднікі. Абраз несьлі ўчацьвярых. У кожнай хаце, куды заходзіў поп, павінны былі даваць чалавека, які праносіў абраз праз некалькі хат. Ад навешанага на абраз палатна ён рабіўся страшэнна цяжкім і пранасіць бяз зьмены яго было немагчыма. Выконвалі гэту работу звычайна дзяўчаты. Некалі дык проста за гонар лічылі далей пранесьці абраз.

Сягоньня поп Ядрыцкі быў ня ўгуморы. Рудога воласу, прысадзісты, кароткашыі, ён ішоў, насупіўшыся, упорадзе стракатага натоўпу, як той бык шв'цкага заводу, і касавурыўся на бакі. За ім ледзь пасьпяваў рыжабароды заморак-дзячок. Уваходзячы ў хату, поп яшчэ з-за парогу пачынаў малітву, прысьвечаную Барысу і Глебу. Ня то гаварыў, ня то пеў яе, але лапатаў так хутка і нявыразна, што нельга было разабраць ні слова. Дзячок стараўся падцягнуць яму, але ніяк ня мог прыладзіцца да папоўых

тэмпаў і толькі падвываў, бяручы то вышэйшыя, то ніжэйшыя ноты і нават ня пробуючы выгаворваць якія небудзь словы. Увесь надворны выгляд папа казаў: «Вам, сволачам, лепш і ня варта маліцца, і гэтага аж за надта».

Прычыны паповай злосьці відаць былі ўсім. Далёка не ля кожных варот стаяла вяха, якая азначала, што папа тут чакаюць. Часамі прыходзілася праміпаць па тры, па чатыры хаты. А каля аднае хаты ўбачылі нават, такое, што зьбянтэжыла і абурыла папа, а з ім і адданых яму парафіян. Затое Алесь Галаскок быў вельмі рад, што штука ўдалася.

Яшчэ напярэдадні ў Галаскокавых была спрэчка—прымаць папа ці не. Максіму шкода было даваць папу два гарцы жыта і булку хлеба. Ён згаджаўся з Алесем, што можна й без папа абыйсьціся. Але старая і жонка ўперліся—хоць ты ім што. Даводзілі, што на сьвіньні ім не шанцуе і лён на полі ня ўдаўся і ўсё гэта, нібы, праз мужчын. Аж нарэшце Максім ня выцерпеў—адсек канец паплеціны, прывязаў да яго пучок кулявой саломы і ўваткнуў ля шула. І вось цяпер, калі, зусім ужо нарыхтаваўшыся зайсьці ў двор, поп глянуў на вяху, дык зразу спыніўся і ўся кроў рынулася яму ў твар: на паплеціне тарчала здаравенная саламяная фіга. Апамятаваўшыся, поп загадаў спыніцца тым, што несьлі абраз, узьняў рукі ўгору і пачаў маліцца, праклінаючы Галаскокаў да дванаццатага пакаленьня. Алесь-жа сядзеў за плотам на другім баку вуліцы, глядзеў праз шчыліну і кручкоўскі чуб яго тросься ад рогату.

Ацец Ядрыцкі палагаднеў толькі тагды, калі зайшоў на полудзень да царкоўнага саветніка. Спасылаючыся на вясельле ў Кане Галілейскай, дзе сам хрыстос старанна апаражняў «сосуды» ён таксама добрасумленна куляў кожны, паднесены яму, «сосуд». «Сосуд», праўда, быў мо' крыху меншы за хрыстосаў, але што да мацунку, дык тут Крываношка сьмела мог ручацца, што хрысту такога градуса і нюхаць не даводзілася.

У Мядзьведзічах было сёньня трохі чужога народу суседніх вёсак. Гэта найбольш былі браты, сваты, шваґры, зяці і іншыя катэгорыі сваяцтва. Шмат якія з іх былі такія аматары, што сьмела пра сябе маглі сказаць: дзе фэст там і я ест. Ды ўсіх цікавіла ня так набажэнства як тое, што бывае пасьля набажэнства—добрая пачостка ў сваякоў. Былі яшчэ і ніякія не сваякі. Гэта хлопцы і дзяўчаты з блізкіх сёл, якія прышлі па сваіх інтымных справах—людзей паглядзець і сябе паказаць—а ну-ж трапіцца на благое знаёмства, а там і пажаніхацца ня штука. Старэйшыя сядзелі на мураве ў халадку пад кучаравымі бярозамі і шумлівымі хвоямі. Маладзейшым не сядзелася. Хадзілі па вёсцы дзяўчаты—цэлымі ланцугамі, пабраўшыся за рукі, наіўна-фанабэрыстыя і баязьліва-гарэзныя. Выдыгалі каля іх хлопцы—у картовых пакамечаных галіфэ, у тоўстых саматужных суконных фрэнчах з шасьцьма кішэнямі некаторыя з чубамі, як у Алеся Галаскока.

Мікола Грамабойчык вадзіў пад руку Жагулаву Маньку. У Мядзьведзічах такога «панскага» звычаю ня было. Міколу з Манькаю доўга праводзілі вачыма, а пасьля хіхікалі і кпілі... Самому Міколу з няпрывычкі нязручна было хадзіць. Ён не патрапляў з ёю у нагу, ня ведаў, дзе яму дзець другую руку, а тая, якою ён трымаў пад самай пахай Маньку, была мокрая ад Маньчынага поту. Сустракаючыся з знаёмымі хлопцамі, ён падморгваў і канфузьліва ўсьміхаўся. Але Манька была шляхтаватага заводу—і Мікола хацеў паказаць сябе перад ёю далікатным кавалерам. А яна пераваливалася з нагі на нагу, як адкормленая гусь. Ружовая, відаць да-

рагая, але няўдала пашытая сукенка няпрыемна абліпала гладкі азадак. Раз па-разу яна сьмяялася і кожны раз закрывала рот хустачкаю, саромеючыся паказаць няроўныя і шырокія, быццам конскія, зубы.

Даўно ўжо гаварылі, што Мікола з Манькаю хочуць пабрацца і што гэта патрэбна ня так ім самім, як іх бацьком. Мікола, відаць па ўсім, ня вельмі быў закаханы ў Маньку—непаваротную і цельпукаватую. А ёй зноў ня гонар было, што йдзе за «простага мужыка». Але Жагулу паганяць панства цяпер ня было куды: баяўся, што зямлю ў яго калі небудзь ды адбяруць, чуў, як гэта ў іншых мясцох робіцца. Надумаўся—«няхай лепш зяцю і дачцэ застанецца, што мелі раскашацца на маім добрым беспарточнікі». А Грамабою якраз гэта й трэба было. Тую зямлю, што ў яго цяпер ёсьць, ён меркаваў пакінуць малодшаму сыну, а Міколу выселіць «на пасёлак» на жагулаўшчыну. «Чорт яго бяры, можа яшчэ не адбяруць. А будуць адбіраць, тады будзем бачыць»,—разважаў Грамабой. Казалі нават, што й пра вясельле, і пра пасаг ужо згаварыліся, але бацькі адлажылі вясельле на восень, нібы для таго, каб Мікола з Манькаю больш пазнаёміліся і прывыклі адно да другога. А напраўду дык быццам Жагула чакаў яшчэ ці ня будзе якой перамены. Казалі яшчэ, што разоў колькі зямельнае начальства ў Жагулы балявала і што Жагула спадзяецца такую паперу дастаць, што яго не паважыцца ніхто й пальцам крануць. Тагды начорта яму будзе й Грамабойчык. А Грамабою карцела, каб хутчэй, і Мікола цяпер асабліва налягаў на Маньчыны дзявочыя пачуцьці.

Волька першы раз сёньня паказалася на вуліцы пасьля хваробы. Ужо тыдні са два, як яна ўстала з пасьцелі, хадзіла дома па хаце, выходзіла й на двор, але яшчэ на людзі не паказвалася—больш ад сораму, як ад нядужасьці. Перад тым, як сёньня выйсьці на вуліцу, яна доўга прычэсвала валасы, папраўляла колькі разоў сукенку, якая за хваробу шмат параскашнела, і колькі разоў глядзелася ў люстэрка,—намагалася ўспомніць, як яна выглядала да хваробы, ці шмат зьмянілася. Думала, як сёньня ўсе будуць глядзець на яе і дзівіцца, што так паблажала. Маці таксама трывожылася за дачку, але старалася ня выказваць гэтага і супакоіць яе:

— Ды йдзі ты ўжо, йдзі. Будзе табе выглядацца,—супакойліва гаварыла яна.

Нарэшце Шура ледзь ня сілаю выцягнула Вольку з хаты.

Сядзела Волька на прызьбе ля свае хаты, накінуўшы на плечы квяцістую хустку (здавалася, што ня так будуць пранізваць позіркі людзкіх вачэй). Твар яе пабялеў, больш загастрыўся. Сінякі пад вачыма рабілі яго кволым і хваравітым. Яна хуталася ў хустку і тулілася бліжэй да Шуры кожны раз, калі па вуліцы набліжаліся мядзьведзіцкія хлопцы ды дзяўчаты.

Волька з Шураю пасябраваліся за час Вольчынай хваробы, раней яны ня былі блізкімі таварышкамі. Шура мела Вольку за простую, але шчырую і добрую дзяўчыну, але не знаходзіла таго агульнага што магло-б іх пасябраваць. Кола тых інтарэсаў, якімі жыла Шура, для Волькі было чужое і мала цікавае. Волька-ж па прастаце сваёй думала пра Шуру, што тая дурыцца: з камсамольцамі сябруе, справы нібы там некія робіць, каб паказаць, што то я, не такая як усе,—і таму Волька трошкі гэроічна ставілася да Шуры. Але за час Вольчынай хваробы гэтыя іх адносіны грун-

тоўна зьмяніліся. Шура разумела ўвесь цяжар Вольчынага становішча. Яна бачыла, што фізычная пакута ў Волькі ў некалькі столак павялічваецца яе маральнымі мукамі. Шура бачыла, што апрача Зосі, Аўдолі ды яшчэ вельмі мала каго, мядзьведзіцкія не даруюць Вольцы такога ўчынку, будуць перамываць языкамі на розныя спосабы, разьнясуць славу на пяць міль кругом. Самае лепшае для Волькі—прыняць выклік, не хавацца, а проста глянуць у вочы вясковай грамадзкай думцы, стаць вышэй усялякіх гаворак. Але Шура ведала, што сама Волька зрабіць гэтага ня здолее, ня знойдзе ў сабе тых довадаў, якія-б апраўдалі яе перш за ўсё перад ёю самою, а тым самым і перад усёй вёскай. Вольцы патрэбна была моцная апора, а гэтай апоры яна ня мела нават у сваёй сям'і. Маці і тая не знашла ў сабе досыць сілы, каб апраўдаць дачку. Пакуль Волька была моцна хворая, матчын клопат быў пра адно,—хаця-б яна ачуняла. А калі Волька пачала папраўляцца, старая ўсё больш задумлевалася, глядзела на яе, як бы ўзважваючы ўвесь цяжар Вольчынага ўчынку. За гэтай заклапочанай задумлёнасьцю адчувалася матчына крыўда, якая недзе глыбока захавана, але пасьля некалі выйдзе наверх. Волька гэта бачыла і горш яшчэ мучылася. Шура бачыла, што нікому, як ёй, прыдзецца Вольцы дапамагаць. Яна нават крышачку ганарылася гэтым, як выдатны доктар, якому выпала лячыць цяжка хворага: іншыя дактары не маглі яму даць рады, а ён адзін упэўнен, што з хваробаю справіцца.

Моцна ўхапілася Волька за Шурыну дапамогу. Гэта чарнявая, шчуплая, малодшая за Вольку на два гады, дзяўчынка значна вырасла ў яе вачох, стала для яе як бы старэйшаю сястрою і моцнаю апораю. Волька, яшчэ не ўразумеўшы ўсяго таго, што ёй гаварыла Шура, адчувала, што ў Шуры ёсьць некая свая асаблівая праўда, якою яна зможа засланіць Вольку ад людзкіх насьмешак і пагарды. Седзячы на прызьбе, Волька з радасьцю думала пра тое, што ёй ня так сорамна і страшна, як яна таго баялася, што, калі яе ня цураецца перад людзьмі такая, лепшая на вёсцы, дзяўчына, як Шура, дык можа яна й сапраўды нічога надта кепскага не зрабіла, можа пройдзе некалькі дзён і яна ўжо сьмела будзе глядзець людзям ў вочы.

Падышоў Якуб—вінаваты і радасны. Ад таго, як бачыў Вольку ў Піперманіхі, ён яшчэ ні разу з ёй ня сустракаўся, толькі разы два бачыў праз акно, праходзячы па вуліцы. Цяпер ня ведаў, ці няма ў яе крыўды на яго. Колькі разоў ён хацеў зайсьці даведацца да Баранковых, але Шура адгаварыла, баючыся, каб ня вышла сваркі з Вольчынымі бацькамі, якая-б яшчэ больш знэрвавала Вольку. Маці Вольчына ўсё яшчэ ніяк не магла яму дараваць.

Калі Якуб падаў Вольцы руку, яна трохі засмучана яму ўсьміхнулася і не сьпяшалася адняць назад свае рукі. Ён сеў і ад вялікага шкадаваньня і любасьці да яе ня ведаў, ня думаў нават, з чаго пачаць гаворку. Глядзеў ёй у твар, ціха й вінавата ўсьміхаючыся.

Не пасьпеў поп пасьля полудню абыйсьці й пяці хат, як у тым канцы, з якога пачыналі рана насіць абраз, паваліў чорны, густы дым. У гэтым канцы нельга было здалёк разабраць, дзе гарыць—у вёсцы ці за вёскаю. Зазванілі ў чыгунную плітку, падвешаную каля пажарнай павеці. Праз хвіліну, стоячы ў перадку, імчаўся Юзік Верамейчык з новенькаю пажар-

наю машынаю, якая рэзала вочы яскравасьцю чырвонай фарбы і бляскам начышчаных масяндзовых частак. Ззаду, насьцёбваючы каня, намагаўся дагнаць яго з бочкаю Алесь Галаскок. Беглі з вёдрамі, задыхаўшыся, з трывожнымі выкрыкамі і здагадкамі, дзе гарыць. Двое прабеглі з бусакамі, у некаторых былі рыдлёўкі, а найбольш беглі, з голымі рукамі. Дзе ня дзе бабы прабавалі галасіць.

Ад папа раптам усе адшунулі і рынуліся на пажар. Пакінуты абраз стаяў пасярод вуліцы белай палатнянай гарою, і здавалася, што Барыс і Глеб аж увагнуліся пад цяжарам награбленага імі палатна і ніяк ня могуць крануць яго з месца. Поп стаяў каля абраза і то глядзеў у той бок, куды бег народ, то шукаў вачыма, каго-б паклікаць сабе на дапамогу дык занесьці абраз хоць у двор. Заморак-дзячок сеў на прызбу і, здавалася, рад быў адпачынку.

Дабегшы ў канец вёскі, пярэднія ўбачылі, што гарыць за вёскай пад самым лесам. Некаторыя варочаліся вясёла ўзбуджаныя пасьля перажытага страху, угаварвалі варочацца тых, што яшчэ не дабеглі ў канец. Іншыя пашлі паглядзець, што гарыць.

А там, ля вялізнага лаўжа, зложанага з сухога пырніку, гальля і сырых хваёвых лапак, упраўлялася пажарная каманда: заўзята пампавалі ўчатырох, а Галаскок накіроўваў напорны струмень вады ў найбольш зыркія языкі полымя, час часом адвільваючы і нібы незнарок абліваючы вадою тых, хто трапляў у сфэру яго дзеяньня.

— Каб не пагарэлі,—адказваў ён на іх лаянку.

Агонь патроху згасаў і ад вогнішча ўзьнімаліся белыя клубкі пары і дыму. Пажарнікі бусакамі чаплялі буйнейшыя галавешкі, расьцягвалі ў бакі, а там іх засыпалі зямлёю тыя, што прышлі з рыдлёўкамі.

Мужчыны, што падышлі з вёдрамі да вогнішча, раззлаваныя, што гэтулькі перапуду нарабілі на ўсю вёску, гатовы былі даць дыхту вінаватаму. На запытаньне, хто ўстроіў такую штуку, пажарнікі адказвалі, што мусіць пастушкі, каровы пасучы, гэта зрабілі. Сьцёпка ўсьміхаўся сам сабе, а Галаскок ужо трос чубам перад мужчынамі:

— Ну як, хутка выехалі на трывогу? За пяць хвілін, як пяруном спалілі. А насос бачыш, як дае! На самы вяршок гэтай хвоі дастане.

У натоўпе чуліся галасы, што гэта няйначай пажарнікі самі так зрабілі для практыкі ці камсамольцы падстроілі, каб дапячы папу.

Яно траха, што так й было. Паўгода ваявалі камсамольцы на сходах, каб дабіцца ад старых гаспадароў самааблажэньня на пажарны інвэнтар, і толькі вясною, калі ў суседняй вёсцы згарэла хата і два хлявы, гаспадары трохі раскашаліліся. Сабралі з усяе вёскі дзьвесьце пяцьдзесят рублёў, а рэшту камсамольцы сабралі, паставіўшы два платныя спэктаклі і запрасіўшы для большага посьпеху аркестр местачковай пажарнай каманды. Пажарную машыну і бочкі толькі на тым тыдні прывезьлі. Яны яшчэ ні разу на былі ў рабоце і сёньня брандмайстар Алесь Галаскок пошшоў да Сьцёпкі з прапановай наладзіць пробную трывогу, каб праверыць, як хутка зьбяруцца пажарнікі, і каб паказаць сваім і чужым людзям свае дасягненьні ў выглядзе новенькай помпы і пары чырвоных бочак. Ён загадзя цешыўся думкаю, уяўляючы, як ён хвацка праедзе па вуліцы, вядучы ўсю пажарную каманду. Пра тое, каб зрабіць прыкрасьць папу, ён нават і ня думаў, гэта яно само так вышла.

Рыхтаваўся апошні акт мядзьведзіцкага набажэнства. Прынесьлі доў-

гую, грубую, трохцалёвую дошку, палажылі яе канцамі на шулы над весьніцамі ў канцы вёскі і прыбілі цьвікамі. Царкоўны саветнік сядзеў ужо вярхом на дошцы і чакаў сабе напарніка. Тыя гады з ім трымаў абраз Мікола Наздрэйка, але сёлета ён ад гэтага гонару адмовіўся. Патрэбен быў дужы мужчына, які мог бы ўтрымаць абраз на дошцы. Замяніць яго нарэшце згадзіўся Мікола Грамабойчык. Прыставілі да дошкі драбіны і падалі зьнізу абраз, апрастаны ўжо ад палатнянай гары. Крываношка і Грамабойчык моцна ўзялі яго за ручкі і лепш усеўшыся на дошцы вярхом, сашчапілі пад ёю ногі.

Тыя, што не хацелі пускаць жывёлу пад абраз, альбо хацелі падагнаць асобна, баючыся, каб у гурце каровы не папрапорваліся, пабеглі да пастуха вылучаць сваіх. Гэтым яшчэ загадзе растрывожылі ўсю чараду.

Поп стаў ля шула і нарыхтаваў крапіла. Чарада авец, прыпёртая ззаду ўзбуджаным натоўпам, зьбілася ў кучу перад весьніцамі і не хацела скрануцца з месца. Нарэшце пастух сплёў за воўну вялікую сівую авечку і павёў яе ў весьніцы. За ёю, пужліва азіраючыся і цiснучыся адно да другога, пашлі ўся чарада. Выпушчаная з рук пастуха сівая падскочыла ў весьніцах ледзь не да самых Крываношкавых ног і рванула па вуліцы. За ёю рынулася ў весьніцы ўся чарада і кожная лічыла сваім абавязкам падскочыць ня ніжэй за пярэднюю. Малых ягнят зьбівалі з ног, яны паадбіваліся ад матак і жаласна бляялі. Поп сьпяшаўся марськаць крапілам, каб хоць на дзесятую трапіла капля «сьвятой» вады.

За авечкамі пагналі каровы. Першым, пагардліва адвесіўшы падгруднік, прайшоў Каржакевічаў, рыжы бугай. Калі поп марськануў крапілам, ён толькі трохі прыплюшчыў вочы і скрывіў кароткую галаву. Далей, растрывожаная і зпэрваная, пашла ўся чарада. У весьніцах зьбіліся ў кучу, падганялі адна адну, прыпіралі да плоту і шулаў, ад чаго пакрыўджаныя нема раўлі, а на баках у іх заставаліся доўгія пісагі з якіх выступала кроў. Шулы дрыжэлі, дошка трэслася, Крываношку і Грамабойчыку пагражала небясьпека зьлязець разам з сьвятымі ўгоднікамі на сьпіны і на рогі чарады.

Калі праз весьніцы праходзіла апошнія жывёлы, найбольш нядужыя, а таму і спакайнейшыя, да папа падышоў Андрэй Каржакевіч—у суконным крамным палітончыку, з прыгладжанымі па-сьвяточнаму вусамі:

— Змарыліся, ацец Палікарп?—угодліва запытаўся.

— Адчуваецца, Андрэй Ануфрэявіч. Дзянёк цяпер—дзякаваць богу, і сьпёка стаіць. Вось можа бог малітву пачуе, дожджыку ці не пашле.

— Проша да мяне на хвіліну. Адпачняце, падмацуецеся.

— Нам пара-б і дадому... Як вы, ацец дзіякан?—зьвярнуўся поп да дзячка.

— Заедзем памаленьку, ацец Палікарп,—адказаў той і гэты сьціплы адказ азначаў: «Брэшэш, бацяя. Ня зможаш ты адмовіцца ў такой благадаці. Не такі ты дурны, як прыкідваешся».

Відаць было, што ў Каржакевіча гэта была чысьцейшая палавіна. Варыстай печы ня было, у кутку стаяла выбеленая мелам «галанка». Пад вокнамі і на вокнах стаялі фікусы, мірты і бальзаміны. Ля глухой сьцяны стаяў новы, непамалёваны яшчэ, ложак. На ім—засланая саматканаю чорнаю коўдраю пасьцель з пірамідай падушак. Побач—памаляваны на зялёнае і акаваны жалезам вялікі куфар.

Каржакевіч дастаў з шафы і паставіў на стол (відаць, загадзя падрыхтаваную) бутэльку падсаложанай вішнёвым сокам гарэлкі і бутэльку віна. Каржакевічыха, носячы цераз сенцы з другой хаты, пачала ўстаўляць стол закускай. Наталя, малодшая Андрэява сястра, паставіла перад кожным па чарцы, прынесла па талерцы і па нажу з відэльцамі.

Каржакевічавы вочкі весела бегалі пераскакваючы з сястры на папа, бышцам хацелі пахваліцца: «Глядзеце, як мы разумеем абыходжаньне!» Аднак ні сама Каржакевічыха, ні Натальля за сталом ня селі і талерак на іх долю на стале ня было.

— А што-ж гаспадыня пагарджае намі?—запытаўся поп.

— А не зважайце, яна яшчэ занята. Пакуль уходзіцца...—адказаў Каржакевіч.

— Што добрае на сьвеце чуваць, ацец Палікарп?—запытаўся Каржакевіч, калі ўжо выпілі па другой.

— Ды як табе сказаць, Андрэй Ануфрэявіч,—адказаў поп, пражоўваючы целяціну.—Усялякае чуваць. Ды бог літасьцівы, не дапусьціць нас у крыўду анціхрысту. Вось на бога народ стаў забывацца, ад царквы адбівацца. Камсамол багахульнік камунстуе, над верай хрыстовай насьміхаецца, сану духоўнага не паважае, усёй моладзі дрэнны прыклад падае. Вось і ў вас сёньня мне прыкрасьць учынілі, хай пакарае іх бог. Але павінен вам сказаць, што ёсьць зьявы і адваротнага парадку. Праўда, ня шмат іх, але вельмі характарныя і знамянацельныя. Ёсьць такія людзі, што спачатку паддаліся д'ябальскаму навучаньню, а пасьля паглядзелі, што бог голадам, вайной міжусобнай карае народ, і вярнуліся зноў на ўлоньне сьвятой царквы. У маёй парафіі чалавек пяць ёсьць такіх. Людзі простыя, але працавітыя, гаспадарлівыя і разумныя. Я пра іх цяпер асабліва клапачуся. Кожны з іх для мяне—гэта блудны сын, які памёр і аджыў, прапаў і знайшоўся—як жа мне ня радавацца і не весяліцца?

Каржакевіч адчуваў, што гэтыя словы поп прыстасоўвае больш да яго, як да каго іншага. Сам Каржакевіч быў ня дурны. Пацёршыся трохі каля вясковай інтэлігенцыі яшчэ да рэвалюцыі ён злавіў некалькі антырэлігійных выказваньняў і довадаў, якія капельку пахіснулі яго веру ў бога. Антырэлігійная агітацыя пасьля рэвалюцыі значна паглыбіла гэту работу. У часы, калі яго асабліва часта турбавалі пра Ўладзіка, ён хацеў падкрэсьліць сваю лёяльнасьць да савецкай улады і, калі ў яго радзіўся першы сын, не панёс яго хрысьціць. Але Каржакевіч тут зразу адчуў, што зрабіў нешта неўласьцівае яму і яго стану. Яго знаёмыя, людзі аднаго з ім грамадзкага стану, гіронічна глядзелі на яго такі ўчынак і нават часамі зьлёгку кпілі. «Ці не ў камсамол ты думаеш падацца»? Калі ДПУ трохі забылася пра яго, дык ён рашыў, што яму выстаўляць сябе бязбожнікам зусім не да твару, і калі праз два гады пасьля першага нарадзілася ў яго другое дзіця, запрасіў да сябе папа і перахрысьціў разам абое. Вось якраз гэты выпадак і падобныя да яго поп Ядрыцкі меў на ўвазе, гаворачы пра людзей, што вярнуліся на ўлоньне царквы.

— Сьвятая праўда, ацец Палікарп,—сказаў Каржакевіч.—Сам жа я, як вам вядома, гэта на сабе паспытаў. А вось ці ня чулі вы, што за граніцаю пра нас гавораць? Ці ня думаюць умяшацца ў нашы справы іншыя дзяржавы?

— Ды за граніцай, ведаеце, галовы—ня нашым раўня. Наскрозь бачаць, што ў нас робіцца. Бачаць і вывады робяць. Кроў людзкую пралі-

ваць і трацішца на вайну ім цяпер няма патрэбы, яны і так могуць зрабіць, што захочуць. Бачаць: паскакалі, пагулялі таварышы, ды назад. У пустым шынку бяз грошай ня вельмі разгуляешся, як гаворыць народ. Заводы і фабрыкі забралі, а пусьціць то і ня могуць: і казна пустая, і спэцыялістаў няма. Вось і прыходзіцца кланяцца той жа загранцы, каб памагла. А заграніца памагчы можа, хоціць у яе, ды толькі наладзь парадак такі, каб можна было справы весьці. Вось і гандаль, вось і канцэсіі замежныя, вось і заводы пачалі ў арэнду здаваць. А тым часам, што бальшавікі ступяць крок назад, то яно й лягчэй народу дыхаецца. Цяпер і мужычкоў глядзі, ня так прыціскаюць, як з разьвёрсткай бывала. Вось толькі і надзея наша на тое, што яно перамелецца, мука будзе, іначай кажучы, будзе такі лад, як і ў іншых культурных дзяржавах. А так хоць ты і на сьвеце ня жыві— даруй божа цяжкі грэх.

— Дай жа божа! Я бо гляджу—ня можа быць, каб яны самі па добрай волі такую палёгку далі людзям. Каторы год і прадаць і купіць можна. А ў гарадох, кажуць, што тавару ў магазынах!—Як да вайны ўсё роўна. Дык гэта заграніца, значыць, націскае... Я думаю, айцец Палікарп— падаўся Каржакевіч да папа і загаварыў ціхэй,—можа й на зямлю ўласнасьць вернецца? Можна будзе самому распарадзіцца ёю, як хочаш.

— Бог яго сьвяты ведае. Упартыя антіхрысты,—адказаў поп страсаючы сырныя крошкі з барады.

— Як жа сам цяпер пажываеш, Андрэй Ануфрэявіч?—запытаўся поп, закусваючы пасьля чарговай чаркі.

— Вашымі малітвамі, ацец Палікарп. Жыву памаленьку. Хваліцца асабліва няма чым, але яшчэ галодныя, пакуль што, не сядзім. Разгарнуцца-ж цяпер, самі ведаеце, вельмі не разгорнешся. То падаткам прыціснуць, кожны, шануючы вас, хвост падлічаць ды запішуць, то самааблажэньне выдумалі нейкае—зноў з нашага брата.

Дзячок, які акуратна выпіваў кожную чарку і старанна закусваў, амаль што ня ўмешваючыся ў гутарку, цяпер прыціх зусім і памаленьку торкаў носам над талеркаю.

— Крыўдна, ацец Палікарп—скардзіўся далей Каржакевіч,—што той самы апошні абадранец у вёсцы гатоў цябе зараз дагнаць. Ход ім даюць. Падатку ён ня плаціць, самааблажэньня ня знае, ільготы ўсялякія—яму. Знарок так палітыку строяць, каб на свой бок перацягнуць, каб у вёсцы паміж сялянамі грызьня ішла. Тагды ім упраўляцца лягчэй. А то-ж, каб увесь народ за адно стаяў, дык ня вельмі-б яны так арудавалі.

— Разумныя твае словы, Андрэй Ануфрэявіч,—згадзіўся поп.

— Ёсьць у нас, ацец Палікарп, так'я, што ён з роду й гаспадаром ня лічыўся, ніколі каровы добрай ня меў, а цяпер ён мае на дзьвюх дзесяцінах каня ды карову, ды яшчэ цялушку ці другую карову. А я на дваццаці пяці дзесяцінах маю пару коняй ды пяць штук гавяд. Ці-ж бы ён на сваім гэта пратрымаў? Паша агульная, сенакосу кожны год яму прырazaюць—чаго яму больш трэба?

Я чуў, на пасёлкі выходзіце?

— Невядома яшчэ. Саўгас зямлі ня хоча даць на прырэзкі.

— А табе, я думаю, на хутарок бы лепш за ўсё, Андрэй Ануфрэявіч. Пагляджу я на Жагулу—добра жыве чалавек. Сам сабе гаспадар, ніхто яму не перашкаджае. Сядзіба ў яго—рай зямны.

— Думаў я пра гэта, ацец Палікарп, ды ня выходзіць. Жагула таксама—жыве ды аглядаецца. Гэта ў нас яшчэ ціха пакуль што, а па іншых месцах нор-му пакідаюць, а то адбіраюць зямлю. Вось і ў мяне невялікая лішка ёсьць паводле нормы. Пакуль разам у вёсцы—ня так ў вочы кідзецца а вылучышся адзін—зразу ўбачаць.

— А на пасёлкі хіба выгадней табе?

— Тут, бачыце, яны за саўгаскую зямлю ўчапіліся, адвярнуў ім бог вочы ад мяне ў другі бок.

— А як з работай? Сваёй сям'ёй упраўляешся?

— Рад бы парабка наняць, дык цяпер жа-ж нельга. Запішы яго ў саюзе ды заплаці, што ён хоча, яму і ў саюз. Ды яшчэ і эксплутатарам будуць лічыць. Самому прыходзіцца ўпраўляцца. Толькі пастушка трымаю, ды то асьцерагаючыся. На палявую работу—жаць ці там бульбу капаць—падзённа наймаю. А то ўсё самі.

— Так, так... Цяжкія часы паслаў бог,—уздыхнуў поп.—Нічога, Андрэй Ануфрэявіч, ня нудзіся. Авось ён пачуе нашы малітвы і ўстановіць на зямлі мір і супай ды ў чэловецэх благоволеніе.

— Ацец дыякан! А, ацец дыякан! Што ты, брат, акунёў вудзіць папачаў?—крануў ён таго за плячо.—Давай памаленечку дамоў будзем брацца. Там адпачнём.

---

Юзік стаяў у варотах, паўкладаўшы рукі ў кішэні штаноў. Пасьля дзённай сьпёкі прыемна было акунуцца ў змрок шэрай гадзіны і падставіць галаву пад лёгкі ветрык. У хаце было душна і не хацелася туды ісьці. Думкі, не накіраваныя ў пэўную каляіну, беглі самапасам, хутка зьмянялі адна другую, не ўразаючыся глыбока ў сьвядомасьць. Паміж імі, здавалася, страцілася ўнутраная сувязь і кожная з іх паасобку выклікалася знадворнымі зьявамі. Загуў жук, з размаху стукнуўся аб шуло і адкінуўся. Недзе далёка ў канцы вёскі хлопцы пад гармонік пелі вясёлыя прыпеўкі. У другім канцы два п'яныя галасы—хто ў лес, хто па дровы,—дралі песьню:

Я й коз-сіва я й бядна-а-а
Я плоха-а-а й адзе-та
Ніхто-замуж ні біро-ць
Дзевіцу-у за гэ-та-а...

Вышла Зося:

— А гэта-ж! Я гляджу, дзе ён дзеўся. Пакінуў гасьцей у хаце ды ўцёк. Гневацца будуць.

— А ну яго к чорту! Агорк мне сёньня гэты пан Хвалідупскі з сваім плявузганьнем,—адказаў спакойна Юзік.

— Дык канечне табе слухаць, што ён пляце? Ты з Кацярынаю хоць бы пагаварыў, сястра-ж такі—гады ў рады бачыцеся.

Кацярына, старэйшая Юзікава сястра, яшчэ перад вайною зайшла замуж далёка ад Мядзьведзіч у засьценак Воўчы Хвост. Гаварылі, што багаты, валоку зямлі мае, адзін сын у бацькі. А ён—маленькі, нехлямяжы, толькі нос той гарбаты, як склюд. Адно лгаць ды хваліцца здало. Ды й салгаць гладка не патрапіць. Як загаворыцца, дык такога навярзе, аж вушы вянуць. Юзік яго цярпець ня мог і нават крыўдаваў трохі на сястру,

што яна, паслухаўшы бацькі ды пагнаўшыся на хвалёнае багацьце, удружыла яму такога шваґра. А яна як быццам нічога. Ня то прывыкла, ня то абцярпелася,—ніколі ня скардзілася бацьком на сваё жыцьцё. Сама апусьцілася трохі і стала куды больш скупою і зайздроснаю, як была дзяўчынаю. Бацькаў характар і бацькава выхаваньне для Юзіка тут былі відавочны. Прыехала сёньня з малым дзіцем. Пялёнкі тыя—з радна, што мяшкі шыюць, чорныя, аж пакарэлі. Пачне грудзей даваць дзіцяці—кашуля з суравога дрэнна выбеленага палатна, грубая і, здаецца, ня зусім чыстая. Прыкра Юзіку і крыўдна: няўжо яна не знайшла-б кусок мяккага кужалю на пялёнкі дзіцяці? Ведае, што ёсьць у яе, толькі шкадуе, у паклад складае.

А Пан Хвалідупскі ходзіць па хаце, рукі назад залажыўшы. Сіняя шляхоцкая шапачка на патыліцу асунута, чупрына рудая, зьлямчаная на лоб зьвісла:

— ... Кулак—кажуць на мяне нашы засьцянкоўцы. Чорт вас бяры, кажу: хоць гаршком заві, адно ў печ не стаўляй. У кулаку, кажа, можа што небудзь затрымацца, а растапырыўшы пальцы—усё рассыплецца, між пальцаў паплыве. Я-ж, кажу, усіх вас мог бы купіць разам з вашымі патрахамі. Дык ня любяць потом. А ў мяне, вядома, гаспадарка—дзякаваць богу. Дык ім коле ў вока. Гэта-ж у мяне адзін жарабец, дык я-б на ўсе іх коні не памяняў. Карціна проста! Вашаму пану Гняцецкаму наўрад ці даводзілася езьдзіць на такіх. Ці паверыце—удвух на кантары ня ўтрымаць.

— Вось ужо й схлусіў!—не сьцярпела Кацярына.—Ат, нішто сабе жарабя, дагледжанае дык і выгляд мае. Ато ўжо ўдвух ня ўтрымаць.

— А што, забылася, як ён быў раз панёс мяне?

— Альбо-ж шмат трэба, каб цябе панесьці? А вось я вазьму выведу, завяду і нічагусенька.

— Ат, што з табою гаварыць! Ты заўсёды мне напоперак,—махнуў ён рукою, зазлаваўшы, што не дала схлусіць.

Успаміналася ўсё гэта Юзіку і не хацелася ісьці з чыстага паветра ў духату ды садзіцца за стол з няпрыемным для яго чалавекам.

— Ну хадзем, хадзем,—узяла яго Зося за плечы,—вячэру ўжо на стол пастравілі, ня будуць жа чакаць на цябе аднаго.

— Вячэрайце, я не хачу.

— Яшчэ што выдумай!—Яна, дурэючы, павярнула яго і, упіраючыся рукамі ў плечы, пхнула да дзьвярэй.

## КРЫВАВЫ ТАНЕЦ ПАД КУЛАЦКУЮ ДУДКУ

Нібы сотні схаваных у траве конікаў, застукалі навыперадкі па сяле малаткі. У парожных ямчэ адрынах і гумнах гаспадарыла рэха, падхапляла гэты заклапочана-пасьпешны стукат, трансфармавала на тысячу адценьняў, памнажала ў тысячу столак, не разабраць было зразу, адкуль бярэцца гэта навала дробнага пасьпешнага стукату, што запаўняе ружовую раніцу. У павеце на надворках, па падстрэшшы, у сенцах скакалі заўзята кляўцы па бабках, адцягваючы гострыя языкі кос. Надышоў той першы дзень касьбы, пасьля якога так смыляць далоні, раніцою назаўтра ў плячох «сядзіць мядзьведзь», рукі і ногі набрыняліся, як бярвеньні, а ў паясьніцы нібы завесы заржавелі—не разагнуцца. Але пацягнешся моцна да хрусту касьцей, лінеш на твар халоднай вады, пройдзеш разы

два па хаце і сьціхне патроху нудны боль у плячах і паясьніцы, застаецца ў цяглiцах толькі нешта такое пругкае і гужаватае. І, здаецца, падужэў удвайне пасьля ўчарашняга, і ў плячох пашырэў, і на зямлі стаіш мацней. Рукі страціла меру націску і, бяручы далікатную рэч, баішся, каб не раздушыць.

Храбусьцела пад тапаром тонкая паплецiна—на тычкі. Набіралі ля калодзежа халодную ваду ў глякі і бачуркі—каб хапіла да вечара. Заглядваў сусед да суседа цераз паркан:

— Пашлі?

— Вось канчаю кляпаць.

Мяркавалі мязьведзіцкія сёньня прыдаткі скасіць, а вышла яно трохі ня так.

Павёў Пошта каня на выган. Прыпыніўся, каб аблягчыцца ад лішняй вільгаці, ды ня скончыў, як мае быць. З-за алешніку на Забродзьдзе вышла стракатая чарада касцоў. Як маланкі, пад яркім сонцам паблісквалі косы. Па сьцежцы ад Дымаўкі да сенажаці сыпяшаліся па адным, па два тыя, хто што асталіся ад гурту.

— Вось табе й прырэзкі!.. тваю маць з пасёлкам!—услых сказаў Пошта і амаль не бягом з аброцьцю на руцэ пусьціўся ў вёску. Бег і аглядаўся на Забродзьдзе, дзе на фоне цёмнай зелені алешніку і травы яскрава бялелі кашулі распраненых ужо касцоў.

— Глянь, Андрэй! Што та робіцца?

— Ці-ж ты ня бачыш?—наўмысьне спакойна адказаў Каржакевіч, глянуўшы на Забродзьдзе.—Косяць людзі.

— Якое-ж яны маюць права? Гэта-ж казалі, наша ўжо,—і белыя Поштавы вусы ад узбуджэньня натапырыліся больш, як звычайна.

— Вось як скосяць, то будзе й іх. З адрыны ты ў яго не забярэш. Глядзі толькі ды маўчы, дык яны і прыдаткі скосяць, а ня толькі што.

— Дык што-ж гэта рабіць будзем?

— Адкуль я ведаю. Мая справа тут дзесятая, ня мне з гэтага прырэзкі будуць... У нашым канцы мужчыны праганяць ісьці зьбіраюцца, я чуў, ці што,—як бы між іншым сказаў Каржакевіч, хоць ён сам толькі цяпер убачыў касцоў на Заброзьдзі і ніякай гаворкі пра Забродзьдзе сёньня дагэтуль ня чуў.

— Трэба ісьці! Усім ісьці! Даць, каб другі раз не палезьлі,—выразна выказаў Пошта Каржакевічаў намёк і шпарка падаўся далей па вуліцы.

— Мужчыны, чаго вы стаіце? Вунь дымаўцы Забродзьдзе наша косяць,—крычаў ён ужо на сярэдзіне вёскі.

— Але?

— Што ты кажаш?

— Паглядзеце калі ня верыце. У тым канцы мужчыны ўжо косы пабралі. Кажуць, даць трэба, каб больш ня квапілі.

Выходзілі на гарод, прыкладвалі руку брылем да вачэй:

— Косяць, сволачы!

— Смаляць проста ад рэчкі ў плот.

— А вунь там мераюць яшчэ.

— У гарод зараз прыдуць і маўчы.

— Даць!

— Гнаць к ... мацеры!

— Даць!

— Усім ісьці, каб ні горшых ні лепшых ня было!
— Даць! Даць!! Даць!!!
Забразгаў Галаскок мянтошкай аб касу. Падхапілі іншыя. Разьлягаецца па вёсцы баявы лёскат.
— Выходзь каму сена трэба!
— На бурвалку зьбірацца.
Ня даць сена, хто ня пойдзе!
Бушуе натоўп каля Піперманіхі на бурвалку. Грозна мігацяць косы пад ваяўнічыя выкрыкі. Трымціць рыжы Сомік ад злосьці і яго тонкі прарэзьлівы голас вылучаецца з глухога гуду:
— ... душу выматаю! Далі скатаўю волю, а цяпер рады ім ня даць. Гэта ў немцаў такое-б магло быць?! Тут жа—што ступіў, дык і лупі, інача ён табе на галаву сядзе.
— Даць!..
— Мужчыны... Муж-чы-ны! Сьціхніце трошкі.
— Зноў казань?
— Хачу казань казаць. Можа вы мяне і паслухаеце.
Цяжка сёньня быць спакойным і жартлівым камсамольскаму сакратару.
— Чулі!
— Хай гаворыць, мо' што й добрае.
— Сып, Сьцёпка!
«Толькі каб як найкарацей і наймацней, а то прапала»,—думае Сьцёпка.
— Хто хоча бядняцкай крыві, падымі руку!—кінуў ён у натоўп.
— На момант запанавала цішыня.
— Вось сказаў!
— Яшчэ што выдумай.
— Кінь залівацць!
— А чаго іх чорт гоніць на наша?
— Хто вам сказаў, што наша?
— Зараз год, як кажуць, а ты ня чуў.
— У саўгасе былі?
— Былі.
— Што там сказалі?
— Хвігу выставілі.
— О-т-то-ж. Заяву ў раён падалі?
— Казалі, што па заяве за намі засталося.
— Брэшуць, яшчэ невядома.
— Пяць год там вырашаць будуць, а ты чакай.
— Дык трэба падварушыць справу, а не разбоем ісьці.
Пакуль ты падварушыш, дык дымаўцы вунь глядзі, як варушаць.
— Будзе!
— Злазь з амбоні!
— К чорту!
— Кабыле пад хвост!
— Яму сена ня трэба, дык ён няхай варушыць языком.
— Ну кот жа сена ня есьць (гэта Грамабой наконт таго, што ў Сьцёпкі адна карова).

— Ды сьціхніце вы! Паразяўлялі горлы. Не дадуць слова сказаць чалавеку. Вот бо дзе прорва ўжо!

— Сказаў ужо! Досыць!

— Хто на Забродзьдзе ня пойдзе, таму й на Прыдатках ня даць: іх ня трэба.

Аўдоля круціць папяросу і рукі яе нэрвова дрыжаць:

— Мужчыны, дык вы й мне мо' загадаеце ісьці біцца з дымаўцамі, а інакай на Прыдатках не дасьцё—стараецца яна гаварыць спакойна.

— Мы табе гатовенькае на сподку паднясём,—кпіць Грамабой.

— А я ў цябе й ня пытаюся. Глытун зьненавідны!—ускіпела Аўдоля.— Табе тут чаго трэба, каб хто спытаў? Пажыву счуў? Ты хаця Яначкава зьеш.

— А ты ня сунь свайго носа, куды цябе ня просяць, бо дастанеш,—насупіўся і пацьмянеў Грамабой.

Крані толькі, як трымаю касу, дык і ўсаджу ў тваё гэта горла ненаеднае.

— Дзын-дзын-дзын-дзын,—гэта зноў з вясёлым задзёрам Алесь Галаскок мянтошкай аб касу:

— Годзе круціць вала за хвост! Пашлі!

— Падыма-а-йся!

— Ой глядзеце, мужчыны, дрэнна будзе,—папярэджвае Юзік, стоячы ў сярэдзіне рухавага натоўпу.

— Што, уторы аслабелі?—выскаляецца Грамабойчык.

— Дзязярціp няшчасны!—абураецца Юзік.—Я ня туляўся па лесе, калі трэба былі савецкую ўладу абараняць.

— Ну, альбо йдзі, альбо з дарогі сасьтупі. Блытаецца перад нагамі...

Застаўшыся на месцы са жменькай мужчын, Сьцёпка нярухома глядзеў усьлед натоўпу. Нудлівы боль і злосьць—ня то на іх, ня то на сябе, што ня здолеў угаварыць, не даглядзеў, як толькі пачыналася.

Аўдоля апошні раз моцна зацягнулася і далёка адшпурнула акурак:

— Што-ж мы будзем тут стаяць? Хадзем на Падгор'е хіба. На прыдатках сёньня работы ня будзе, як відаць.

А тыя йшлі, шумліва-ўзбуджаныя, з грозным бразгатаньнем і мігценьнем кос нацяныкі цераз кўп'істы выган. Узышоўшы на сенажаць, тралялялі шырокі гасьцінец па густой траве, йшлі проста на дымаўскіх касцоў. Дымаўцы спыніліся ў пракосах, глядзелі, меркавалі,—што гэта мае значыць? Дальшыя падыходзілі бліжэй да пярэдніх.

— Калі што якое, касою ня рэж, запатылкам бі, а то з вамі бяды яшчэ набярэшся,—перасьцярагаў на хаду Сьцяпан Варанец.

Дымаўцы яшчэ здалёк пачулі пагрозныя крыкі:

— Вон!

— Вон з нашай сенажаці!

— А чаго-ж вы тут!

— Гнаць іх у венікі!

— Дымаўцы трывожна загаварылі паміж сабою, але біцца відавочна, не рыхтаваліся. Высокі, русабароды паджылы касец, што йшоў у перадзе, палажыўшы касу на пракос, выйшаў нават крокаў на пяць у траву насустрач мядзьведзіцкім.

— Што вы, суседзі надумалі? Цэлаю вайною на нас йдзяце. Што ж мы, самавольнікі якія ці што? Мы па закону, сілаю не бяром. Аддаў саў-

гас на часьці, дык мы і косім. А калі тут спрэчка якая з вашага боку, дык мы можам і прыпыніць касьбу на час. Хадзем разам у саўгас, там і дагаворымся.

Мядзьведзіцкія спыніліся на момант і панура маўчалі. Больш міралюбівыя гатовы былі ўжо і згадзіцца на прапанову русабародага.

Плячысты дымаўскі дзяцюк, што йшоў у пракосе ўсьлед за русабародым, уваткнуўшы касьсё ў зямлю, дастаў капшук і рыхтаваўся закурыць, думаючы, мусіць, што справа разьвяжацца мірным спосабам. І тут Пошта папсаваў усю справу. Нават ніхто й не чакаў ад яго такога выбрыка.

— На падзяржы,—перадаў ён сваю касу некаму з мужчын.—Я пагляджу, ці гэта каса добра косіць.

Ён узяў дзяцюкову касу і разы тры махнуўшы для прыклепу па траве, з усяе сілы жахнуў яе аб купіну. Каса ў шыйцы хруснула і засталася ў купіне.

— Га... ня мошная,—сказаў Пошта, кінуўшы касьсё ў лужыну.

Дзяцюк, доўга ня думаючы, схапіў Пошту адною рукою за карак і зырнуў яго носам у лужыну ўсьлед за касьсём.

— Лупі, ... іх маць!—крыкнуў нехта з мядзьведзіцкіх і нечае касьсё пераляцела напалам на плячах дымаўскага дзяцюка. Русабароды аступаўся задам, наставіўшы рукі і закрываючы імі галаву ад удараў, аж пакуль не зачапіўся за купіну і не паляцеў дагары. А далей—узьлёты кос, узмахі косьсяў, урыўкі лаянкі, крыкі—усё зьмяшалася на момант у крывавую завіруху. Дымаўскія пачалі адыходзіць, адмахваючыся косамі, і нарэшце кінуліся бегчы да алешніку. Мядзьведзіцкія з пераможным ровам гналіся за імі аж да самых кустоў, падбіваючы, каго маглі дагнаць.

Варочаліся да пракосаў разагрэтыя бойкай, узбуджаныя выглядам крыві і п'яныя ад перамогі. Але што больш астывалі, то ўсё больш цьмянела задаваленьне ад перамогі. Шмат хто, што атрымалі рэшты ад дымаўцаў, адчувалі боль на баках і плечах, у некаторых сіняк былі на тварах. У сьвядомасьць некаторых ледзь прыкметна пачало пракрадацца раскаяньне і страх, што прыдзецца адказваць.

На месцы бойкі засталося трое. Адзін дымаўскі, ашаломлены ўдарам па галаве, цяпер толькі ачухаўся. Абапёршыся на локаць, ён мацаў рукою пабітае месца і глядзеў на запэцканыя ў кроў пальцы. Другі скавытаў цягуча і жаласна, седзячы на траве і рытмічна хістаючыся ўзад і ўперад,— ён не знаходзіў месца параненай руцэ. Ніжэй локця вісела шмацьцё скрываўленай кашулі і састругнага з касьці мяса; жудасна бялела лакцявая косьць. Мядзьведзіцкім стала ніякава. Адварочваліся, каб не глядзець на параненага.

— Вось брыда некая чалавека акалечыла! А казаў жа: асьцярожна з косамі,—сказаў Сьцяпан Варанец пры агульным маўчаньні.

— Чорт яго ня возьме, ня здохне,—агрызнуўся Сомік.

— Вот азіят!—не сьцярпеў нехта.

Сьцяпан Варанец падышоў да параненага і, разадраўшы на ім кашулю, пачаў перавязваць.

Над лужынай сядзеў Пятрусь Кухар, набіраў у жменю вады і мачыў нос. Лужына была ўжо чырвоная, а ён усё ніяк ня мог суняць крыві, што цурком лілася з разьбітага касьсём носа. І тое, што якраз з ім, найбольш ціхім незадзірлівым чалавекам так здарылася, яшчэ больш падкрэсьлівала ўсю недарэчнасьць і прыкрасьць таго, што адбылося.

— Ухадзіліся, дык мо' цяпер і дадому ўжо можна йсьці?—недарэчы пажартаваў нехта.

Абурыліся, зыкнулі на яго і той пасьпяшыў зьнікнуць у натоўпе. Няпрыемна было, што ён сваім жартам трапіў якраз у балючае месца, падкрэсьліваючы прыкрасьць становішча.

Касілі моўчкі, панура, з рэдкімі перапынкамі для закурваньня, з рэдкімі словамі скупой гаворкі. За гадзін дзьве да заходу сонца ўсе сорак пяць дзесяцін Забродзьдзя ляжалі ў пракосах.

Хурманкі прыехалі ўсе разам. Разьмяркоўвалі сена навока і кожны стараўся мацней утаптаць воз, каб ён выдаваў меншым. Спрачаліся за тое, каму браць на грудку, а каму ў лагчыне. Нахвосталі пугай коняй, каб пасьпець другі і трэйці раз, і коні лутаваліся, выпроствалі сьпіны і шчоўкалі капытамі, вырываючы іх з вохкае глебы ў лагчынах. Апошнія вазы забіралі ўжо пры сьвятле месяца. Прышлося па тры настрамкі сырой травы на кожнага касца.

А Верамейчыкі праз гэта самае сена ноч сабе растрэсьлі—калатні было поўна хата. Яшчэ ўдзень нехта сказаў старому, што Юзік на Падгор'і косіць на сваім, а на Забродзьдзе не пашоў. «Усё мудрue некай трасцы, усё яму трэба ня так, як людзі робяць! Нейкі воз сена ўтраціў, не дадуць цяпер»,—думаў стары. Аж да самага адвячорка грызла яго гэта адчуваньне ўтраты. Цэлы дзень хадзіў ён, як з яйцом, не знаходзячы сабе месца. Колькі разоў пачынаў крычаць на нявестку, нават на старую—усё яму было не пад густ. А калі надышоў адвячорак і пасьпаліся хурманкі на Забродзьдзе, не сьцярпеў Верамейчык: ушчаміў кабылу ў аглоблі і па хвасьце—усьлед за людзьмі. Падоўгу дапытліва спыняюцца на ім вочы аднавяскоўцаў, а ён як быццам і не разумее нічога.—«А мо' і ўдасца» думае саб

— Мужчыны, дзе-ж мне скажэце браць?—запытаўся ён, пад'ехаўшы да таго месца, дзе распарадкавалі хурманкі.

Галаскок адвярнуўся ў другі бок. Іншыя як бы й ня чулі.

— Я пытаюся, мне дзе браць?

— Дзе? ...—Сомік назваў тут такое месца, ад якога стары і нос адвярнуў.—Чорт стары, прыехаў на гатовенькае! А як лоб трэ было падстаўляць, дык у кусты.

— А хіба-ж гэта Юзік ня быў тут?

— Едзь дадому, то лепей будзе. Бач, злосныя сёньня ўсе,—параіў яму па-сяброўскі Сьцяпан Варанец.

— А хто вас тут ведае. Я-ж думаў, што Юзік тут касіў,—сказаў Верамейчык, нехаця заварочваючы кабылу.

Пакуль прыехаў Верамейчык дадому, злосьці было роўна з берагамі.

— Дзе-ж тваё сена?—зьедліва запыталася старая.

— Ідзі ты к чортавай матары ад мяне! Яшчэ яна мне лезе ў вочы, зараза паршывая!—навалiўся на яе Верамейчык.

— Падзякуй свайму сыну разумнаму,—падбухторвала тая.—Людзі дурныя, дык пашлі скасілі ды тое самае. А твой сын разумнейшы за ўсіх, то ты вот глядзі, як людзі сена возяць.

Зося стрэла Юзіка яшчэ на вуліцы:.

— Хіба-ж ты і ў хату ня йдзі. Бацька вунь, як гад, злосны ходзіць—чаму на Забродзьдзе ня йшоў. Як жа бо: паехаў па сена ды прагналі мусіць—назад улегцы прыехаў.

— Зайздросна, дык няхай бы сам ішоў. Мо-б хто рэбры палічыў, тагды-б ведаў, якое смачнае гэта сена.

— А я-ж вот баялася, каб ты не пашоў.

— Я яшчэ проці савецкай улады не бунтаваўся і ня думаю. Гэта-ж сапраўдны бунт, самавольны захват.

А за вячэраю ўзгарэлася тое, што назьбіралася за цэлы дзень. Трэслася Верамейчыкава хата ад лаянкі і кленічаў. Панура і з выгляду спакойна важкімі словамі адгортаў ад сябе Юзік пеністую бацькаву злосьць і зьедлівыя рэплікі старой. Баязьліва высоўвалася з-пад коўдры белая Піліпкава галава і кусала губы, стрымліваючы сьлёзы, Зося. Людзі спыняліся пад вокнамі, па-доўгу слухалі і адыходзіліся:

— Зноў Верамейчыкі грызуцца.

(*Працяг будзе*)

# ЗАПІСКІ МАЙГО СУСЕДА

## З КНІГІ „СМАГА"

**Янка Скрыган**

Мой стол не столь широк, что-б
грудью всею
Налечь на борт и локоть завести
За край т..ски, за этот перешеек
Сквозь столько верст прорытого
прости.

**Барыс Пастарнак.**

## 1

Толькі што прайшоў дождж, і хмара грузна адвалілася на бок. На скверы адразу запахла зелянінай. Сонца прыпякае і пахі робяцца густымі. На траве яшчэ блішчыць раса.

Бакавою дарожкаю ідзе чалавек. Ён некуды сьпяшаецца і шырока махае рукамі. Рукамі ён расьпіхвае густую сьвежасьць. Але ісьці яму лёгка і ён усьміхаецца.

— Мабыць дождж быў з громам,—думаю я,—бо пасьля грому зямля заўсёды халодная, сьвежая і хадзіць па ёй надзвычайна лёгка. Босымі нагамі асабліва чутна гэтая сьлізкая халаднаватасьць.

Чалавек суцімаецца і праз дарожку мне відаць, што ён нагінаецца над кустом. Прытаргнуўшы рукою, ён нюхае ружовыя галоўкі кветак. На пальцах астаецца раса. Я бачу, што ён нюхае пальцы. Мабыць раса яму таксама пахне кветкамі?

Чалавек усьміхаецца і ідзе зноў. Цяпер я добра бачу, што ён у чаравіках. Значыць, я ўявіў яго босым ад таго, што ён лёгка ішоў. Ясна, што дотыку да зямлі ён ня чуў. Але ўявіўшы яго босым я выразна пачуў дотык сырое зямлі да свае ступні. Значыць я ішоў за яго. Ці магу я за яго думаць?

Я люблю наглядаць. Я хачу навучыцца самаму цяжкаму—пазнаваць людзей. Людзей пазнаваць цяжка. А сам пра сабе чалавек—усяго—не расказвае. Ён нават можа хлусіць. Ён можа ашукваць другога, ашукваючы гэты і самога сябе. І гэтак от цяжка пазнаць самую буйную існасьць—чалавека. Перад тым як пазнаць яго—трэба прайсьці праз яго паказнога. Я хачу—непасрэднасьці.

За газонам на лаўцы садзяцца двое. Мне добра відны іхныя постаці. У яе харошая русая галава і тонкая белая кашуля. Ён—той самы, хто нюхаў расу і ўсьміхаўся самому сабе. Пэўна, што ён шукаў яе.

— Але цяпер ён ужо сур'ёзны. Цяпер сьмяецца яна. Яна нешта запальчыва расказвае, і ён нават ня слухае. Нашто радавацца таму, што ўжо маеш?—трэба радавацца таму, чаго яшчэ не знайшоў! І ён глядзіць як вецер дурэе ў яе па кашулі. Як вецер прыціскаецца да яе цела, робячы яго рэльефным.

— Ён бачыць яе цела,—думаю я,—сьвет чалавечых уяўленьняў рэальны.

— Ты трызьніш,—умешваецца збоку голас.

— Ён ня мае права не паважаць таго, чаго шукаў як сябе,—адказваю я.—Ты бачыш, ён нават ня прыкмячае яе радасьці. Гэта ня чэсна.

Бальтазар садзіцца каля мяне. Ён махае стусінкаю і, журачы адно вока, каб глядзець скэптычна, гаворыць:

— Законы адмаўленьня распаўсюджваюцца і на чалавека. Ён мае ўсе правы на тое, каб сябе ўчарашняга лічыць пройдзеным. Нельга замыкацца ў адным крузе сваіх ідэалаў. Самае вялікае хараство надакучыць, калі будзе вечна нязьменным.

— Ён шукаў яе, і цяпер ня мае права ня ўспрыймаць яе прысутнасьці, як радасьць.

— Радасьць—такая самая ўмоўнасьць, як і хараство. Гэта разуменьні адносныя,—паволі гаворыць Бальтазар.

— Абое мы маўчымо, і я гляджу на сваіх незнаёмых. Адале я бачу, што яна зноў засьмяялася і на зубах у яе закачаўся клубок праменьняў.

— Грахаводнік!—крычу я.—Ты хіба ня бачыш, што яна носіць з сабою сонца. Ты ня бачыш яе сонца,— кажу я,—паглядзі як яно сьвеціцца!

— Закон адлюстраваньня,—гаворыць ён.

— Гэта яе ўласнае,—кажу я,—у ім адсьвечваецца ўся яе радасьць.

— Ты трызьніш,—заключае Бальтазар і пачынае пасьвістваць.

Мы зноў маўчымо і кожны з нас думае сам сабе. Адале мае мысьлі набываюць закончаны круг і я зноў пытаюся:

— Але-ж чалавек шукае свае поўнасьці ў другім. І некалі ён яе вобраз абагаўляў—ён адчуваў тады цяплыню яе сонца?

— Гэта таму, што тады яна ня была яшчэ адлучана ад мары. Ён тады быў рабом.

— Хіба каханьне—гэта рабства?—пытаюся я.

— Камэдыя рабства!—гаворыць Бальтазар, сьвіснуўшы стусінкаю па галёнцы.—Гэта зусім законна. Перад тым, як заслужыць каханьня трэба сыграць камэдыю рабства. Трэба паказаць жанчыне, што апрача яе ў цябе нічога няма. Хваліць, патураць усім яе вантурам. Хваліць пачынаючы ад паху валасоў і канчаючы ажурам панчох. Гэта пераносна будзе зразумета, як пахвала целу. Трэба асьляпляць жанчыну ёю-ж самою, яе перавагамі—ашукваць. Тады яна цябе ацэніць. Гэта значыць—пакахае. Пакахае за рабства, каб самой ужо стаць рабою. Вось шляхі ідэалізованага хараства, якому праз вякі паэзія пасклададала гімны.

— Гэта цынізм!—абураюся я.—Гэта насьмешка над адным з найвялікшых фактараў чалавечае гісторыі.

— Няхай сабе, але гэта так,—халодна згаджаецца Бальтазар.

Я пачынаю думаць пра сказанае Бальтазарам. У яго свая хада думак. Ён ня можа бачыць людзей глыбей за іхную надворнасьць. Ён ня можа адчуваць сябе босым, уяўляючы чужую голую ступню. Трэба бачыць

жыцьцё і за гранямі даступных контураў. Трэба бачыць хараство і за вульгарнаю схэмаю.

— Ты прапаведуеш цынізм,—кажу я,—ты хочаш фэтышызаваць фальш.

— Гэта ня фальш, а норма.

— Вар'ят!—гавару я.—Нормаю павінна быць непасрэднасьць. Калі я шукаю сябе, я магу непасрэдна сказаць гэта таму ў каго прадбачу яе знайсьці. Трэба толькі, проста—шчыра пастукацца ў яго інтымнасьць.

— Ты яго знойдзеш у сваім уяўленьні.

— Я знайду хараство непасрэднасьці чалавечых адносін.

— І астанешся рабом сваіх уяўленьняў.

— Вар'ят!

— Што-ж, пашукай свае Каламбіны за граньню даступных контураў. А я пайду да свае, што магу адчуваць рэальна.

Мне пара. Я нясу ў падарунак панчохі.

## 2

Тут варта было-б зрабіць уступ такі:

Чалавек заўсёды павінен шукаць. Чалавеку дадзена вечна нічога не дасягаць такога, на чым льга было-б суняцца.

Гэта агульна.

Прыватна—чалавек эгаістычна шукае самога сябе. Арганічнае часткі сабе ў другім чалавеку. Каб знайсьці сваю поўнасьць. Ён шукае яе.

Я таксама хачу поўнасьці. Гэта муляецца нават больш падсьвядома. Асабліва вечарамі, калі астаешся адзін. І, калі сьвет робіцца такім лірычным—мяккім, далёкім, прываблівым—напоўненым шэптамі чалавечае вечаровае музыкі. Сам на сам у такія часы чалавек разростаецца ў адлегласьць і мары. Тады ў ім падымаецца тое, што завецца інтымнасьцю. Гэта пачынаецца другі чалавек, той, які нікому не паказваецца абы калі. Каб разгадаць яго—дайсьці да яго—трэба мець той-жа самы пароль—інтымнасьць. І, калі не чапаецца нікім гэтая інтымнасьць—чалавек ня можа разьліць сябе ні ў ласкі, ні ў цяплыню, ні ў дружбу, каб іх ні адкога ня мець і самому. Неразьлітыя-ж ласкі робяцца грузнымі, і тады цяжка насіць іх—як крыўду.

Я таксама нашу сваю крыўду. Асабліва гэта чутно вечарамі, калі астаешся адзін. Неразьлітыя ласкі робяцца грузнымі. Даўкая самота пачынае галадаць нутро. І нікога няма, хто-б пастукаўся паролем у інтымнасьць. Гэтую адсутнасьць пачынаеш успрыймаць гіпэрбалічна. Яна кладзецца тады на кожную рэч, пачынаючы ад запыленага стала, забытых аркушоў рукапісу, і канчаючы тугавічным целам. Нават забываешся, што ты нясеш сацыяльную функцыю. Падымаецца няўцішны некаму кліч, такі, што шавеліцца нема. Нараджваецца неўгамонны рупесак, і я знаю ўжо: гэта пачынае стукацца ў інтымнасьць маю жанчына, пачынае дакучаць мне правам на сваю прысутнасьць яе вобраз. Ён паўстае нявыказна харошым—гэты вобраз. Мне хочацца адчуваць яго, каб гэтае хараство разьліць на ўсю маю дзейнасьць. Ёсьць адчуваньне радасьці ад пладатворна скончанае работы. Ёсьць грузнасьць пладатворнае работы, ад якое адчуваеш радасьць. І ёсьць радасьць чалавечых адносін, якую трэба разьліваць у пладатворную поўнасьць. Вобраз гэтае радасьці—жанчына.

## 3

Дзіцячая пляцоўка абгароджана нізенькім плоцікам. У жоўтым сыпучым пяску поўзаюць дзеці. Яны перасыпаюць пясок у піраміды, у авалы, у выямкі—матар'ялізуюць крохкі сьвет сваіх фантазій. Такія-ж крохкая як фантазія і іхная снасьць—рыдлёвачкі, шуфлікі, тачкі. Гэта іхняя творчая дзейнасьць. Яны навучаюцца бачыць сьвет праз непасрэднасьць сваіх уяўленьняў.

— Я буду рабіць мост,—таворыць пузан.

— А я трамвай, тады мы разам паедзем,—падсоўваецца другі, складаючы з мадэляк праекцыю вагону.

— Гэта праекцыя іхных уяўленьняў,—думаю я.—Яны прывучаюцца матар'ялізаваць ідэю. Сьвет новага пакаленьня будзе сьветам найвялікшае творчасьці

Пасьля яны зьбіраюцца каля кіраўніцы ў кола, каб рабіць карагод. Па алейцы сьпяшаючыся ідзе жанчына. Яна здалёк выцягвае рукі і нясе вочы поўнымі такое радасьці, што яны здаюцца ў яе на руках.

— Зорык!—крычыць яна.

Ад карагоду раскарачыста аддзяляецца карантышык. Яна хапае яго на рукі і адхіляецца трошкі ў бок. Перад дзяцьмі яна стрымаць сваю радасьць, і ўсё-ж такі ня можа, каб не пацалаваць хоць ручак. Яна ня ведае як песьціць яго—да таго багата ў яе матчыных ласак. Адале яна хоча ўжо ісьці—ставіць яго на зямлю—і, ужо нагнуўшыся гладзіць галоўку.

Жанчына аддаляецца, а я гляджу ёй у сьлед і яшчэ ўсё адчуваю яе нязвычэрпны вобраз.

— Якое харошае жыцьцё чалавечае поўнасьці,—думаю я.—Хто ты, каторая дасі мне сына?

Я іду, і ўсё яшчэ адчуваю, што нясу чужую бачаную радасьць—як сваю. Я таксама матар'ялізую сваю фантастыку. Я сузіраю сьвет новых чалавечых адносін, дзе атрыбуты маралі ня сьціскаюць непасрэднасьці. Новае пакаленьне найвялікшых творцаў носіць і чужую радасьць як сваю, каб жыць гэтаю радасьцю. Яно ня ведае рабства маралі.

— Вітаю рэспубліку майго сына!—крычу я.—Яе ўтварыла права на чалавечую поўнасьць.

— Ты ў падарожжы,—гаворыць нечы голас.

— Дурань!—гавару я, і адчуваю каля свайго пляча чужую прысутнасьць. Старымі губамі шамкае Шэф.

Шэф спадарожнічае мне нябачна. Ён можа паяўляцца ў любую хвіліну. Яго твару я ня бачу ніколі. У яго вялікія—сінія, круглыя—акуляры і на акуляры напушчаны з шырозным полямі капялюш. Старым ротам ён вечна лужа семачкі. Лушпайкі выносіць на кончыку языка і зьдзьмухвае губамі так, што яны вылятваюць дутападобна, ледзь не датыкаючыся да полаў капялюша. У роце ў яго асталося мабыць толькі пару апошніх зубоў на семачкі, бо, гаворачы, ён шапялавіць, і словы выходзяць разьлезлымі, як жабы.

— Ты ў падарожжы,—гаворыць ён зноў выплёўваючы шалупайку.

— Я шукаю яе, каб знайсьці сваю поўнасьць,—кажу я,—бо хачу перадаць свайму пакаленьню радасьць.

— Ты знайшоў яе і можаш ганарыцца. Але ты яе згубіш.

— Я яшчэ шукаю яе, і знайду, бо люблю жыцьцё і сваю будучыню,— кажу я.—Я ўжо ведаю як яе завуць і бачу аблічча. Вось бачыш.

Я дастаю і паказваю яму яе картку.

— Я маю яе картку,—кажу я,—і ведаю нават імя. Яе завуць Мара.

— Ты яе згубіш,—уторыць Шэф.—Хіба ты ня бачыш, што ты яе ўжо маеш і любіш?

— Дзе?—пытаюся я.

— У сябе, квакае разьлезлая жаба яго губ.

— Анцута!—гавару я,—гэта толькі яшчэ яе праекцыя.

— Сьвет нараджваюць ідэі,—шамкае Шэф.—У сваіх ідэях ты нарадзіў яе, і будзеш мець яе пакуль не разбурыш праекцый. Ты ўтварыў прыгожы сьвет сваіх уяўленьняў і сузірай яго як рэальнасьць. Сузірай чароўных сьвет сваіх уяўленьняў!

Гаворачы, Шэф паступова аддаляецца, і за ім яшчэ цягнецца яго голас.

— Саліпсіст!—крычу я.—Чаму-ж ты носіш сінія акуляры?

## 4

Я ўжо ведаю як завуць яе і нашу з сабою яе праекцыю. Я знайшоў вобраз мае поўнасьці, але хачу мець яго рэальна, і напісаў ёй ліст такі:

*Мара!*

*Няважна адкуль, але я вас ведаю. Вось вашы рысы: сур'ёзнасьць, сумленнасьць, прастата і самая харошая праўдзівасьць. Я шукаў вас, як вобраз свае поўнасьці—і знайшоў. Хачу быць вашым знаёмым.*

Я напісаў ёй такі ліст і цяпер чакаю адказу. Каб ня мулеўся рупесак—я яго разношу. Я прышоў, каб пасядзець цяпер у Макша.

Макш чытае Шапэнгаўэра і скрэсьлівае кніжку чырвоным алоўкам Ён нават нешта запісвае на палёх кніжкі.

— Ідэалістычная філёзофія,—гаворыць ён,—да чаго вузкі быў іхны эгаізм.

— Яны баяліся сьвету,—гавару я,—і хацелі сьвет падмяніць сабою.

— Яны хацелі бліщчаць як іхная мара, і ўцякалі ад рэальнасьці.

— Яны баяліся будучыні і паміралі пэсымістамі,—канчаю я.—Яны шукалі сябе там, дзе пачыналася іхняя пагібель.

Макш загортвае кнігу, каб у канцы яе запісаць нейкую думку. На ілбе ў яго зьбіраюцца складкі, якія хочуць ашлапіць мысьль у канцэнтрацыю. Я гляджу на складкі, каб пазнаць па іх сілу мысьлі.

— Трэба мець веру і волю,—гаворыць ён і, не запісаўшы, адкладвае кнігу ў бок.

У нас пачынаецца гаворка. Адале я гляджу на невялікі столік у кутку яго пакою. На століку сьветлая рамка. Харошая, сьветлая рамка з тоўстага шкла і пад шклом—партрэт жанчыны. Я бяру партрэт у рукі і жанчына глядзіць з яго любоўю.

— Добра,—кажу я, стаўляючы партрэт назад.

— Яна памагае мне верыць,—гаворыць Макш так, як бы саромячыся, але ўсьміхаецца, і я бачу, што гэтаю ўсьмешкаю глядзіцца цёплая гордасьць.—Я люблю гэтую жанчыну таму, што люблю жыцьцё і нясу яму

радасьць. Я пішу крытыку філёзофскага ідэалізму на этапе яго адмаўленьня. Яна зараз прыдзе да мяне, каб падзяліць са мною радасьць работы і мысьлі.

— Добра,—зноў кажу я.

Я іду ад Макша і нясу з сабою зайздрасьць. Зайздрасьць да характва, разьлітага поўнасьцю на чалавечую дзейнасьць. Ёсьць адчуваньне радасьці ад пладатворна скончанае работы. Ёсьць грузнасьць пладатворнае работы, ад якое адчуваеш радасьць. І ёсьць радасьць чалавечых адносін, якую трэба разьліваць на пладатворную поўнасьць. Вобраз гэтае радасьці— жанчына.

Горад плыве рухам у перспэктыву фэерычных ліній.

На падножку трамваю ўскоквае Бальтазар. Ён нешта крычыць мне і махае стусінкаю так, што рука яго здаецца рукою трамваю. Пасьля, расьціраючы звон, вагон дае рух і мне чутны абрыўкі слоў, пушчаныя Бальтазарам як бы махам стусінкі.

— Шукай, шчасьлівы спадарожнік!

Трамвай зьнікае ў косай перспэктыве фэерычных ліній. Але на бруку— як бы згубіўшыся—насьмешлівымі зрэнкамі астаўся рагатаць яго твар.

— Іграй камэдыю рабства. Асьляпляйся сваімі пахваламі,—гавару я, і пераходжу вуліцу, пагардліва растоптваючы лужу насьмешлівых зрэнак.

Па дарозе я таксама купляю сьветлую рамку. Харошую сьветлую рамку з тоўстага шкла. Я таксама пастаўлю туды жанчыну. У мяне-ж ёсьць яе—такая харошая, такая слаўная—картка. Колькі чэснасьці, прастаты і самае зазыўнае праўдзівасьці. Яна скора прыдзе ў маю бытнасьць прынёсшы нявычэрпную музыку радасьці. Я загадзя пастаўлю яе, бо ведаю, што яна таксама ня хоча фальшы, каторую трэба асьляпляць жанчыну. Прастата і праўдзівасьць—заўсёды былі непасрэднымі. Я знайшоў прастату і праўдзівасьць! Хіба-ж нельга мне ганарыцца, калі я знаходжу тое чаго—разрываючы рамкі маралі—шукала гісторыя? Вітам імпэндара вэро *)—ускрыкваў яшчэ Ювэналь. І от няхай—хто зойдзе да мяне—няхай бачыць, што я таксама маю духоўную поўнасьць. І няхай—калі хоча—зайздросьціць мне.

5

Шэф сядзіць на лаўцы і кіёчкам на доле вырысоўвае лініі. З-пад нагнутага капялюша відзён сіні край акуляраў. Выплёўваючы семачкавыя лушпайкі ён нешта мармыча сам сабе.

— Схэма сьветабудовы праз акуляры вечных ідэй?—насьмешліва пытаюся я гледзячы на фантастычныя лініі.

— Я рысую схэму унівэрсальнае гармоніі сьветабудовы,—гаворыць Шэф, падымаючы кіёчак над галавою і горда гледзячы акулярамі.— Я гаварыў з духам Платона. Ён мне паказаў адлюстраваньне вечных ідэй у чалавечым пазнаньні. Які чароўны сьвет гэтых ідэй адлюстраваны ў чалавечым уяўленьні рэальнасьцю!

— У Платонавых вязьняў, каторыя бачылі сьвет толькі паводле ценяў, якія клаліся адлюстраваньнем на сьцены іхняе пяшчоры—таксама быў

*) Жыцьцё аддаць за праўдзівасьць.

чароўны сьвет уяўленьня рэальнасьці?—зноў сьмяюся я, падыходзячы блізка да Шэфа і наступаючы на графік яго сьветабудовы.

— Ты ня верыш ў прыгожасьць, якую ў сваім разьвітку нясуць ідэі,— адсоўваецца Шэф са сьвістам выплёўваючы лушпайкі.—Ты нават ня верыш у прыгожасьць сваіх уяўленьняў, каторыя фээрычны, як сны, і рассыпаюцца пры першым дотыку вульгарнае бытнасьці.

— Хто прасыпае жыцьцё, таму добра падмяняць яго хоць снамі,— кажу я,—Ты сьпіш і бачыш жыцьцё праз сон. А я матар'ялізую свае ўяўленьні і шукаю радасьці рэальнага.

— Ты пачынаеш губіць яе, бо разбураеш праекцыі.

— Я пачынаю знаходзіць. Я чакаю адказу на ліст,—кажу я і пакідаю Шэфа.

## 6

Горад плыве рухам у перспэктыву фээрычных ліній сваіх магістраляў. Перакрыжоўваючы перспэктыву фээрычных ліній, звоняць трамваі. Разносячы ток свае дзейнасьці па вуліцах сьпяшаюцца людзі. Недзе чуцён гар асфальту, што заліваецца на ходнікі. І недзе—можа ў памяці—мільганула ўў знаёмы вобраз жанчыны.

Я іду з суботніка і нясу з сабою сьлед утомы. Ён разьліты па целе грузнасьцю і адчуваньнем радасьці ад пладатворнае работы. І я нясу яшчэ сьлед жанчыны, што мільганула ў памяці.

— Ня добра насіць сваю радасьць толькі для сябе,—думаю я.—І нядобра не аддаваць яе нікому, каб не адчуваць чужое радасьці.

Адале я думаю, што ў мяне яшчэ ёсьць ласкі, каторыя не разьлітыя. Што я яшчэ не адчуваў чужых ласак, каб разьліць свае. Дзе ты, каторая зачэпіш маю бытнасьць, каб разьліць нашу поўнасьць?

Тады зноў паяўляецца вобраз Мары. Яна глядзіць на мяне вачыма нявычэрпнае зазыўнасьці і чаканьня. Яна прышла да мяне...

— Яна мабыць чакае мяне,—думаю я і павялічваю крок.

Ну, вядома, яна мяне чакае і нецярпліва выскачыла, каб сустрэць. Яна заўважае маю ўтому і адразу ператвараецца ў спагаду.

— Табе трэба адпачыць,—гаворыць яна, і вочы яе цепляцца любоўю.

— Я прынёс утому пладатворнае работы, каб ёю напоўніць нашу радасьць,—кажу я.

— Добра,—гаворыць яна.

Адале яна выцірае парушынку на маім плячы і рука яе на плячы забываецца.

— А я цябе даўно чакала,—гаворыць яна.

— Чакала?

— Чакала, гаворыць яна і хавае свой твар на мае грудзі.

— Добра,—адказваю я гладзячы яе голаў і, адчыняю дзьверы пакою.

... Пакой такі самы пусты, якім я яго і пакінуў. Апушчаная штора над вакном, і той жа самы парадак. На стале чарніліца, прэс-пап'е і забытыя рукапісы. Бюст Леніна і на сьцяне партрэт Маякоўскага, што пасьля сьмерці астаўся курыць папяросу. Такая-ж самая адзінокая няўтульнасьць.

Але на стале, у матавым бляску, што прабіваецца праз штору, я заўважаю ліст і хапаюся яго чытаць:

*Дурань,—чытаю я,—вам мабыць няма чаго рабіць і вы ходзіце па вуліцах выглядаючы каму-б паслаць ліст. Небарака рамантык! Спачуваю вам, але сабою памагчы немагу. Я не распазычваю сабе на пахвалы.*

Я скамечваю ліст і жбурляю яго як дакучлівую непатрэбнасьць. Ліст падае на падлогу і мне здаецца, што адтуль насьміхаецца вобраз Мары.

— Ганарыся,—кажу я,—ты сьмяешся з самое сябе!

— Вітаю!—паяўляецца голас і, рассунуўшы штору, Бальтазар усьпіраецца локцямі на падваконьніцу.—Ты, здаецца, пачынаеш разгадваць ісьціну?

— Пачынаю разгадваць ісьціну чалавечае нікчэмнасьці, адказваю я.

— Вітаю!—зноў ускрыквае Бальтазар і заліваецца раскацістым рогатам.—І растоптваеш нікчэмнасьць сваіх уяўленьняў,—паказвае ён на пакамечаны ліст.

— Я ніколі не растапчу свае шчырасьці,—адказваю я.

— Сырычу посьпехаў!—гаворыць ён, раптам абарваўшы рогат.—Тэзіс твае шчырасьці разростваецца ў абсалют, ён пагражае падмяніць сабою клясавасьць—барацьбу.

— А хіба клясавая барацьбе не павінна быць шчыраю!—пытаюся я.

## 7

Можа нават і ня было нічога. Можа нават ня было ні Мары, ні лістоў, ні Шэфа, ні Бальтазара, і я іх выдумаў. Запісаў, як мадэлі абстрактных суадносін. Бо чалавек носіць з сабою права шукаць. Шуканьне-ж гэта абстрагованая рэальнасьць, якую трэба дапаўняць самому. І, бывае, што ў гэтых дарогах можна блудзіць—шукаць і ня бачыць, што ісьціна пачынае набівацца сама. Законы памылак выцякаюць з законаў ісьціны.

## 8

Гэта быў грузны дзень штурму.

Перасекваючыся, па заводзе падае жалезны звон. Квадратамі шыб у фээрычнасьць урэзваюцца цэхі. Па цэхах сочыцца ток чалавечае дзейнасьці. Чакаючы права на работу стаяць глыбы новых мэталёвых сыстэм. Трэба паставіць іх на мацункі. Мы прышлі, як гаспадары свае краіны і волі, каб штурмам уключыць іх у гэтае права работы.

Я налягаю на свой вагар. Трэба яшчэ адна невялічкая натуга, каб нарадзіць патрэбны мілімэтр руху. Надзвычайна адказны штуршок. Неасіліўшы яго можна самому папасьці пад глыбу. Мне перадаецца страшэнная напружанасьць людзей, што тут-жа ў рабоце чакаюць на мой паварот і таксама трываюць апошняю сілаю. Я натужваюся яшчэ раз і адчуваю, што падаюся, што вагар пачынае вылузвацца. Сьвядомасьць працінае няўхільнасьць катастрофы. І—ужо ў роспачы—раптам аднекуль паяўляецца сіла і вагар падаецца лёгка. Катастрофа мінулася. На тварах штурмавікоў я бачу

ня было адпаведных слоў, зноў ня мог знайсьці нічога конкрэтнага, рэальнага, з чаго-б можна было павесьці гаворку.

Ён адчуваў, што Вера ня ўпэўнена ў ягонай рашучасьці, сумняваецца ў ёй. І ён чуў таксама, што ёй гэта няпрыемна, крыўдна, што яна хоча, каб ён быў інакшы—сьмелы, рашучы, мужны, каб ён быў хоць трошку гэрой.

Яму стала страшна. А што, калі ён і сапраўды не такі, якога яна хоча, калі ён ня можа, ня здольны зрабіцца такім? Ці будзе яна кахаць яго—слабога, нерашучага, палахлівага? Ці будзе яна кахаць яго зломленага, пераможанага жыцьцём?

І тут упяршыню паўстала перад ім ува ўсёй сваёй жорсткай няўхільнай прастаце пытаньне: ці кахае яна яго наогул? Ён толькі цяпер ўздумаў, што яны дасюль яшчэ не сказалі адзін аднаму гэтага традыцыйнага, задрыпанага і ўсё-ткі такога патрэбнага, неабходнага слова—«кахаю».

Чамусьці ўсплыў у ваччу прыгожы таямніча-загадкавы і надзіва самаўпэўнены твар Андрэя Шыбянкова, і яму здалося, што на гэтым твары акурат ляжыць пячатка таго гэройства, якога шукае Вера і якога няма ды й пэўна ня будзе ў яго самога.

У нутры ў Карызны займалася хмара новага дасюль нязнанага непакою.

Вера Засуліч з шчырай трывогай сачыла за ягоным настроем. Яе чулы жаночы інстынкт падказаў ёй найзручнейшы момант, калі прысьці на дапамогу яму з сваёй мілай салодкай ласкай. І як-раз тады, як занялося ў ім гэтае новае прыкрае пачуцьцё, яна кінулася да яго, моцна, падзяцінаму абшчапіла рукамі і, прытуліўшыся да яго ўсім сваім маленькім стройным целам, прашаптала:

— Ня трэба! Ну сумуй!..

Ён узяў у абедзьве рукі яе галаву і, адхіліўшы ад сябе, глядзеў ёй у твар настойным праніклівым поглядам.

— Ты кахаеш, ці не?.. Ты па-праўдзе кахаеш?.. Скажы, кахаеш?..

Яна ўпяршыню бачыла яго такога моцнага, трагічна-жорсткага, і ён ёй упадабаўся. Таму яна цалком шчыра, з чыстым сумленьнем адказала яму:

— Ну, кахаю-ж, вядома, кахаю... Ці ты ня бачыш сам?

І, вырваўшы з ягоных рук сваю галаву, яна парыўчата схавала на грудзёх у яго апалены раптоўнай чырванью твар.

Цяжка сказаць, ці знайшоў Карызна сабе жаданае заспакаеньне ў гэтым Верыным прызнаньні. Праз увесь той вечар ён з нейкай надрыўнай прагнасьцю шукаў яе ласкі, быў дзіўна настойлівы, ненасытны, быццам, няўпэўнены ў заўтрашнім дні, сьпяшаўся як мага болей зазнаць поўнага неабмежаванага шчасьця.

Галілей ткі праўду казаў некалі Марыне Паўлаўне, што стары дурней за маладога хлопца кахае...

Астаўшыся нарэшце, адна, Вера Засуліч—дармо, што была позная пара—яшчэ доўга сядзела ў глыбокай задуме. На яе прыгожым твары, яшчэ хвіліну таму насычаным гарачай пяшчотай, цяпер ляжаў выраз сухой халоднай заклапочанасьці, нібы разьвязвала яна трудную і страшэнна дакучную задачу. Потым, пакорна ўздыхнуўшы, яна з нязьменнай сваёй рупнасьцю і стараннасьцю ўзялася парадкаваць у хаце і доўга, з

цёплым замілаваньнем лядзіла, на нач сваю сьвежую напарушна чыстую, як сама яна, пасьцелю.

Ужо вапоўразьдзетая яна падышла да люстэрка і з хвілінку разглядала сябе ўважным дапытлівым вокам. Сьветлая ўсьмешка, якая мякка кранула яе чароўныя вусны, паказала, што Вера Засуліч сабой цалком здаволена.

## 12

Праз два дні пасьля гэтага брыгадзір Зелянюк атрымаў з раёна паперку, у якой яму прапанавалі зараз-жа пераехаць на працу ў другі сельсавет.

У той самы дзень позна ўвечары, адбыўшы ўсе свае ня вельмі багатыя перадвыездныя клопаты, Зелянюк зачыніўся ў сваім пакоі, у чыстай палавіне хаты сівалапаўскага селяніна-серадняка Малаха Загароўскага, і пісаў ліст у горад, да свае дзяўчыны, адкрываючы ў ім усю глыбіню свайго новага настрою.

Вось гэты ліст.

«Любая мая, дарагая Стася!

Уяві сабе стан чалавека, які разам з іншымі працуе на пабудове новага, цудоўна-прыгожага, яшчэ нідзе нябачанага дасюль будынку і якога акурат у той момант, як з шэрае масы матар'ялу пачынаюць ужо вырысоўвацца так доўга, так напружана чаканыя формы, забіраюць з гэтае работы, адрываючы ад найцікавейшага моманту яе творчага завяршэньня.

Такі прыблізна стан цяпер у мяне. Але—ты ведаеш, Стася—не у маім характары наракаць, енчыць, выказваць нездаволеньне. Я проста канстатую факт.

Мяне ў самым гарце работы, у момант яе бясспрэчнага наладжваньня перакідаюць ў другі сельсавет. Гэта—справа нашага сэкратара ячэйкі, яго сяброўская мне паслуга...

Нашыя стасункі з гэтым чалавекам, пра якога я пішу табе бадай у кожным лісьце, дайшлі да свайго крайняга пункту. У нас з ім выбухнуў адкрыты конфлікт, у выніку якога ён кінуў мне рэзкае абвінавачваньне ў групоўшчыне, фракцыйнасьці, пагражаючы «організацыйнымі вывадамі». Але мабыць трапіўся яму пад руку лягчэйшы і прасьцейшы спосаб пазбыцца мяне—і вось яго вынік. Я, шчыра сказаўшы, чакаў такога канца, бо бачыў, што я замінаю яму, што мая прысутнасьць чамусьці цяжарыць яго, нібы зьвязвае яму рукі. Я чакаў, што ён захоча вызваліцца ад мяне, але ня думаў, што гэта будзе так раптам і так проста.

Дзіўны гэта, Стаська, чалавек, па-праўдзе... Ён больш цікавіць мяне, чым абурае. Я ўпэўнены, што ў яго ёсьць у нутры нейкі захаваны гнёт, і гэты гнёт неадступна мучыць яго, вострым ражном укліняецца ўва ўсё ягонае жыцьцё. Я перш думаў, што гэта—сямейная трагедыя (з жонкай ён ужо разыйшоўся і гэтым, я ўважаю, зрабіў ёй вялікую паслугу), потым я ўпэўніўся, што й сямейныя ягоныя справы, калі не цалком, дык прынамсі ў значнай меры—вынік яго захаваных згрызот.

Я наўмысьля пашоў быў сёньня да яго разьвітацца. Ён сустрэў мяне з хмурай суровасьцю, за якой ня зусім умела схаваў сваё замяшаньне, калі не сказаць—сорам. Я паказаў яму паперку з раёну, і ён памкнуўся быў зьдзівіцца, але ў яго гэта ня вышла. Я мімаволі засьмяяўся і страшэнна раззлаваў яго гэтым, але ён зараз-жа авалодаў сабой і нават павесялеў. Мы ў шчырым сяброўскім тоне пагаварылі пра далейшы лёс тутэйшых спраў і на разьвітаньне ён, не хаваючы свае радасьці, зычыў мне ўсяго найлепшага і прасіў не парываць сувязі з іхнай ячэйкай, хоць на твары ў яго была шчасьлівая ўпэўненасьць, што ён больш мяне ня ўбачыць. Ён, небарака, ня ведае таго, што, і працуючы ў другім сельсавеце, я ўсё роўна ня буду спускаць яго з вока, што я маю на гэта поўныя свае прычыны...

Чакай, Стаська, во што яшчэ... Ты магла падумаць, што я еду з такім спакойным сэрцам таму, што сапраўды адчуваю сябе вінаватым, што я ўцякаю ад пакараньня. Любая Стася, калі ты гэтак падумала ўжо, дык глыбока мяне пакрыўдзіла. Я, праўда, рабіў некаторыя—і немалыя—памылкі ў рабоце, але каб я чуў хоць найменшую рацыю ў тых па-праўдзе жудасных абвінавачваньнях, якія ўзьвёў супроць мяне сэкратар ячэйкі, я-б, дай веры, не паехаў адсюль да высьвятленьня справы. Я еду таму, што ўважаю гэта за нясур'ёзнае, за вынік яго гарачага і, праўду сказаць, ня зусім законнага гневу, выкліканага тым, што на партыйным сходзе прайшла не яго, а мая прапазыцыя. Я, вядомая рэч, мог-бы протэставаць, мог-бы ўзьняць цэлы гармідар—у мяне адзін момант і была такая думка, але потым я рашуча адкінуў яе і пастанавіў ехаць. Усё-ткі справа гэта не прынцыповая—траціць на яе энэргію ў такі напружаны момант неразумна і нават злачынна. Апошні—да рэчы сказаць, надзвычайны, непатутэйшаму бурны—сход нашае ячэйкі гарантуе правільны шлях у далейшай рабоце, а хто яе будзе весьці—ці-ж гэта ня ўсё роўна?

Так, гэта, вядомая рэч, усё роўна, і я мушу ехаць бяз доўгай развагі і думаць адно пра тое, як брацца за новую—бязумоўна, ня менш цікавую і плодатворную, чымся тут, работу.

Так я разважыў і так пастанавіў. Заўтра я еду... І вось, напісаўшы гэтыя словы, я паспрабаваў прыслухацца да сябе, да сваіх адчуваньняў і—нашто маніць?—я пачуў, што мне цяжка, нявымоўна цяжка ехаць адсюль. Я палічыў сёньня дні, колькі перабыў я ў гэтым мястэчку, і надзвычайна зьдзівіўся, калі вышла, што я жыву тут усяго адзін месяц. Я так шчытна ўплёўся ў тутэйшае жыцьцё, што мне здаецца, нібы я тут і радзіўся. А ведаеш, Стася, чаму гэта? Па-першае, таму, што наогул час цяпер поўна насычаны зьместам, што дзень ператвараецца ў месяц, а месяц у год. А па-другое—гэты месяц быў мне новым праясьненьнем, новай—глыбокай і напружанадзейнай жыцьцёвай школай. А ты ведаеш, як прывязваецца чалавек да таго месца, да таго асяродзьдзя, у якім праходзяць хвіліны яго найбуйнейшага росту?

Слаўная, любая Стаська! Ты ня можаш сабе ўявіць, як я рад, што мне давялося сюды паехаць, што перад маімі вачмі і з маім непасрэдным удзелам праходзіць гэты вялікі гістарычны рух, які будуць некалі мо' ўспамінаць нароўне з найвыдатнейшымі старонкамі

людзкай гісторыі, нароўне з найслаўнейшымі і наймагутнейшымі рэвалюцыйнымі штурмамі! Я рад, што ўбачыў самае нутро, самую глыбіню гэтага цудоўнага працэсу перапрацоўкі нашае дзікае, чорнае, бязглуздае вёскі. Я ня толькі пазнаў—я адчуў усім нутром з агнёваяснай выразнасьцю ўсю неабходнасьць гэтае перапрацоўкі і нямінучасьць яе. Апрача таго—і можа затым мне асабліва цяжка адсюль выяжджаць—я тут спазнаўся з праўдзівымі гэроямі гэтае новае рэвалюцыі—з простымі звычайнымі людзьмі, якія сваёй сьціплай няпрыметнай адданасьцю новай справе даводзяць яе органічную зросласьць з бядняцкаю масай вёскі. Я ня маю цябе, Стаська, агітаваць за колектывізацыю, але мне хочацца толькі адзначыць, што насупар усякім варожым плёткам, усё лепшае, прогрэсыўнае ў вёсцы, што не атручана да грунту тупымі ўласьніцкімі інстынктамі ці не абдурана кулакамі, ідзе за намі. Гэтыя людзі ня ходзяць з чырвонымі сьцягамі і ня крычаць —«Даёш суцэльную колектывізацыю!»—іншы, пагаварыўшы з ім, дык зусім пакажа нібыта поўную бязуважнасьць ці недаверлівасьць. Але гэта—надворнае. Досыць разварушыць троху яго, раскатурхаць, узьняць заляжалую, зацьвілую ўжо, але багатую ў сваёй натуры творчую яго ініцыятыву, і ён пакажа дзівосы.

Завяліся ў мяне тут, Стаська, і асабліва блізкія прыяцелі, з якімі я пэўна і па ад'езьдзе ня спыню сяброўскіх стасункаў. Іх трое, і ўсе абсолютна розныя людзі. Першы—былы партызан і чырвонагвардзеец, трагічна разьбіты змаганьнем, хворы, але з дзіўна сьвежым пачуцьцём і чыстым імклівым розумам. Другі—комсамолец, мілы хлапчук, па-юнацкаму непасрэдны, просты і шчыры. І нарэшце трэці... адна жанчына...

Каб ты, хітрая, дрэнная Стаська, хоць трошачку менш была ўпэўнена ў маім каханьні, ты магла-б зайздросьціць да гэтай жанчыны. Я яе «выкапаў» выпадкова і магу з законным гонарам пахваліцца, што з маіх рук яна стала сьвядомым грамадзкім чалавекам.

Яна досыць прыгожая, пажаноцку прыемная, вабная, але, апрача таго, разумная і надзвычай чулая. Тое, да чаго мне даводзіцца прыходзіць праз цэлы гушчар лёгічных разважаньняў, яна бярэ сваім вострым інстынктам і рэдка калі памыляецца. Яна глыбока ведае вёску ці, правільней, адчувае яе, асабліва яе жаночую палавіну. З яе будзе—ды й ужо ёсьць—добрая грамадзкая працаўніца.

Я ня ведаю, у якой меры гэта можна, як кажуць, запісаць у актыў майго мужчынскага гонару, але трэба сказаць, што ад'езд мой зрабіў на яе чамусьці асабліва цяжкое ўражаньне. Яна—ці толькі прачула пра гэтую навіну—адразу прыбегла да мяне—зьдзіўленая, ашаломленая—і запытала з крыўдай у голасе:

— Ты нас пакідаеш?

Я паспрабаваў неяк пажартаваць, пасьмяшыць яе, але гэта не зрабіла на яе ніякага ўплыву. Яна з хмурай упэўненасьцю, скрозь якую прабіваўся балючы дакор, заявіла:

— Цяпер у нас нічога ня выйдзе.

Я зноў сьмяяўся, кпіў з яе змрочнага вешчаваньня, з яе бязьверыцы, і нарэшце раззлаваў яе. Яна з едкай горкасьцю ўпікнула мяне:

— Табе пэўна, што сьмешкі... Ты паехаў—і ўсё тут, а што ў нас тут будзе цяпер...

І, каб паказаць, што гэта ў яе ня пустыя бабскія прадчуваньні, яна аўтарытэтна дадала:

— Я ўжо добра знаю сваіх людзей... Нічога ня будзе... Усё скуламесіцца...

Яна супакоілася толькі тады, як мы ўмовіліся, што будзем з ёй перапісвацца і што я, як і дасюль, буду з пільнай увагай сачыць за тутэйшымі справамі.

На разьвітаньне—злуйся, ці ня злуйся, Стаська,—а мы з ёй шчыра, па-сяброўску пацалаваліся.

Гэта была мая апошняя акцыя ў гэтым мястэчку.

Цяпер ужо глухая позная ноч. У мяне ўсё гатова, і праз якіх колькі гадзін пад'едзе падвода. Я наўмысьля сказаў, каб прыехаў досьвіта, каб ня ехаць к відну—гэта мая паблажлівая ўступка сваёй слабасьці.

Я ня ведаю, ці патраплю хоць з гадзіну заснуць, бо ў нутры ні на момант не спадае нэрвовае ўзрушэньне, у якім—цяжка сказаць, што пераважае: ці жаль па мінулым ці радасьць сустрэчы з новым, невядомым і цудоўна-прывабным?

Але мне й ня хочацца спаць. Гэтыя апошнія ціхія, засланёныя глухой ноччу, гадзіны я перабуду з табой, бо я так жыва, так горача адчуваю цябе, нібы ты й сапраўды прышла да мяне, мая дарагая, родная, да немагчымасьці любая Стаська...»

Далей у лісьце ішло ўжо рознае нестасоўнае глупства, якое толькі можа вярзьці хлопец у дваццаць ці троху болей год, горача, прагавіта закаханы ў сваю дзяўчыну. Бо Зелянюк, хоць і паказваецца ў гэтым апавяданьні, як цалкам станоўчы, мала не ідэальны гэрой сучаснасьці, але й ён, як кожны жывы чалавек меў свае слабасьці.

*(Працяг будзе)*

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## Зьмітрок Астапенка

*

Высокі дом, шчасьлівы дом
Рукой сумленнай майстра зроблен.
З высокіх яблынь звоняць кроплі
У вечар за яго вакном.

Пасьля дажджу такая радасьць
Прайсьці праставалосым сад.
Няспынна пахне палісад
І сьпеюць агуркі на градах.

Я зноў прышоў у гэты дом,
Тут будзе спын маім шуканьням.
Навала шумная з дажджом
Над ім заціхла на зьмярканьні.

Нікога ў ім цяпер няма,
Нікога й ня было, прызнацца, —
Супольнікаў сваіх па працы
Я зроду жаднага ня маў.

Яны прайшлі, як шум дажджу —
З тым разышоўся, той—памершы...
Я зноў сам-на-сам тут хаджу,
Выношваючы ў думках вершы.

Увечары, калі ў сад
Урываецца наземны вецер,
Пішу на той-жа самы лад
Пад лопат яблынкава вецьця.

З гэроямі маіх паэм
Цяпер ніколі я ня ладжу —
Яны супроць адменных тэм...
Ўвесь повен сад глухога плачу

Дажджу сьвінцовых кропляў.
Вось
Я зноў адзін з сабой сам-на-сам.
Самота нялюдзкая скрозь,
Ажно задумаешся часам.

Глыбокай ноччу нада мной.
Здаецца нехта ў белым стане...
Сад пахне шалаю вясной
Ї бледны месяц на паркане.

Магчыма, гэта зноўку тая
Ў звычайныя прышла часы
Ї гладзіць ціха валасы,
Ї тое, што пісаў чытае.

Я зноў спакойны. Нада мной
Той-самы сьвет, які быў зроблен.
Сад пахне даўнаю вясной,
Ўсе дрэвы ў шуме звонкіх кропляў.

Даволі позна. Ўсе ўжо сьпяць
Ї я ізноўку ў сваіх вершах
Не адступаю ні на пядзь
Ад сьветлых дум маіх найпершых.

Да позьняй ночы прахаджу,
Наскрозь запоўнены, шчасьлівы.

---

Усё ідзе, як шум дажджу,
Як сьветлых вёснаў цёплы лівень.

1932. Верасень.

## ПРА ДУМКУ ГЭТУ

Прыношу думы з сотняй ілюстрацый
Глухога болю.
З усіх, з усіх хацеў-бы насьмяяцца,
З сябе найболей.

Хутчэй, хутчэй праз слабасьць і мізэрнасьць
Шалёным тэмпам!
З цяжкіх снапоў ня выбіць песень зерне
Халодным цэпам.

Віецца шлях і вольны, і нястрымны.
Якая шырач!
Патрэбна нам глыбокая інтымнасьць
І ў песьнях шчырасьць.

Ў дурное сэрца зазірнеце гэта —
Яно раскрыта.
Яно за нас, за вольны край саветаў,
За нашы рытмы.

Яно ня здраджвала, не прадавала,
Яно ня лгала.
Шуміць, ідзе нястрымная навала
Над земнай галай.

Есьць заклік ваяўнічым ратам,
Гул пяруновы.
Душа гудзе распаленым набатам,
Шумуюць словы.

Мы з любых песень пазмывалі плямы,
Сон ліхалецьцяў,
Наш горды шлях заўсёды перад намі,
Гарыць і сьвеціць.

1932.

## НА ШЧАСЬЦЕ ПЕСЕНЬ

Прымі мяне ў свае абыймы,
Непераможнае жыцьцё!
Рукамі дужымі, грубымі
Расклаў я сьветлы свой касьцёр.

На вогнішчы яго вясёлым
Дрыжыць мільённы шумны сьмех:
Аб чым прысьнілі мае сёлы,
Зямлёй натруджаны лямех.

Гняла пачварная прытуга
У моры згадак і надзей.
На шчасьце песень цьвёрдасьць духа
Я ня згубіў між дробных дзей.

Зьбярогшы песень белы статак,
Прайду, як сон мае зямлі.
Пакіну іншым сотні згадак,
Як тыя, што да нас прайшлі.

Начэй ня сплю ў глухую бессань
З усімі разам і за ўсіх...
А сэрца ў тым-жа ладзе б'ецца,
Як б'ецца ў сяброў маіх.

Спакойна будучыню стрэнем,
Ўва ўсіх якая уваччу.
Такім, як дыямант, як крэмень
Сягоньнячы я быць хачу,

1932 г.

## ЗАПАЛІМ ЛЮЛЬКІ

Грызьці хлеба чэрствую скарынку,
Запіваць вадой халоднай, потым
Люльку запаліць і бязупынку
Хрыпам бавіцца яе сухотным.

Хараство! Ніхто не наракае
І ніхто ня мае жаднай справы.
І часіна надышла такая,
Што усё зрабілася яскравым.

Жаднага сябра свайго ня ганю —
Усе яны, бясспрэчна, чалавекі.
Стаў спакой на ўзрушаны прыганак,
Хітра жмурыць тонкія павекі.

Гэта ўсё, канечне, паміж іншым
І ня вартае, нарэшце ўвагі...
Вось і вечар прылятае, сіньшы
Вечароў на ўзвальлях Аю-Дага.

З цішынёй апушчаных фіранак
І знаёмы з нашаю тугою, —
Нашы болі дробныя і раны,
Як ніхто умее ён загойваць.

Цішыня. Адзінае ў прыродзе,
Што паслухаць, зрэшты-бы і варта...
Праўда, я з сабою сам ня згодзен
І таму пускаюся на жарты.

Сьмейцеся... У сьмеху ёсьць здароўе,
У сьмеху звонкім, радасным, яскравым.
Каб крыві ўзьняўся пругкі ўзровень,
Каб на шчоках ружамі заграў ён.

Я сьмяюся і ў сваю гаворку
Уплятаю зьдзек халодных кпінаў.
Калі хочаце, на сэрцы горка,
Быццам нешта блізкае пакінуў.

Гэты боль ніяк не зразумець мне
І ніяк ня ўцяміць гэту горач...
Проста шкода, што сяброў ня мецьму
І ніхто са мной ня стане поруч.

Калі-б трэба—ў твар звычайнай сьмерці
Я-б зірнуў спакойнымі вачыма,
Але і ў дзівацкім гэтым сэрцы
Б'ецца радасьць за сваю айчыну.

Мне, прызнацца, каяцца дарэмна
З даўнае пары ўжо абрыдла,
Што прысьніў далёкі ход Трырэмы
І шырокі ўзьмах наземных скрыдлаў.

Люльку запаліў я ў паняверцы
І дыміцца з ціхім хрыпам люлька...
Я прыслухаўся да сэрца—сэрца
Б'ецца важка у грудзёх і гулка.

Значыць—землі знойдуцца Калумбам,
Хоць яшчэ—няскора і далёка.
І ў надхмар'і гордым і галубым
Заклікальны мкне арліны клёкат.

1932. Жнівень.

## ПЕСЬНЯ

А сонца заходзіць, сонца заходзіць
За морскую сінь, за дальнія горы...
Ударыў мне ў вокны вораг мой, злодзей—
Думка мая,
Песьня мая—
Даўнае маё гора.

Ня руш мяне, ня руш мяне, нядобры мой госьць!
Я аддаў табе ўсё, што было і што ёсьць—
Кроў сваё, сэрца сваё—
За голас твой срэбны,
Бо ні сэрца, ні кроў без цябе не патрэбны.

Весела мне, весела... ой, як весела.
Песьня мяне мучае, не дае спакою...
— На дубовым суку маці люльку павесіла,
„Сьпі, сынку, сьпі"... Махнула рукою.

Прыляцелі вятры, ліхія вятры,
Ударылі ў бубен вясельны.
Адзін з-за марэй,
Другі з-за лясоў,
Трэці з сыпучай пустэльні...

Як-жа спакінуць мне гэтую песьню?
Хочу забыцца, а выходзіць ня тое.
Позірк зрабіўся такім балесным,
Сэрца, адно, маладое.

Песьні мае ад вясны маладзейшыя,
Сны ім трызьняцца зорныя...
Зноў мне прысьнілася тая дзеўчына,
Статная і на выгляд пазорная.

Дзеўчынка мая пазорная,
Тоненькая, як былінка!
Што глядзяць твае вочкі зорныя?
Хто цябе сюды паклікаў?

У сяброў маіх ёсьць
Запал, маладосьць
(Як і ў людзей—звычайная),
А я, мая дзеўчына, зусім адзін,
Адзін, адзін да адчаю.

Я па струнах удару —
Загавораць яны...
Я такое, пайду, заграю...
Па сьцежках вясны, па сьцежках вясны,
Па сялібах нашага краю.

Ідзе вясна.
На ўвесь сьвет вясна.

Гавары, струна!
Не маўчы, струна!

Радасьць ня згублена,
Шчасьце ёсьць...

———

Будзь здарова, мая маладосьць!

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ М. ГОРКАГА

Янка Шарахоўскі

Васьмідзесятыя годы. Краіну ахутала чорная ноч рэакцыі. Прыдушанае грамадзкае жыцьцё ляжыць пад пятой бюракратыі славутага «пугала». Рэвалюцыйнае народніцтва кінутае ў цытадэлі і астрогі жандармэрыяй каранованага васьмідзесятніка перажывае хваравіты працэс пазбаўленьня ад многіх ілюзій. Траўрныя шэрагі шыбеніц, кайданны звон у сібірскіх катальнях, бяз колькі небудзь значных вынікаў барацьбы, сьведчыць аб няпрыгоднасьці для рэвалюцыі мэтаду індывідуальнага тэрору. Разначынная інтэлігенцыя, што спачувала народавольцам, або проста папаўняла іх шэрагі, часткова маўчыць, а часткова спрабуе танклявымі галасамі прапаведваць тэорыі «малых спраў». Палінялыя чэхаўскія героі, патэнтаваныя «чалавекі ў футлярах», запужаныя да сьмерці разгромам народавольцаў пасьпешна высоўваюць дэвізам свайго жыцьця, рабскае: «Як-бы чаго ня выйшла».

У такіх абставінах, з нізоў гарадзкой дэмакратыі прышоў у літаратуру, Максім Горкі. У сваіх першых творах ён у супроцьлегласьць васьмідзесятнікам адраджае культ героя, самаадданнага барацьбіта. Бадзёрасьцю, аптымізмам прасякнуты яго першыя легенды і песьні.

Вось расказвае старая Ізергіль пра юнага героя Данко.

На стэпавых прасторах жылі вясёлыя, моцныя і сьмелыя людзі. Але прышлі яшчэ больш моцныя людзі і прагналі іх з родных мясьцін у гушчары старога лесу. У лесе было шмат гнілых балот і панавала спрадвечная цемра. І гінулі людзі ў лесе адзін за адным. Доўга думалі людзі і ўжо хацелі ісьці да ворага і аддаць яму сваю волю. Але зьявіўся малады Данко і выззваўся вывесьці іх з лесу. Доўга вёў іх Данко і вось аднойчы разбушавалася навальніца, зашапталі дрэвы глуха і грозна. Людзі страцілі ўсякую надзею і хацелі забіць Данко. Тады ад вялікай любві да людзей разарваў свае грудзі Данко, выняў сваё палаючае сэрца і павёў людзей, сьвятлом уласнага сэрца асьвятляючы ім шлях. І расступіўся лес, выйшлі людзі зноў у стэп, на прастор, радасна агледзеў вольную зямлю Данко і засьмяяўся гарда. Потым упаў і памёр Данко.

У гэтай легендзе мы бачым моцную асабовасьць, якая самаахвярна аддае сябе для агульнай справы. Блізка паводле свайго ідэйнага зьместу да гэтай легенды «Песня о соколе» і «Песня о Буревестнике». Узьнёслы заклік да змаганьня ў гэтых творах яшчэ ня зусім акрэсьлены ў сэнсе свайго сацыяльна-клясавага зьместу, але бясспрэчна гэтыя творы былі таленавітым выражэньнем рэвалюцыйнага сьветапогляду.

На фоне твораў майстроў мікроскапічнага псыхоаналізу, сутонных васьмідзесятніцкіх перажываньняў, змагальныя гімны і лягенды Горкага

ўспрыймаліся надзвычайна востра. Інтэлігенцыяй, якая брала стаўку на пралетарыят, яны ўспрыймаліся, як нешта новае, што павінна пацягнуць за сабой уздым грамадзкай дзейнасьці, уздым рэвалюцыйнай думкі, новую хвалю змаганьня за лепшую будучыню. Яшчэ панавала цішыня і неба была закрыта хмарамі, але ў паветры адчувалася нешта навальнічнае. Пачыналася другая палова дзевяностых гадоў. Яна ішла пад знаком аптымістычных надзей, бунтарскіх заклікаў Горкага і першых рабочых стачак.

Але сам Горкі, хутка заўважыў разрыў паміж сваімі заклікамі і рэчаіснасьцю. У адзін з лепшых дзён свайго жыцьця ён убачыў, што яго геройчныя легенды не ўказваюць канкрэтных шляхоў барацьбы. Суб'ектыўна ён яшчэ не знайшоў тае рэальнае грамадзкае сілы, на якую-б мог абаперціся. Тады ён стварыў новую легенду «О чиже, который лгал и о дятле любителе истины». Тут ён шукаў апраўданьня сваёй яшчэ невялікай пісьменьніцкай практыцы. Але-ж на адмаўленьні пройдзенага этапу нельга было спыніцца, трэба было ісьці далей. Тады ён прагна пачынае шукаць у жыцьці той сацыяльны пласт, які-б мог зьявіцца носьбітам будучай буры.

Жыцьцё Горкага багата біяграфічнымі фактамі. Ён працаваў грузчыкам, сапожнікам, пекарам, пеша прайшоў увесь поўдзень Расіі. Жыцьцё яго склалася так, што ён меў магчымасьць блізка пазнаёміцца з асяродзьдзем дэкласаваных выкінутых за борт грамадзкага жыцьця людзей. У паасобных прадстаўнікоў гэтага асяродзьдзя яму даводзілася назіраць каштоўныя маральныя і этычныя якасьці, нездаволенасьць шэрай абыдзённічынай, вялікую сілу волі, настойлівасьць у дасягненьні сваіх мэтаў, нястрымную імклівасьць да лепшай будучыні і г. д. і г. д. Гэта былі якраз тыя якасьці, якіх так не хапала прадстаўніком васьмідзесятніцкага грамадзтва, і якія станавілі сабой элемэнты пратэсту супроць існуючых грамадзкіх адносін. Таму дэкласаваных герояў Горкаўскіх твораў «басяцкага» пэрыяду трэба разглядаць выключна з пункту гледжаньня выражаемай праз іх ідэі. У гэтым дачыненьні ня лішне напомніць словы В. Вароўскага, што «для аўтара героі яго ўяўляюць не рэальную, грамадзкую каштоўнасьць, а так сказаць, абстрактную каштоўнасьць, як носьбіты пэўных грамадзкіх якасьцяй». Гэта—надзвычайна глыбокая і верная заўвага. Скрыты сэнс яе ў тым, што паколькі людзі з падобнымі грамадзкімі якасьцямі аказваюцца па-за межамі данага грамадзтва, пастолькі само гэта грамадзтва было нікуды ня вартым. У гэтым рэвалюцыйнае значэньне «басяцкіх» апавяданьняў Горкага, у гэтым разгадка вялікага грамадзкага рэзонансу, што прыпаў на іх долю.

Некаторыя крытыкі лічаць, што ў Горкага быў пэрыяд, калі ён трымаўся таго погляду, што басякі, гардыя, нягнутыя, упартыя ў дасягненьні сваіх мэтаў зьяўляюцца той грамадзкай сілай, якая павінна аднавіць жыцьцё, перабудаваць яго. З сказанага вышэй зусім зразумела, што гэтыя крытыкі сваю наіўнасьць прыпісваюць М. Горкаму. Гісторыя аказваецца паўтараецца. З гэтае прычыны варта было-б паважаным крытыкам прачытаць ліст Горкага ў рэдакцыю «С-Петербургских ведомостей»—надрукаваны за 22 лістапада 1907 г. (№ 321), які (ліст) тым ня менш адносіцца і да іх.

Вылучэньне і падкрэсьліваньне пэўных рыс басяцкай псыхолёгіі, канцэнтрацыя ўвагі амаль выключна на гэтых рысах, няўхільна паводле ўну-

транай лёгікі вяла Горкага да ідэалізацыі басяцтва. З другога боку культ моцнай асабовасьці намячаў тэндэнцыю да апалёгіі сілы, моцных пачуцьцяў, нястрымнага разгулу інстынктаў, незалежна ад таго, якую ролю гэтая сіла, пачуцьці і інстынкты могуць сыграць у якім-бы то ні было грамадзтве, г. зн. намячаў тэндэнцыю ў бок анархічнага індывідуалізму. У творах, дзе маюць месца абодвы гэтыя працэсы, мы бачым закончаны тып басяка. Такі грузін Шакро («Мой спутник»), злодзі Чалкаш («Челкаш»), бадзяга Промтаў («Проходимец»), рыначны асілак Арцём («Каин и Артем») і інш.

Гэта бунтары, пратэстанты, цэласныя, выключныя індывідуальнасьці. Яны—безразважна, упэўнена, па воле сваіх інстынктаў дзейнічаюць у жыцьці і лічаць, што маюць права так дзейнічаць з прычыны свэёй выключнасьці, узвышанасьці над шэрым натоўпам бясхрыбётных васьмідзесятнікаў.

— Я чалавек, якому ў жыцьці цесна,—кажа Промтаў.—Жыцьцё вузкае, а я шырокі».

Або возьмем Мальву, да чаго гэта вольная, моцная і маляўнічая фігура. Але ў «Мальве» мы ўжо заўважваем і нешта іншае. У адным месцы яна гаворыць, што ёй бы хацелася паехаць далёка далёка ў мора з тым, каб нават і не вяртацца да людзей. У гэтай заўвазе выяўляецца другі, рэальны бок псыхалёгіі басяцтва. Пры ўсёй непасрэднасьці, першабытнай сіле іх натур, басякі ўсё-ж надзвычайна непрыстасаваны да жыцьця, нават больш, яны выкінуты за яго межы. Пры ўсёй іх хіжацкай этыцы, ніцшэанстве, выяўляецца, што яны яшчэ і слабыя людзі, якія жывуць дробным крадзяжом, або папрашайніцтвам. Фактычна ўся іх на першы погляд страшная этыка і ўвесь нігілізм—гэта сум аб «не такім жыцьці», гэта «сон залаты», гэта бунтарскі пратэст супроць тупога васьмідзесяцкага існаваньня. І гэта ў такой-жа ступені, у якой для самога Горкага «залатым сном» аб лепшай будучыне была ідэалізацыя басяцтва.

Каб скласьці гімн «безумству храбрых» патрэбен быў матэрыял, а лепшага за паўпралетарскіх элемэнтаў матэрыялу яшчэ ня было, бо пралетарыят толькі яшчэ складваўся, як кляса, асьвядомліваў сваю самастойнасьць, пераходзіў з клясы ў сабе ў клясу для сябе. Аб'ектыўна гэты працэс асьвядомліваньня, дыфэрэнцыяцыі выявіўся ў творчасьці Горкага ў тым, што ён ад ідэалізацыі, ад прыкрашваньня басяцтва перайшоў да яго выкрыцьця, да зрываньня з яго масак. Гэты працэс цалкам завяршыўся ў апавяданьні «Бывшие люди» і драме «На дне». Тут басякі выступаюць без рамантычных адзеньняў, як людзі, у якіх усё жыцьцё ў мінулым, як «былыя людзі». Яны ўсяго толькі жалкія, нікчэмныя, пакрамсаныя жыцьцём людзі, якіх дробны купчык Пятуньнікаў можа выгнаць з сваёй начлежкі.

Стыль ранейшых твораў, што так гармонаваў з узьнеслым услаўленьнем «безумства храбрых» ня вытрымлівае пасьлядоўнай, усебаковай праверкі жыцьцём і ў «Бывших людях» роўна як і ў драме «На дне» Горкі робіць рашучы паварот да рэалізму. Але рамантызм раньняга Горкага гэта ня нешта выпадковае, ён цалкам абумоўлен тагочаснымі грамадзкімі адносінамі. Горкі выступіў на пераломе двух эпох, выступіў выразьнікам ідэй пралетарыяту, як клясы ў сабе. Надзвычайна добра ў адным месцы зазначыў К. Маркс, што «ў пэрыяд, калі пралетарыят яшчэ не разьвіты,

а значыць і сам яшчэ ўяўляе сваё становішча фантастычна,—фантастычнае абмалёўваньне будучага грамадзтва ўзьнікае з першага, поўнага прадчуваньняў імкненьня пралетарыяту да назусімнай перабудовы грамадзтва». Такая фантастычнасьць у пляне літаратурнага паказу азначае ня што іншае, як рамантычнасьць стылю.

Але суб'ектыўна блізкасьць да пралетарыяту яшчэ ня была асьвядомлена Горкім. Таму паказаўшы адваротны бок басяцтва, ён зноў пачынае шукаць тую грамадзкую сілу, якая заклікана так пабудаваць жыцьцё, каб зьнішчыць прыгнечаньне, каб даць поўны прастор для выяўленьня творчых магчымасьцяй індывідуальнасьці. І гэта тым больш, што ён ніколі ня лічыў басяцтва здольным перабудаваць жыцьцё. Пакольki ён бачыў, што ў гэтым асяродзьдзі былі найбольш ярка выражаны элемэнты пратэсту, пастолькі ён і зрабіў іх рупарам сваіх ідэй, сваіх бунтарскіх заклікаў. Калі-ж узьнікла пытаньне аб станоўчай праграме, аб творчых грамадзкіх сілах, тады ён ясна ўбачыў усю бездапаможнасьць басяцтва і зьняўшы з іх рамантычнае адзеньне накіраваў сваю ўвагу на іншыя пласты грамадзтва.

Што-ж убачыў Горкі ў буржуазным стане? Найбольш поўна жыцьцё буржуазіі, ці канкрэтней купецтва эпохі прамысловага ўздыму, паказана ў рамане «Фома Гордеев». Адным з цэнтральных вобразаў твору зьяўляецца купец Якаў Маякін. У рамане ён выступае ў ролі буржуазнага ідэалёга, выразьніка буржуазнай філёзофіі, этыкі і маралі.

Як вядома капіталістычная сыстэма будуецца на анархіі вытворчасьці на канкурэнцыі. На базе імкненьня адолець канкурэнтаў, на базе клясавай практыкі буржуазіі выпрацоўваецца тэорыя нічым неабмяжованага эгаізму, як рухаючай сіле чалавечых паводзін.

Гэту тэорыю Якаў Маякін узводзіць у абсалютны закон чалавечага грамадзтва. Горкі надзвычайна глыбока раскрывае ўсю ўбогасьць, абмежаванасьць буржуазнай думкі, калі паказвае як прадстаўнік буржуазіі нормы паводзін уласьцівыя яго асяродзьдзю пераносіць на ўсё чалавечае грамадзтва. Гэту тэорыю Маякін спрабуе прышчапіць і праўдашукальніку Фаме:

— «Усякі сабе лепшага жадае, а што яно лепшае? Наперад за людзей зайсьці, вышэй за іх стаць. Вось і ўсе стараюцца дасягнуць першага месца ў жыцьці».

Вайна ўсіх супроць усіх—такі вечны закон жыцьця паводле Маякіна. Зразумела, што сьвядомасьць Фамы ня можа ўмясьціць гэтай воўчай філёзофіі.

Кірунак думак Маякіна асабліва становіцца зразумелым з яго гутарак з дачкой:

— «Бескарысным чалавек ня можа быць...—пераконвае ён яе,—за чужое ён ня стане біцца»... І яшчэ па другому поваду:

— «Як могуць быць усе шчасьлівыя, калі кожны хоча лепшым за другога быць. І ніколі чалавек чалавеку не ўступіць—дурні толькі гэта думаюць»...

Ён адчувае дзе яго сапраўдны вораг і таму яго гутаркі аказваюцца накіраванымі супроць рэвалюцыі і рэвалюцыянэраў. Сацыяльнай роўнасьці ня можа быць, бо кожны імкнецца стаць вышэй за другога. Зьнішчыць клясы нельга, бо чалавек можа змагацца толькі за сваё, за ўласнае, і таму

сацыялістычная арганізацыя гаспадаркі немагчыма. Аргумэнты тыповыя і для сучаснай буржуазнай думкі. На большую глыбіню буржуазная думка няздольна.

Калі ў асяродзьдзі басяцтва хіжацкая этыка была «залатым сном», аб «не такім жыцьці», была формай абароны і пратэсту асабовасьці, супроць васьмідзесятніцкай бяскрыласьці і прыніжанасьці, дык чым апраўдваецца зьвярыны эгаізм буржуазіі? Чым апраўдваецца высмактваньне сокаў з сабе падобных? Маякіных гэта надзвычайна мала турбуе, яны ня шукаюць ніякага апраўданьня, яны проста гавораць: так было, так будзе. Калі шукальнік праўды Фама ўсё гэта зразумеў, ён ударыўся ў п'яны скандал, а потым пашоў у басякі. Нават басяцтва паводле сваёй этыкі і моралі стаіць вышэй за буржуазіі.

Такі вывад фактычна зрабіў Фама і такі ідэйны зьмест укладзены ў раман М. Горкім. Такім чынам Горкі ў канцы рамана прышоў да свайго выходнага пункту. Ніякай праўды ў стане буржуазіі ён не знайшоў, наадварот, ён убачыў, што ўсе жыцьцяздольныя сілы гэтае клясы накіраваны на барацьбу за нажыву, за прыбытак, незалежна ад таго, якімі сродкамі яны здабываюцца. Прыгнечаньне чалавека чалавекам, высмоктваньне сокаў з сабе падобных у гэтым асяродзьдзі ўзьведзена ў вечны закон жыцьця.

У настойлівых пошуках сацыяльнай праўды Горкі ня раз падыходзіў да паказу ў сваіх творах і такога грамадзкага пласта, як інтэлігенцыя. Ува ўсіх гэтых творах адносіны яго да тагочаснае буржуазнае інтэлігенцыі адмоўныя. Асабліва рэзка ён пачаў выступаць супроць гэтае інтэлігенцыі пасьля таго, як у «На дне» разгрыміраваў басякоў. У «Вареньке Олесовой» ён выводзіць гадзенькага, нікчэмнага прыват-дацэнта Палканава, у «Чорте» паказвае тупасьць інтэлігенцыі ў яе адносінах да пісьменьнікаў, у радзе п'ес—«Мещане», «Дачники», «Варвары»—малюючы жыцьцё буржуазнай інтэлігенцыі, галоўны ўпор робіць на бяссэнсавасьці, непатрэбнасьці, шэрай бясколернасьці яе жыцьця.

Выступаў ён некалькі раз супроць бяз'ідэйнай, абывательскай інтэлігенцыі і з публіцыстычнымі творамі. Для гэтага варта ўспомніць яго артыкулы «О мещанстве», якія ён друкаваў у канцы 1905 г. у органе бальшавікоў «Новой жизни».

Горкі выступіў у літаратуры выразьнікам ідэй пралетарыяту, як клясы ў сабе, выразьнікам ідэй уздыму, што пачаўся ў другой палове дзевяностых год. Выступіўшы вяшчуном буры, апалёгетам «безумства храбрых», ён добра бачыў, што тагочасная інтэлігенцыя ў сытым здаволеньні сваім мяшчанскім існаваньнем зусім не нахільна падтрымліваць яго бунтарскія заклікі, што яе зусім не хвалююць ідэі сацыяльнай перапрабкі і грамадзтва. Гэтым і тлумачыцца ненавісьць Горкага да васьмідзесятніцкай інтэлігенцыі.

У пасьлядоўным разьвіцьці свайгох рэвалюцыйнага сьветапогляду Горкі прышоў да перакананьня, што сацыяльнае вызваленьне прыгнечаным можа прынесьці толькі пралетарыят. Першым больш-менш акрэсьленым вобразам рабочага ў яго творчасьці быў машыніст Ніл з п'есы «Мещане». Калі для басякоў было тыповым няструмнае анархічнае жаданьне руйнаваньня, дык у характары Ніла мы знаходзім рысы творчага напрамку, якія складаюць яго спэцыфіку, як пралетара.

— «На ўсе сродкі душы маёй,—гаворыць Ніл,—здаволю сваё жаданьне ўмяшацца ў самую гушчу жыцьця... Мясіць яго і так і гэтак, таму перашкодзіць, гэтаму дапамагчы... Вось у чым радасьць жыцьця»...

Але фігура Ніла ў «Мещанах» у пэўнай ступені трэба лічыць выпадковай, эпізодычнай. Першым творам, у якім рабочыя выступаюць, як арганізаваная сіла, была п'еса «Враги». У п'есе мяшчанскі індывідуалістычны мірок супроцьстаіць рабочаму калектыву. Высокая ідэйнасьць, маральная зьлітаванасьць гэтага калектыву выгодна вылучаецца на фоне ўнутранай убогасьці, спустошанасьці ўсякага роду індывідуалістаў.

Горкі не апісваў рабочых збоку, як назіральнік, у гэты пэрыяд ён адкрыта і цалкам далучыўся да вызваленчага змаганьня рабочае клясы і ў 1901 г. арганізацыйна аформіў свой уваход у РСДРП. Ужо з 1898 г. ён стаў бліжэйшым супрацоўнікам марксысцкага часопісу «Жыцьцё». Як актыўны член РСДРП Горкі не пазьбег праасьледваньняў з боку царскага ўраду. У красавіку 1901 г. быў абшуканы і арыштаваны ніжагародзкім жандарскім кіраўніцтвам па абвінавачваньні ў «выданьні злачынных адозваў да сормаўскіх рабочых у мэтах падбухторваньня іх да непарадкаў». У 1905 г. быў пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасьць, як аўтар рукапісу пра 9 студзеня. У гэтым-жа годзе пасьля Кастрычніцкае стачкі выдае газэту «Новая жизнь»—орган бальшавіцкай фракцыі РСДРП. Скампрамэнтаваны ў вачох ураду рэвалюцыйнаю дзейнасьцю, Горкі ў 1909 г. едзе за мяжу і пасяляецца на востраве Капры. У 1906 г. выходзіць яго новы буйны твор—аповесьць з жыцьця рабочых «Мать». Яна была моцна пакрэмзана цэнзурай, але па праву мела вялікі посьпех у рабочага чытача. Аповесьць была стрымана сустрэнута тагочаснай, галоўным чынам меншавіцкай, крытыкай, паводле меркаваньняў мастацкага парадку. У. І. Ленін ацаніў аповесьць і з ідэйнага і з мастацкага боку надзвычайна высока.

За мяжой «Мать» вышла ў поўным выданьні, разышлася ў мільённых тыражох у дадатках да газэт і часопісаў і хутка стала настольнаю кнігаю заходняга рабочага. Марксысцкі крытык В. Вароўскі ў 1910 г. пісаў пра аповесьць:

«Жадаючы намаляваць шырокую карціну абуджэньня самасьвядомасьці сярод рабочых і нарастаньня рабочага руху, М. Горкі вылучыў некалькі тыповых фігур, на гісторыі разьвіцьця якіх паказвае ён усю практыку барацьбы сучаснага сьвядомага пралетара з прадпрыемцамі, з уладай, што стаіць на іх баку, нарэшце, з сваімі-ж несьвядомымі таварышамі».

К часу напісаньня «Матери» Горкі акрэсьлена склаўся, як пралетарскі пісьменьнік і зусім правільна лічыцца аснавальнікам пралетарскай літаратуры. Фактычна гэта было першае мастацкае палатно, першы выдатны твор пра рабочых у рускай літаратуры. М. Горкі першы стварыў яркія вобразы рэвалюцыянэраў-рабочых, самаадданых барацьбітоў за сацыяльнае вызваленьне працоўных, за сацыялістычную перабудову грамадзтва.

Наступным буйным творам была «Исповедь», у якой Горкі зрабіў адхіленьне ў бок богашукальніцтва і якая з гэтае прычыны была асуджана марксысцкай крытыкай.

Богашукальніцкія настроі ў Горкага былі нятрывалымі і хутка ён ад іх зусім вызваліўся. У 1910-12 гг. ён піша новы буйны твор «Городок Окуров», які ўносіць новыя рысы ў стыль Горкага. Гэты твор фактычна

становіць сабой канец публістычнага рэалізму і пачатак рэалізму «арганічнага». Калі ў «Матери» можна бачыць сваеасаблівы сымбіоз рамантызму з рэалізмам, што сказалася на мове, на вобразах, на структуры самой аповесьці (гераіня—маці, як даніна рамантызму) дык у «Городке Окурове» элемэнты рамантызму зусім зьнікаюць, пры чым рэалістычны стыль, з нахілам да дэтальнай абмалёўкі пэрсанажаў, падрабязнага паказу быту дасягае асаблівага майстэрства.

І да кастрычнікавай рэвалюцыі і пасьля яе Горкі быў ў блізкіх і добрых адносінах з У. І. Леніным, паміж імі ішла вялікая перапіска.

Ленін надзвычайна паважаў Горкага, усімі сродкамі стараўся захаваць яго для пралетарыяту. Яшчэ ў 1910 г. ён пісаў пра яго:

«Горкі—бязумоўна буйнейшы прадстаўнік пралетарскага мастацтва, які шмат для яго зрабіў і яшчэ больш можа зрабіць... Горкі—аўтарытэт у справе пралетарскага мастацтва, гэта—бясспрэчна»...

Трэба адзначыць, што дакастрычнікавая марксыцкая крытыка—Вароўскі, Луначарскі, Каменеў—у сваіх артыкулах таксама, як і Ленін ацэньвалі Горкага, як пралетарскага пісьменьніка. Спробы часткі сучаснай крытыкі, выступаўшай пад марксыцкім сьцягам (Гарбачоў, Кубікаў, Пераверзеў), а на справе працягваўшай меншавіцкую недаацэнку Плеханавым бальшавіка-Горкага, спробы зрабіць з Горкага прадстаўніка мяшчанства, дробнай буржуазіі былі пралетарскай грамадзкасьцю выкрыты і кваліфікаваны, як варожая вылазка на фронце літаратуры.

У пасьлярэвалюцыйны пэрыяд зьяўляецца шэраг твораў Горкага напісаных у мэмуарным пляне, пляне ўспамінаў («Сторож» «Первая любовь», кніга пра Л. Н. Талстога), а таксама ў пляне аўтабіаграфічным («Детство», «В людях», «Мои университеты»). У гэтых творах канчаткова выпрацоўваецца стыль, які пачаўся ў «Матери» і сфармаваўся ў асноўных рысах у «Городке Окурове». Знадворна спакойнае разгортваньне падзей, старанная, дэтальная абмалёўка характараў і палажэньняў характарызуе творчы мэтад пісьменьніка на гэтым этапе. Але за знадворна спакойным апавяданьнем у «Городке Окурове» хаваецца абураны пратэст пісьменьніка-рэволюцыянэра супроць усяго гэтага жаху акураўскай Расіі, з яе фактычнымі гаспадарамі героямі «цёмнага царства» Маякінымі, Шчуравымі, Бугровымі, з яе косным і зьверскім бытам, з усім яе беспраўем і бесправасьветнасьцю.

У «Деле Артамоновых», якое выйшла пасьля рэвалюцыі, Горкі зноў вяртаецца да паказу буржуазіі. Раман ахапляе тры пакаленьні адной сям'і з асяродзьдзя буйной буржуазіі. Першае пакаленьне—гэта прадстаўнікі, перыяду пачатковага накапленьня, малакультурныя, але надзвычайна прадпрыймчывыя буржуа. У другім пакаленьні адбываецца працэс эўропэізацыі, авалоданьня культурнымі здабыткамі. Трэцяе пакаленьне ўвасабляе працэс фізычнага і сацыяльнага выраджэньня буржуазіі.

Новы буйны твор вялікага пісьменьніка пралетарыяту аповесьць «Жизнь Клима Самгина» напісаны таксама ў мэмуарным пляне. Першы том аповесьці зьявіўся ў 1927 г. З таго часу выйшла тры тамы (аповесьць ня скончана). Твор прысьвечаны інтэлігенцыі. Першыя тры тамы ахопліваюць пэрыяд з 80 гг. XIX стагодзьдзя па пэрыад рэакцыі пасьля рэвалюцыі 1905 г. уключна. Крытыка неаднойчы называла «Клима Самгина» рускімі Ругон-Маккарамі. І сапраўды твор па ахопу часу, падзей, па ба-

гасьці чалавечых вобразаў, гістарычнага, бытавога матэрыялу, ня ўступае Золя і ў гэтым дачыненьні ўяўляе з сябе выключнае зьявішча ў сусьветнай літаратуры. Тут прамысловы ўздым 90-х год, першыя ўспышкі барацьбы рабочых з прадпрыемцамі, узьнікненьне палітычных партый, кадэты, акцябрысты, эсэры, сацыял-дэмакраты, раскол РСДРП на бальшавікоў і меншавікоў і г. д.

У аповесьці захоўваецца славутая «бесфабульнасьць» Горкага, якая ў свой час так цікавіла эўрапэйскую крытыку. Разгортваньне твору акрэсьліваецца поступам і змаганьнем сьветапоглядаў, пры чым гэтае змаганьне раскрываецца матэрыялістычна, як змаганьне клясавых формацый. У цэнтры твору стаіць паўлегальная, калярэвалюцыйная інтэлігенцыя. Рэчаіснасьць, падзеі падаюцца праз успрыйманьне адваката Кліма Самгіна, тыповага згодніка, які з першага дня сьвядомага жыцьця стараецца захаваць «свабоду асабовасьці», прымірыць няпрымірымыя клясавыя супярэчнасьці.

«Клім Самгін»—цэнтральная фігура эпапэі—выведзены ў рысах такіх закончаных, так мастацкі аформлена, з такой вычарпальнай паўнатой, што імя яго магло-бы стаць такім-жа «нарицательным», як імя Обломава. Не здарыцца гэта толькі таму, што мы жывём у новым сьвеце ў параўнаньні з тым, які паказаны ў трох тамох «Сорока лет». Самгіны забіты гісторыяй. Лютаўская рэволюцыя, калі-б яна разыгралася паводле рэцэпту меншавікоў і эсэраў, дала-б ім перамогу. Але за Лютым прышоў Кастрычнік, і глеба, на якой выраслі Самгіны, была пераворана нанава і засеяна іншым насеньнем. Самгіны яшчэ засталіся, канешне. Яны нямала напаскудзілі і пасьля Кастрычніка, паскудзяць яшчэ і цяпер, але яны не акрэсьліваюць ні сутнасьці, ні нават паверхні нашай рэчаіснасьці. Толькі таму слова «самгіншчына» не набудзе такога значэньня і распаўсюджаньня, як слова «абломаўшчына» [1]).

Праца над «Климом Самгиным» ішла роўналежна надзвычайна энэргічнай публіцыстычнай дзейнасьці Горкага за апошнія годы. На першы погляд здавалася, што аповесьць, якая пішацца нібы на нэйтральным матэрыяле слаба вяжацца з колам ідэй і настрояў Горкага—гераічнага змагара за сацыялістычную айчыну, але раптам у час судовага працэсу супроць шкоднікаў з прампартыі і бюро меншавікоў аказалася, што гэтыя-ж пэрсанажы асуджаны яшчэ раней мастацкімі сродкамі, пісьменьнікам пралетарыяту М. Горкім у «Климе Самгине». Гэтым самым была ўстаноўлена бясспрэчная палітычная актуальнасьць і надзеннасьць твору.

«Клим Самгин» для Горкага—нешта накшталт кандэнсанаванага паўтарэньня, праверкі пройдзенага шляху, праверкі з пазыцый трыбуна-агітатара за сацыялістычнае, бясклясавае грамадзтва, якое ствараецца на шостай частцы сьвету.

Адзін за адным на працягу апошніх год выходзяць з-пад пяра пісьменьніка сусьветнага значэньня поўныя рэвалюцыйнага запалу заклікі, да клясавай пільнасьці, да бязьлітаснай барацьбы пралетарыяту СССР з клясавымі ворагамі («К рабочим и крестьянам», «Контрреволюционерам вредителям», «Если враг не сдается, его уничтожают»), артыкулы-адозвы да заходня-эўрапэйскіх рабочых і інтэлігенцыі, аб пераможным поступе

1) К. Зелинский, „О тех, из-за кого болен мир“.

сацыялізму і перавазе сацыялістычнай формы гаспадаркі над капіталістычнай, аб культурнай рэвалюцыі і пераробцы чалавечай псыхікі, аб канцэнтрацыі культурных сіл чалавецтва пад сьцягам салідарнасьці з будаўнікамі сацыялізму («О цинизме», «Ответ интелигенту», «История молодого человека» і інш.).

Вялікі пралетарскі пісьменьнік М. Горкі ў першых шэрагах міжнароднага пралетарыяту з энтузіязмам юнака змагаецца супроць пагрозы новай імпэрыялістычнай вайны, за абарону бацькаўшчыны працоўных СССР («С кем вы мастера культуры» і інш). Гэта змаганьне не абмяжоўваецца толькі публіцыстычнай дзейнасьцю. Для таго, каб поўнасьцю ўявіць сабе гэта, досыць згадаць пра арганізацыю Горкім разам з Анры Барбюсам і Рамэн Роляном антываеннага кангрэсу. Галандзкі ўрад абараняючы справу буржуазіі ня пусьціў Горкага на кангрэс, але гэта не перашкодзіла пачуць абвінавальны прысуд супроць мілітарысцкага імпэрыялізму больш шырокай, чым заля кангрэсу аўдыторыі—працоўным усяго сьвету. Горкі зьяўляецца ініцыятарам стварэньня гісторыі грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык і заводаў СССР, паказу гораяў пяцігодкі ў літаратуры і г. д.

Грамадзка-палітычная дзейнасьць Горкага за некалькі апошніх год гаворыць аб перамозе чалавечае волі і клясавае сьвядомасьці над законамі ўзросту і лішні раз пацьвярджае ўсю моц, усю глыбіню, усю пладатворнасьць пралетарскага сьветапогляду.

Лепшы крытэры—практыка.

# „ШМАТ Я ДЗІУНАГА БАЧУ, А ПАДНЯЦЬ—НЕ МАГУ“

## І. Плашчынскі

Рост нашай мастацкай літаратуры, і паэзіі ў тым ліку, зьяўляецца бясспрэчным фактам. Але-ж гэта ні ў якім разе ня можа служыць якой-небудзь прычынай для абежных заўваг пра надзвычайна адмоўныя моманты, якіх так багата і асабліва ў паэзіі. Пра гэта трэба гаварыць, падкрэсьліваць і выпукляць, гаварыць не наогул, а разглядаючы кожную паасобную рэч. Падкрэсьлівае, што лепшыя творы нашай паэзіі зьмяшчаюць у сабе столькі адмоўнага, лёгкавеснага, штампаванага, што яно заслугоўвае выключнай увагі. Гэта хвароба набывае агульны характар, адмаўляць чаго ні ў якім разе нельга і немагчыма адмовіць, калі выходзіць не з агульных разваг, а з аналізу канкрэтных твораў.

Выходзіць нямала зборнікаў вершаў, друкуецца шмат паасобных вершаваных твораў і як верны сябра, бадай, заўсёды суправаджае чытача вялікае незадаваленьне. Абыватель, які ня хоча турбаваць сябе лішнімі клопатамі, які лепш будзе прыслухоўвацца да гаворкі свайго жывата, раней чым прымусіць сябе над чым-небудзь задумацца—гэты абыватель можа зьдзівіцца, пра якое незадаваленьне ідзе гутарка. Гэта-ж усе і ўсюды найчасьцей гавораць пра вялікі рост. Значыць незадаваленьне ростам, можа зьдзіўлена паціснуць плячыма разумовая просталінейнасьць і кастрацыя.

Чытаеш аднаго аўтара, другога, чытаеш тое, што ім напісана ўчора і тое, што ён напісаў сёньня—нездаваленьне застаецца, а часамі становіцца нават большым. Здараецца, што чым больш чытаеш, тым большае нездавальненьне. Узьнікае штосьці накшталт нейкай простай прапарцыянальнасьці—матэматычная формула. Аўтараў-жа шмат (ня два і ня тры) і кожны з іх мае рэдка адзін, найчасьцей некалькі зборнікаў. Дзіўна, што-ж выклікае нездавальненьне, адкуль яно і які характар яго?

Зусім простая і звычайная рэч. Справа вось у чым.

Наша паэзія занадта мала хвалюе, бо рэдка зьмяшчае ў сабе глыбінлёгка і хутка, замест удумлівага і напружанага чытаньня. А чытаецца яна так таму, бо вельмі мала ставіць вялікіх і глыбокіх пытаньняў, бо вельмі слаба нітуецца глыбокім і складаным думачным строем.

Наша паэзія занадта мала хвалюе, бо рэдка зьмяшчае ў сабе глыбінныя чалавечыя адчуваньні і перажываньні, ці дакладней кажучы—рэдка гасьцюе ў ёй шырыня і напружанасьць іх паказу, што толькі і можа хваляваць. Тут часта ёсьць шмат клічнікаў, пытальнікаў і шматкроп'я і так мала ўзьнятасьці ў прастаце і звычайнасьці.

Наша паэзія зусім невыстарчальна навучае нас, невыстарчальна ўзбагачвае нашу жыцьцёвую практыку, бо найчасьцей ідзе шляхам павярхоўнасьці паказу, замест таго, каб раскрываць жыцьцё ва ўсёй ягонай скла-

данасьці і ня менш супярэчлівай велічы, у яго характве нязвычайнага і выдатнасьці звычайнага, у яго старым поўзаньні і рэвалюцыйна-мужнай хадзе, у ягоных дужых думках і бясьсільным думаньні, у ягонай мізэрнасьці старога, нязвычайнасьці росквіту і сапраўднае велічы новага, у яго ўміраньні ўчарайшага і цяжкім, але затое глыбока радасным вырастаньні маладосьці рэвалюцыйнага. Гэта значыць, што нашай паэзіі бракуе хады працэсу, яго мастацкага абагульненьня і вельмі шмат у ёй нейкага агульнага матэматычнага фіксатарства, якое, аднак, вельмі далёка ад далёка ня простай, а глыбока складанай «формулы» сучаснасьці, якую дарэмна шмат якія паэты так лёганька спрабуюць, разьвязаць праз шаблёнізаваныя эпітэты і мэтафары, фарбуючы іх у чырвоны колер. Наша паэзія забываецца на шырокі плян трагедыйнага паказу.

Наша паэзія вельмі часта бывае занадта схэматычна-рацыяналістычнай, бо не заўсёды ёй удосталь думачнай «страстности», якая падымае паэзію на вялікія вышыні эмацыянальнага. Там-жа, дзе няма думачнай «страстности», там ня можа быць і глыбокага пачуцьця, без чаго паэзія становіцца нейкай гібрыднай формай. Замест голасу рэвалюцыйнасьці, паўнакроўнай ідэёва-пачуцьцёвае ўзьнятасьці ў нашай паэзіі падчас чуваць галасок сантымэнтальнага сюсюканьня, ці трэск сухога і хадульнага дэклямаратарства.

Нашай паэзіі бракуе вялікага адчуваньня свайго аб'екту, таму ён выходзіць, адзетым у вопратку паэзіі, бяз тэй рэальнай важкасьці, якая мімахоць кладзе яго на чытачовы рукі і прыкоўвае яго вочы, выклікаючы ў ім вялікую ўзбуджанасьць. А гэта выходзіць так таму, што шмат якія з нашых паэтаў вельмі мала ці невыстарчальна клапоцяцца над вывучэньнем зьявы, якую яны хочуць паказаць, ня імкнуцца пагдядзець на яе так, каб убачыць у новым сьвятле, падыйсьці да яе сваеасабліва, па-новаму, рукамі ўзяцца за яе канкрэтную адчувальнасьць. І таму, бадай, на кожным кроку ў розных аўтараў агульныя і нязвычайна падобныя месцы, што прыводзіць да сьціраньня ўласнай індывідуальнасьці. І таму—словы і словы без самое зьявы, бо пра яе адно гаворыцца, замест паказваньня, каб загаварыла сваім голасам сама зьява. Папраўдзе кажучы, абрыдла слухаць таго паэта, які і раніцай і ўдзень, увечары і ўночы—цэлыя суткі цьвердзіць пра сваю аддаласьць сацыялістычнаму будаўніцтву, так мала паказваючы канкрэтны поступ гэтага будаўніцтва. Голыя словы ніколі не пераконвалі нікога, тым больш сёньня.

І от, з тае прычыны, што ў нашай паэзіі занадта шмат агульных месц, яна мала ведае канкрэтнае тэматыкі, паказу канкрэтных зьяў. Я падкрэсьліваю на словы—паказу канкрэтных зьяў, бо мы маем справу не з паказам, а з называньнем іх, што не адно і тое. А гэта значыць, што наша паэзія ў значнай ступені ідзе найбольш лёгкім шляхам, які не вымагае асаблівых турбот.

Нашы паэты вельмі мала працуюць над мастацкім словам. І таму ў іх яно вельмі аднастайнае, падчас становіцца наскрозь рытарычным, губляючым праз гэта сваю мастацкую прыроду. Гэта аднастайнасьць мастацкага слова так кідаецца ў вочы, слоўная абмежаванасьць часамі так выпірае, што прачытаўшы некалькі вершаў з таго ці іншага зборніка, бывае можна характарызаваць усю яго мову. Трэба з усёй выразнасьцю падкрэсьліць, што ў нас работа над мастацкім словам не пастаўлена на патрэбную яму мастацкую вышыню, што не адчуваеш упартай і вялікай над ім работы. А гэ-

га-ж адзін з важнейшых элемэнтаў твору. Калі гаворыцца, што сьветапогляд вызначае сабой сацыяльную, а значыць і мастацкую вартасьць твору, то гэтым самым зусім не сьцьвярджаецца, што чамусьці іншаму адводзіцца другараднае месца. Глыбіня і шырыня сьветапогляду ў мастацкім творы раскрываецца мастацкімі сродкамі і ніякімі іншымі. Таму, чым вышэй будуць гэтыя сродкі, тым будзе большая чыннасьць на чытача і сьветапогляду, чым разнастайней будуць яны, тым будзе большая эмацыяльная яркасьць сьветапогляду, гэта значыць ён будзе ўплываць на чытача найбольш дзейным і глыбокім спосабам.

Зразумелая рэч, што адзначаныя моманты далёка ня вычэрпваюць усяго адмоўнага нашай паэзіі, як і не характарызуюць усяе паэзіі. Але яны і не зьяўляюцца толькі прыватным і малазначным. Гэта набыло даволі шырокі характар, у тэй ці іншай ступені стасуецца да значнага ліку паэтаў.

І той, хто толькі любіць цьвердзіць пра рост і ня хоча заўважаць усяго адмоўнага, што спадарожнічае гэтаму росту, ці зьвяртаючы на адмоўнае нейкую ўвату наогул,—той не дапамагае росту, а ўпарта шкодзіць яму, бо знаходзіцца ў стане абывательскага захапленьня, у стане мяшчанскага аптымізму. Толькі літаратурны і палітычны пашляк можа думаць, што падкрэсьліваньне адмоўнага ў нашай паэзіі ўжо ёсьць адмаўленьне ці нявызнаньне яе росту, што стасуецца да ўсяе нашай паэзіі цалкам. Такое падкрэсьліваньне ня мае нічога супольнага са сьцьвярджэньнем якоганебудзь упадку. Гэта азначае толькі тое, што падкрэсьленае адмоўнае не зьяўляецца выпадковым, але, набыўшы шырокі характар, яно не вычэрпвае, не пакрывае сабою цалкам усяе зьявы. Гэта азначае, што пытаньне пра зьнішчэньне адмоўнага павінна вырашацца ў пляне непасрэднае і шырокае практыкі, што, пра адмоўнае трэба таварыць не як пра ўласьцівасьць творчасьці толькі паасобнага паэты (яно тут індывідуалізавана), а куды шырэй. Гэта азначае, што нашы агульныя патрабаваньні, патрабаваньні нашага часу стаяць куды вышэй таго, што дае паэзія. Гэта азначае, што наша сучаснасьць патрабуе ад паэзіі глыбейшага свайго адлюстраваньня на карысьць свайго-ж разьвіцьця. Гэта азначае, што наша паэзія яшчэ далёка не заняла свайго законнага месца ў агульным змаганьні за сацыялізм. Гэта азначае, што ідэёва-эмацыянальны ўзровень яе далёка невыстарчальны, што паэзія невыстарчальна напоўнена ідэёва-пачуцьцёвай складанасьцю і шырынёй нашага часу. Гэта, нарэшце, азначае і тое, што паэты не з выстарчальнай сур'ёзнасьцю ставяцца да свае творчасьці, каб належна перамагаць яе адмоўнае.

Вось пра ўсё гэта і трэба гаварыць, не гаварыць наогул, а разглядаючы кожны паасобны твор, паказваць як гэта прыводзіць да зрываў у кожным канкрэтным выпадку, падкрэсьліваць, выпукляць, не баючыся праз гэта самае засланіць дадатнае, чым характарызуецца той ці іншы твор у агульнай творчасьці паэты.

Зразумела, што ўсё адзначанае не зьявілася само праз сябе. Наш сёнешні літаратурны працэс зьмяшчае ў сабе значную долю элемэнтаў перабудавальнага парадку. А кожная перабудова ў больш вышэйшае, становячы сабою зьяву вялізарнага дадатнага значэньня, так сказаць ідэалёгічнае ўзыходжаньне, нямінуча будзе ў сабе зьмяшчаць і элемэнты адмоўнага, невыстарчальнага, пэўную вузасьць ахопу і мастацкага сынтэзу рэчаіснасьці. Менавіта, шырокага ідэёва-мастацкага сынтэзу і не стае знач-

най частцы нашай паэзіі, месца чаго часта займае паўзучая канстатацыя фактаў і мэханічнае іх нанізваньне там, дзе паэта хоча даць шырокае палатно. Што з гэтага можа выйсьці—кожнаму зразумела.

Але перабудова перабудовай і яна не зьяўляецца ідэалёгічным апраўданьнем для паэты ягоных недахопаў. Наадварот. Бо ў такім разе адмаўлялася-б актыўнасьць суб'екту, яму-б адводзілася месца інэртнага плаваньня па хвалях. Вось чаму, гаворачы пра гэтыя недахопы, трэба асабліва і перш за ўсё падкрэсьліць, што ня ўсе паэты з належнай самакрытычнасьцю ставяцца да выбранага імі шляху ідэёва-творчае перабудовы, зусім мала над гэтым (перабудовай) працуюць у параўнаньні з усёй складанасьцю самога працэсу гэтае перабудовы.

Да паэтаў, якія перажываюць ідэёва-творчую перабудову, належыць і Максім Лужанін, паэзія якога ў значнай ступені зьмяшчае вышэй адзначаныя моманты адмоўнага. Я і спынюся на апошнім і найбольш буйным Лужанінавым творы—«Галасы гарадоў», які надрукаваны ў пяці апошніх нумарох часопісі «Узвышша» за 1931 г.

Каб правільна ацаніць «Галасы гарадоў» у творчым разьвіцьці паэты, ні ў якім разе нельга ўпускаць з-пад увагі таго, якой была ягоная творчасьць у недалёкім мінулым.

А ня так даўно Лужанінава паэзія была зусім адменнай, іншай ад тае, якой яна стала цяпер. Бязумоўным фактам зьяўляецца тое, што паэта прарабіў вялікую перабудаваўчую работу. Гэта зусім не адмаўляе аднак таго, што можна не згаджацца са шляхам гэтае перабудовы, ці дакладней кажучы з творчым мэтадам і прынцыпова яго адмаўляць, як мэтад, што супярэчыць вялікай і глыбокай паэзіі. На гэта і трэба зьвярнуць галоўную ўвагу.

Якіх-небудзь два-тры гады таму назад Лужанінава паэзія была паэзіяй глыбокай замкнутасьці, адасобненасьці ад нашай сучаснасьці, паэзіяй роспачы і тугі, незадаваленьня і авеяных містыкай жаданьняў ілюзорнага, няіснаванага. Гэта была паэзія сацыяльнага ўпадку і бяскроўнасьці, але паэзія таленавітая, хоць і глыбока рэакцыйная. Далейісьці гэтым шляхам нельга было. Гэта зразумеў і сам паэта.

Патрэбна была вялікая ўнутраная работа, каб стаць на шлях, што вядзе ў сьвет шырокіх грамадзкіх тэм, што зьнітоўвае творчасьць з аб'ектыўным ходам рэвалюцыйнага працэсу сучаснасьці, што дае правільную ягоную пазнавальнасьць і прыводзіць да адчуваньня ягонай пульсацыі, гэта значыць паўстала неабходнасьць ідэёва-пачуцьцёвае перабудовы, у кірунку набліжэньня да сьветапогляду пралетарыяту. А стаўшы на гэты шлях, Лужанін карэнным чынам зьменьвае тэматычны плян свае творчасьці—актуальна-грамадзкае пачынае займаць у ёй дамінантнае палажэньне.

Праз «Кастрычнікам, Ліпенем, Маем», «Галасуе вясна за вясну» і «Аднагалосна» Лужанін прышоў да «Галасоў гарадоў».

«Галасы гарадоў»—зьяўляючыся найбольш буйным творам Лужаніна, вельмі выразна паказваюць, як на значны крок у ідэёва-творчай перабудове паэты, гэтак і на вялікія адмоўныя бакі гэтае перабудовы, чаго мэханічна зьняць нельга. Гэты твор пуката выявіў глыбокую памыл-

кобасыць сучаснага Лужанінскага творчага шляху, міжвольнае абмежаваньне паэтам сваіх здольнасьцяй, але пра гэта пасьля.

**Сьмешнавата**
**цяпер**
**пра неба,**
**цікаўнейшая рэч—**
**зямля!**

Гэтыя словы, узятыя з «Галасоў гарадоў», у пляне творчым азначаюць, што Лужанінава творчасьць напаўняецца зьместам нашага часу, што ў яго паэзіі пачынае адчувацца пульс нашае вялікае эпохі, пульс клясавага змаганьня, што паэта асэнсоўвае нашу рачаіснасьць не старонячыся ад яе, а бяручы за сваю, як вялікую і нязвычайную рачаіснасьць, рачаіснасьць упартае і вялікае творчасьці, што паэта пачынае жыць клопатамі і энэргіяй тых, хто творыць гэту рачаіснасьць. У гэтым сэнсе «Галасы гарадоў»—глыбока рэалістычны і дзейны твор, глыбока зьвязвае паэту з нашым часам.

З другога боку, наша рачаіснасьць бярэцца паэтам не сама па сабе, ёй кантрастуе рэчаіснасьць капіталістычная,—як поўная працілежнасьць нашай. Гэты кантрастны плян зьяўляецца асноўным. У роўніцы яго ставіцца і вырашаецца Лужаніным пытаньне рэвалюцыйна-нацыянальнага вызваленьня працоўных Заходняе Беларусі. Як-жа паэта адолеў гэты плян кантрасту, як-жа ён вырашае пытаньне рэвалюцыйна-нацыянальнага вызваленьня працоўных Заходняе Беларусі, наколькі яму ўдалося даць у пляне разьвіцьця гэтыя дзьве рачаіснасьці, што ён узяў тут за асноўнае і прынцып паказу,—вось пытаньні, што ў першую чаргу павінны нас цікавіць.

У чым-жа «Галасы гарадоў» па Лужаніну, што складае іх асаблівасьць, якімі думамі і імкненьнямі яны гавораць, ці дакладней кажучы, што хацеў выразіць у сваім творы Лужанін? Як ужо адзначалася, узятая тэма Лужаніным разьвязваецца ў пляне супрацьстаўленьня нашай рачаіснасьці капіталістычнаму сьвету. З аднаго боку—гэта галасы глыбока-адменных рачаіснасьцяй, а з другога—у іх чуваць аднолькавае і роднае. Першае—гэта: тут галасы магутных Днепрабуду, Волгі і Дону, галасы вялізарных гігантаў сацыялізму, вялікай творчае энэргіі вызваленых працоўных,—там—галасы сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і зьдзеку, распуста і разбэшчанасьць, скрып шыбеніц і турэмныя краты, галасы панурых жабрацкіх сьпеваў і катаваньне,—гэта галасы, што нагадваюць паэту тыя, якімі ў мінулым поўніліся неабдымныя прасторы Расіі няволі і панаваньня стану «крывёю набухлых». І другое—у галасох і тых і другіх гарадоў ёсьць злучальнае аднолькавай сацыяльнай накіраванасьці: гэта агульнае змаганьне працоўных за рэвалюцыю пад кіраўніцтвам рабочае клясы, гэта, хоць цяжкая, але ўпэўненая і ўпартая хада і набліжэньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, рэвалюцыі бязьлітаснай і крывавай, рэвалюцыі суровай клясавай помсты і нябывалагаператварэньня сьвету. Заходняя Беларусь—толькі частка ў гэтай агульнай хадзе.

І нарэшце, «Галасы гарадоў»—гэта выражэньне вялікага паэтавага захапленьня і адданасьці нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, клясавае нянавісьці да капіталістычнага сьвету крат і распусты, выражэньне ўпэўненасьці ў рэвалюцыйным яго зьнішчэньні, у перамозе тых, каго сёньня там пасылаюць на шыбеніцы і кідаюць за краты; выражэньне разуменьня,

што веліч нашага будаўніцтва набліжае сьмерць капіталістычнаму сьвету і ўзмацняе інтэрнацыянальную еднасьць працоўных. Гэта захапленьне дужасьцю нячуваных у нас перамог над бунтоўнай стыхіяй, якая падначальваецца намі для нашае-ж карысьці. Гэта жаданьне, каб увесь сьвет будаваўся «ў бальшавіцкім пляне». І апошняе—гэта ўсьведамленьне месца паэты ў нашай сучаснасьці, як баявога паста на рыштаваньнях сацыялістычнае будоўлі.

«Галасамі гарадоў» Лужанін гаворыць, што толькі праз пралетарскую рэвалюцыю вырасьце новая і сапраўдная радасьць гарадоў таго сьвету, які сёньня заліты кроўю працоўных.

Таму не выпадкова асноўнае галасоў двух сьветаў называе «галасамі гарадоў». Гэта азначае, што кіраўніком, адзіна прагрэсыўным кіраўніком гісторыі сёньня зьяўляецца адно пралетарыят, бальшавікі, якія ў нашай краіне стаяць на чале сацыялістычнага будаўніцтва, а там—на чале рэвалюцыйнага змаганьня працоўных са сьветам капіталу за сацыяльнае і нацыянальнае ад яго вызваленьне.. Гэта азначае, што зброя змаганьня за новае жыцьцё куецца ў гарадох, як пралетарскіх цэнтрах.

Замысел паэта паказаць два сьветы ў іх характэрным і сувязі, якая сьцьвярджае гістарычнае адмаўленьне існаваньня капіталістычнага сьвету—гэты замысел зьяўляецца замыслам шырокага парадку, цікавым і патрэбным. У гэтым пляне «Галасы гарадоў» вылучаюцца з нашае паэзіі, паколькі ў іх узята сацыяльна шырокая тэма.

Вось усё гэта і паказвае, як далёка адыйшоў Лужанін ад «Крокаў» і «Новай ростані», наколькі зьмяніў ён ідэёвы кірунак свае творчасьці. Трэба з усёй выразнасьцю сказаць, што Лужанінава творчая перабудова ня мае нічога супольнага з прыстасабленцтвам, або халтурай (як гэта некаторыя спрабавалі сьцьвердзіць), бо пры наяўнасьці і таго і другога, ня было-б ніякіх падстаў гаварыць пра якую-небудзь перабудову наогул. Можна не згаджацца з творчым мэтадам сучаснага Лужаніна, можна і трэба яго крытыкаваць, нават прынцыпова адмаўляць, каб дапамагчы таленавітаму паэту адшукаць шлях да вялікай паэзіі, можна і трэба гаварыць пра элемэнты эпігонства ў сучаснай творчасьці Лужаніна, але нельга гаварыць пра халтурнасьць і прыспасабленцтва.

Усё, што гаварылася вышэй пра тое, што выражаюць «Галасы гарадоў», яшчэ далёка не азначае высокай мастацкасьці гэтага выражэньня, трэба ў значнай ступені разумець толькі як паэтава жаданьне выразіць, але не як факт ужо глыбокага выражанага.

Калі з аднаго боку «Галасы гарадоў» становяць пэўны крок у творчым разьвіцьці паэты, то з другога боку, яны з усёй выразнасьцю выявілі і ўсю хібнасьць Лужанінавага творчага мэтаду, павярхоўнасьць, выбранага паэтам шляху творчае перабудовы, дзе перабудова ідзе не па лініі глыбокага раскрываньня зьявы, а ў асноўным па лініі пашырэньня яе тэматыкі, гэта значыць па лініі найбольш лёгкае творчае перабудовы. Таму ў «Галасох гарадоў», як характэрная для іх рыса, зьяўляецца імпрэсыяністычнае «скольжение» па паверхні зьявы, мэтад канстатацыі, агульнай павярхоўнасьці і рытарычнасьці, а ня мэтад дыялектычна-рэалістычнага паказу зьявы.

Лужанінава жаданьне адлюстраваць у сваёй рэчы асноўнае галасоў двух сьветаў зьяўляецца вялікай дадатнай зьявай. Але справа ўся ў тым, што

ў мастацтве, як і ў кожнай галіне чалавечае чыннасьці, жаданьнем ня могуць задавольвацца, бо яно вельмі часта застаецца не аб'ектызаваным. Выходзяць пры ацэнцы твору не з суб'ектыўных жаданьняў аўтара (яны ў пэўным сэнсе бяруцца пад увагу), а выходзяць з аб'ектыўнай данасьці гэтага твору, як адужаў аўтар пастаўленую перад сабою задачу. Ня гледзячы на тое, што ў «Галасох гарадоў» ёсьць месцы эмацаняльна ўзьнятыя. мастацкія, сацыяльна насычаныя і напружаныя, месцы мужнага рытму, ня дзячы на тое, што ў «Галасох гарадоў» ёсьць месцы эмацыянальна ўзьнятыя. якасьці. У Лужаніна супроцьстаўленьне двух сьветаў ня вырасла ў гістарычна вялікі працэс, ды і наогул ня вырасла ў працэс (падкрэсьліваю на слова працэс). Развярст-жа працэсу вымагае пэўнага сюжэту, гэта значыць найбольш адпаведнае кампазыцыйнае формы для мастацкага паказу разьвіцьця дзеі, чаго ў Лужаніна няма. «Галасы гарадоў» не зьяўляюцца сюжэтнай рэчай, якая мае свой сюджэтны стрыжань. «Галасы гарадоў»— гэта мэханістычна злучаныя паасобныя і самастойныя часткі, а не арганічная мастацкая еднасьць.

Вялікае мастацтва ведае два прынцыпы ў паказе жыцьця. Першы прынцып можна назваць прынцыпам агульнага (ён ня мае нічога супольнага з агульшчынай), гэта значыць, калі мастак адыходзіць ад характарыстыкі агульнага да паказу паасобнага канкрэтнага, як характарнага для агульнага і злучанага з ім у руху. І другі прынцып—ад паасобнага канкрэтнага да агульнага. Як тут, так і там будзе працэс, а глыбіня ўскрываньня яго, як вядома, непасрэдна залежыць ад вышыні, сьветапогляду самога мастака.

Пайшоўшы ня шляхам глыбокага ўскрываньня працэсу, а агульна-апісальным і ў значнай ступені імпрэсыяністычным, павярхоўна-канстатавальным, ня шляхам унутранога паказу зьявы ў яе апасродкаванасьці і зьнітаваньні з іншымі зьявамі (у мастацкім творы пра гэта нельга адно напамінаць), а шляхам у значнай ступені знадворнага рытарычнага дэклямаатарства, Лужанін ня мог прыйсьці да станоўчых вынікаў.

Вось перад намі шэраг зусім канкрэтных фактаў.

«У Барыслаўскім раёне дэманстрацыі і сутычкі з паліцыяй ахапілі адзінаццаць вёсак». Гэта паведамленьне з газэты бярэ Лужанін, як матар'ял для аднэй часткі «Галасоў гарадоў». Нажаль трэба сказаць,* каб ня было газэтнай вытрымкі, нават было-б вельмі цяжка ўявіць, што хацеў паказаць Лужанін. А факт канкрэтны. Трэба было чакаць, што паэта разгорне малюнак дэманстрацыі і сутычкі сялян з паліцыяй, паказа прычыны гэтага, характар дэманстрацыі, хто ёю кіраваў, мэту яе, удзельнікаў яе, расправу над дэманстрантамі паліцыі, зьвязанасьць гэтай дэманстрацыі з агульным рэвалюцыйна-вызваленчым рухам, асобным выражэньнем якога яна зьяўляецца. Але калі-б так падышоў паэта, то гэта вымагала-б ад яго вялікай мастацкай кандэнсацыі і выражальнасьці слова. Гэты канкрэтны факт вымагаў для свайго паказу зусім канкрэтнага пляну разгортваньня ідэі і характарыстыкі, што ў сваю чаргу вымагала яго вывучэньня. Паэта па сутнасьці абмежаваўся толькі тым, што сказаў некалькі занадта агульных слоў, накшталт наступных: «лес расколваюць пошчачкі.... во—ол-і-і...»

Або вось яшчэ вынятка з газэты, якую таксама бярэ Лужанін: «Асабліва вылучаецца ў справе катаваньня Копец, начальнік пінскай турмы, садыст, у літаральным сэнсе гэтага слова». У газэце сказана вельмі вы-

разна і выстарчальна для газэтнага паведамленьня. А што азначае такое паведамленьне для мастака, калі ён яго скарыстоўвае? Азначае тое, што ён павінен намалёўваць вобраз гэтага, паказаць усю агідную чыннасьць гэтага «бравага» турэмшчыка фашызму, чыннасьць, якая вылучае яго з сям'і яму падобных. Вобраз мог узьнікнуць толькі праз паказ паводзін і агідна нечалавечага нутра гэтага зьвера мастацкімі сродкамі. Фіксуючы паасобныя факты паводзін гэтага садыста, Лужанін часамі нават гэту занадта агульную фіксацыю падае ў груба неадпаведным самому факту рытмічным пляне. У самым пачатку гэта рытміка нагадвае рытміку частушкі, тым часам як сэнс факту далёка не жартаўлівы. Нельга-ж упускаць з увагі таго, што рытміка зьяўляецца адным з момантаў зьместу, што яна мае вельмі важнае значэньне для сэнсавага боку твору, становячы адзін з яго элемэнтаў. Спрабуйце напісаць пра поступ рэвалюцыі ў рытмічным ладзе сьпеву «Ляцяць міскі і талеркі» і акрамя зьдзеку над рэвалюцыяй нічога ня выйдзе. А вось на гэта не заўсёды зьвяртаецца належная ўвага. Таму і здараецца, што, напрыклад, пра яўрэйскі пагром паэт напісаў у пляне такой вершавай рытмікі, якая надзвычайна нагадвае апэрэтачную лёгкасьць.

Да трэцяга разьдзелу «Галасоў гарадоў» Лужанін таксама бярэ выпіску з газэты пра тое, што «у вёсцы Воўкачы, Наваградзкага ваяводзтва, павешаны паліцэйскімі агентамі дэфэнзывы член таварыства беларускай школы—селянін Тодар Марчук». У сёмым-жа разьдзеле гаворыцца пра камсамолку Веру, якая кінута фашызмам за краты. Два зусім канкрэтныя чалавекі, дзьве ахвяры фашызму ў Лужаніна паказаны бяз іх чыннасьці, без паказу іх рэвалюцыйнае практыкі, бяз іхніх дум і перажываньняў, бяз іхніх асабістых рыс, наогул кажучы няма ўсяго таго, каб яны вырасьлі ў вобразы людзей, у вобразы канкрэтных змагароў, якія змагаюцца ў пэўных канкрэтных умовах і часе. Вось чаму, ня гледзячы на тое, што гэтыя два разьдзелы, бадай, найбольш эмацыянальна ўзьнятыя, ня гледзячы на тое, што яны прасякнуты вялікім патосам сацыяльнага гневу і пратэсту супроць фашыстоўскага зьдзеку, яны зьяўляюцца ўсё-ж агульным месцам.

Усё гэта мною прыведзена для таго, каб падкрэсьліць, што ў «Галасох гарадоў» няма паказу канкрэтнага, якое складае выражэньне агульнага, што паэта так ці інакш адно канстатуе, а гэта выкрэсьлівае працэс як такі; і што ў гэтым творы няма канкрэтных людзей, людзей з іх думкамі, пачуцьцямі і чыннасьцю, што замест паказу мы маем агульную і часта рытарычную слоўнасьць. Факты бяруцца вельмі канкрэтныя, але бяда ў тым, што пра іх вельмі агульна гаворыцца, а адсюль ніводнае індывідуальнае рысы вобразу чалавека. З усяго гэтага і выходзіць, што людзі і зьявы маўчаць, што мы ня чуем іх уласнага і своеасаблівага голасу, каб больш і глыбей адчуць голас агульнага. Лужанін, як і шмат якія з нашых паэтаў, мабыць забыўся на глыбокую існасьць мастацтва: чым лягчэй—тым горш, што праз агульную гаворку пра зьяву яна не вырастае ў мастацкі вобраз, а таму і не выклікае ў чытача тэй глыбіні перажываньняў, якія можа выклікаць толькі мастацкі вобраз. Мастацтва ніколі ня мірылася з натаваньнем.

Што азначае паказваць тую ці іншую зьяву ў яе працэсе? Гэта азначае паказаць яе ў прычынна-абумоўленым поступе, пераходзе з аднае

1). Полымя рэвалюцыі № 4.

стадыі ў другую, у яе сувязі з іншымі зьявамі. І вядома, што ў мастацкім творы справа не вырашаецца адно словамі, якія могуць паказваць на гэта. Мы тут павінны мець не сілёгізацыю, а рост мастацкага вобразу.

Вось калі з гэтага пункту гледжаньня падыйсьці да «Галасоў гарадоў», то адразу ўбачым вялікую слабасьць гэтага твору, усю хібнасьць Лужанінага творчага мэтаду.

У «Галасох гарадоў» мы маем шмат фактаў вялікага сацыяльнага значаньня. Але з паасобных фактаў яшчэ ня можа быць мастацка цэльнага твору, калі гэтыя факты бытуюць у ім самастойна, калі ніякімі іншымі сродкамі, а толькі мастацкімі, яны арганічна ня злучаны, каб становіць пэўны мастацкі вобраз.

Ці складаюць хоць падабенства на які небудзь працэс факты, узятыя паэтам з рэвалюцыйнага змаганьня працоўных Заходняй Беларусі? Не. Мы маем толькі паасобныя і зусім мастацка не зьвязаныя факты, якія не складаюць сабою мастацкага адзінства, дзеі ў яе поступе і разгорнутасьці. Мэханістычнасьць, даведзеная да крайнасьці—вось прынцып мастацкае кампазыцыі ўсіх «Галасоў горадоў».

Добра тое, што Лужанін не бярэ ўсіх працоўных Заходняй Беларусі, як аднолькава рэвалюцыйна-загартаваных, а бачыць сярод іх і частку такіх, якія сваё незадавальненьне яшчэ ня могуць аб'ектызаваць у непасрэдную рэвалюцыйную практыку, выказваючы яго ў нараканьні на жыцьцё і спадзяючыся на рэвалюцыйнае змаганьне «дужых», што вызваляць іх. Але дрэнна тое, што паэта ня ўскрыў сацыяльнае абумоўленасьці гэтага пасывізму, што не паказаў яго, як пераходнага моманту як часовага, але сацыяльна-апрычыненага, не паказаў пераходу яго ў сваё адмаўленьне на аснове клясавай практыкі носьбітаў гэтае пасыўнасьці, якая з усёй неабходнасьцю штохвілінна і на кожным кроку пераходзіць у актыўна-рэвалюцыйную практыку. Калі-б так Лужанін падышоў да паказу гэтага, то мы мелі-б справу з нарастаньнем рэвалюцыйнасьці сярод падняволеных мас Заходняй Беларусі, тае рэвалюцыйнасьці, якая становіцца магутнай і нязломнай сілай, паколькі на чале яе стаіць кампартыя. А гэта ў сваю чаргу патрабавала-б паказаць кампартыю ў яе чыннасьці, у яе шырокай рэвалюцыйнай практыцы, а ня спыняцца на некалькіх словах агульнага парадку пра яе кіравальную ролю ў рэвалюцыйна-нацыянальным вызваленчым руху. Калі-б Лужанін так і толькі так падышоў да паказу сацыяльных працэсаў, што адбываюцца там, ён-бы глыбока ўскрыў сацыяльную наканаванасьць сьмерці капіталістычнага сьвету, стварыў-бы мастацка-пераконаны малюнак гістарычнага працэсу і тады-б ягоны сацыяльны патос, які часта дасягае вялікай узьнятасьці абурэньня і асуджэньня капіталістычнага сьвету, вырас-бы ў шырокае і глыбокае выражэньне настрояў і імкненьняў шырокіх працоўных мас, бо быў-бы «адзеты» ў іх жыцьцёвую практыку, прасякнуўся-б потам і кроўю іх паднявольнага жыцьця протэсту.

Добра тое, што Лужанін не разумее існаваньня сьвету будаваньня сацыялізму і сьвету капітала, як зусім адасобненых і нічым ня зьвязаных паміж сабою. Добра тое, што ў самім факце існаваньня і росту сьвету сацыялізму ён бачыць сьмерць капіталістычнаму сьвету, чаго ніякімі сродкамі і спосабамі нельга адхіліць, бо нельга спыніць набліжэньня сусьветнае пралетарскае рэвалюцыі, накіраванасьці гістарычнага працэсу. Пра-

вільна, калі паэта бачыць вялізарнае рэвалюцыянізавальнае значэньне ў самім факце існаваньня СССР. І дрэнна тое, што гэтае сваё разуменьне паэта ня здолеў выразіць праз глыбокі мастацкі паказ гэтага ўплыву, а абмежаваўся ізноў-жа па сутнасьці толькі агульнымі словамі. Вось чаму няма ніякае мастацкае сувязі паміж тымі часткамі, у якіх гаворыцца пра вялізарнейшае, невядомае ўсёй гісторыі і немагчымае раней будаўніцтва ў нас і пра ўпадак, гніеньне капіталістычнага сьвету, які асуджан на сьмерць. Калі-б мы мелі паказ гэтых двух сьветаў у мастацка-разгорнутых вобразах супрацьстаўленьня і сувязі, тады-б, паўтараю, вырас вобраз мастацкай перакананасьці і велічы гістарычнага працэсу нашага часу, было-б даведзена мастацкімі сродкамі немагчымасьць існаваньня двух праціглеглых сьветаў. А паколькі Лужанін абмежаваўся абежнымі заўвагамі, выказваньнямі, то каб не рассыпаліся часткі «Галасоў гарадоў», злучальную функцыю ён надаў звароту да Ромэна Роляна і Бэрнарда Шоу. Вядома, што такім лёгкім спосабам справа не вырашаецца, а яшчэ больш падкрэсьліваецца мэханістычнасьць такога злучэньня.

Творчая перабудова Лужаніна характарызуецца яшчэ і тым, што ў яго займае значнае месца творчая несамастойнасьць, уплыў, які падчас пачынае пераходзіць свае межы, уносячы элемэнты эпігонскага парадку.

Кожнаму вядома творчасьць вялікага наватара паэзіі Маякоўскага. Уплыў Маякоўскага на Лужаніна вельмі вялікі, хоць-бы ў галіне рытмічна-галасавой канструкцыі вершу, якая разьлічана на шырокую аўдыторыю, на масавага слухача, а не на пакаёвае чытаньне. І ў «Галасох гарадоў» ёсьць месцы вялікай рытмічнай выразнасьці. Але ў Маякоўскага за рытмічнай дужасьцю наватара стаяў вялікі мастак, глыбокі зьмест, мастацкая напружанасьць, важкасьць і арыгінальнасьць мастацкага слова. Тым часам у Лужаніна гэта падчас пераходзіць у дэкляматарства. За такія вершы пры добрым іх чытаньні з эстрады могуць дружна аплёдаваць, і найчасьцей маўчаць, калі чытаюць самі. А здараецца гэта таму, бо ў іх не заўсёды ёсьць належная глыбіня і разгорнутасьць зьместу, сэнсавая кандэнсацыя слова, што месца сапраўднай эмацыянальнае ўзьнятасьці, зьместавай разгорнутасьці тут часта займае ўзьнятасьць знадворная, пэўная рытмічная своеасаблівасьць і толькі. Невыпадкова можа «Галасоў гарадоў» вельмі рытарычная, што ні ў якім разе нельга лічыць за дадатнае для мастацкага твору. Зразумела, што паэзія ведае ў пэўнай ступені рытарычнасьць. Але, калі яна становіцца на першы плян, тады трацiцца маляўнічасьць мастацкага слова і паэт пачынае гаварыць занадта адцягненымі і агульнымі для паэзіі азначэньнямі, таму і ня можа дасягнуць належнага эмацыянальнага ўзьдзеяньня на чытача.

Уплыў можа быць карысным адно тады, калі на аснове скарыстаньня дасягнутага выдатнымі мастакамі, даецца хоць невялікае, але сваё. Уплыў ня можа быць карысным, калі ён зьяўляецца пераказваньнем сказанага, бо раз моцна і па-новаму сказанае, ня можа гучэць з тэю-ж сілаю, будучы пераказаным. Тут губляецца свой голас. Адно з выразьнейшых ў гэтым сэнсе месц у «Галасох гарадоў» (яно паказвае, што ў Лужаніна ёсьць такі уплыў) гэта тое, дзе гаворыцца пра сьмерць Леніна. Тут міжвольна і занадта прыгадваецца паэма Маякоўскага «Ленін». Гэта ўзор адмаўленьня ад творчае самастойнасьці.

Уплыў ня можа быць карысным, калі бяруцца горшыя моманты з

творчасьці вялікага паэты. Лужанін, нясучы на сабе вялікі груз уплыву паэзіі Маякоўскага, бярэ ў яе «яканьне», позу вялізманата, штучную і паверхоўную дэкляматарнасьць, схэматычнасьць, што ня можа слугаваць на карысьць вялікай паэзіі, што робіць так ненатуральным уласны голас, бо ён так часта трымаецца на штучнай і толькі відомай вышыні. Ва ўсім паэтавым выражэньні нялюбові да восені як пары ўміраньня, нялюбові заспакоенасьці, жаданьня дванаццаці-месячнай вясны, «сонца ў рукі ўвабраць—усяго», каб ім кіраваць—у выражэньні ўсяго гэтага так шмат штучнага, надуманага і хадульнага.

Калі прачытаеш «Галасы гарадоў», то выносіш упартае адчуваньне таго, чаго, мабыць, ня адчувае або яшчэ не асэнсіў сам паэта. Робіш адну, але пэўную, зусім выразную выснову: паэта, які бязумоўна мае вялікі талент, ідзе супроць яго, не дае яму належнага выйсьця, затрымоўвае яго рост, бо пайшоў непатрэбным, глыбока неўласьцівым і шкодным шляхам для сапраўднае паэзіі,—шляхам у сваёй аснове знадворна-агульнага падыходу да паказу зьявы, шляхам зьніжэньня вялікага эмацыянальнага ў паэзіі, на карысьць шкоднага ёй рацыяналістычнага схэматызатарства. І таму, што гэты шлях вельмі абмежаваны, што тут вельмі вузкае кола дзейнасьці, куды ў тэй ці іншай ступені трапілі і больш і менш таленавітыя паэты, таму тут нельга ўжо стварыць чаго-небудзь асабліва выдатнага, нават у пляне гэтай творчасьці. Таму тут шырокі простор для паўтарэньня пройдзенага ўжо іншымі і для паўтарэньня свайго. Таму тут сьціраецца ў значнай ступені ўласная творчая індывідуальнасьць. Вельмі ясна, каб гаварыць, што ўсё гэта азначае для паэты, а не для выпадкова трапіўшага чалавека ў паэзію. Як узор паўтарэньня самога сябе ў «Галасох гарадоў» зьяўляецца месца пра нацыянал-дэмакратаў. Даволі яго параўнаць з ранейшым Лужанінавым вершам «Дзень гневу», каб адразу ўбачыць, як такое паўтарэньне прыводзіць да творчага застою і зьніжэньня.

Нельга-ж нарэшце, гаварыць натуральным голасам і мастацка-важкімі словамі, становячыся на хісткую жэрдачку ў значнай ступені схэматычнага, фармалістычнага і штучнага. Яна дрыжыць, голас робіцца нячыстым, даводзіцца гаварыць сьпешна і нават чужымі словамі, бо няма шмат і патрэбнага часу, каб адшліфоўваць сваю думку, узважваючы кожнае слова. Жэрдачка дрыжыць і каб утрымацца на ёй, трэба траціць шмат увагі на балянсаваньне, на гэту своеасаблівую гульню (праўда, лёгкай гульнёй яна не заўсёды бывае).

Лужанінаў творчы мэтад ня мае колькі-небудзь вялікіх пэрспэктыў. Карыстаючыся ім нельга стварыць чаго-небудзь асабліва выдатнага, нельга пашыраць і тэматыкі свае творчасьці, не паўтараючы самога сябе і іншых, бо толькі глыбокае раскрываньне канкрэтнага сэнсу зьявы пазбаўляе ўсякае агульнасьці, якая аднолькава можа пасаваць да самых розных рэчаў. Стандартныя фарбы, клічнікі і пытальнікі, стандартныя словазлучэньні, хай сабе і крыху пераінначаныя, ня могуць перадаць шматфарбнасьці і багацьця нашай рачаіснасьці. А Лужанін трапіў пад вялікі ўплыў гэтае стандартнасьці. Тое, што жыве і разьвіваецца—ня прымае ніякага стандарту і ня можа апранацца ў яго вопратку проста таму, што яно расьце і зьменьваецца.

«Галасы гарадоў» падкрэсьліваюць на патрэбу карэннае зьмены творчага Лужанінавага мэтаду. Яны паказываюць і на тое, што ў гэтай твор-

чай перабудове чалавек апераджае мастака. Лужанін свой ідэёвы багаж надзвычайна зьмяніў у параўнаньні з мінулым, зьмяніў у патрэбным кірунку. Але гэта зьмена ня можа ператварыцца ў адпаведныя ёй па сваёй вартасьці мастацкія вобразы, бо ўзяты мэтад для гэтага ператварэньня ня можа прывесьці да яго. Зьмена ідэёвых пазыцый для мастака азначае ня толькі зьмену перакананьняў, зьмену свайго дачыненьня да навакольнае рэчаіснасьці, а азначае і ўменьне выразіць гэта ў сапраўдных мастацкіх вобразах. Няздольнасьць-жа гэта зрабіць гаворыць і пра невыстарчальную глыбіню аваладаньня вышэйшай ідэёвай сыстэмай—у наш час гэта азначае невыстарчальнасьць аваладаньня пралетарскім сьветапоглядам. Тое, што Лужанін яшчэ ня можа ўскрыць усю глыбіню гістарычнага працэсу нашага часу, што ён яшчэ ня можа адпаведнымі мастацкімі сродкамі зьвязаць паасобныя зьявы і моманты гэтага працэсу, якраз і гаворыць пра невыстарчальнасьць аваладаньня ім сьветапоглядам пралетарыяту, пра павярхоўнасьць гэтага аваладаньня, а значыць і пра павярхоўнасьць і схэматычнасьць самога мастацкага мэтаду. Адсюль мэханістычнасьць як прынцып кампазіцыі, тое, што творчая перабудова паэты ідзе ў асноўным па лініі гарызантальнай, а не вэртыкальнай, гэта значыць па лініі пашырэньня свае тэматыкі без належнай адпаведнасьці гэтаму пашырэньню глыбокага яе мастацкага раскрываньня; адсюль тое, пра што сам паэта вельмі выразна сказаў:

**Шмат я дзіўнага бачу,**
**а паднясць—**
**не магу.**

Лужанін зьяўляецца такім паэтам, пра якога трэба гаварыць і гаварыць шмат, ён заслугоўвае ўвагі. Але для таго, каб, Лужанін, паэт бясспрэчна таленавіты, даваў таленавітыя і глыбокія творы, трэба каб ён ішоў належным шляхам, бо ня кожны шлях вядзе да такіх твораў. Перад Лужаніным стаіць ва ўсёй настойлівасьці пытаньне пераацэнкі свайго творчага мэтаду, пазбаўленьне ад чужога і наноснага, што падчас так калечыць уласную творчую індывідуальнасьць і не дае ёй магчымасьці разгарнуцца. Паэта павінен глыбока задумацца над сваім далейшым творчым шляхам. І тады будзе паднята тое дзіўнае, што хвалюе і натхняе сёньнешняга Лужаніна.

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*

